# Змест




Часопіс уключаны ў Пералік навуковых выданняў ВАК Рэспублікі Беларусь для друкавання вынікаў дысертацыйных даследаванняў па філалагічных навуках, мастацтвазнаўстве, культуралогіі, педагагічных навуках (тэорыя і методыка навучання беларускай мове і літаратуры).

# ШАНОЎНЫЯ АЎТАРЫ І ЧЫТАЧЫ "РОДНАГА СЛОВА"!



Завяршаецца першае паўгоддзе 2010-га. За гэты перыяд наша выданне павялічыла колькасць сваіх прыхільнікаў, стала яшчэ больш запатрабаваным. Самыя шчырыя словы падзякі мы адрасуем нашым падпісчыкам, кожнаму студэнту, выкладчыку і настаўніку роднай мовы, тым навучальным установам, у бібліятэках якіх нарэшце з'явіўся і наш часопіс.

З прыемнасцю і гонарам дзелімся з вамі радаснай навіной: часопіс "Роднае слова" стаў лаўрэатам VI Нацыянальнага конкурсу друкаваных сродкаў масавай інфармацыі "Золотая Литера", які праводзіўся Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь у красавіку 2010 г., у намінацыі "Лепшыя матэрыялы навуковай і навукова-папулярнай тэматыкі". Наперадзе ў нас яшчэ шмат цікавых праектаў і, верым, новых перамог.

Дарагія сябры! Толькі разам мы зможам упэўнена глядзець у будучыню і вырашаць пастаўленыя перад намі важныя задачы, адна з якіх – выкананне Плана мерапрыемстваў па рэалізацыі палажэнняў Закона Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 г. "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Часопісам сістэмна праводзіцца асветніцкая работа сярод настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры па пытаннях змен у правілах беларускага правапісу.

У чацвёртым нумары "Роднага слова" мы завяршылі распачаты яшчэ ў студзені 2009 г. цыкл публікацый па новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" і каментарыяў да іх. Спадзяёмся, што гэтыя матэрыялы паспрыялі падрыхтоўцы як педагогаў, так і прыхільнікаў беларускага слова да ўступлення Закона ў сілу і прымянення яго на практыцы.

Да ўвагі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры і кіраўнікоў сістэмы адукацыі: у красавіцкім нумары часопіса "Роднае слова" мы пачалі публікацыю дыдактычных матэрыялаў па новай рэдакцыі "Правіл беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". У другім паўгоддзі чытачам будуць прапанаваны матэрыялы прафесара, доктара філалагічных навук В. Іўчанкава "Беларускі правапіс у апорных схемах", у якіх правілы падаюцца пакрокава, а схемы дапамагаюць лепшаму іх засваенню. Доктар педагагічных навук Г. Валочка дасць метадычныя парады да факультатыўных заняткаў па тэме "Вывучаем беларускі правапіс". Факультатыўным заняткам па беларускай літаратуры будуць прысвечаны артыкулы дацэнта, кандыдата філалагічных навук В. Праскаловіч "Ад маленькага пісьменніка – да вялікага чытача", якія раскрываюць структурна-зместавую характарыстыку новых вучэбна-метадычных комплексаў.

У бліжэйшых нумарах часопіса будуць змешчаны практычныя заданні (практыкаванні і тэсты), складзеныя выкладчыкамі вядучых вышэйшых навучальных устаноў краіны. Дыдактычныя матэрыялы дапамогуць педагогам эфектыўна арганізаваць працу на ўроках, а вучням – засвоіць нормы сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў яе новай рэдакцыі.

Для настаўнікаў, якія актыўна працуюць з адоранай моладдзю, і вучняў, што бяруць удзел у алімпіядным руху, карыснымі будуць публікацыі комплекснай работы па беларускай мове і літаратуры з чацвёртага (заключнага) этапу Рэспубліканскай алімпіяды школьнікаў за 2009/2010 навучальны год для IX – XI класаў.

Шаноўныя чытачы! Нагадваем, што пачалася падпіска на другое паўгоддзе 2010 г. Індэкс часопіса для індывідуальных падпісчыкаў – 74823, для ведамасных – 748232. Заставайцеся з намі!

Дарагія сябры! Гэты нумар часопіса "Роднае слова" выйшаў у святочны месяц, калі адзначаецца 65-годдзе Вялікай Перамогі. У сувязі з гэтым адрасую шчырыя словы віншавання ўсім ветэранам. Нізкі паклон вам, шаноўныя, за падараваную нам магчымасць жыць і працаваць пад мірным небам. Здароўя, шчасця і радасці ад кожнага пражытага дня!

**Зоя ПАДЛІПСКАЯ.**





*З архіваў часу*

Мікола ТРУС

# VIVERE MEMENTO*!

## СТАРОНКІ "СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА" УЛАДЗІМІРА ЖЫЛКІ: ДА 110-ГОДДЗЯ ПАЭТА

Сямейныя альбомы… Невялічкі агмень хатняга цяпла, у якім заўсёды рупліва падтрымліваецца агеньчык родавай памяці. Адмысловая хроніка жыцця радзіны. Сённяшні іх выгляд разнастайны па дызайнерскім афармленні, у кожным выпадку адметны густам яго ўкладальніка. У шляхетных, куртуазных традыцыях здавён было прынята рабіць запісы "ў альбом", найчасцей у выглядзе вершаў. Вясковыя хаты яшчэ памятаюць абавязковыя рамы на сценах, на самым відавоку, дзе за шклом туліліся ў цеснаце шматлікія рознафарматныя здымкі: і пажаўцелыя, і зусім новыя – кідкія, каляровыя – пэўна, дасланыя ад унукаў і праўнукаў.



**Уладзімір Жылка з жонкай Рымай.**
Ялта. 1930 г. З фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

Жыццё і дзейнасць гістарычных постацей, застылыя ў фотаздымках, дакументах, заўсёды ўспрымаюцца ўзбуйнена, у сваёй грамадска-культурнай значнасці. Уласна сямейнае, прыватнае пры гэтым найчасцей разглядаецца як факультатыўнае, не заўсёды вартае апублікавання. Так сталася і з некаторымі дакументамі падобнага кшталту з архіва паэта Уладзіміра Жылкі. Не лішне зазначыць, што ў плане збору матэрыялаў, літаратуразнаўчага, культуралагічнага асэнсавання спадчыны паэта найбольш сёння зроблена даследчыкам Уладзімірам Калеснікам. У прапанаваным артыкуле аўтар не ставіў перад сабой залішне амбіцыйную мэту. Наша задача – прадставіць некалькі невядомых ці малавядомых аскепкаў памяці пра заўчасна памерлага паэта; форма альбома – у шырокім разуменні – пры гэтым нам падалася найбольш прыдатнай, "сюжэтаўтваральнай".

Напоўніць старонкі такога імправізаванага альбома нам дапамаглі фонды Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Па першапачатковай задуме стваральнікаў "гасціны" класіка беларускай літаратуры музей у Траецкім прадмесці Мінска павінен быў мець экспазіцыю паслядоўнікаў "песняра чыстай красы". Пачэснае месца па планах адводзілася У. Жылку. Збіраліся матэрыялы, якія, на жаль, не патрапілі на экспазіцыю, але ў рупна сабраным і апрацаваным выглядзе аселі ў фондах музея.

### СТАРОНКА ПЕРШАЯ. КАРАНІ

Здымак 1916 года. Дзед паэта па маці, патрыярх роду – Ануфрый Раманейка, які ў сваім паважаным веку, захаваўшы ясны розум, сам вучыў унукаў. Пражыў 112 гадоў. "Ён ганарыўся сваёю жыццяздольнасцю, любіў казаць, што калісь жаніўся ў лапціках, а на старасці ходзіць у добрых ботах. Хоць сам ён і не ўмеў ні чытаць, ні пісаць, але заўсёды сачыў, ці добра падрыхтавалі ўнукі чытанне. Памяць у яго была адменная, стары запамінаў з першага разу прачытаны кімсьці граматным кавалак падручніка і правяраў унукаў так, што тыя і ў думках не важыліся ашукаць непісьменнага дзеда" [4, с. 11].

* **Vivere memento** – з лац. *помні пра жыццё.*

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 3.*

**СТАРОНКА ДРУГАЯ. БРАТ**

Малодшы брат паэта Барыс у 1930-я гг. пераняў ад У. Жылкі сумную эстафету зняволення: арыштаваны 15 сакавіка 1933 г., рэабілітаваны 24 жніўня 1959 г. З 1960-х гг. рупна збіраў усё, што было звязана з братам-паэтам, ва Уржуме ўстанавіў надмагільны помнік. У фондах музея М. Багдановіча захоўваецца некалькі агульных сшыткаў Б. Жылкі з акуратна перапісанымі зборнікамі "На ростані", "З палёў Заходняй Беларусі", паэмай "Уяўленне", выразкамі публікацый твораў У. Жылкі, артыкулаў пра яго ў перыядычным друку пачынаючы з 1920-х гг.

"Кароткія ўспаміны малодшага брата паэта Ул. Жылкі Барыса Жылкі" – гэты цікавы дакумент уяўляе з сябе невялічкую, сціслую хроніку ці дзённік сямейнага жыцця на фоне маштабных гістарычных пературсаў 1917 – 1933 гг. Прыадкрывае ён і некаторыя сямейныя таямніцы, у прыватнасці абставіны разводу паэта з жонкай. Прывядзём некаторыя вытрымкі з гэтай хронікі ў перакладзе на беларускую мову, у якіх ёсць узгадкі пра У. Жылку і якія падзяляюць 12 гадоў: *"1920. Хварэе Валодзя – тры м-цы ляжаў (люты, сакавік, красавік), лечыць доктар Гранат. У пач. мая ад'язджае ў Клецішча. На Троіцу вяселле Ніны – Валодзя шаферам. Валодзя сыходзіць у Гарадзею. <…> На Пятра вяселле ў Цеслюка"*; *"1932. Я скончыў школу. Паступіў у Мединстытут. Зіму 31/32 Рыма зімуе ва Уржуме. У бездарожжа Валодзю загадваюць з'явіцца ў Кіраў – вобласць. Заехаў і лёг у бальніцу, праз тры м-цы вярнуўся назад. У Кіраве сказалі, што не выклікалі. Калі вярнуўся, даведаўся пра прычыну выкліку – паводзіны Рымы. Развод, адправіў* [яе] *у Ленінград, а яна з Масквы прыехала ў Клецішча. Рыма не прызналася маме, а сказала, што засумавала па дачцэ. Кастусь заехаў і адвёз Рыму. Я атрымаў ад Валодзі лісты і даведаўся пра прычыну – расказаў маме"* [5].

У 1960-я гг., пасля сваёй і братавай рэабілітацыі, Б. Жылка імкнуўся даказаць несправядлівасць рэпрэсій, але рабіў гэта так, як падказвала логіка часу. Зрэшты, час, калектывізацыю, сам таго не ўсведамляючы, ён апісаў у адным з лістоў да У. Калесніка вельмі каларытна: *"Я прыехаў к яму* [Уладзіміру] *у Мінск пасля з'езду Партыі, на якім была прынята пастанова аб калектывізацыі. Вось ён быў так задаволен гэтым і мяне агітаваў першым уступіць і агітаваць* [за] *калгас. Але мне гэта было неяк страшна, як гэта аддай каня і ня май на яго права, а ідзі прасі, каб далі паехаць куды, а табе дадуць другога. Я з ім не зтаджаўся. Тагды к яму прышлі вечарам чатэры яго таварышы пісьменнікі, цяпер не помню хто, і яны мяне ўвесь вечар агітавалі, а я не зтаджаўся. Яны даказвалі мне, што ў калгасе будзе вельмі добра. Прыехаўшы дадому, я ўсё гэта абмазгоўваў. У мяне тады быў жарэбчык, два трэцьці, я яго сам выгадаваў, ім памаленьку рабіў спрагаючыся з суседам. Адсеяўшы жыта, у Слуцку куплялі коні для арміі. Вось я і павёў і прадаў, узяў вельмі вялікія грошы, аж 500 руб. Праўда, конік быў, як кажуць, лёгкі, далікатны, харсовы, вельмі харошы, а сабе купіў пасля коніка за 100 руб. сямі год. З ім уступіў у калгас. Вось за гэта Ул. мяне вельмі лаяў і сарамоціў. Вось гэта ўзапраўда доказ, што ён, Ул. быў цалкам наш савецкі"* [6].



**Ануфрый Раманейка, дзед паэта.** 1916 г.
З фондаў Літаратурнага музея
Максіма Багдановіча.
Публікуецца ўпершыню.

**СТАРОНКА ТРЭЦЯЯ. МАЦІ, ЖОНКА, ДАЧКА**

Вядомы здымак: Уладзімір Жылка разам з жонкай Рымай на адпачынку ў Ялце. Дарчы надпіс на адвароце, да гэтага часу не апублікаваны, выдатна ілюструе стаўленне паэта да маці, Таццяны Ануфрыеўны: *"Дарагой і любай маме, сэрца якое, як чайка, заўсёды ў трывозе па дзецях, што рассыпаліся па сьвеце. С сыноўскай любасьцю. Уладзік. 25.I.1930. Ялта"*.

Здымак, які на першы погляд выклікае замілаванне: маладая маці з маленькай дачушкай на руках (Рыма і Беата). Подпіс на адвароце істотна змяняе настрой і танальнасць успрымання: «*Развітальная сустрэча… Вось такой, ва ўзросце 9 месяцаў, пакінула мяне "маці" бабулі, маці паэта Таццяне Ануфрыеўне Жылка, жанчыне добрай душы, ветлівай, чулай і ласкавай. З ёй мы і пражылі ўсе выпрабаванні часу… таго страшнага часу*».

Беата потым будзе падпісвацца больш звыкла для беларускага вуха – Наталля. Ва Уржуме сагравалі паэта невялікія памяткі пра дачушку: цацка-бразготка і перавязаная тасёмкай пасмачка валасоў.



**Барыс Жылка, Беата, Таццяна Ануфрыеўна.** 1939 г.
З фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

Хрэстаматыйная, запатрабаваная грамадзянская, філасофская, інтымная лірыка У. Жылкі традыцыйна ніяк не магла адвесці месца просценькім вершам, што пісаліся далёка ад Беларусі, а адрасаваліся самаму дарагому чалавеку, хоць трохі кампенсоўваючы пазбаўленасць бацькоўскай радасці:

*Каля могілак у вёсцы*
*Жыве мая матулечка*
*І любімая дачушка*
*Маленькая Атулечка.*

*У бабулі сад кашлаты,*
*У саду тым хатачка:*
*Там жыве каток мурзаты*
*І дачушка Атачка.*

*Пакаціў каточак шпулечку –*
*Не дурэй, малюсенькі.*
*Скора татачка прыедзе*
*Да сваёй Атусенькі.*

*Слухай, мілая, бабульку,*
*Не смуткуй, гуляй…*
*Буду жыў, к табе вярнуся.*
*Чакай… Не забывай!* [7].

### СТАРОНКА ЧАЦВЁРТАЯ. СЯБРЫ

У 1926 г. Жылка перабраўся з Прагі ў Мінск, акунуўся ў бурлівае асяроддзе нацыянальнага культурнага будаўніцтва. Яго сябра, Уладзімір Дубоўка, успамінаў: *“Нас, якія прайшлі агні грамадзянскай вайны, крыху здзіўляла ягоная асаблівая інтэлігентнасць, сціпласць. У той жа час вабіла да сябе ягоная сардэчнасць, вялікая шчырасць”* [1].

Барыс Жылка рупна перапісаў сяброўскія дарчыя подпісы беларускіх пісьменнікаў: *“Брату і другу Уладзіку Жылку, з любоўю. 20/XI-26 г. Менск. У. Дубоўка”* (“Трысцё”, 1925); *“Уладзімеру Жылку – паэту палёў Заходняй Беларусі, ад аўтара. А. Александровіч. 1927/9-27”* (“Угрунь”, 1927); *“т. Уладзімеру Жылку, другу, з пашанаю. Ю. Гаўрук. 31/I.28 г. Менск”* (“Кветкі з чужых палёў”, 1928); *“Уладзімеру Жылка, чуламу песьняру і добраму прыяцелю ў знак дружбы і пашаны. З. Бядуля. 12/IX.27 г.”* (“Танзілія”, 1927).

Уладзімір Дубоўка ў 1962 г. у архіве А. Бабарэкі пазнаёміўся з лістом ад гаспадара кватэры, у якой жыў У. Жылка, апублікаваў яго ў сваім перакладзе на беларускую мову на старонках газеты “Літаратура і мастацтва” ў 1965 г. Гэта першае сведчанне апошніх гадзін жыцця паэта і яго праводзінаў на вечны спачын: *“2.07.1933 г. Паважаны А. А. Бабарэка! Уладзімір Адамавіч Жылка кватараваў у нашым доме. Яго ўжо няма ў жывых, ён памёр першага сакавіка. А дванаццатай гадзіне яшчэ паснедаў, а з другое – страціў прытомнасць. А сёмай сканаў ад туберкулёзу. Пахаваны на Уржумскіх могілках. Да апошняй хвіліны ён аб смерці не думаў, чакаў, што як толькі стане цяплей – ён паедзе ў Крым, бо ён быў вызвалены з-пад нагляду. Пахаванне было ўрачыстым паводле сучаснага парадку, з музыкай, праводзілі сябры-педагогі”* [цыт. паводле: 5].

Спагада – не сябра, а чужога чалавека – суправаджала У. Жылку і пасля яго смерці: адразу пасля вайны магілу паэта ўзяўся даглядаць Антон Ягоравіч Лешчанка, украінец, які па прозвішчы (*Жилко*) зрабіў выснову, што тут спачывае яго зямляк, выгнанец на чужыне.

Перагорнута толькі некалькі старонак “сямейнага альбома” паэта Уладзіміра Жылкі, прагледжаны фотаздымкі, сабраныя супрацоўнікамі музея М. Багдановіча. Не пакідае думка, наколькі звыклае ўспрыманне жыцця і творчай дзейнасці адной са знакавых постацей беларускай літаратуры 1920 – 1930-х гг. неўпрыкмет зацяніла яго асабістае, трапяткое, шчымлівае. Але без гэтага нельга цалкам уявіць і асэнсаваць тое, як моцна паэту балела: і за сям’ю, і за Бацькаўшчыну. І часта так хацелася звычайнай, сямейнай, людскай дабрыні і спагады. Як успамінаў У. Дубоўка, *«Уладзімір Жылка, нягледзячы на сваю хваробу, любіў паўтараць старое лацінскае выслоўе “Вівера мэмэнта!” – “Памятай пра жыццё!”»* [1].

**Спіс літаратуры**

1. **Дубоўка, У.** “…Не магу не думаць, край родны, аб табе” : Імя яго не забыта / У. Дубоўка // ЛіМ. – 1965. – 23 мая.
2. **Жылка, У.** Выбраныя творы / У. Жылка; уклад., прадм. і камент. М. Скоблы. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 1998. – 358 с.
3. **Жылка, У.** З палёў Заходняй Беларусі : вершы / У. Жылка. – Менск : Белдзяржвыд, 1927. – 128 с.
4. **Калеснік, У.** Ветразі Адысея : Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі / У. Калеснік. – Мінск : Маст. літ., 1977. – 328 с.
5. **ЛММБ.** – КП-6686.
6. **ЛММБ.** – НД-5208.
7. **ЛММБ.** – НД-5174.
8. **ЛММБ.** – НД-5140.

*Аўтар артыкула выказвае шчырую ўдзячнасць кіраўніцтву і супрацоўнікам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча за дапамогу пры падрыхтоўцы артыкула: Таццяне Шэлятовіч, Ніне Гарэлік, Ірыне Мышкавец, Людміле Сасонцы.*

*Постаці*

# УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА ЯК ЛІТАРАТУРНЫ КРЫТЫК І НАВУКОВЫ ДЗЕЯЧ

Уладзімір Дубоўка ўвайшоў у беларускую літаратуру ў самыя складаныя гады пачатку XX ст. Ён спазнаў на ўласным лёсе ўсе супярэчнасці таго часу. Таленавіты паэт на доўгія дзесяцігоддзі цалкам быў адарваны ад літаратуры. Толькі поўная грамадзянская рэабілітацыя вярнула яму добрае імя, дала магчымасць літаратуразнаўству далучыцца да вывучэння творчасці выдатнага мастака слова. Аднак у гэтым кірунку зроблена пакуль недастаткова. Калі паэтычная спадчына У. Дубоўкі ўжо заняла адпаведную нішу ў сучасным літаратуразнаўстве, то яго крытычная і навуковая дзейнасць мала даследавана.

Працуючы ў Маскве, У. Дубоўка пільна прыглядаўся да літаратурнага жыцця Беларусі. Адзін за адным у часопісах “Маладняк” і “Узвышша” выходзілі яго навуковыя, крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. Так, у часопісе “Маладняк” (1925, № 7) пад псеўданімам *Уладзімір Гайдукевіч* даследчык літаратуры змясціў артыкул **“Смела ўперад дружным спевам…”** – рэцэнзію на паэтычную кнігу Андрэя Александровіча “Па беларускім бруку”. Аўтар прыхільна ставіцца да творчасці маладога паэта, адзначае моцныя і слабыя бакі зборніка: «*Малады паэт, камсамолец, выйшаўшы з рабочага класа, падараваў нам першы зборнік сваіх твораў… Перш за ўсё, нельга не заўважыць суладжанасці ў размежаванні вершаў. Тры нізкі – “Рытм гораду”, “Мая казка” і “Чужына” – выразна сведчаць аб асноўным кірунку творчасці А. Александровіча – гарадскія матывы*» [2, с. 101]. Далей У. Дубоўка адзначае, што аўтар кнігі ў распрацоўцы гэтай тэмы з’яўляецца выразным паслядоўнікам Максіма Багдановіча. Рэцэнзента цікавіць, як па-рознаму раскрываецца тэма горада ў творчасці паэта. Ён прыходзіць да высновы, што рух горада ў маладога паэта моцна звязаны з жыццём фабрык і заводаў, з жыццём працоўных Беларусі – гэта першая і асноўная тэма [2, с. 105]. Даючы эскізы сучаснага гарадскога жыцця, А. Александровіч не забывае і тэмы гістарычнага мінулага (нізка вершаў “Мая казка”).

Данінай павагі творчаму подзвігу М. Багдановіча стаў артыкул **“На Багдановічавай магілцы”** У. Дубоўкі, змешчаны ва “Узвышшы” (1927, № 2). Там гаворка ідзе пра пошукі магілы класіка беларускай літаратуры ў 1924 г. Нарэшце адшукаўшы яе, аўтар з горыччу зазначыў: “*Сумуе сёння Беларусь, памінаючы сына свайго. Сумавалі тады мы ўсе, маўкліва пілі чару вялікага смутку…*” [3, с. 159].

Уладзімір Дубоўка шчыра радаваўся нараджэнню новага літаратурнага пакалення, лічыў сваім абавязкам падтрымліваць таленавітых пісьменнікаў крытычнымі водгукамі і рэцэнзіямі. У чарговым артыкуле **“Раніца рыкае”**, які зноў выйшаў пад псеўданімам *У. Гайдукевіч*, распавядаецца пра першы зборнік Язэпа Пушчы. Крытык адзначае, што паэт-пачатковец сваёй творчасцю выклікаў немалы шум, асабліва назвай кнігі “Раніца рыкае” [4, с. 91]. Крыху ніжэй У. Дубоўка з захапленнем зазначае: “*Хочацца сказаць: не загіне беларуская культура, беларускае мастацтва. Першы зборнік маладнякоўца сведчыць аб гэтым, яскрава сведчыць…*” [4, с. 91]. Потым аўтар кажа, што як мастак слова Я. Пушча дае штуршок развіццю літаратурнай мовы, прыўносячы сваёй паэзіяй многа новага і светлага [4, с. 92]. Зборнік “Раніца рыкае” можна назваць узорам мілагучнасці беларускай мовы, ён перакрэслівае ўсе намаганні некаторых крытыкаў даказаць адваротнае, хоць гэта і не з’яўляецца самамэтай паэта.

Красамоўнае сведчанне клопату У. Дубоўкі пра развіццё нацыянальнай літаратуры – артыкул **“Літаратурная творчасць К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа)”**, дзе не толькі аналізуецца творчая спадчына славутага мастака слова, але і выказваюцца меркаванні наконт зацікаўленасці беларускіх пісьменнікаў народнай творчасцю.

Як сапраўднага сына сваёй Бацькаўшчыны У. Дубоўку хвалюе пытанне беларускай музычнай культуры. У артыкуле **“У звязку з пытаннем аб беларускіх мелодыях у творчасці Шапэна”** (Узвышша, 1927, № 1) ён піша: “*…выхаванне музыкі-мастака вымагае, перад усім, спагадных умоў у сэнсе сувязі і грунтоўнага знаёмства з сусветнай музыкай. Кожны ведае, што атрыманне музычнай адукацыі звязана з вялікім часам…*

*Цяжкае эканамічнае становішча працоўнага народу, матэрыяльны ўціск, адсутнасць беларускіх школ і грамадскасці ў мінулым красамоўна гаворыць аб прычынах нашай адсталасці ў галіне музычнай культуры*” [5, с. 145]. Далей адзначаецца, што многія польскія і рускія кампазітары, паходзячы з беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, скарыстоўвалі дасягненні нашай народнай музыкі і ўзбагачалі такім чынам суседнія культуры. Не мінуў гэтага і польскі кампазітар Фрыдэрык Шапэн [5, с. 146]. На думку У. Дубоўкі, беларуская народная песня мае вялікія перспектывы для развіцця, а беларусам неабходна патрабаваць ад маладых кампазітараў ашчадных адносін да гэтых скарбаў.

Праблеме развіцця нацыянальнай музыкі і культуры прысвячалася і крытычная праца **“Студэнцтва і развіццё мастацтваў на Беларусі”** (Змаганне, 1924, сш. 1).

Як і многія іншыя дзеячы нацыянальна-адраджэнскага руху, У. Дубоўка добра разумеў, што веданне чалавекам гісторыі свайго краю, народа, яго культуры будзе станоўча ўплываць на фарміраванне асобы грамадзяніна, лічыў, што вывучэнне гістарычнай спадчыны зможа актывізаваць духоўна-культурнае адраджэнне. Таму, звяртаючыся да разгляду агульнага стану развіцця нацыянальнай культуры на пачатку ХХ ст., ён у артыкуле **“Рэвалюцыя 1905 году і адраджэнне беларускай культуры”**, які выйшаў пад псеўданімам *Тупяец*, гаворыць: *“...да пачатку ХХ стагоддзя, – бачым пачуццёвымі і трывалымі некалькі яе галін* [культуры]:

*а) народная вусная творчасць;*

*б) народная песня (меладыя) і музыка;*

*в) народны арнамент і каляровасць (тканіны, вышыванні, карункі, разьбярства).*

*Мастацкая літаратура, выяўленчае мастацтва, культурная музыка – зніклі... Здавалася, не будзе выйсця з гэтага становішча”* [6, с. 88].

Аналізуючы становішча беларускай культуры да рэвалюцыі 1905 г., аўтар імкнуўся абудзіць цікавасць чытача да духоўнай спадчыны народа. Даследчык чуйна ўлоўліваў новы подых часу, разумеў, што беларуская літаратура і культура ў 1920-я гг. атрымалі магчымасць увайсці ў новы этап нацыянальнага адраджэння. Па сутнасці гэтыя гады – другая хваля адраджэння ва ўсіх літаратурных працэсах таго часу; доказ – артыкулы У. Дубоўкі «Янка Купала і “Маладняк”», “Да 20-цігадовага юбілею Янкі Купалы”, “Літаратурная творчасць К. М. Міцкевіча (Якуба Коласа)”.

Уладзімір Дубоўка актыўна ўзбагачаў лексіку сваіх твораў за кошт увядзення новых слоў з гутарковай народнай мовы. У артыкуле **“Фармальна-мастацкія дасягненні маладнякоўцаў”** (Савецкая Беларусь, 1925, № 267) ён сцвярджаў, што кожнае жывое народнае слова мае права і павінна быць уведзена ў літаратурную мову, а ад кожнага слова народнай мовы можа быць утворана новае. Удзельнічаючы самым непасрэдным чынам у літаратурным жыцці Беларусі, паэт клапаціўся пра развіццё літаратурнай мовы. У працы **“Пра нашу літаратурную мову: Думкі і нататкі”** зазначаў: *“Літаратурная мова, як і наогул мова, ствараецца не адным чалавекам, не якім-небудзь паасобным калектывам, а ўсім народам”* [7, с. 180]. Даючы парады беларускім пісьменнікам, крытык гаворыць пра неабходнасць скарыстоўваць і тлумачыць у літаратурнай мове навуковыя тэрміны, назвы раслiннага свету і тым самым узбагачаць мову.

Дбаў творца і пра збіранне вусна-паэтычных народных скарбаў, якія таксама павінны працаваць на развіццё літаратурнай мовы. У артыкуле **“Рыфма ў беларускай народнай творчасці”** ён даводзіў: *“Беларуская народная паэзія не любіць дакладных рыфм: большасць іх прыблізная або асанаваная. Гэткая рыфмоўка дае нашай паэзіі большай мяккасці, кволасці, а таксама дае большыя магчымасці... Надзвычайна рэдкія ў кніжнай паэзіі гатункі рыфмоўкі (амонімы, дысанансы і г. д.) шчодрай рукой рассыпаны ў народнай паэзіі. Часам дзіву даешся, наколькі сучасная паэзія ў гэтых адносінах не дала нічога новага...”* [8, с. 114].

Паэт цікавіўся ўсім, што датычылася развіцця новай беларускай літаратуры і мастацтва. Ён думаў пра ўздым эстэтычнай культуры ў пісьменніцкім асяроддзі і працоўных масах. А такія яго артыкулы, як “Чарговыя задачы нашае кінавытворчасці”, “Літаратурная творчасць беларускай вёскі”, “Некаторыя прыватныя выпадкі мілагучнасці нашае мовы”, “На шляху беларускай культуры” і іншыя, сведчаць пра шырыню творчых інтарэсаў У. Дубоўкі, імкненне выхаваць высокую культуру майстэрства, дапамагчы агульнай справе развагамі і думкамі.

Крытычна-публіцыстычная і навуковая спадчына Уладзіміра Дубоўкі чакае выдання ў Зборы твораў. Яго дзейсная крытычная і публіцыстычная творчасць – цэлая эпоха ў гісторыі беларускай літаратуры, сапраўдная школа для творцаў наступных пакаленняў.

**Спіс літаратуры**

1. **Бугаёў, Дз.** Уладзімір Дубоўка / Дз. Бугаёў. – Мінск : Беларус. навука, 2005. – 324 с.

2. **Гайдукевіч, У.** “Смела ўперад дружным спевам...” / У. Гайдукевіч [У. Дубоўка] // Маладняк. – 1925. – № 7. – С. 101 – 108.

3. **Дубоўка, У.** На Багдановічавай магілцы / У. Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 2. – С. 157 – 159.

4. **Гайдукевіч, У.** “Раніца рыкае” (агляд вершаў Язэпа Пушчы) / У. Гайдукевіч [У. Дубоўка] // Маладняк. – 1925. – № 8. – С. 88 – 100.

5. **Дубоўка, У.** У звязку з пытаннем аб беларускіх мелодыях у творчасці Шапэна. Думкі і нататкі / У. Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 1. – С. 145 – 148.

6. **Тупяец.** Рэвалюцыя 1905 году і адраджэнне беларускай культуры / Тупяец [У. Дубоўка] // Маладняк. – 1925. – № 9. – С. 78 – 82.

7. **Дубоўка, У.** Пра нашу літаратурную мову : Думкі і нататкі / У. Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 2. – С. 167 – 180.

8. **Дубоўка, У.** Рыфма ў беларускай народнай творчасці / У. Дубоўка // Узвышша. – 1927. – № 3. – С. 103 – 114.

**Таццяна ГАНЧАРОВА-ЦЫНКЕВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт,
**Таццяна МЕЛЬНІКАВА,**
кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

*Аўтары ахвяруюць ганарар на развіццё часопіса.*

Алена МАНКЕВІЧ

# ІВАН НАВУМЕНКА – НАВЕЛІСТ



Іван Якаўлевіч Навуменка (16.02.1925 – 17.12.2006) – пісьменнік, літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў Васілевічах Рэчыцкага раёна ў сям'і чыгуначніка. Са студзеня 1942 г. быў удзельнікам камсамольскага падполля, потым – партызанам, вызваляў родныя Васілевічы. У снежні 1943 г. прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнічаў у баях на Ленінградскім і 1-м Украінскім франтах. Пасля дэмабілізацыі быў карэспандэнтам мазырскай абласной газеты "Бальшавік Палесся", а з 1951 г. – рэспубліканскай газеты "Звязда".

Завочна скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1950) і аспірантуру пры універсітэце (1954). Быў загадчыкам аддзела прозы часопіса "Маладосць" (1953 – 1958), загадваў кафедрай беларускай літаратуры БДУ. У 1973 – 1982 гг. – дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, з 1982 г. – віцэ-прэзідэнт АН БССР. Старшыня Вярхоўнага Савета БССР (1985 – 1990). Акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук, прафесар. Сябра Саюза пісьменнікаў СССР з 1957 г.

Узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, медалём Францыска Скарыны і іншымі медалямі.

Акрамя шматлікіх мастацкіх твораў выдаў літаратуразнаўчыя працы, у якіх даследаваў творчасць класікаў – Якуба Коласа і Янкі Купалы, закранаў праблемы развіцця літаратуры ў эпоху сучаснага навукова-тэхнічнага прагрэсу і інш. Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1978).

Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1967) за кнігу "Тапол юнацтва", Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1972) за кнігі "Янка Купала: Духоўны воблік героя" і "Якуб Колас: Духоўны воблік героя". Народны пісьменнік Беларусі (1995).

У літаратуразнаўстве шырока распаўсюджана меркаванне, што жанр апавядання ці навелы падсобны, ён пракладае шлях іншым эпічным жанрам, з'яўляецца першапраходцам у асваенні пісьменнікам новых, некранутых пластоў жыцця. Пры такім падыходзе недаацэньваецца спецыфіка апавядання як жанру самастойнага, аўтаномнага, цэласны і глыбокі літаратуразнаўчы аналіз якога можа высвеціць нечакана цікавыя моманты для спасціжэння і асэнсавання адметнасці творчай індывідуальнасці. Бо развіццё прозы ідзе не па схеме "ад апавядання – да рамана-эпапеі", а праз рух і ўдасканаленне асобна ўзятага жанру. Кожная мастацкая форма развіваецца з улікам вопыту работы над іншымі, валодаючы пры гэтым сваёй спецыфікай, уласнымі ўнутранымі законамі.

Тым больш што ў літаратуры амаль няма пісьменнікаў, якія выступалі б толькі ў жанры апавядання і не працавалі б у іншых, сумежных з ім. "*Па гэтай прычыне*, – на думку Івана Навуменкі, – *узнікае пытанне аб тым, якое месца займае ў іх творчасці апавяданне, наколькі звязана яно з другімі празаічнымі жанрамі, скажам, раманам, аповесцю, што выходзілі з-пад пяра гэтых жа пісьменнікаў*" [5, с. 121 – 122]. Развіваючы думку далей, І. Навуменка зазначыў, што ў творчасці многіх беларускіх празаікаў апавяданне выконвала дваістую ролю: «*З аднаго боку, яно было як бы разведчыкам тэмы, якая знаходзіла далейшае ўвасабленне ў буйных празаічных жанрах. З другога – было цалкам самастойным, аўтаномным звяном у іх творчасці, па-мастацку адкрываючы, даючы "прапіску" ў літаратуры значным з'явам сацыяльнага, духоўнага жыцця, малюючы яркія самабытныя характары, вызначаючы самабытныя грамадскія настроі. Гэтая другая, самастойная роля апавядання, была, як мне здаецца, важнейшай, чым першая "разведвальная"*» [5, с. 122]. І якраз тая "другая роля" да нашага часу застаецца найменш вывучанай, хоць жанр апавядання і развіваецца пісьменнікамі не як пабочны, дадатковы.

Іван Навуменка – адзін з вядучых беларускіх празаікаў, аўтар шырокавядомай трылогіі "Сасна пры дарозе" (1962), "Вецер у соснах" (1967), "Сорак трэці" (1973) – праявіў сваё майстэрства

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*

творцы, як вядома, у многіх жанрах. І кожны з іх, у тым ліку і апавяданні, уяўляе з сябе цэласную сістэму, у межах якой можна вылучыць пэўныя заканамернасці ў сферы ўдасканалення мастацкай палітры, паглыблення псіхалагізму, развіцця магчымасцей мастацкай вобразнасці. Нават самы невялікі твор яго аўтарства нясе ў сабе глыбінны аналіз з'яў жыцця і не засяроджваецца толькі на іх знешнім баку, а "ўсім ходам сюжэтнага дзеяння аб'ектыўна скіроўвае эвалюцыю герояў на выхад у знешні свет, падводзячы іх да лагічнай неабходнасці пошукаў адказу на грамадскія пытанні" [2, с. 96 – 97]. Аднак перш чым прыйсці да таго ўзроўню мастацкага абагульнення і шырыні ахопу жыццёвага матэрыялу, што мы бачым у трылогіі, пісьменнік шліфаваў майстэрства ў малых празаічных жанрах.

На долю пакалення пісьменнікаў, да якога належыць Іван Навуменка (а гэта такія выдатныя майстры слова, як Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Шамякін і інш.), выпаў няпросты перыяд у гісторыі нашай краіны. Ім, у чыёй памяці яшчэ доўга яскрава ўсплывалі сцэны з ваенных баталій, хацелася падзяліцца перажытым з чытачом, паказаць праўду жыцця, адлюстраваць складанасць чалавечых узаемаадносін у экстрэмальных умовах. Якраз пад іх жорсткім уплывам семнаццацігадовыя юнакі вельмі хутка пасталелі. Ім выпала жыць у часы гістарычнага злому. Менавіта таму творы прадстаўнікоў гэтага пакалення ў літаратуры напоўнены адчуваннем эпохі, тых праблем, перажыванняў і змен, якія яна з сабой прынесла.

Большасць апавяданняў І. Навуменкі на ваенную тэматыку вызначаецца выразным аўтабіяграфізмам. Героі амаль усіх яго твораў – летуценнікі, максімалісты, рамантыкі. Яны ўпэўнены ў тым, што дабро перамагае заўсёды. Гэта свайго роду герой-тып: "…няўрымслівы, дапытлівы, які пераадольвае шматлікія цяжкасці, матэрыяльныя нястачы. Праходзіць час, а ён застаецца верны вечным каштоўнасцям – дабрыні, сяброўству, справядлівасці" [3, с. 52]. Апавяданні «прасякнуты асабістымі адносінамі пісьменніка, той эмацыянальнасцю і лірызмам, якія ўзнікаюць на глебе ўласна перажытага… увага пісьменніка звяртаецца на "аналітычнае даследаванне "дыялектыкі душы" героя"» [7, с. 54].

Уварваўшыся ў жыццё юнакоў і дзяўчат, вайна зруйнавала ранейшы свет, поўны самых смелых задум і планаў: *"Упершыню за многія гады і мне, і маім сябрам не трэба было здаваць экзаменаў. Не было і настаўнікаў, якія вучылі нас у школе. Адны з іх пайшлі на фронт і ваявалі пад Ржэвам, а можа, пад Севастопалем, а другія таксама не задавалі нам урокаў, бо на фасадзе нашай школы трапятаў чужы флаг з чорнай свастыкай"* [4, с. 179]. Гэта радкі з першага апублікаванага апавядання Івана Навуменкі **"Семнаццатай вясной"** (1956).

Героі твора – Цімох, Цішка, Мікола, Сымон – жывуць на зломе часу. Ён нібы спыніўся для маладых людзей, у якіх было мноства мараў і спадзяванняў. Але насамрэч жыццё працягваецца. І нават дэфармаваная вайной рэчаіснасць не можа загубіць яго стваральнай моцы. Пісьменнік, застаючыся верным праўдзе жыцця, уводзіць у тканіну апавядання матыў юнацкага кахання. Нягледзячы на тое, што юнакі мелі цвёрдую ўстаноўку: *"І хоць на зямлі была вясна, хоць так прывабна расцвітаў бэз, мы трымаліся стойка, адкладваючы сардэчныя справы на час пасля вайны"* [4, с. 181], лірычны герой з цягам часу паведамляе: *"Першым здрадзіў нашай агульнай справе я. У гэты час, калі ішла вайна і калі там, на фронце, паміралі сапраўдныя героі, я, чалавек, які не зрабіў у жыцці яшчэ ніводнага подзвігу, закахаўся самым ганебным чынам"* [4, с. 181]. Спачатку герой у недаўменні ад учынкаў сваёй каханай: *"Як магла яна смяяцца ў такі час!"* [4, с. 181], пазней прызнаецца: *"Я мог думаць пра сваю дзяўчыну цэлымі гадзінамі…"* ці *"Некалькі дзён я не хадзіў у скверык"* [4, с. 183], але найбольш дакладнае: *"У гэтую вясновую ноч я зноў пачуў, як прыемна пахне расцвіўшы бэз. Ён пахнуў так заўсёды, калі мы хадзілі здаваць экзамены"* [4, с. 189].

Іван Навуменка пачаў пісьменніцкі шлях з жанру апавядання і на працягу ўсёй творчасці заставаўся верным "малой прозе". Адзін за адным выходзілі зборнікі апавяданняў і аповесцей – "Семнаццатай вясной" (1957), "Хлопцы-равеснікі" (1958), "Верасы на выжарынах" (1960), "Бульба" (1966), "Таполі юнацтва" (1966), "Вераніка" (1968), "Пераломны ўзрост" (1968), "Тая самая зямля" (1971), "Падарожжа ў юнацтва" (1972), "Замець жаўталісця" (1977), "Водгулле далёкіх вёснаў" (1989).

Асноўная тэма ў творчасці празаіка – тэма Вялікай Айчыннай вайны, усенароднай барацьбы з ворагам, вызвалення роднай зямлі. Эпізоды яго твораў – гэта вельмі часта сцэны з партызанскага ці армейскага жыцця.

Адзін з такіх твораў – апавяданне **"Дом над морам"** (1958). Салдаты пешай разведкі, у большасці дваццацігадовыя юнакі, у кароткія хвіліны цішыні паміж абстрэламі праз успаміны вяртаюцца ў родныя мясціны, да каханых: *"Мы ўспаміналі дзяўчат. Ці чакалі яны нас гэтыя доўгія мяцежныя гады? Вядома, чакалі. Можа, яны, як і мы, таксама сядзелі ў гэты час ля акон і марылі аб стрэчы"* [6, с. 261]. Але не ўсім было наканавана дажыць да Перамогі. Герой апавядання – Булавенка – выдатны піяніст, рамантык, які нават не можа яшчэ вызначыцца, каторую з дзвюх дзяўчат, што пішуць яму лісты, ён кахае, гіне на самым пачатку жыцця.

У падтэкставай плыні твора гучыць матыў антыгуманнай, антычалавечай сутнасці вайны, што супярэчыць самой прыродзе і філасофіі жыцця.

У апавяданні **"Эх, махорачка"** (1957) намаляваны яркі вобраз партызана-падрыўніка Апанаса Мядзведзькі, былога машыніста. Ён мужна і самааддана змагаецца з фашыстамі, марыць вярнуцца да любімага занятку: *"Прыйдуць нашы, – развіваў планы на будучае дзядзька, – дык я першай справай на газеты накінуся. Кожную газетку за гэтыя два гады, што без мяне выходзіла, прачытаю. А пасля сяду на паравоз – і даёш Берлін!"* [4, с. 40]. Мары-спадзяванні героя, яго шчырая вера ў Перамогу – сімвалічнае сведчанне жадання людзей хутчэй скончыць разбуральную вайну і вярнуцца да мірнага жыцця.

Героі апавядання **"Хлопцы самай вялікай вайны…"** І. Навуменкі разважаюць пра сэнс жыцця, яго складанасці і супярэчнасці: *"Маршыруй, пакаленне!.. Самой гісторыяй наканавана табе суровая дарога. На ёй льецца кроў, губяцца маладыя жыцці, але твае бясцэнныя ахвяры не прападуць. Грыміце, трубы, і чаканьце крок, салдаты самай вялікай вайны!.."* [6, с. 60]. У гэтым творы вайне даецца глыбокая філасофская ацэнка. Тут няма ўжо батальных сцэн ці дзейнасці падпольшчыкаў. Вайна адышла на захад, але яе псіхалагічнае ўздзеянне на людзей пакідае вельмі моцнае ўражанне. Арышты бязвінных людзей, недавер, даносы, падазронасць становяцца з'явай паўсядзённай: *"…партызаны… не надта раскрываюцца перад байцамі, камандзірамі… Вайскоўцы іх проста не разумеюць… У сваю чаргу партызаны не надта прызнаюць тых, хто, чым мог, шкодзіў немцам, не адрываючыся ад сям'і і роднага паселішча…"* [6, с. 57].

Маральна-этычны канфлікт узнікае паміж будучымі салдатамі-"абарванцамі", што прыбылі ў тыл для пераабмундзіравання, і жанчынамі, якія *"гандлявалі на станцыі піражкамі з мёрзлай бульбы, махоркай і малаком"* [6, с. 58]:

*"– Сволачы праклятыя!.. Нашы даўно галовы палажылі, а яны толькі ідуць!..*

*– Ваякі няшчасныя!*

*– Глядзі, ражку наеў, патрыёт!*

*– Будуць хваліцца потым, што ваявалі…*

*– Дызерціры…"* [6, с. 58].

Сітуацыя нібы падзяліла людзей на тры групы: 1) тыя, хто непасрэдна ўдзельнічаў у баях, воіны і партызаны, 2) сувязныя, падпольшчыкі і 3) мірнае насельніцтва. Вайна не толькі размежавала людзей на сваіх і чужых, герояў і здраднікаў, але і зрабіла некаторых з іх больш суровымі і нават злоснымі. Васемнаццацігадовы Віктар Пасашка – галоўны герой апавядання – нават абураецца: тых, хто ішоў у войска ў мірныя гады, *"праводзілі з аркестрамі, гармонікамі, прамовамі. А табе, брат, вось які аркестр!"* [6, с. 58]. А жанчыны ў канцы, нягледзячы на канфлікт, шчыра спачуваюць юнакам: *"Божа, Божа, якія маладзенькія. Як дома тым маткам… Які ён салдат – дзіця…"* [6, с. 57].

У фінале твора гучыць трагічная праўда ваеннага часу. Віктар Пасашка, паранены пад Ленінградам, атрымлівае лісты і звесткі ад сяброў: загінулі Сяргей Рагазуб і іншыя партызаны, стрыечны брат Адам забіты каля Оршы, перастаў пісаць Саша Чарняўка. Сказ, якім заканчваецца апавяданне, нібы прысуд, вынесены вайне юнаком, а ў яго вобразе і ўсім яго пакаленнем: *"Вайна яшчэ не скончылася, а хлопцаў нараджэння дваццаць пятага года, з якімі разам хадзілі ў школу і якія пайшлі на фронт, Віктар жывога не памятаў ніводнага…"* [6, с. 64].

Побач з часовымі праблемамі заўсёды застаюцца праблемы вечныя, універсальныя, якія вызначаюць галоўны сэнс чалавечага жыцця. Якраз такія праблемы Іван Навуменка актуалізаваў у апавяданнях не толькі пра вайну, але і пра пасляваенную рэчаіснасць.

Падзеі апавядання **"Новая хата"** (1959) адбываюцца на фоне маштабных агульнадзяржаўных змен – людзі адбудоўваюць разбураную ў вайну краіну, узводзяць і асабістае жыллё. Але паказваючы чалавека ў сацыяльна-гістарычным кантэксце, І. Навуменка адначасова імкнецца асэнсоўваць яго і як асобу, "адзінку чалавечага роду", ведучы яго думкі ў сферу вечных вартасцей, фарміруючы тым самым уяўленне і пра яго, і пра час.

Увесь твор з самага пачатку – успамін: *"Залатымі іскрамі ў памяці: сонечны дзень, расчыненыя ў двор вароты і цэлы абоз расточаных на дышлях доўгіх вазоў, нагружаных смалістымі бярвеннямі. Мы будзем ставіць новую хату!"* [4, с. 347]. Пісьменнік пастаянна нагадвае пра рэальны, канкрэтна-гістарычны час: *"новую хату будавалі доўга"* [4, с. 347]; *"хату складвалі ўжо на другое лета"* [4, с. 348]; *"крылі хату зімою"* [4, с. 348]; *"вясною рэзалі дошкі на столь і падлогу"* [4, с. 349]. А калі святкавалі ўлазіны, *"сталы заслалі белымі абрусамі, заставілі гарэлкай і закускамі. Маці гатавала гэтыя закускі цэлы тыдзень"* [4, с. 350]. За зімою прыходзіць вясна, а за ёю лета і восень, будуецца новая хата – сімвал новага, шчаслівага жыцця. Але ў творы прысутнічае і іншы план – актуалізуецца праблема ўзаемаадносін у сям'і, якую пісьменнік яшчэ больш завастрае, паказваючы праз прызму дзіцячага бачання і ўспрымання. *"Бацька часта злуецца і лаецца. Ён папікае маці то за абед, то за тое, што яна недзе забавілася, то за анучы, якіх яна не высушыла. Маці маўчыць. Яна ніколі не абзавецца ніводным словам. Мне шкада маці, і ў такія хвіліны свайго бацьку я ненавіджу"* [3, с. 347 – 348]. Калі маці ў лесе пайшла збіраць журавіны, *"бацька злаваўся, што яе доўга няма. Калі яна падышла, ён закрычаў, штурхануў яе*

*ў грудзі, і маці ўпала. Усе журавіны рассыпаліся. Я саскочыў з воза і кінуўся на бацьку.*

*– Гад ты, чорт! Я цябе заб'ю! – закрычаў я на бацьку”* [4, с. 348].

Дзіця пратэстуе супраць учынкаў бацькі. Але маці, кіруючыся сваёй жаночай мудрасцю, выхоўвае ў сына павагу да бацькі: *“– Грэх гаварыць так на бацьку, – павучала мяне маці. – Ты ж яго родная кроў. Ён пазлуецца дый перастане. Мы ж новую хату будуем. Недастаткі, зайздроснікаў і ворагаў колькі, ён і сярдзіты таму. Вось паставім хату…”* [4, с. 348].

Жанчына не проста гаворыць гэтыя словы, яна шчыра верыць, што перасяленне ў новую хату стане пачаткам не толькі лепшага матэрыяльнага жыцця, але і ўзаемапаразумення з мужам, стабілізацыі іх сямейных адносін. Чытач нават імя гераіні даведваецца толькі ў канцы твора. Для І. Навуменкі яго гераіня – гэта вобраз-сімвал Жанчыны-Маці, апякункі сямейных вартасцей. Але, на жаль, яе спадзяванні не спраўдзіліся. Пераезд у новую хату мала што змяніў у адносінах мужа да жонкі: *“Бацька хадзіў незадаволены. Ён, як і раней, крычаў на маці, прыдзіраўся да яе без ніякай прычыны, лаяўся… Маці моўчкі плакала. Аднойчы, калі бацькі не было ў хаце, яна апранула мяне, апранулася сама, мы паставілі на санкі матчын куфэрак і пераехалі ў старую хату”* [3, с. 350].

Трэба адзначыць, што Іван Навуменка паказаў сябе ў гэтым творы тонкім знаўцам чалавечай псіхалогіі. Ён вельмі дэталёва апісаў сітуацыю, калі мужчына разумее, што ён павінен папрасіць прабачэння ў жонкі, і робіць гэта, хоць яму і складана: *“Позна вечарам прыйшоў бацька. Твар яго быў разгублены і вінаваты. Ён пашукаў вачыма, дзе сесці, але садзіцца не было на чым, і ён застаўся стаяць у парозе.*

*– Вось, што, Ганна, – сказаў бацька нейкім дрыготкім голасам. – Даруй мне, калі што якое. Характар у мяне такі… Пайшлі дадому…”* [4, с. 350]. Пасля доўгай размовы, пакінуўшы крыўды ў старой хаце, сям'я зноў стала адзіным цэлым.

Спалучэнне двух планаў, двух асноўных ракурсаў паступова абумоўлівае адначасовае існаванне ў апавяданнях двух пачаткаў – падкрэсленай маштабнасці, абагульненасці выяўленняў і дэталізацыі, падрабязнай выпісанасці, паглыбленага аналізу больш-менш значнай сітуацыі з мэтай стварыць эфект самаруху рэальнасці.

Характэрная рыса прозы Івана Навуменкі – пастаяннае імкненне як мага больш поўна і дакладна перадаць адчуванні, перажыванні і іншыя эмацыянальныя зрухі душы героя. Пісьменнік паступова прыходзіць да пошукаў унутранай сувязі паміж побытавымі і быццёвымі праблемамі, знешнімі праяўленнямі рэчаіснасці і глыбіннымі пластамі чалавечай псіхікі.

Форма адлюстравання жыцця праз успаміны – адна з найбольш распаўсюджаных у апавяданнях І. Навуменкі. Большасць з іх мае менавіта такую часавую структуру. Падзеі, што адбываюцца ў гэтых творах, падаюцца як непасрэдна перажытыя героямі. Але фіналы гавораць, што пісьменнік (вачыма лірычнага героя) глядзіць з адлегласці ў часе, нават з пэўнага жыццёвага вопыту. Большасць апавяданняў І. Навуменкі – гэта свайго роду вяртанне ў маладосць і юнацтва (“Семнаццатай вясной”, “Вераніка”, “Хлопцы самай вялікай вайны…” і многія іншыя): *“Пасля вайны ўжо некалькі разоў быў на радзіме. Гэлі не застаў: яе сям'я ў пачатку вайны эвакуіравалася ў тылавыя раёны і назад у мястэчка не вярнулася. Таполі ўцалелі, разрасліся: не сквер цяпер, а зялёны востраў. Не ведаю, ці прыязджала ў мястэчка Гэля, а калі прыязджала, то ці выклікалі ў яе які-небудзь успамін таполі ў станцыйным скверыку…”* (“Таполі юнацтва”) [4, с. 267]. Або: *“Цяпер, праз многія гады, мне здаецца, што наш няўрымслівы старшыня сельсавета быў паэтам у глыбіні душы, не любіў будзённасці і, як ніхто ў сяле, адчуваў вялікую, не параўнальную ні з чым радасць палёту, імкнення…”* (“Водгулле далёкіх вёснаў”) [4, с. 323].

Творчая практыка пісьменніка ў межах апавядання спрыяла выяўленню магчымасцей малога жанру ў пастаноўцы і вырашэнні агульначалавечых праблем: матэрыяльнага і духоўнага жыцця чалавека, яго месца і прызначэння ў свеце, здольнасці спазнання рэчаіснасці і самога сябе, межаў яго свабоды і самастойнасці. Грунтуючыся на дасягнутым у літаратуры, у першую чаргу на традыцыях А. Пушкіна і Л. Талстога, Я. Коласа і М. Гарэцкага, Іван Навуменка ішоў па шляху адкрыцця новых напрамкаў у даследаванні “той няўлоўнай, але несумненна прысутнай у жыцці чалавека сувязі ўсяго прыватнага з агульным і важным, абавязкова заканамерным і часта вельмі аддаленым” [1, с. 30 – 31]. А гэта, адпаведна, вяло да значнага пашырэння часавай, гістарычнай і прасторава-сацыяльнай сфер у апавяданні.

**Спіс літаратуры**

1. **Гречнев, В.** Русский рассказ конца XIX – начала XX в. / В. Гречнев. – Л., 1979. – С. 30 – 31.

2. **Жураўлёў, В.** Структура твора : Рух сюжэтна-кампазіцыйных форм / В. Жураўлёў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1978. – 312 с.

3. **Мішчанчук, М.** Салдаты самай вялікай вайны : Творчасць Івана Навуменкі / М. Мішчанчук // Роднае слова. – 2007. – № 2. – С. 52 – 58.

4. **Навуменка, І.** Збор твораў : у 6 т. / І. Навуменка. – Мінск, 1981. – Т. 1. – 560 с.

5. **Навуменка, І.** Збор твораў : у 6 т. / І. Навуменка. – Мінск, 1986. – Т. 6. – 535 с.

6. **Навуменка, І.** Выбраныя творы : у 2 т. / І. Навуменка. – Т. 1 : Апавяданні, аповесці. – Мінск, 1995. – 478 с.

7. **Сіненка, Г.** Іван Навуменка : нарыс творчасці / Г. Сіненка. – Мінск, 1981. – 207 с.

*Пошукі імя*

Янка САЛАМЕВІЧ

# ПСЕЎДАНІМЫ, ЗВЯЗАНЫЯ З МІФАЛОГІЯЙ

Ёсць даволі вялікая група псеўданімаў, якімі падпісваліся беларускія пісьменнікі і публіцысты, звязаная з архаічнымі народнымі павер'ямі, паданнямі, звычаямі, міфамі, абрадамі, што ідуць яшчэ з язычніцкіх часоў і своеасабліва адбіліся найперш у вуснай народнай творчасці. Многія прыродныя з'явы, незразумелыя старажытнаму чалавеку, у свядомасці нашых продкаў асацыяваліся з багамі і боствамі, добрымі і ліхімі духамі, дэманічнымі міфічнымі істотамі, легендарнымі героямі і постацямі і пад., іх спрыяльным і негатыўным уздзеяннем на жыццё чалавека, жывёл і птушак, прыроды.

*Янка Купала*, многія творы якога чэрпаюць вобразнасць у беларускім фальклоры, грунтуюцца на яго сюжэтах і матывах, спецыяльна вывучаў фальклорна-этнаграфічныя працы Е. Раманава, П. Шэйна, Я. Карскага, У. Дабравольскага і іншых. Верш "Страх" ("Наша Ніва", 1908, № 19) ён падпісаў псеўданімам ***Вайдэльота***. Вайдэлоты – святары ў культавых месцах вечнага агню старажытных прусаў і ліцвінаў. Іх абавязкам было падтрымліваць нязгасны святы агонь у вогнішчы, сачыць за календарам святаў, вучыць людзей і даваць ім парады, апяваць герояў-нябожчыкаў на пахаваннях. Адам Міцкевіч у тлумачэннях да сваёй паэмы "Гражына", якую, відаць, чытаў і добра ведаў Янка Купала, піша пра іх. Адтуль, мажліва, і ўзяў гэтае імя наш класік.

Бадай усе ведаюць, што Купалле – гэта старажытная абрадавая ўрачыстасць, прымеркаваная да летняга сонцастаяння, найвышэйшага росквіту жыватворных сіл зямлі. Свята персаніфікавалася і набыло вобраз міфічнай асобы Купалы (успомнім купальскія песні). Яго атрыбуты – шматлікія вогнішчы, збор зёлак, якія лічыліся гаючымі, запаленае кола на жэрдцы як сімвал сонца, варажба на вянках каля рэчак, пошукі ноччу міфічна-легендарнай папараць-кветкі, дазвол на вольныя адносіны хлопцаў і дзяўчат, назіранні за ігрой сонца і многае іншае. У святце сінкрэтычна спалучыліся культы сонца, агню, вады, расліннасці. Думаю, не трэба нікому нагадваць, што псеўданімы **Івана Луцэвіча *Янук Купала*** ("Наша Ніва", 1907 – 1911), ***Янка Купала***, ***Я. Купальскі*** менавіта адсюль, бо паэт і нарадзіўся якраз у гэты дзень. А пісьменнік **Павел Кавалёў**, тады яшчэ карэспандэнт-пачатковец газет "Піянер Беларусі" (1929 – 1931), "Савецкая Беларусь" (1930), падпісваўся ***Паўлюк Купалін***.

Многія памятаюць паэтычны цыкл, які Максім Багдановіч прысвяціў лесуну ("Лясун", "Старасць", "Возера", "Пугач", "Хрэсьбіны лесуна"). Лясун, або лесавік, у беларускай міфалогіі – увасабленне лесу як прасторы, патэнцыйна чужой чалавеку. Як гаспадар ён апякуецца звярамі і птушкамі. У замовах лясун ратуе ад сурокаў, крыксаў і нават нячыстай сілы. Калі чалавек робіць яму дабро, ён можа надзяліць яго знахарскімі здольнасцямі.

Гэтае найменне скарыстоўвалі многія. Так, **Канстанцін Міцкевіч** (*Якуб Колас*) псеўданімам ***Лесавік*** у "Нашай Ніве" (1907, 11 лют.) падпісаў апавяданне "Бунт", а 7 снежня таго года – тамсама апавяданне з жыцця леснікоў "Васіль Чурыла". Выкарыстоўвалі яго **Міхась Ганчарык** (***Лясун***, ***М. Г. Лясун*** – "Вольная Беларусь", 1918; "Голос революционного студенчества". Горы-Горкі, 1924, № 2), **Язэп Плашчынскі** – *Язэп Пушча* (***Лясун*** – "Адраджэнне". Мінск, 1992, сш. 1; "Полымя", 1923, №№ 5 – 6), **Мікола Целеш** (***М. Лясун***, ***Мікола Лясун*** – "Беларуская газэта". Менск, 1943; "Новая дарога". Беласток, 1943; кніжка "На крыжы". Менск, 1943), **Георгій Валкавыцкі** (***Р. Лясун***, ***Рыгор Лясун*** – "Ніва". Беласток, з 1959 г.); **Мікола Купрэеў** (***Мікола Лесавік*** – Ляхавіцкая раённая газета, 1960-я гг.), **Аляксей Ненадавец** (***Алесь Лясун*** – "Гомельская праўда"; "Камуніст". Бабруйск; "Трыбуна працы". Бабруйск, 1987 – 1990), **Арсень Ліс** (***А. Лесаўчук*** – "Літаратура і мастацтва", 1992), **Сяргей Ёрш** (***Васіль Лесавік*** – прэса Беларусі 1996 – 1998 гг.) і інш.

У віленскіх газетах "Наша праўда", "Наша справа" (1927), "Зара працы" (1928) **Мікола Засім** карыстаўся псеўданімам ***Агонь***. Агонь, як кажуць народныя вераванні, – адна з першасных стыхій, што ўдзельнічала ў акце стварэння свету. У міфалагічных уяўленнях продкаў ён супрацьстаіць вадзе. Сімволіка агню шырока выкарыстоўвалася ў вясельнай і пахавальнай абраднасці беларусаў.

Як ***Аганёк*** у віленскай газеце "Беларускі звон" (1921), часопісе "Беларускі летапіс" (1937) друкаваўся **Фелікс Стацкевіч**. А **Міхась Ганько** ў "Беларускай газэце" (Менск, 1942 – 1943), газеце "Бацькаўшчына" (Мюнхен, 1951), часопісе "Сакавік" (1947) выкарыстоўваў псеўданім

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

*Матэрыялы, прысвечаныя псеўданімам беларускіх творцаў, друкуюцца ў часопісе "Роднае слова" з мая 2006 г.*

***Валянцін Аганёк***. Усім добра вядома, што **Эдзі Каган** – гэта паэтка ***Эдзі Агняцвет***.

У “Нашай Ніве” (1909 – 1914) настаўнік з Магілёўшчыны **Савелій Еўдакіменкаў** выступаў як ***К-ль***, ***С. К.***, ***С. К-ль***, ***Саўка К-ль***, ***Каваль***, ***С. Каваль***, ***Саўка Каваль***, ***Саўка Кавалёў***. Скараціўшы сваё сапраўднае прозвішча да ***В. К.***, ***В. К-ль***, ***В. Каваль***, ***Вас. Каваль***, ***Васіль Каваль***, з 1925 г. друкаваўся ў прэсе Беларусі **Васіль Кавалёў** (газеты “Савецкая Беларусь”, “Чырвоная змена”, “Піянер Беларусі”, “Літаратура і мастацтва”, часопісы “Чырвоны сейбіт”, “Малады араты”, “Аршанскі маладняк”, “Полымя”, “Маладняк”, “Беларускі піянер”, “Іскры Ільіча” і інш.). Ён выдаў кніжкі апавяданняў “Як вясну гукалі”, “На загонах” (1928), “Крыніца” (1929), “Выбраныя творы” (1932), аповесць “Санька-сігналіст” (1936).

***Пракоп Каваль***, ***Пр. Каваль***, ***П. Каваль*** – псеўданімы каталіцкага святара ўсходняга абраду, архімандрыта, даследчыка рэлігійнага жыцця на Беларусі, культурна-асветнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, пісьменніка і публіцыста **Льва Гарошкі**. У Парыжы (1950, 2-е дапр. выд. 1953) пад гэтым псеўданімам выйшла яго кніга “Беларусь у датах, ліках і фактах”, а ў 1967 г. у Лондане гістарычны нарыс “Слуцкі фронт”. **Мікола Гілевіч** (*Мікола Гіль*) як ***М. Каваль*** друкаваўся ў “Звяздзе” і “Піянеры Беларусі” (1959 – 1960), “Літаратуры і мастацтве” (1961 – 1989). Гісторык і філолаг, доктар навук **Аляксей Каўка** як ***А. Каваль***, ***Алесь Каваль*** падпісваўся ў беластоцкай газеце “Ніва” (1980 – 1989). За подпісам ***Міхася Каваля*** ў “Вожыку” (1997) можна сустрэць **Міхася Кавалёва** (*Міхася Сліву*). У гэтым самым часопісе ў 1990-я гг. чытач напаткае яго творы, падпісаныя псеўданімамі ***М. Кавалькоў***, ***Я. Кавалькоў***, ***М. Кавальскі***, ***М. Кавальчук***.

Паводле беларускіх народных павер’яў, каваль – міфалагічны персанаж, надзелены звышстваральнай сілай, звязаны з агнём. Ён меў здольнасці варажыць і чараваць. У казках ён выкоўвае дзівосную булаву ці для сябе, ці для іншага персанажа, каб перамагчы змея, цмока. У песнях, асабліва радзінных, якіх у беларусаў з усіх усходніх славян захавалася найбольш, бацьку немаўляці называюць кавалём, бо акт зачацця прыпадабняўся да кавання жалеза.

Заходнебеларускі пісьменнік-сатырык **Іван Маразовіч** – *Янка Маланка* – у часопісе “Маланка” (1926) падпісваўся ***Пярун***, ***Гаўрыла Пярун***. Пярун – старажытны славянскі бог грому і маланкі. Паводле паданняў, ён прынёс жыццё на зямлю. У яго капішчы гарэў нязгасны агонь – Зніч, які існаваў да прыняцця хрысціянства ў язычнікаў, літоўцаў і беларусаў. Такім псеўданімам карысталіся этнограф і фалькларыст **Аляксандр Шлюбскі** (***А. Зніч***, ***Ал. Зніч*** – газета “Савецкая Беларусь”, 1921 – 1925), рэлігійны паэт, філосаф, даследчык беларускай мовы **Алег Бембель** (з 1988 г.; зборнікі паэзіі “Саната ростані”. Беласток, 1988; “Рэха малітвы”. Нью-Йорк, 1988; “Малітвы за Беларусь”. Мінск, 1989 і інш.).

У газеце “Biełarus” (1913 – 1915) **Леапольд Родзевіч** друкаваўся як ***Грымот***, ***М. Грымот***, ***Мікула Грымот***. Пад гэтым псеўданімам ён напісаў драму “Блуднікі” (1912, упершыню апублікаваная ў 1960 г. у зборніку “Беларускае мастацтва”), якую літаратуразнаўца А. Семяновіч і фалькларыстка Г. Пятроўская прыпісвалі М. Янчуку.

Журналіст **Мікола Лазарчык** у прэсе Беларусі 1920-х гг. падпісваўся ***Грамавы***. У віленскім сатырычным часопісе “Маланка” (1926 – 1927) **Іван Маразовіч** выступаў як ***Язэп Грамабой*** або ***Янка Грамабой***. Літаратуразнаўца і публіцыст, пісьменнік **Уладзімір Сядура** (*Уладзімір Глыбінны*) у мінскім “Новым шляху” (1942) выкарыстоўваў псеўданім ***А. Гром***. **Міхась Касцевіч** (*Міхась Васілёк*) у органе Гродзенскага падпольнага абкама “Красное знамя” (1942 – 1944) і “Белостокской газете” (1944) друкаваўся як ***А. Гром*** або ***Язэп Гром***. **Рамуальд Карнасевіч** у эмігранцкім друку падпісваўся псеўданімам ***Громобой***. Усе гэтыя подпісы звязаны з такою з’яваю прыроды, як навальніца. З хрысціянскай традыцыі паходзіць тлумачэнне грому як Божага гневу за чалавечыя грахі. Асаблівае магічнае значэнне меў першы веснавы гром, які атаясамліваўся з пладнасцю, здароўем, багаццем.

Як ***Жыцень***, ***Л. Жыцень***, ***Лявон Жыцень*** друкаваўся ў віленскіх “Беларускіх ведамасцях” (1922), мінскіх газетах “Красная смена” (1923), “Савецкая Беларусь” (1924), часопісе “Радавая рунь” (1924) **Л. Родзевіч**. Жыцень – міфічны бог восені, дух палёў, які спрыяў выспяванню збажыны і гародніны. Ён пара жытняй бабе – персанажу беларускай міфалогіі, фантастычнай жанчыне з каласамі на галаве і зоркамі па баках, якая з’яўлялася ў час дажынак. Жыценя ўяўлялі худым нізкарослым дзядком з ускудлачанымі валасамі і трыма вокамі (адно на патыліцы).

Адзін з дахрысціянскіх багоў у беларусаў – Ярыла. Ён лічыўся апекуном урадлівасці. Пасля прыняцця хрысціянства адзначалі свята Юр’я, культ якога ўвабраў многія рысы культу Ярылы. Некаторыя даследчыкі бачаць у Ярылу сонечнае боства. У беларусаў вядома свята Ярылавіцы (Ярылкі), што адзначалі некалькі разоў: на Юр’я (красавік), на Сёмуху (Тройцу), на Купалле (май – чэрвень). **Самуіл Плаўнік** (*Змітрок Бядуля*), як сведчыць біябібліяграфічны слоўнік “Беларускія пісьменнікі” (1992, т. 1, с. 451), меў такія псеўданімы, звязаныя з Ярылам: ***Ярыла***

***Паўстанец***, ***Ярыла Чырвоны***, ***Чырвоны Ярыла***, ***Чырвоны Ярылка***. У адрыўным календары "Родны край" я таксама падпісваўся ***Я. Ярыла***.

Міфічны Кумяльган спачатку лічыўся богам – апекуном коней. Пасля яго галоўныя функцыі перайшлі да Юр'я, а сам ён стаў ліхім духам народнай дэманалогіі. Паводле вераванняў, яго галоўнае прызначэнне – мучыць коней, пакідаць іх на здабычу драпежнікам. ***Кумяльган*** вылучаўся хітрасцю, здольнасцю мяняць аблічча. Відаць, таму **Антон Луцкевіч** і ўзяў сабе гэтакі псеўданім (віленскія газеты "Вольны сцяг", 1923; "Змаганне", 1923 – 1924; "Голас беларуса", 1924 і інш.). У БелСЭ (т. 6, с. 444) яго псеўданім недакладна перадаецца як ***Кумальга***, а ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (т. 2, с. 356; т. 3, с. 451) як ***Кугельман***.

Тэрмін замежнага паходжання *каляда* (ад лацінскага *calendae* – 'першы дзень месяца') звязаны з календаром і навагоднімі абрадамі. Да калядных святаў чысцілі жыллё, мыліся ў лазні, на святы ўшаноўвалі продкаў-дзядоў, варажылі, гулялі, вадзілі карагоды. За псеўданім гэтую назву сабе абіралі **Сымон Рак-Міхайлоўскі** (***Бутрым Каляда*** – "Страшны вораг: Кніжка пра гарэлку". Вільня, 1924), журналістка **Яўгенія Данская** (***Я. Каляда*** – "Літаратура і мастацтва", 1950 – 1970-я гг.), **Аўгіння Парашчанка** (***Югася Каляда*** – "Наша ніва ісцінная", 1999; "Літаратура і мастацтва" з 2003 г.), **Мікола Харытоненка** (***Мікола Калядны*** – "Маладосць" з 2001 г.), **Мікола Шчаглоў** (***Калядоўшчык*** – "Беларус". Нью-Йорк, 1952) і інш.

У беларускіх паданнях, казках, песнях героем выступае каза́к (ад цюркскага 'вольны, незалежны чалавек'). Асноўным заняткам казакоў былі ваенныя паходы. Псеўданімамі ***Д. Казак*** ("Беларусь", "Вожык", 1968), ***З. Казак***, ***Зм. Казак*** ("Вожык", 1966 – 1968; "Звязда", 1966) падпісваўся **Змітрок Бяспалы**.

Назву драпежнай птушкі з сямейства ястрабіных каршуна, з якім звязаны шматлікія ўяўленні і засцерагальныя дзеянні, узялі сабе за псеўданім **Іван Дарашкевіч** (***Каршун***, ***В. Каршун*** – "Наша Ніва", 1909), **Сяргей Грахоўскі** (***С. Каршун*** – "Чырвоная Беларусь", 1932, № 8). Такі самы псеўданім меў дзеяч беларускага нацыянальнага руху і эміграцыі **Дзмітрый Касмовіч** (1909 – 1991).

Мастак **Рыгор Яновіч** за псеўданім абраў назву хтанічнага (падземнага) боства, уладарніцы царства мёртвых Копшы (***Тодар Копша*** – "Маладосць", 1989; "Бярозка", 1993; "Культура", 1994).

Журналісты **Міхась Дастанка** ("Раздавім фашысцкую гадзіну". Слуцк, 1944) і **Мікола Багадзяж** ("Бярозка", 1998 – 1999) падпісваліся: першы – як ***Апанас Барада***, другі – як ***Мікола Барада***. У народнай культуры беларусаў барада сімвалізавала, увасабляла мужчыну, верылі, што яна падтрымлівае ўрадлівасць, рост раслін. Яна ў беларусаў лічылася шчасліваю прыкметаю. Барада мужчыны мела такія самыя ахоўныя (апатрапейныя) функцыі, як дажынкавая "барада". Пастух да Дзядоў некалі не галіўся: лічылася, што яго барада засцерагае жывёлу ад ваўкоў. Як ***А. Бародка*** ў 1920-я гг. падпісваўся **Аляксандр Функ**, ***Б. Бародка*** – **Барыс Сачанка** ("Вожык", 1959 – 1965), ***Ул. Бародка*** – **Уладзімір Цвяткоў** ("Вожык", 1996, № 3).

**Алесь Аляшкевіч** падпісваецца як ***Алесь Гара***, ***Аляксандр Гара*** ("Літаратура і мастацтва", 1991; "Маладосць", 1997; зборнік "Д'яблава мора". Мінск, 1996; кніжка апавяданняў і аповесцей "Чорная дзірка". Мінск, 2001). У беларускай міфалогіі гара – трансфармацыя Сусветнага дрэва. На яе вяршыні жывуць багі, у ніжняй частцы – ліхія людзі, на зямлі – чалавечы род. У беларуска-балцкай міфалогіі яна сімвалізавала шлях душ памерлых у вырай. Сакральнае значэнне мелі ўзгоркі, звычай пакланяцца якім датрываў да XX ст.: Лысая гара (пад Мінскам), Перунова гара (в. Дараганава Асіповіцкага р-на, вв. Шчурок і Вензаўшчына Шчучынскага р-на), Чортава гара (в. Пусташкі Браслаўскага р-на), Змеева гара (в. Млыны Камянецкага р-на), Турава гара (Жыткавіцкі р-н), Княжая гара (Ганцавіцкі р-н) і інш.

З народнымі павер'ямі, паданнямі звязаны многія расліны, якія лічыліся абярэгамі, ратавальнікамі ад злых духаў, усяго дрэннага: палын, крапіва, блёкат, чартапалох, цыбуля, часнок і інш. Беларускі пісьменнік з Латвіі **Віктар Вальтар** выкарыстаў назву расліны палын як псеўданім (***Янка Палын*** – "Крывіч", 1923, №№ 4, 5; "Студэнцкая думка", 1924, № 1). Яго раман, што грунтуецца на ўспамінах пра студэнцкае жыццё "Роджаныя пад Сатурнам", падрыхтаваны з рукапісу Сяргеем Панізнікам, апублікаваны толькі ў 1991 г. у газеце "Голас Радзімы". Паэт і перакладчык **Міхась Рудкоўскі** падпісваўся часам як ***Міхась Палынок*** ("Літаратура і мастацтва", 1978), **Яўген Скурко** (*Максім Танк*) пад допісам у "Вожыку" (1947, № 5) паставіў імя ***Ахрэм Цыбуля***, паводле назвы расліны-абярэга, бо часопіс змяшчаў "горкія", рэзкія творы.

Як бачым, псеўданімы, утвораныя ад назваў прыродных з'яў, абрадаў, звычаяў, павер'яў, герояў народных паданняў і міфаў, былі шырока распаўсюджаны сярод нашых літаратараў, вучоных, публіцыстаў ад даўняга часу. Не адмаўляюцца творцы ад іх і сёння. Тым больш цяпер шмат пра што можна прачытаць значна шырэй у спецыяльных даследаваннях, навуковых працах, хоць яшчэ многае чакае сваіх гіпотэз, здагадак, інтэрпрэтацый, назіранняў і высноў.

# ТВОРЧЫЯ НАБЫТКІ УЛАДЗІМІРА ЛІПСКАГА

Уладзімір Сцяпанавіч Ліпскі нарадзіўся 6 мая 1940 г. у мястэчку Горваль пад Рэчыцай, за 14 кіламетраў ад Шоўкавічаў. Паводле слоў пісьменніка, *"мае бацькі выгадавалі шасцярых дзяцей і перадалі ім у спадчыну ўсё самае лепшае: чыстае сумленне і галоўны запавет – быць Чалавекам"*. Уладзімір Ліпскі скончыў дзесяцігодку, паступіў у Мінскі тэхнікум харчовай прамысловасці. Адтуль яго накіравалі ў Нясвіжскі раён, дзе ён працаваў слесарам на цукровым заводзе ў Гарадзеі. Пачаў супрацоўнічаць з раённай газетай "Чырвоны сцяг" і паралельна давучваўся на завочным аддзяленні журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1966).

Дэбютаваў у рэспубліканскім друку ў 1964 г., а ў 1971-м з'явілася яго першая кніга публіцыстыкі "Райкомаўскія будні". Пазней выйшлі кнігі "Дзень за днём" (1973), "Знайдзі сябе" (1974), "Прыдзвінскі цуд" (1975), "Высокія зоркі" (1981), "Крутыя вёрсты" (1980), "Невядомы" (1990), "Лаўрэнавы працадні" (1984), "Раны" (1987) і інш.

Роднай вёсцы, праблемам выхавання моладзі прысвечана аповесць "Адпяванне жывых" (1993). Тэма дзяцей-сірот узнята ў дзённіку "Бацькі і дзеці" (1995). Аповесць "Я: Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод" (1998) створаная на аснове архіўных і дакументальных матэрыялаў. Гаворка ў ёй ідзе пра гісторыю сямейных каранёў, паходжанне прозвішчаў, гербаў.

Шмат кніг Уладзіміра Ліпскага прысвячаецца дзецям: "Рыгоркавы прыгоды" (1974), "Марынчына казка" (1977), "Вясёлая азбука", "Падкідыш" (1992) і інш. Яны вызначаюцца жывой народнай мовай, дасціпнасцю, займальнасцю, веданнем дзіцячай псіхалогіі. Яскравыя, добрыя творы пісьменніка кранаюць і юнацкую аўдыторыю, і сталага чытача.

У 1978 г. Уладзімір Сцяпанавіч стаў галоўным рэдактарам часопіса "Вясёлка".

З 1988 г. узначаліў Беларускі дзіцячы фонд. Праца ў дзіцячым фондзе здзейсніла запаветную мару – служыць дзецям, натхніла на напісанне цудоўных кніг.

А таксама Уладзімір Ліпскі – ініцыятар і старшыня Усебеларускага фестывалю народнага гумару ў Аўцюках Калінкавіцкага раёна. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра (1993), Васіля Віткі (1997), Дзяржаўнай прэміі (2000), Міжнароднай прэміі А. Швейцара за дабрачынныя справы на карысць дзяцей, заложнікаў чарнобыльскай трагедыі (1998).

Творца заклікае памятаць, што кожны дзень жыцця – гэта непаўторнае свята: *"Я хацеў бы, каб кожны чалавек гэта ўсвядоміў, і чым раней, тым лепш. Дзень заканчваецца, і такога дня больш не будзе. Дык навучыцеся ж цаніць кожны міг жыцця!"*

"Роднае слова" знаёміць чытачоў з новай кнігай вядомага пісьменніка – мастацкай біяграфіяй нашага Песняра Янкі Купалы, напісанай для дзяцей.

# "ГАЮЧЫ МЁД"

**Ліпскі, У. С.** Янкаў вянок : Дзецям пра Янку Купалу / У. С. Ліпскі. – Мінск : Маст. літ., 2009. – 222 с. – Тыраж 2000 экз.

Аднойчы, рэцэнзуючы аб'ёмны творчы матэрыял па музычна-эстэтычным выхаванні ў дзіцячым садзе, Уладзімір Ліпскі назваў яго *"гаючым мёдам"*. Вялікі гонар атрымаць такую высокую адзнаку ад вядомага беларускага пісьменніка.

Новая кніга Уладзіміра Ліпскага "Янкаў вянок" – пра беларускага генія Янку Купалу. Твор выклікае захапленне сваім дзівосным "гаючым мёдам". З першых старонак кніга паглыбляе чытача ў далёкае дзяцінства Паэта, здзіўляе, цікавіць… Даступнае, добрае, сардэчнае слова майстра распавядае пра жыццёвы шлях беларускага Песняра. Пры гэтым паўсюль на старонках кнігі адчувальная прысутнасць аўтара як прыхільніка, вернага сябра і захавальніка памяці вялікага Паэта. Каментарыі неабыякавага пісьменніка набліжаюць біяграфічныя падзеі героя кнігі да нашых дзён, да слёз кранаюць душу, збліжаюць і родняць.

"Янкаў вянок" адрасаваны моладзі, ён распавядае, што чым больш значны і таленавіты чалавек, тым больш цярністы яго шлях. І па гэтым шляху Янка Купала ішоў годна, памятаючы пра высокае прызначэнне Паэзіі.

Аўтар разважае ў кнізе над сэнсам жыцця. Ён сцвярджае, што няма нічога даражэйшага за людзей, якія ўзгадавалі цябе, вучылі, дзялілі радасці і беды, добраслаўлялі ў такое няпростае і шматколернае жыццё. І няма на свеце іншага шчасця, апрача як з любоўю служыць гэтым людзям, працаваць на карысць сваёй дарагой Бацькаўшчыны.

Кніга напісана надзвычай кранальна, пераканальна, глыбока душэўна, яна абавязкова пакіне ў юных душах добры след.

**Вольга ВОЛАХ.**

Уладзімір ЛІПСКІ

# З КНІГІ "ЯНКАЎ ВЯНОК"



70

### Купалава дрэва

У кожнага чалавека, як і ў кожнага дрэва, – свае карані, ствол, галіны, верхавіна.

Карані – гэта людзі, з якіх некалі пачаўся сямейны радавод. Ствол – гэта своеасаблівая лесвіца, па якой уздымаюцца ў гісторыю ўсё новыя нашчадкі ад першага продка. Галіны – гэта блізкая радня таго, хто трымаецца на стрыжні радаводнага дрэва. А верхавіна – гэта месца самага маладога з усёй радні…

Дык якое ж радаводнае дрэва ў нашага геніяльнага паэта Янкі Купалы? Хто, якія людзі перадалі яму сваю ўзнёслую душу, дабрыню, мудрасць?..

Архівісты і даследчыкі змаглі зазірнуць толькі ў семнаццатае стагоддзе. Яны ўстанавілі, што трыста гадоў таму на Беларусі жыў Станіслаў Луцэвіч. Ён валодаў невялікім маёнткам Кукялёўшчына з вёскамі Слабодка і Цярпілаўка. Быў панам не вельмі важным… але меў шляхецкую годнасць і свой сямейны герб. Зямля і хата Станіслава Луцэвіча знаходзілася на Міншчыне, на тэрыторыі цяперашняга Стаўбцоўскага раёна…

### Сямейны герб

Даўней людзі мелі сямейныя гербы. Гэты спадчынны сімвал, шануючы, перадавалі з пакалення ў пакаленне. Ганарыліся ім. Па гербе, як па кнізе, чыталі гісторыю радаводу…

І Луцэвічы, продкі Янкі Купалы, мелі сямейны герб. Ён называўся па-рознаму – Навіна, Войня, Златагаленчык. У цэнтры герба – блакітны шчыт, а на ім – срэбная падкова і срэбны меч з залатой рукаяткай. Над шчытом – шляхецкая карона і сагнутая ў калене залатая нага ў латах са шпораю…

…Вядома, што блакітны колер у шчыце абазначае паветра, вольнасць, срэбра – нявіннасць, белізну, золата – багацце, сілу, вернасць, чысціню, нязменнасць…

Але ў гербе Луцэвічаў ёсць яшчэ адзін сімвал. І, як мне здаецца, найзначнейшы. Карона, шлем і шчыт аздоблены прыгожымі стужкамі. Чым больш узіраюся на іх, тым больш мне здаецца, што яны падобны да лісця папараці. Можа, далёкія прашчуры Купалы верылі ў дзівосную казку пра чароўныя кветкі папараці, якія з'яўляюцца зорнай ноччу на Івана Купалу? Можа, яны нястомна маліліся, каб у іхным родзе калі-небудзь з'явіўся заступнік, той шчаслівы, які адшукае ўрэшце таемную кветку папараці і ўславіць увесь іхны род?

### Багуміла і Дамінік

На жаль, вельмі мала захавалася ўспамінаў пра маці і бацьку народнага паэта. Не напісаны іх поўныя біяграфіі. Маем толькі асобныя фотаздымкі, адзінкавыя партрэты. Архівісты і вучоныя не адшукалі лістоў, дакументаў, напісаных іх рукой. Можа, некалі купалазнаўцамі стануць юныя чытачы маёй кнігі і зробяць свае адкрыцці. Шчаслівай дарогі!

А пакуль засвоім тое, што ёсць пра Багумілу і Дамініка Луцэвічаў у розных пісьмовых крыніцах.

Бацька паэта Дамінік Ануфрыевіч пражыў на свеце ўсяго 56 гадоў… Кажуць, ён быў высокага росту, бландзін, насіў вусы і бародку. З натуры – добры, вясёлы, гаваркі. Любіў шпарка хадзіць. Апранаўся чыста, акуратна. Быў хударлявы, хваравіты…

А галоўнае – усё жыццё служыў зямлі. На ёй нарадзіўся і вырас. Ёй аддаў усе свае жыццёвыя сілы…

Са слоў сясцёр Купалы Ганны, Леакадзіі, Марыі даведваемся, што Бянігна-Багуміла Луцэвіч была «трохі вышэй сярэдняга росту, валасы мела цёмныя, доўгія, яна іх зачэсвала ўверх, высока закручвала "куклу", вакол якой павязвала каляровую стужку, вочы ў яе былі карыя. Спадніцы насіла доўгія, уверсе ў зборкі, больш аднакаляровыя, паверх спадніцы павязвала фартух…» Яна была прыгожая. З натуры спакойная, ураўнаважаная, маўклівая. Добра спявала. Але калі памёр Дамінік, яе муж, то яна ўжо ніколі болей не спявала. Ведала шмат паданняў, казак, легендаў. Купала з выгляду і з характару быў падобны да маці…

З часоў узнікнення пісьменства слова і кніга жывуць у непарыўнай повязі. У новай рубрыцы нам хацелася б паказаць гэтую лучнасць праз лёсы кніг, бо "habent sua fata libelli" – "кнігі маюць свае лёсы" – і гэтыя лёсы на працягу стагоддзяў былі ўплецены як у лёс Беларусі, так і ў лёс цэлага свету.

Прапанаваны цыкл артыкулаў стане мазаікай, складзенай з разнастайных нарысаў. Адзін з іх будзе распавядаць пра нейкі жанр літаратуры, другі – пра асобны твор, трэці – пра пэўнае выданне гэтага твора, а чацвёрты – пра друкарню, адкуль кніга выйшла ў свет, ці пра асобу, творчымі намаганнямі якой гэты твор нарадзіўся. Акцэнт будзе зроблены на малавядомыя імёны ды факты.

Юры ЛАЎРЫК

# БЕЛАРУСКІ БЕРНАРДЗІНСКІ ПІСЬМЕННІК XVIII ст. МІХАЛ ПАШКЕВІЧ І ЯГО ТВОРЫ

Да фактычна невядомых на Беларусі казанняў айца Міхала Пашкевіча маю ўвагу прыцягнуў канвалют з творамі гэтага пісьменніка, які захоўваецца ў зборах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь[1]. Паколькі само слова *канвалют* дастаткова рэдкае, варта, бадай, пачаць з яго тлумачэння. У бібліялогіі так называецца кніга, што складаецца з некалькіх розных выданняў ці рукапісаў, сабраных пад адной аправай уладальнікам (у гэтым выпадку мы гаворым пра *ўладальніцкі канвалют*), выдаўцом (*выдавецкі канвалют*), аўтарам (*аўтарскі канвалют*) або іншай асобай ці арганізацыяй, што мае да гэтых кніг тое ці іншае дачыненне. Паасобныя кніжкі, з якіх канвалют складаецца, завуцца *алігатамі*. У XVIII ст., калі росквіт друкарскай справы і ўзрастанне значнасці асобы ў грамадстве спрычыніліся да ўзнікнення вялікай колькасці кніг і брашур, збіранне пад адной аправай некалькіх выданняў стала дастаткова распаўсюджаным. Тонкія кніжкі зручней было захоўваць разам, папярэдне іх сшытаваўшы паводле жанру, тэматыкі або згодна з якой-небудзь іншай прыкметай, і таму да нашых дзён дайшоў далёка не адзін зборнік такога роду.

Наш канвалют паходзіць з бібліятэкі былога бернардзінскага канвента (сходу) у Будславе, якая на пачатку 1960-х гг. была прывезена ў Мінск і паступіла часткова ў гістарычны музей, а часткова – у Нацыянальную бібліятэку Беларусі (тады яшчэ называную "ленінкай"). Складаецца том з васьмі выданняў польскамоўных твораў, галоўным чынам гамілетычнага характару*, апублікаваных у XVII – XVIII стст. Аўтарства пяці з іх належыць Міхалу Пашкевічу, і ўжо адно гэта робіць збор унікальным, бо тут змешчаны амаль усе вядомыя творы, што выйшлі з-пад пяра гэтага бернардзінскага пісьменніка. Але яшчэ большую бібліяграфічную каштоўнасць канвалюту надае той факт, што частка яго алігатаў (як сведчаць надпісы-інскрыпцыі) падаравана ў свой час святару Язэпу Клячкоўскаму самім аўтарам.

На жаль, пра ўладальніка канвалюта айца Клячкоўскага вядома сёння няшмат. З дароўных надпісаў на алігатах вынікае, што ў сярэдзіне XVIII ст. ён быў канонікам смаленскім, дэканам полацкім і пробашчам ваўкалацкім. (Да слова, апошняя назва з такім містычным гучаннем зусім не азначае, што ён хрысціянізаваў ваўкалакаў, а ўсяго толькі тое, што святар узначальваў парафію ў колішнім мястэчку, а сённяшняй вёсцы пад назвай Ваўкалата, якая знаходзіцца ў Докшыцкім раёне.)

У сувязі з выкананнем дэканскіх абавязкаў гэты святар мусіў рэгулярна наведваць падначаленыя касцёлы, і таму яго імя часам можна сустрэць у актах візітацый полацкага дэканата. Свае творы Міхал Пашкевіч адрасуе ў дэдыкацыйных (што значыць *дароўных*) надпісах Я. Клячкоўскаму як *"Mecaenati ac Benefactori suo Colendissimo"* (г. зн. называе яго *"сваім найшаноўнейшым мецэнатам і дабрадзеем"*). Магчыма, гэта сведчыць пра тое, што святар пэўным чынам паўплываў на літаратурнае станаўленне пісьменніка, бо на нашых землях у XVI – XVIII стст. слова *мецэнат* (лац. *maecenas*) перадусім асацыявалася з маральным ці матэрыяльным апекаваннем пэўнай асобай творцы-літаратара (параўнаем, напрыклад, сталы выраз-эпітэт "maecenas litterarum", які мы часам сустракаем у панегірыках і прысвячэннях).

* **Гамілетыка** – навука пра казанні (пропаведзі). У гэтым канкрэтным выпадку мы маем *прынагодныя казанні* – жанр, які ў XVIII ст. дасягнуў росквіту і быў на нашых землях шырока распаўсюджаны, але, на жаль, беларускімі навукоўцамі дагэтуль фактычна не даследаваны.

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 2.*




**Разгортка канвалюта з прысвячэннем Міхала Пашкевіча мазырскаму старасту Людвіку Гервазію Аскерку.**

ма, менавіта аўтарытэт гэтае пасады, як і асабістыя здольнасці, дазволілі яму ўвайсці ў склад дэфініторыя Літоўскай правінцыі бернардзінаў – рады, што дзейнічала пры правінцыяле (кіраўніцтве правінцыяй, пэўным рэгіёнам). Тытулам *"дэфінітара актуальнага"* (дзейнага) М. Пашкевіч падпісваецца ў сярэдзіне 1730-х гг. У гэты час пашыраецца яго слава прапаведніка, і яму нярэдка выпадае гонар прамаўляць на пахаваннях значных асоб Вялікага княства Літоўскага. Адно з такіх казанняў, абвешчанае ў лютым 1736 г. у віленскім касцёле бернардзінаў на пахаванні падкаморыя Віленскага ваяводства Міхала Тызенгаўза, і стала першым самастойным творам пісьменніка, які выйшаў у свет з друкарскага варштата[3]. У сакавіку ў Слуцку ён зноў прамаўляе на хаўтурах уплывовай асобы – наваградскага кашталяна Антона Аскеркі (на замову яго сына Людвіка Гервазія). Гэтае казанне выйшла ў свет у тым самым годзе ў друкарні Акадэміі езуітаў у Вільні[4].

Цяпер колькі слоў пра самога пісьменніка. Яго жыццё і дзейнасць вывучаў у наш час францішканін – айцец Веслаў Муравец. Ён, маючы доступ да дакументаў з архіва польскай правінцыі бернардзінаў, падрыхтаваў для даведніка "Słownik polskich pisarzy frańciszkańskich" невялікі артыкул пра Міхала Пашкевіча[2]. Скарыстаемся гэтай публікацыяй, каб акрэсліць асноўныя вехі жыцця пісьменніка, дапоўнім іх звесткамі з іншых крыніц – а перадусім з саміх выданняў.

Нарадзіўся Міхал Пашкевіч у 1695 г. пад Ашмянамі. У 1715 г. уступіў у бернардзінскі кляштар у Вільні і па адбыцці года навіцыяту (перыяду паслушэнства, выпрабавання) даў манаскія абеты. Прынамсі пяць (а можа, і болей) гадоў ён вывучаў філасофію ды тэалогію на бернардзінскіх "студыях генеральных" – у своеасаблівым ордэнскім універсітэце. Праз пэўны час прыняў і святарскі сан.

У 1734 г. Міхал Пашкевіч, вытрымаўшы конкурсны іспыт, прызначаецца на пасаду лектара тэалогіі ды магістра навіцыяту ў Нясвіжы і выконвае гэтыя абавязкі да 1737 г. (на тытульных аркушах сваіх кніг ён называе сябе *"Святое Тэалогіі лектарам і прафесарам"*). Магчыма, менавіта атрыманыя ў гэты час тытулы і далі падставу В. Мураўцу выказацца пра складзеную Агінскім для свайго прыдворнага тэолага пратэкцыю, якая дапамагла святару ўзняцца да найвышэйшых пасад у Літоўскай правінцыі ордэна. Здаецца, такое меркаванне не зусім слушнае, бо, як мы бачылі, у М. Пашкевіча было дастаткова ўласных здольнасцей, каб у маладым веку і яшчэ да пачатку працы ў Віцебску самастойна дасягнуць першай і вельмі


OFIAROWANY;
Od X. MICHAŁA PASZKIEWICZA, Bernárdyná Swiętey Theol: Lektorá, y Professorá, Prow: Litt: Diffinitorá Aktuálnego. Roku Pánskiego 1736.
w WILNIE, w Drukárni Akademickiey Societatis JESU.
* Fecit DEUS Luminare minus (Lyt: scilicet Lunam) ut praesset nocti. Gen. 1. Septuag: in principatus noctis.

**Дароўны аўтарскі надпіс Язэпу Клячкоўскаму на выданні казання Міхала Пашкевіча "Księżyc książe planet w planckcie żałobnym ozdobnym spłendorem wypogodzony".**

Неўзабаве, аднак, Міхал Пашкевіч пакідае пасаду дэфінітара і накіроўваецца ў Віцебск, дзе выконвае абавязкі духоўніка пры двары ваяводы Марцыяна Міхала Агінскага. Трэба думаць, што менавіта ў сувязі з гэтым прызначэннем ён часова пакідае і літаратурную працу. Толькі ў 1739 г. надрукавана яго наступнае казанне, абвешчанае ў сакавіку таго года на пахаванні Крысціны з Абрамовічаў Агінскай[5]. Марцыян Міхал Агінскі, памятаючы пра літаратурныя таленты прыдворнага тэолага*, даручыў яму падрыхтаваць адмысловае казанне на ўспамін сваёй жонкі, а пасля прафінансаваў і публікацыю твора, пра што сведчыць тытульная старонка і прадмова да выдання.

На тытульным аркушы гэтай кніжкі імя айца Міхала ўжо аточана цэлым вянком ганаровых званняў: ён тытулуецца як лектар-юбілят, казнадзей генеральны і патэр (айцец) правінцыі. 

* Так М. Пашкевіч названы на тытульным аркушы сваёй наступнай кніжкі "Язафатава даліна".




**Панегірык Міхала Пашкевіча на герб фундатара – нясвіжскага бенедзікцінскага абата Казіміра Младэцкага ў выданні "Festum Ecce… albo na fest Benedykta świętego kazanie miane w kościele XX. Benedyktynów nieświeskich pod tytułem S. Krzyża".**

важнай прыступкі іерархічнай лесвіцы – пасады дэфінітара.

Застаючыся прыдворным тэолагам Агінскага, Міхал Пашкевіч публікуе яшчэ адно сваё казанне – абвешчанае з нагоды пахавання біскупа жмудскага, кусташа (скарбніка) пралата віленскага і пробашча троцкага Язэпа Міхала Карпа[6]. Замоўцам і фундатарам друку на гэты раз выступіў ясвойненскі плябан Тамаш Увоень, імя якога, як здаецца, больш нідзе ў гістарычных дакументах не сустракаецца. Цікава, што і населенага пункта з адпаведнай назвай не ўдалося адшукаць ані ў спісе парафій Жмудскага біскупства, ані ў "Słowniku Geograficznym Królewstwa Polskiego", хоць тут, праўда, магла адыграць ролю адсутнасць уніфікацыі тапанімічных найменняў у мінулым. Яшчэ адной таямніцай гэтага выдання з'яўляецца тое, што адрасаваная Тамашу Увойню прадмова-дэдыкацыя "Ad Illustrem reverendum D[ominum] Mecaenatem" падпісана не асабіста Пашкевічам, як звычайна бывала раней, а ад імя *"ўсёй правінцыі Ксяндзоў Бернардзінаў"*. Пра што можа сведчыць такая змена? Бадай, пакінем на гэты раз пытанне без адказу – з надзеяй вярнуцца да яго ў адным з наступных артыкулаў. Цяпер жа зноў засяродзімся на жыццёвым шляху Міхала Пашкевіча.

Айцец Міхал пакідае двор Агінскага і вяртаецца да працы ў ордэнскіх структурах. У 1741 г. яго накіроўваюць для візітавання бернардзінскіх кляштараў на Украіну, што дае яму права тытулавацца ў выданні 1742 г. генеральным экс-камісарам Рускай правінцыі. А неўзабаве М. Пашкевіч займае пасаду кусташа правінцыі, не пакідаючы, аднак, літаратуру, бо рыхтуе да друку яшчэ два казанні. Першае з іх выйшла ў свет у 1742 г.[7], а другое – у 1744 г.[8]. Абодва былі абвешчаны з амбона ў Нясвіжы. З гэтым горадам пісьменнік, відаць, захаваў цесныя сувязі і часта яго наведваў, хоць месцам яго афіцыйнай рэзідэнцыі як кусташа была Вільня.

У 1744 г. Міхал Пашкевіч кіруе правінцыялам, але цяпер ужо, з увагі на вялікі аб'ём абавязкаў, канчаткова мусіць адкласці ў бок пісанне. Нават пакінуўшы гэтую пасаду ў 1749 г., ён болей не бярэцца за пяро, хоць Бог і даў яму пражыць яшчэ амаль два дзесяткі гадоў… Сваё жыццё Міхал Пашкевіч закончыў у віленскім кляштары ў красавіку 1767 г.

Як мы пабачылі з загалоўкаў названых кніг, пісаў Міхал Пашкевіч па-польску, хоць тэксты яго спрэс перасыпаны лацінізмамі (што, зрэшты, характэрна для XVIII ст.). Заснавальнік новай польскай бібліяграфіі Караль Эстрайхер, а ўслед за ім і Веслаў Муравец, пералічаюць шэсць апублікаваных твораў, аўтарства якіх адназначна належыць М. Пашкевічу[9], – усе яны згаданы ў гэтым артыкуле. Разам з тым Эстрайхер паведамляе яшчэ пра адну кнігу, напісаную ў сааўтарстве нейкім Міхалам Пашкевічам ды Тодарам Парафіяновічам і выдадзеную імі ў 1731 г. у Тарнаве (праўда, бібліёграф сумняваецца, ці гаворка ідзе пра таго самага Пашкевіча).

Названая кніга мае тытул "Via non invia Tarnoviam, viatorem theologum post bonum certemen certatum in viam pacis deducens"[10]. На жаль, мы не ведаем, дзе жыў і што рабіў Міхал Пашкевіч на пераломе 1730-х гг. Зыходзячы з часу апублікавання кнігі, наш пісьменнік мог быць адным з яе аўтараў; больш за тое, ён нават мог у гэты час быць у Тарнаве, дзе знаходзіўся адзін з найстарэйшых бернардзінскіх канвентаў у Рэчы Паспалітай[11]. Тым не менш без непасрэднага азнаямлення з самім выданнем канчатковай высновы зрабіць немагчыма. В. Муравец не ўказвае гэты твор у спісе публікацый пісьменніка. Гэта можа азначаць або тое, што кніга была ўсё ж напісана цёзкам, або тое, што польскі даследчык, таксама як і я, не змог расшукаць ацалелы асобнік гэтага выдання (калі такі ўвогуле існуе) у зборах даўніх друкаў. У кожным разе, на цяперашні момант пытанне пра аўтарства названага твора застаецца адкрытым.

Скажам тут яшчэ колькі слоў пра сам канвалют. Разгляданыя кнігі сабраны ў адзін том яшчэ да перадачы іх у Будслаў. На такую думку наводзіць надпіс карычневым атрамантам пад тэкстам прадмовы да першага алігата: *"Applicatur*

*Conventui Budensi hic Liber post fata Perillustrimo R[everendi]. D[omi]ni Bonifacij Kleczkowski Decani, ac Parochi Wołkołatensis" – "Гэтая кніга перададзена Будслаўскаму канвенту пасля смерці Вельмішаноўнага Вялебнага Пана Баніфацыя Клячкоўскага, дэкана і пробашча ваўкалацкага".* Паколькі на іншых алігатах, у тым ліку падараваных Я. Клячкоўскаму, падобныя інскрыпцыі адсутнічаюць, значыць на момант паступлення ў кляштарную бібліятэку выданні ўжо былі сшытаваныя.

Але разам з тым гэты надпіс ставіць перад даследчыкам іншае пытанне: чаму кнігі адрасаваны Я. Клячкоўскаму, а ў Будслаўскі канвент трапілі як спадчына ад Баніфацыя Клячкоўскага? Ці была гэта тая самая асоба? Бо займаныя пасады (дэкан, пробашч ваўкалацкі) і час (сярэдзіна ці 2-я палова XVIII ст.) у асноўным супадаюць. Але калі так, дык чаму ў надпісах ужыты розныя імёны? Можа, да з'яўлення такога несупадзення спрычыніўся пашыраны ў XVIII ст. звычай надавання адной асобе двух імёнаў? Аднак жа ў той час можна заўважыць і іншы звычай, калі плябан браў да сябе вікарыем свайго пляменніка або больш далёкага сваяка, як, напрыклад, гэта было ў Менску, дзе плябанам фарнага касцёла быў Уладзіслаў Ваньковіч, а пробашчам-каад'ютарам Тодар Ваньковіч[12]. Якая ж сітуацыя мела месца ў нашым выпадку?

Адказ на гэтае пытанне дае нам спіс парафіяльнага кліру, змешчаны ў выданні матэрыялаў сінода Віленскай дыяцэзіі, што адбываўся ў 1744 г.[13]. Паводле гэтага спіса, у згаданым годзе пасаду полацкага дэкана і пробашча ў мястэчку Ваўкалата займаў Язэп Клячкоўскі, а алтарыста – Баніфацый Клячкоўскі[14]. Пасля смерці сваяка Баніфацый спадкаваў як яго пасаду, так і бібліятэку – такім чынам, наш канвалют трапіў у Будслаўскі канвент ужо ад яго.

Увогуле, лёс канвалюта быў дастаткова пакручасты. Больш ранція кнігі (што цалкам лагічна) першапачаткова ўжываліся паасобку – гэта відаць з зашмальцаваных ды пашкоджаных першых і канцавых аркушаў. Некаторыя з тых аркушаў істотна пацярпелі ад часу і пазней рэстаўраваліся. Нанесеныя кнізе ў розны час пашкоджанні ўскладнілі атрыбутаванне асобных алігатаў, тым больш што і тытульныя аркушы страціліся або пашкодзіліся. Тым не менш у выніку пэўных захадаў усе неабходныя звесткі былі адноўлены.

Першай у канвалюце змешчана кніжка Андрэя Гуцэвіча "Жалобная мелодыя", выдадзеная ў 1696 г. без указання месца[15]. І прысвячэннем, і паходжаннем аўтара яна непасрэдна звязана з Беларуссю. Твор гэты ўяўляе з сябе жалобны панегірык на смерць падсудка браслаўскага Юрыя Самсона Падбярэскага. Хоць у айчыннай літаратуры пачалі з'яўляцца першыя спробы вывучэння падобных жанраў, аднак гэты твор усё яшчэ чакае свайго даследчыка, як і алігат "Сінопіс, або Кароткае апісанне жыцця і смерці… Язэпа Багуслава Слушкі, кашталяна Віленскага, польнага гетмана войскаў ВКЛ", напісаны Б. Яворскім[16].

Далей ідуць пяць выданняў твораў Міхала Пашкевіча, пра якія вялася гаворка, а завяршае збор вельмі папулярнае як сярод свецкага, так і сярод ордэнскага кліру выданне "Аратар палітычны"[17]. Гэта быў падрыхтаваны кс. Вайшнаровічам своеасаблівы падручнік для прапаведнікаў, які змяшчаў прынагодныя казанні на розныя выпадкі жыцця прадстаўнікоў розных станаў грамадства.

---

1 Н/в 5582.

2 **Murawiec, W.** Paszkiewicz Michał / W. Murawiec // Slownik polskich pisarzy frańciszkańskich : (Bernardyni i frańciszkanie śląscy, frańciszkanie konwentualni, klaryski oraz zgromadzenia III reguły); pod red. Ks. H. E. Wyczawskiego OFM. – Warszawa : Archiwum Prowincji OO. Bernardynów, 1981. – S. 386.

3 **Paszkiewicz, M.** Kazanie o potopie świata małego… / M. Paszkiewicz. – Wilno, 1736.

4 **Paszkiewicz, M.** Księżyc książe planet w plankcie żałobnym ozdobnym spłendorem wypogodzony… / M. Paszkiewicz. – Wilno, 1736.

5 **Paszkiewicz, M.** Ślady bez zawady… / M. Paszkiewicz. – Wilno, 1739.

6 **Paszkiewicz, M.** Dolina Jozafatowa niedoli… / M. Paszkiewicz. – 1740.

7 **Paszkiewicz, M.** Festum Ecce… albo na fest Benedykta świętego kazanie miane w kościele XX. Benedyktynów nieświeskich pod tytułem S. Krzyża… / M. Paszkiewicz. – Wilno, 1742.

8 **Paszkiewicz, M.** Slawa bolesna… Chrystusa Pana w pięciu Bolesławach królach polskich przez pięć piątków pasyjnych z ambony nieświeskiej… promulgowana… / M. Paszkiewicz. – Wilno, 1744. Гэтае выданне ў нашым канвалюце адсутнічае; апісанне дадзена паводле: **Estreicher, K.** Bibliografia polska / K. Estreicher. – Kraków, 1912. – T. 24. – S. 124.

9 **Estreicher, K.** Bibliografia polska / K. Estreicher. – Kraków, 1912. – T. 24. – S. 122 – 124; **Murawiec, W.** Paszkiewicz Michał / W. Murawiec. – S. 386.

10 **Тамсама.** – S. 123.

11 **Kantak, K.** Bernardyni polscy / K. Kantak. – Lwów, 1933. – T. I : 1453 – 1572. – S. 15.

12 **Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі** (НГАБ). – Ф. 1782. – Воп. 27. – Спр. 256. – Арк. 4.

13 **Synodus Dioecesana Vilnensis** ab Illustrissimo Excellentissimo ac Reverendissimo Domino D. Michaele Joanne Zienkowicz… Anno D[omi]ni MDCCXLIV… celebrata. – Vilnae, [1744].

14 **Тамсама.** – P. 186.

15 **Gucewicz, A.** Żałosna melodia trenodyinym koncertem ubolewaiącey Oyczyzny y całego Doma przy pogrzebowym Akcie W. J. P. Jerzego Samsona Podbiereskiego Podsędka Bracławskiego… przez Andrzeja Gucewicza prostym rythmem światu ogłoszona / A. Gucewicz. – 1696.

16 **Jaworski, B.** Synopsis albo krótkie zebranie życia, y śmierci swiętey pamięci Jaśnie Wielmożnego Jegomośći P. Jozefa Bogusława Służki Kasztelana Wileńskiego, Hetmana Polnego Woysk W. X. Lit / B. Jaworski. – Brunsbergiae, 1702.

17 **Orator polityczny.** – Kraków, 1677.

# ПАЛОМНІЦКАЯ ЛІТАРАТУРА Ў КАНТЭКСЦЕ БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКАЙ КУЛЬТУРНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Хрышчэнне Старажытнай Русі садзейнічала актывізацыі ўсіх культурных працэсаў на землях усходніх славян, а таксама сувязей русічаў са знешнім светам. Заканамерным стала жаданне ўбачыць на ўласныя вочы мясціны, узгаданыя ў Свяшчэнным Пісанні. Аповеды пра наведванне Святой Зямлі атрымалі назву *хаджэнняў* – значнага пласта ўсходнеславянскай паломніцкай літаратуры.

Пачынаючы з XIX ст. хаджэнні вывучаліся як багаслоўскія, гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя дакументы. У ХХ ст. тэксты гэтага роду пачалі прыцягваць увагу даследчыкаў-філолагаў як узоры пісьменства. Хаджэнні, таксама, як летапісы і жыційныя тэксты, спрыялі фарміраванню высокай славеснасці, выпрацоўцы эпічнага стылю пісьма. Апошнім часам расійскія вучоныя вылучаюць дзве разнавіднасці ўсходнеславянскіх хаджэнняў: сакральную і свецкую. М. Пракоф'еў налічвае пяць жанравых груп хаджэнняў: 1) дакументальна-мастацкі нарыс; 2) "путнікі" – кароткія практычныя паказчыкі маршрутаў; 3) "сказкі" – запіскі вусных аповедаў русічаў, якія пабывалі за мяжою ці вандравалі па Русі; 4) "стацейныя спіскі" – справаздачы паслоў; 5) легендарныя ці спецыяльна прыдуманыя з публіцыстычнай мэтай аповеды пра падарожжы [12]. Украінскі даследчык паломніцкай літаратуры П. Білавус досыць шырока вызначае час функцыянавання хаджэнняў, звяртае ўвагу на тое, што ў іх адлюстравана "ўскладненая дыялектыка літаратурных пошукаў" [2, с. 48], і аргументавана сцвярджае, што жанр хаджэнняў, мадыфікуючыся, дасягнуў свайго апагея ў творы В. Грыгаровіча-Барскага "Странствования по Святым местам Востока с 1723 по 1747 гг.". Іншага меркавання прытрымліваецца беларускі літаратуразнавец С. Гаранін, які лічыць, што "класічныя хаджэнні, выканаўшы сваю гістарычную ролю, адыходзяць разам з эпохай Сярэднявечча", што "перапраймальнасці ў выглядзе непасрэднага ўплыву паміж хаджэннямі і творамі эпохі Адраджэння бачыць нельга: Адраджэнне было не працягам старых традыцый, а адмаўленнем Сярэднявечча" [4, с. 93].

Падзяляючы логіку аналізу пытання ў расійскім і ўкраінскім літаратуразнаўстве, лічым магчымым выказаць думку пра неабходнасць пашырэння храналагічных рамак хаджэнняў у беларускай літаратуры. Так, нам уяўляецца пераканаўчым акцэнт расійскіх даследчыкаў на з'яўленні ў XVII ст. новага аўтара хаджэнняў – "землепраходца". Паказальна, што падобнага роду факты прасочваюцца і ў літаратуры Беларусі. Побач з запіскамі пра асваенне Сібіры, Далёкага Усходу такіх аўтараў, як С. Дзяжнёў, Я. Хабараў і іншыя, можна паставіць творы аналагічнага характару, напісаныя прадстаўнікамі інтэлігенцыі з Беларусі, якія былі высланы царскім урадам у Сібір. У сувязі з закранутым пытаннем таксама вартая ўвагі мемуарная літаратура Беларусі XVI – XVIII стст., арыгінальныя дыярыушы з апісаннем падарожжаў па Заходняй Еўропе, адпаведныя перакладныя тэксты, якія выдаваліся на беларускіх землях. І нават калі браць пад увагу толькі хаджэнні сакральнага характару, то і тут існуюць падставы для таго, каб поле паломніцкай літаратуры Беларусі лічыць даволі шырокім.

Родапачынальным у паломніцкай прозе лічыцца тэкст **"Хаджэнне Данііла"**, створаны ігуменам з Чарнігаўшчыны ў XII ст. на тэрыторыі Кіеўскай Русі. Пазней многія паломніцкія тэксты, напісаныя выхадцамі з Усходняй Славяншчыны, з тэрыторый паўднёваславянскага арэала (Балгарыі, Сербіі), ствараліся пад уплывам тэксту Данііла [7]. На працягу многіх стагоддзяў "Хаджэнне Данііла" ўспрымалася як кананічнае. Таму заканамерна, што тэкст гэтага помніка досыць добра даследаваны і даследуецца сёння вучонымі Расіі. Між тым сучасныя ўкраінскія навукоўцы ўпэўнена залічваюць тэкст ігумена Данііла да свайго нацыянальнага пісьменства. Неаднойчы выказваліся думкі і пра беларускасць твора. Яшчэ В. Ластоўскі ў "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" (1926) звярнуў увагу на тое, што "странник Богом починаем" ігумен Данііл пры Гробе Гасподнім, складаючы малітву ў гонар свайго палітычнага кіраўніцтва, згадвае не толькі кіеўскіх князёў, але і полацкіх: "Глеба князя Мінскага, Давыда Усяславіча і Барыса Усяславіча; усе тры князі – сыны слаўнага полацкага князя-чараўніка Усяслава". Беларускі вучоны падкрэсліваў: "Хоць падарожжа Данііла дайшло да нас у розных спісках (найстарэйшы

XV ст.), але мова, якой напісана яно, у некаторых спісках падобна да мовы Смаленска-Полацкіх умоў з немцамі (1200-х гг. – ***Э. ДЗ.***). Гэтыя даныя паказваюць, што Даніл паходзіў з абшараў полацка-крыўскіх зямель…" Да таго ж В. Ластоўскі адзначае, што "рака Снова", якую Даніл параўноўвае з Іарданам, працякае і праз этнаграфічна беларускія землі, "у крыўскай частцы Чарнігаўшчыны" [8, с. 24 – 25].

Вартая ўвагі і сучасная беларусазнаўчая канцэпцыя адносна тэксту Даніла. «Патрыятычнае пачуццё ў Даніла было зусім іншае, чым у мітрапаліта Іларыёна і Нестара. Для Даніла старажытная Русь была перадусім не дзяржавай, а зямлёй, краем, народы якога стаялі ў адным шэрагу з іншымі народамі хрысціянскага свету. Таму Даніл, смуткуючы з-за горкага лёсу Радзімы, разадранай разбуральнымі ўсобіцамі, маліўся за князёў, што варагавалі тады паміж сабой, згадаўшы сярод іх і Глеба Усяславіча Мінскага. Так, у "Хаджэнні ігумена Даніла" літаратура ўпершыню заявіла пра сябе як пра самастойную і незалежную ад палітычных улад прадстаўніцу народа», – да такой высновы прыходзіць даследчык В. Чамярыцкі [5, с. 54].

У сувязі з мангола-татарскім нашэсцем на Кіеўскую Русь у гісторыі паломніцкай літаратуры фарміруецца новы, ноўгарадскі перыяд, бо цэнтр стварэння паломніцкіх тэкстаў у XIII – першай палове XVI ст. пераносіцца з разбуранага Кіева ў Ноўгарад. Потым на працягу XIV, XV, XVI і ў пачатку XVII ст. ініцыятыва хаджэнняў і паломніцкіх твораў пераходзіць на беларускія тэрыторыі, якія, разам з украінскімі і літоўскімі, складалі Вялікае княства Літоўскае. Аўтарытэтны знаўца паломніцкай літаратуры М. Галубцова, падтрымліваючы думку даследчыка С. Далгова, адзначала, што "Заходні край" выступаў акумулятарам уважлівага стаўлення да паломніцкіх тэкстаў: "Акрамя літаратурнай цікавасці да праяў адпаведнага роду сачыненняў… у Заходняй Русі маглі мець значэнне і іншыя абставіны. Праз заходнерускія і літоўскія гарады ішоў шлях тады з Маскоўскай Русі да Іерусаліма. І зусім верагодна, што маскоўскія паломнікі і пасланнікі, праходзячы праз заходнерускія гарады, спыняліся ў сваіх праваслаўных пабрацімаў, распытвалі іх пра Іерусалім, а **адукаваныя заходнія рускія дапамагалі ім – перакладалі з лацінскай мовы цудоўныя апісанні Іерусаліма…**" (вылучана намі. – ***Э. Дз.***) [6].

На жаль, у расійскім літаратуразнаўстве і цяпер яшчэ, паводле раней усталяванага прынцыпу, тагачасныя беларускія тэрыторыі ўспрымаюцца як *заходнерускія*, абазначаюцца яны таксама і тэрмінам *Літва*, што можа атаясамлівацца з паняццем Літвы этнічнай. Не фігуруе, адпаведна, і *беларускі* складнік гісторыі культуры таго часу: "заходнерускія" рэаліі падаюцца як *літоўскія*, хоць сучасным чытачом Літва не ўспрымаецца як частка праваслаўнага хрысціянскага арэала. Не ўлічваецца і шматмоўнасць пісьмовай культуры XVI – XVIII стст. на тэрыторыі Беларусі і Украіны, тэксты, створаныя тут на польскай мове, успрымаюцца выключна як прыналежныя да культуры Польшчы. Усё гэта прыводзіць да звужанасці разумення гісторыка-культурных працэсаў, што адбываліся на прасторах Усходняй Славяншчыны.

Разгорнуты аналіз хаджэнняў, якія характарызуюць беларускі перыяд паломніцкай літаратуры ўсходніх славян, змешчаны ў манаграфіі С. Гараніна "Шляхамі даўніх вандраванняў" (1999). Даследчык падрабязна разглядае тэксты Аграфенія, Ігнацыя Смаляніна, інака Варсанофія, характарызуе іх як сведчанне "залатога веку беларускіх хаджэнняў". Аднак, улічваючы геапалітычныя фактары, асаблівасці хрысціянскіх традыцый на землях Вялікага княства Літоўскага, дзе адчуваліся не толькі ўплывы сярэднявечнай культуры Кіеўскай Русі, але і заходнееўрапейскія павевы Рэфармацыі і контррэфармацыі, перыяд паломніцкай літаратурнай сітуацыі можа быць вызначаны значна шырэй. Акрамя названых твораў, у корпус паломніцкіх тэкстаў, што звязаны з беларускімі землямі, варта ўпісаць тэксты Арсенія Селунскага, архімандрыта Даніла Корсуньскага, Мікалая Крыштафа Радзівіла, Мялеція Сматрыцкага.

Спынімся асобна на хаджэнні Арсенія Селунскага. Існуюць версіі пра рускае, украінскае ці нават паўднёваславянскае паходжанне помніка. Публікацыі А. Маркава, прысвечаныя "Слову о бытии Іерусалимском" Арсенія Селунскага, сцвярджаюць беларускасць помніка. Яго даследаванне пад назвай "Родина Арсения Селунского" было апублікавана ў часопісе "Русский филологический вестник", што выходзіў у Варшаве пад рэдакцыяй акадэміка Я. Карскага. А. Маркаў пераканальна паказвае, што Арсеній Селунскі – беларус. Сваю канцэпцыю вучоны падмацоўвае моўным аналізам тэксту. Акрамя таго, А. Маркаў высветліў, што прозвішча Селунскі паходзіць ад назвы "літоўскага горада" Селунь (Селук), месца размяшчэння якога вызначаецца ў межах паўднёвай часткі Пскоўшчыны і паўночна-заходняй тэрыторыі Віцебшчыны [9, с. 556 – 561].

Трэба прызнаць, што тэкст Селунскага ў параўнанне з творам ігумена Даніла новымі эмоцыямі і ўражаннямі не вызначаецца. Помнік варты нашай увагі, бо гэты тэкст, аднесены

А. Маркавым да XV ст., пашырае поле беларускай паломніцкай літаратуры і разуменне гісторыка-культурнай сітуацыі ў краі.

Твор, вядомы пад назвай **“Перегринація, или Пут до Іерусалиму Данила архимандриты Корсуньского з Белой России”**, залічваецца сёння да ўкраінскай паломніцкай прозы. Гэты тэкст, апублікаваны львоўскім вучоным В. Шчуратам, мае таксама назву “Беседа о пути Іерусалимском, и о местцех, по которых Христос ходил, и страдал спасения ради нашего. Смиренный Даниіл Архимандрит Монастыря Корсуньскаго з Белой России” [11]. Месца стварэння помніка – вёска Корсунь, што знаходзілася непадалёк ад Кобрына. Нават паводле тагачаснага адміністрацыйнага падзелу Корсунь уваходзіла ў Кобрынскі павет і належала да Гродзеншчыны, што дазваляе разглядаць “Перегринацію…” архімандрыта Данііла Корсуньскага як факт беларускай культуры.

Тэкст “Перегринаціі…” Данііла Корсуньскага створаны ў 1590-я гг. Па структуры і змесце названы помнік мала чым адрозніваецца ад паломніцкага канона ігумена Данііла. Існуюць меркаванні, што “Перегринація…” – літаратурная містыфікацыя, што хаджэння Данііла Корсуньскага не існавала. Выказваецца думка і пра тое, што аўтар спецыяльна адаптаваў кананічны тэкст XII ст. да абставін сучаснага яму жыцця. Паказальна, што ў народнай мове і ўкраінцаў, і беларусаў у адзначаны перыяд ужо адбываліся тэндэнцыі да выяўлення нацыянальных адметнасцей. П. Білавус здзейсніў спробу адшукаць у творы Данііла Корсуньскага “выразныя элементы староўкраінскай мовы” [2, с. 25]. З не меншай упэўненасцю можна ставіць пытанне і пра беларускасць мовы помніка. Аднак больш аб’ектыўнымі з’яўляюцца назіранні іншага характару. Данііл Корсуньскі і зместам твора, і моўным афармленнем тэксту імкнуўся да захавання старажытнарускай традыцыі як адзінай для ўсіх усходніх славян. Прыцягвае ўвагу той факт, што паломніцкі твор Данііла Корсуньскага ў моўным плане тыпалагічна блізкі да канцэпцыі славянскай мовы, якая была заяўлена ў хуткім часе Мялеціем Сматрыцкім у працы “Грамматики словенския правильная синтагма…” (1619). Відавочным у абодвух выпадках з’яўляецца імкненне да сцвярджэння агульнаславянскай моўнай мадэлі. Канец XVI стагоддзя – гэта перыяд вострай міжканфесійнай барацьбы паміж католікамі і праваслаўнымі. Названыя тэксты нараджаліся як спроба праваслаўнай хрысціянскай традыцыі супрацьстаяць польскім літаратурным творам, модным тады ў Вялікім княстве Літоўскім.

Як паказала В. Адрыянава-Перацц, спіскі “Перегринаціі…” наступных стагоддзяў сведчаць пра папулярнасць твора ў многіх усходнеславянскіх рэгіёнах, уяўляюць цікавасць з боку моўнага афармлення, раскрываючы станаўленне нацыянальных моў, маюць шэраг зместавых дапаўненняў да першапачатковага тэксту. Даследчыца падкрэслівала: “Пазнейшыя перапісчыкі ўнеслі гэтыя змены ў плынь украінска-беларускай мовы XVII ст. Аповед Данііла Корсуньскага, перанесены ў XVIII ст. на рускую глебу, усё роўна як перакладаўся на славяна-рускую мову царкоўнай літаратуры таго часу” [1, с. 250].

Да беларускіх паломніцкіх тэкстаў неабходна залічыць і **“Апалогію перагрынацыі да краёў Усходніх”** ***Мялеція Смятрыцкага***. Усе перыяды жыцця і творчасці Смятрыцкага даюць падставы ў аднолькавай ступені характарызаваць яго і як украінскага, і як беларускага пісьменніка. Напісаная ў 1628 г. на Валыні ў Дэрмані, “Апалогія перагрынацыі…” выяўляла погляды Смятрыцкага адпаведнага перыяду яго творчасці і з’явілася не толькі творам-хаджэннем, але і своеасаблівым палемічным тэкстам, які адлюстроўваў ідэю царкоўнай уніі паміж праваслаўнымі і католікамі. Паказальна, што “Перегринація…” Корсуньскага, створаная праваслаўным вернікам, і “Апалогія перагрынацыі…” Смятрыцкага, напісаная ў абарону уніі, з’явіліся на свет прыблізна ў адзін час і на адной тэрыторыі – беларуска-ўкраінскім Палессі.

Сучасны падыход да даўняга пісьменства з паняццем “нацыянальнае” ахоплівае ўсю культурную спадчыну народа незалежна ад мовы яе стварэння. Звернем увагу на тое, што старабеларускі пісьменнік Андрэй Рымша, імя якога фігуруе і ў гісторыі ўкраінскай старажытнай літаратуры, здзейсніў пераклад з лацінскай мовы на польскую твора Ансельма Поляка “Харагафія, ці Тапаграфія… Святой Зямлі” (Вільня, 1595). Улічваючы цікавасць тагачаснага грамадства да паломніцкай тэмы, заўважым, што Рымша, які знаходзіўся на службе пры двары Крыштафа Радзівіла Перуна, быў, безумоўна, азнаёмлены з аповедамі пра падарожжа ў Святую Зямлю другога знакамітага прадстаўніка магутнага магнацкага роду Радзівілаў – Мікалая Крыштафа. Падарожжа М. К. Радзівіла адбывалася на працягу 1582 – 1584 гг., а апісанне гэтых вандровак пад назвай “Перагрынацыя ў Святую Зямлю” ўбачыла свет у 1601 г. спачатку на лацінскай мове, потым выдавалася неаднаразова на польскай, нямецкай мовах.

Само слова *перагрынацыя* лацінскага паходжання і абазначае ‘вандроўка, знаходжанне за мяжою’. Для рымлян яно мела асаблівы сэнс, бо

пад ім разумеўся чалавек не свой, а замежнік – перагрын, які "прыўласніваў" сабе права рымскага грамадзяніна. З'явіўшыся на свет яшчэ да распаўсюджання хрысціянства, гэтае слова мела больш свецкі характар, чым *хаджэнне*. Такім чынам, ад твора, пазначанага ў жанравых адносінах як *перагрынацыя*, дазволена чакаць больш шырокага зместу.

На М. К. Радзівіла сучаснае ўкраінскае літаратуразнаўства належнай увагі не звяртае, нягледзячы на тое, што буйны магнат Вялікага княства Літоўскага быў звязаны з Украінай праз палітычную, гаспадарчую, культурную дзейнасць. "Перагрынацыю..." Радзівіла згадвае ў творы "Небо новое" (Львоў, 1665, 1666; Магілёў, 1677) Іанікій Галятоўскі, рэлігійны і культурны дзеяч, таксама залічаны ў сваю гісторыю і ўкраінцамі, і беларусамі. Месца нараджэння Іанікія Галятоўскага звязана з берасцейска-валынскім Палессем. Рэктар Кіева-Магілянскай акадэміі, архімандрыт Ялецкага Чарнігаўскага манастыра Галятоўскі выступаў за аб'яднанне ўсяго славянскага свету ў барацьбе з турэцка-татарскай агрэсіяй. Пераказваючы гісторыю пра цуды, якія здзяйсняе хрысціянская вера, Галятоўскі выкарыстаў прыклады з "Перагрынацыі..." Радзівіла [3, с. 251].

Цікавыя вынікі дае зварот да не даследаванага на Украіне і ўвогуле малавядомага ўкраінскага ананімнага твора XVII ст. **"Слово о некоем старце"**, што па змесце набліжаны да жанру хаджэння. Паломнік трапіў на Святую Зямлю, вызваліўшыся з турэцкай няволі. Высвятленне яго біяграфічных звестак, у тым ліку і праз украінскія гістарычныя песні, прыводзіць нас да Ялецкага Чарнігаўскага манастыра і дае таксама пэўныя падставы гаварыць пра ўплыў на гэты твор "Перагрынацыі..." Радзівіла.

Паломніцкая літаратура, якая ўзнікла ў XVI – XVII стст. на землях цяперашняй Расіі, мела свае адметнасці развіцця. «Практычна амаль усе рускія "апісальнікі" Святой Зямлі XVI – XVII стст. былі "гасударавымі людзьмі", пасланнікамі цара. Пакланенне святым месцам як праява асабістага служэння Богу атрымала ў час праўлення Івана Грознага характар пэўнага акта службы гасудару і царкве», – канстатуе рускі даследчык А. Рэшатава [13, с. 20]. Старажытнарускія паломніцкія творы гэтага часу ўзнікалі не без уплыву ўсходнеславянскага традыцыйнага вопыту напісання твораў-хаджэнняў. Аднак крыніцазнаўчая база старажытнарускай паломніцкай літаратуры складаецца пераважна са *"стацейных спіскаў"*, матэрыялаў дыпламатаў, грамат, пасланняў. Таму вызначальнай рысай такіх паломніцкіх тэкстаў, як паказвае А. Рэшатава, з'яўлялася своеасаблівая дакументалізацыя. Творы-хаджэнні набываюць прыкметы так званай *"пасольскай справаздачы"*. Акрамя таго, старажытнарускія аўтары паломніцкіх твораў, як правіла, арыентаваліся на перакладныя грэчаскія дарожныя даведнікі, якія атрымалі назву *"путнікаў"*, *"праскінітарыяў"*. Менавіта выкарыстаннем агульнай крыніцы інфармацыі можа тлумачыцца "роднаснасць" многіх старажытнарускіх паломніцкіх помнікаў адзначанага перыяду. Творы паломніцкай літаратуры ўбіралі ў сябе і канцылярскую лексіку, і канкрэтыку, статычнасць стылю даведачнай літаратуры. Паколькі форма дакумента збліжалася з дарожнымі нататкамі, у паломніцкіх тэкстах пачыналі ў пэўнай меры праступаць элементы белетрызацыі аповеду, што варта ўспрымаць як зараджэнне новых тэндэнцый у развіцці літаратуры.

Назіранні над паломніцкімі тэкстамі, якія з'явіліся як вынік беларуска-ўкраінскай культурнай супольнасці, дазваляюць канстатаваць наступнае. У XV – XVII стст., як і ў ранейшыя стагоддзі, заставаўся запатрабаваным паломніцкі тэкст ігумена Данііла. Структурныя адметнасці хаджэння ігумена Данііла маглі выкарыстоўвацца ў адзначаны перыяд як узорныя. Аднак у хаджэннях-перагрынацыях пераходнага перыяду выяўляюцца і наватарскія якасці. Ідэйным канцэптам сярэднявечнага твора абавязкова быў Бог, а ў творы пераходнага перыяду паступова пачынае ўваходзіць вобраз чалавека. Маналагічная аўтарская свядомасць, якая выявіла сябе ў хаджэнні Данііла і доўгі час заставалася кананічнай формай аповеду, паступова саступае месца маналагічна-дыялагічнай свядомасці. Так, у палемічным тэксце "Апалогія перагрынацыі..." Сматрыцкага адчуваецца прысутнасць вобраза ўяўнага дыскутанта. Гэты твор можна разглядаць як жанравую мадыфікацыю хаджэння, бо ў ім рэалізаваліся таксама якасці тэалагічнага трактата, юрыдычнага і палітычнага дакументаў, пропаведзі і споведзі. Паказальна, што ўспаміны, уражанні ад паломніцтва ў Радзівіла пададзены праз ліставанне, тэкст аформлены як размова з сябрам. Аповед у Сматрыцкага і Радзівіла карэкціруецца ў адпаведнасці з успрыманнем яго рэцыпіентамі. Пры гэтым у абодвух творах раскрываецца асоба аўтара, з'яўляюцца (у той ці іншай ступені) прыкметы аўтабіяграфіі. Пры дамінанце хрысціянскага пачуцця міласэрнасці і любові адначасна з сакральным матэрыялам пісьменнікі закранаюць тэму гісторыі роднага краю. Канкрэтнасць апісанняў суседнічае з іншасказальнасцю, з'яўляюцца фальклорныя кампаненты, што набліжае мову твораў да мастацкай. Як і ў сярэднявечных хаджэннях, у творах

пераходнага перыяду канстатуюцца факты, падаецца інфармацыя пра сакральныя рэаліі. Аднак нельга не заўважыць, што, скажам, у тэксце Радзівіла знаходзіць месца яшчэ і свецкі пейзаж, карціны прыроды сагрэты аўтарскім пачуццём, што ўрэшце спрыяла псіхалагізацыі аповеду.

У развіцці стараўкраінскай і старабеларускай літаратур не маглі не выяўляцца ўзаемаўплывы. Тэкст Радзівіла, што нарадзіўся на мяжы XVI – XVII стст., прадвызначыў зместавыя і стылявыя адметнасці тэксту "Странствований…" В. Грыгаровіча-Барскага, што з'явіўся ў сярэдзіне XVIII ст. Вялікім поспехам карысталася "Перагрынацыя…" Радзівіла і ў расіян. Твор апошняга сваімі шматлікімі мастацкімі навацыямі апярэджваў развіццё рускай літаратуры, прывабліваў чытачоў паяднаннем у адным тэксце сакральнай тэмы з займальнасцю навуковага і побытавага матэрыялаў. Сёння ў бібліятэчных сховішчах Расіі знаходзіцца больш за дзесяць рукапісных спіскаў "Перагрынацыі…" Радзівіла. Першы рускамоўны пераклад "Перагрынацыі…" надрукаваны ў 1677 г. (пераклад з кракаўскага выдання 1628 г.). Наступныя публікацыі ўбачылі свет у XVIII, XIX стст. Добра вядомы быў у Расіі і Мялецій Сматрыцкі, усе дарэвалюцыйныя энцыклапедыі змяшчалі матэрыялы пра гэтага дзеяча. "Апалогія перагрынацыі…" Мялеція Сматрыцкага ў 1863 г. была перакладзена на рускую мову. У прадмове да гэтага выдання перакладчык І. Мартынаў адзначаў шырыню дум ак аўтара "Апалогіі…". Мартынаў заклікаў сваіх чытачоў так разумець прызначэнне славянства, як гэта прачытваецца ў творы. Думкі Сматрыцкага пра неабходнасць аб'яднання хрысціян перакладчык назваў "прарочымі" [10, с. 12].

Тэксты Сматрыцкага і Радзівіла ілюструюць як індывідуальны почырк кожнага аўтара, так і агульныя тэндэнцыі развіцця грамадства і літаратурнага працэсу на землях Беларусі і Украіны. Заслуга аўтараў Вялікага княства Літоўскага ў прыўнясенні ў паломніцкі тэкст антрапасофскага зместу, што ўпершыню знайшло сваё праяўленне яшчэ ў XIV ст. у "Хаджэнні Ігнацыя Смалянiна". Творы XVI – XVII стст. засведчылі такія навацыі, як філасафічнасць і медытацыю, навуковую пазнавальнасць і асветніцкі змест, дынаміку аповеду, пашырэнне апавядальнай стылістыкі, увядзенне народнага моўнага элемента. Пісьменнікі выявілі зараджэнне новай мастацкай свядомасці, якая фарміравалася як пераходная паміж сярэднявечным пісьменствам і мастацтвам Новага часу. У Сматрыцкага, Радзівіла, ананімнага аўтара "Слова о некоем старце" пры распрацоўцы паломніцкай тэмы здзяйснялася спроба "універсалізацыі" матэрыялу. Аўтары адчувалі, што канкрэтныя аповеды пра рэальных людзей можна наблізіць да тыпізаваных, імкнуліся (у пэўнай ступені) да абагульненняў. Адзначанымі навацыямі паломніцкія творы, што ўзніклі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага, паўплывалі на станаўленне літаратурнага працэсу ў Расіі, паскорылі яго развіццё, паспрыялі станаўленню ў расійскай літаратуры белетрыстычных жанраў, у тым ліку і такога эпічнага жанру, як раман [14].

**Спіс літаратуры**


1. **Адрианова-Перетц, В. П.** Из истории русско-украинских литературных связей в XVII веке / В. П. Адрианова-Перетц // Исследования и материалы по древнерусской литературе. – М., 1961.
2. **Білоус, П.** Паломницький жанр в історії української літератури / П. Білоус. – Житомир, 1997.
3. **Галятовський, І.** Ключ розуміння / І. Галятовський. – Київ, 1985.
4. **Гаранін, С.** Шляхамі даўніх вандраванняў / С. Гаранін. – Мінск, 1999.
5. **Гісторыя беларускай літаратуры XI – XIX стст.** : у 2 т. – Мінск, 2007. – Т. 1.
6. **Голубцова, М. А.** К вопросу об источниках древнерусских хождений в Святую Землю / М. А. Голубцова // Чтение в Обществе истории и древностей российских. – 1911. – № 6. – Кн. 4.
7. **Гюрова, С.** Книга за българските хаджии / С. Гюрова. – София, 2002.
8. **Ластоўскі, В.** Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі / В. Ластоўскі. – Коўна, 1926.
9. **Марков, А.** Родина паломника Арсения Селунского / А. Марков // Русский филологический вестник : учебно-педагогический журнал, издав. под ред. Е. Ф. Карского. – 1914. – № 2. – Варшава, 1914. – Т. LXXI. – Вып. 2.
10. **Мартынов, И.** О Мелетии Смотрицком / И. Мартынов // Кирилло-Мефодиевский сборник. – Лейпциг; Париж, 1863. – Вып. 1.
11. **Перегринация, или Пут до Іерусалиму Данила архимандрыты Корсуньского з Белой России** : середньовічна памятка староруської літератури в редакції XVIII в. по улюцкій рукописі. – Жовква, 1906.
12. **Прокофьев, Н. И.** Хождение как жанр в древнерусской литературе / Н. И. Прокофьев // Вопросы русской литературы : ученые зап. МГПИ им. В. И. Ленина. – М., 1968. – Т. 288. – С. 3 – 24.
13. **Решетова, А. А.** Древнерусская паломническая литература XVI – XVII вв. (история развития и жанровое своеобразие) : автореф. дис. … докт. филол. наук : 10.01.01 / А. А. Решетова. – М., 2006.
14. **Федорова, И. В.** "Путешествие в Святую землю князя Николая Радзивилла" в русской книжности второй половины XVII века / И. В. Федорова // Белорусский сборник : статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. – СПб., 2002. – Вып. 2. – С. 25 – 33.



**Эла ДЗЮКАВА,**
аспірантка кафедры славянскіх літаратур
Беларускага дзяржаўнага універсітэта.



*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук прафесарам Вячаславам Рагойшам.*

*На скрыжаванні культур*

Мікалай ХМЯЛЬНІЦКІ

# GLORIA VICTIS*. ПАЎСТАННЕ 1863 – 1864 гг. У ЖЫЦЦІ І ТВОРЧАСЦІ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ

18 мая 2010 г. споўнілася 100 гадоў з дня смерці знакамітай польскай пісьменніцы, ураджэнкі беларускай зямлі Элізы Ажэшкі (1841 – 1910), якая большую частку свайго жыцця пражыла на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а яе творчасць самым непасрэдным чынам звязана з наднёманскім краем. Менавіта гэты рэгіён і яго людзі сталі галоўнымі героямі самых вядомых яе твораў. Э. Ажэшка дзіўным чынам змагла паяднаць рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае. Нездарма польскую пісьменніцу двойчы вылучалі на атрыманне Нобелеўскай прэміі. Э. Ажэшка спрыяла бачнымі і нябачнымі імпульсамі ўвядзенню ў шырокі славянскі і заходнееўрапейскі культурны кантэкст польскай і беларускай літаратур.

### РЭЦЭПЦЫЯ ТВОРЧАСЦІ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ Ў БЕЛАРУСІ

Прысутнасць асобы і творчасці Э. Ажэшкі ў беларускай культурнай прасторы сталая і неперарыўная. Апошнім часам гэта яшчэ больш усведамляецца і асэнсоўваецца. У 1975 г. у перакладах Янкі Брыля і Ядвігі Бяганскай убачыла свет "Выбранае" польскай пісьменніцы [1]. У 2000 г. у серыі "Беларускі кнігазбор" з'явіліся яе творы з укладаннем, прадмовай і каментарыем Валянціны Гапавай [2]. У кнігу ўвайшлі аповесці "Нізіны", "Дзюрдзі", "Хам", апавяданні "Зімовым вечарам", "Тадэвуш" і нарыс "Людзі і кветкі над Нёманам". Перакладчыкамі твораў для гэтага выдання сталі Я. Брыль, Я. Бяганская і Г. Тычко. Намаганнямі навукоўцаў і аматараў польскай літаратуры ў сакавіку 2003 г. з'явіўся раман Элізы Ажэшкі "Над Нёманам" у цудоўным перакладзе Анатоля Бутэвіча. Здзейснены праект працягвае больш за стогадовую традыцыю беларускамоўнага засваення спадчыны знакамітай польскай пісьменніцы, пачатак якой паклаў яшчэ ў XIX ст. Адам Гурыновіч, пераклаўшы першае апавяданне Элізы Ажэшкі "Малюнак з галодных гадоў".

Асабліва папулярнай у беларускамоўным асяродку творчасць Э. Ажэшкі становіцца на пачатку XX ст., калі яе празаічныя творы "Хам" і "Зімовым вечарам" з поспехам ставіліся на сцэнах нашых гарадоў і мястэчак, закладваючы тым самым асновы нацыянальнага тэатральнага рэпертуару. Можна з упэўненасцю весці размову пра тое, што з імем польскай пісьменніцы звязана станаўленне беларускага тэатра. У 1910 – 1913 гг. вядомая тэатральная трупа Ігната Буйніцкага ставіла спектаклі, у аснове якіх былі творы Э. Ажэшкі "Хам" і "Зімовым вечарам". Распачатая на світанку XX ст., гэтая традыцыя працягваецца і ў XXI ст.: у 2007 г. у якасці выпускной працы студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў на сцэне Акадэміі мастацтваў быў пастаўлены спектакль па аднайменнай аповесці "Хам", а ў 2009 г. гэты твор набыў яшчэ адну тэатральную версію на падмостках Беларускага нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы ў рэжысёрскай інтэрпрэтацыі А. Гарцуева.

Творы Элізы Ажэшкі знайшлі ўвасабленне на тэле- і кінаэкранах. Так, у 1991 г. на кінастудыі "Беларусьфільм" рэжысёрам Дз. Зайцавым была знята мастацкая стужка "Хам", а 2002 год падараваў зняты на кінастудыі "Летапіс" дакументальны фільм пад назвай "Мая душа з жаночым іменем", дзе распавядаецца пра жыццёвы і творчы шлях вядомай пісьменніцы.

Беларускім літаратуразнаўствам сёння назапашана пэўная навукова-даследчая база па праблеме прысутнасці асобы і творчасці Элізы Ажэшкі ў сістэме беларуска-польскіх узаемасувязей. На працягу XX – у пачатку XXI ст. аглядныя артыкулы, прысвечаныя пісьменніцы, пастаянна змяшчаліся ў айчыннай энцыклапедычна-даведачнай літаратуры, перыядычных выданнях. Беларускія навукоўцы досыць актыўна і плённа займаліся вывучэннем і даследаваннем творчай індывідуальнасці Ажэшкі, яе сувязей з Беларуссю, прысутнасці рэгіянальнага (беларускага) кампанента ў творах польскай аўтаркі. У гэтым кантэксце трэба прыгадаць цікавыя працы В. Гапавай, С. Мусіенкі, У. Казберука, А. Мальдзіса, С. Друцкага, А. Білюценкі, Т. Кабржыцкай, Е. Лявонавай, А. Марціновіча, А. Пяткевіча, В. Рагойшы, Г. Тычко і інш. У Гродне, улюбёным горадзе Э. Ажэшкі, перыядычна праходзяць міжнародныя навуковыя канферэнцыі, прысвечаныя асэнсаванню творчасці пісьменніцы ў эстэтычнай прасторы сучаснасці.

Літаратурная традыцыя, закладзеная Э. Ажэшкай, трывала і арганічна ўвайшла ў беларускую культуру, засведчыла сваю прысутнасць праз розныя складнікі – ад філасофіі і эстэтыкі да паэтыкі. Слушную думку выказаў у свой час У. Казбярук: "Э. Ажэшка стварала тыя традыцыі, на якія маладая беларуская літаратура магла абапірацца ў пачатку XX ст. Беларускім пісьменнікам

* Слава пераможаным (лац.).

яна давала ўзоры рэалістычнага майстэрства, грамадзянскай значымасці твораў, зацікаўленасці жыццём народа. Невыпадкова яе творы былі шырока вядомы ў Беларусі і ў арыгінале, і ў перакладах на рускую і беларускую мовы" [5, с. 74].

Пра паважлівае стаўленне беларусаў да Э. Ажэшкі сведчаць словы, апублікаваныя ў газеце "Наша Ніва" з прычыны смерці выдатнай пісьменніцы: "Не дарма над калыскай яе ў доўгія зімовыя вечары нянька-беларуска пяяла свае родныя калысковыя песні, апавядала дзіўныя казкі: большая часць твораў Элізы Ажэшкі, як і сама душа пісьменніцы, неразрыўна звязана з беларускай глебай; у аповесцях Ажэшкі бачым у пекных малюнках абразы нашай старонкі, бачым жыццё сялянства беларускага – мужыкоў, дробнай шляхты, а побач жыццё мястэчка з іх загнанай і пагарджанай беднотай…

За міласць да нашай роднай зямліцы, за тое, што ў мужыку беларусе бачыла Ажэшка чалавека і, як чалавека, шанавала яго, няхай гэта зямліца ёй лёгка будзе!" [6].

### *"УСЁ ГЭТА ЗРАБІЎ СА МНОЙ І ЎВА МНЕ ГОД 1863"*

Эліза Ажэшка ўступала ў жыццё ў супярэчлівы час, калі на прасторах тагачаснай Расійскай імперыі абвастрыліся сацыяльныя супярэчнасці, назіраўся рост нацыянальна-вызваленчага руху. Напярэдадні паўстання 1863 г. Э. Ажэшка пад уплывам малодшага мужавага брата Фларыяна, выхаванца Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, захапілася вызваленчымі ідэямі. Менавіта ў асяродку дэмакратычна настроенай мясцовай моладзі фарміраваліся грамадска-палітычныя погляды будучай пісьменніцы. Як згадваюць сучаснікі, па складзе характару Ажэшка была натура валявая, поўная творчай і жыццёвай энергіі, прагі барацьбы за лепшую будучыню. Нельга не прыгадаць тут і яе працу на ніве народнай адукацыі: яна разам з Фларыянам Ажэшкам рупілася пра адкрыццё школы для вясковых дзяцей.

Набліжалася віхура нацыянальна-вызваленчай барацьбы, якая захапіла і Э. Ажэшку. Гэты час яна пазней назаве *"сваім універсітэтам"*. Будучая пісьменніца становіцца актыўнай удзельніцай тагачасных бітваў, выступае за сацыяльнае вызваленне працоўных, незалежнасць Бацькаўшчыны. Свой унёсак у гэтую справу яна зрабіла як сувязная Кобрынскага партызанскага атрада Рамуальда Траўгута, ініцыятара стварэння гэтак званага "жаночага легіёніка"; важнай была таксама яе дапамога паўстанцам харчаваннем і медыкаментамі. Вядома, што пасля паражэння паўстання Э. Ажэшка хавала ў сваім доме ад жандарскага пераследу цяжкапараненага Р. Траўгута. З рызыкай для сябе Ажэшка адвезла кіраўніка інсургентаў у сваім экіпажы да тагачасных межаў Каралеўства Польскага. Але яшчэ адна драматычная падзея чакала ў хуткім часе яе сям'ю: ваенна-палявы суд усіх трох братоў Ажэшкаў – Фларыяна, Пятра і нават паралізаванага Браніслава, дом якога ў следчай справе названы "складам зброі", – саслаў у глыб Расіі.

Як слушна падкрэслівае В. Гапава ў прадмове да кнігі "Выбранага" польскай пісьменніцы, "гераічныя падзеі часу ва ўсіх іх драматызме і супярэчнасцях вызначылі лёс Элізы Ажэшкі, абудзілі жаданне служыць Радзіме. Вымушаная праз усё жыццё маўчаць пра свой асабісты ўдзел у паўстанні, яна толькі на схіле жыцця ў лісце да М. Дубецкага, аўтара кнігі пра Р. Траўгута, прызналася: была побач з народам, які паўстаў супраць прыгнятальнікаў. *"Гэты момант зрабіў вырашальны ўплыў на маю будучыню… Гэты момант запаліў ува мне жаданне прынесці хоць маленькую цаглінку да таго выратавальнага моста над безданню, праз які павінен быў прайсці народ… Усё гэта зрабіў са мной і ўва мне год 1863. Калі б не яго молат і разец, мой лёс быў бы іншы і, відаць, я не стала б пісьменніцай"* [3, с. 8].

Паўстанне 1863 – 1864 гг. стала праўдай і наканаваннем жыцця і творчасці Элізы Ажэшкі, а яна – і яго непасрэднай удзельніцай, і стваральніцай легенды гэтай гераічнай падзеі, якая ў значнай ступені абумовіла багаты духоўны свет і ўнутраную драму пісьменніцы. Праз пэўны час Ажэшка пераехала ў Гродна, дзе жыла і пісала да самай смерці, даказаўшы свету і сабе, што жыццё ў правінцыі хоць і няпростае, але далёкае ад стэрэатыпаў. Прайшоўшы чысцец паўстання, Ажэшка выявіла дыялектычнае стаўленне да рэчаіснасці, паэтызавала кожную праяву жыцця, даследавала яго феномен.

Раман **"Над Нёманам"** (1888) – вяршынны твор Элізы Ажэшкі. Ён вылучаецца панарамным адлюстраваннем жыцця людзей розных саслоўяў наднёманскай зямлі, псіхалагічна паглыбленай характарыстыкай герояў, асэнсаваннем пасляпаўстанцкай пары. Важным ідэйна-філасофскім кампанентам рамана з'яўляюцца мясцовыя пейзажы, якія ўвасабляюць магутнасць і бессмяротнасць народа, а сімвалам гэтага цудоўнага краю выступае рака Нёман.

Эліза Ажэшка неаднаразова падкрэслівала, што галоўнай крыніцай сюжэта "Над Нёманам" з'явілася паўстанне 1863 г. Але ні самой даты, ні ўжывання слова *паўстанне* ў рамане не знойдзем. І толькі з рэплік персанажаў, аўтарскіх адступленняў чытач можа зразумець, пра якія падзеі ідзе размова. Вядомы польскі пісьменнік XX ст. Яраслаў Івашкевіч адзначаў, што "мастацтва гаварыць намёкамі і весці размову пра падзеі 1863 года так, каб чытач пра ўсё здагадаўся, а цэнзару не было да чаго прыдрацца, пераўтвараецца ў мастацкі прыём, які хавае ў сабе нечаканыя эфекты, а форма намёку, недагаворанасці – характэрная рыса Ажэшкі-пісьменніцы".

***Мікалай Мікалаевіч Хмяльніцкі*** *– літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры славянскіх літаратур Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Закончыў філалагічны факультэт БДУ (1992), аспірантуру пры гэтай установе (1995). З 1995 г. працуе ў Белдзяржуніверсітэце. Выкладае польскую літаратуру, даследуе міжлітаратурныя сувязі, тыпалогію творчасці, праблемы нацыянальнага і універсальнага ў польскім прыгожым пісьменстве. З 1998 да 2001 г. выкладаў гісторыю славянскіх літаратур ва універсітэце Гранады (Іспанія). Аўтар даследавання "Адам Плуг – пісьменнік беларуска-польскага літаратурнага сумежжа" (1998), вучэбнага дапаможніка "Польская драматургія XX стагоддзя" (2008), больш як 70 навуковых артыкулаў у айчынным і замежным друку.*



З дапамогай рэтраспекцый пашыраюцца храналагічныя рамкі рамана, актуалізуецца тэма паўстання, якая рэалізуецца ў розных ідэйна-мастацкіх варыяцыях: праз устаўное апавяданне, легенду, успамін, маналог-споведзь, аўтарскія адступленні і г. д. Дарэчы будзе прыгадаць маналог аднаго з галоўных герояў "Над Нёманам" Яна Багатыровіча, своеасаблівую ўстаўную навелу, уключаную ў фабулу рамана. Э. Ажэшка, раскрываючы перад чытачом магутныя стваральныя сілы народа, абуджаныя нацыянальна-вызваленчым рухам, сцвярджае ў сваіх героях высокія ідэйна-філасофскія і сацыяльныя ідэалы.

Адна з цэнтральных праблем рамана – канфлікт паміж Бенедыктам і Вітальдам Карчынскімі, у драматычных дыялогах якіх раскрываецца праблема бацькоў і дзяцей, прапушчаная зноў-такі праз прызму паўстанцкага вопыту. Тут адлюстраваны і рознасць ідэалогій, маральна-этычных пазіцый, і дынаміка складаных сваяцкіх пачуццяў. Вітальд асуджае бацьку за адыход ад патрыятычных традыцый. Але не ўсё так проста. Праз асобу Бенедыкта выяўлена праблема трагічнай неабходнасці, якую не можа зразумець сын. З вобразам Вітальда звязана духоўная эстафета Анджэя Карчынскага, а сяброўства прадстаўнікоў маладой генерацыі Вітальда і Юлька Багатыровіча нагадвае пра даўні саюз Анджэя Карчынскага і Ежы Багатыровіча.

1863 год – лёсавызначальны ў гістарычным і асобасным планах у рамане "Над Нёманам". Героі твора, сцвярджаючы патрыятычныя і дэмакратычныя ідэалы, змагаюцца за вольную і справядлівую Айчыну. Адны героі гінуць у крывавай віхуры паўстання, іншым даводзіцца жыць у новых умовах драматычнай рэальнасці, але пасля паражэння іх жыццё суцэльна змянілася. Польская пісьменніца акружыла вялікім ушанаваннем падзеі 1863 г., сцвердзіла актуальнасць паўстанцкіх ідэй і ідэалаў роўнасці і вольнасці, якія трэба рэалізаваць у памяць загінулых, але ўжо іншым шляхам. Ажэшка сапраўды ні разу не ўжыла напрамую слова *паўстанне*, не ўзгадала па цэнзурных прычынах ніводнай даты. Але гэтая трагічна-слаўная падзея прысутнічае на экспліцытным узроўні, праз разнастайныя ўспаміны, алюзіі, сімвалы, недагаворанасці. Алюзіяй на паўстанне найчасцей з'яўляецца матыў Магілы, у якой знайшлі апошні спакой паплечнікі па барацьбе Анджэй Карчынскі і Ежы Багатыровіч.

Элізу Ажэшку хвалявала праблема культурнай і этнічнай еднасці. Сваім творам яна імкнулася засцерагчы народ сумежжа ад гістарычнага бяспамяцтва.

У апошні год свайго жыцця Э. Ажэшка выдала кнігу **"Gloria victis"** (1910), лёс якой быў не менш драматычны, чым лёс самой пісьменніцы. «Рускаму царызму, – піша В. Гапава, – было мала тых здзекаў, што рабіліся Элізе Ажэшцы пры жыцці. Царызм пастараўся адпомсціць ёй нават пасля смерці. У снежні 1911 года ў Віленскай судовай палаце пачаўся суд над яе кнігай пра герояў 1863 года. Кнігу выдаў у Вільні накладам 3000 асобнікаў Вацлаў Макоўскі, таварыш пісьменніцы па сумеснай выдавецкай дзейнасці ў канцы 70-х гадоў. Пакуль царская цэнзура спахапілася, ужо было позна. Паводле загаду Часовага камітэта па справах друку кніга была канфіскавана, але на паліцах кнігарняў заставалася яшчэ 20 кніг. Яны былі імгненна раскуплены, што сведчыла пра поспех "Gloria victis" сярод чытачоў» [4, с. 17].

Першапачаткова назву зборніка навел "Gloria victis" Ажэшка планавала як "1863", але па цэнзурных прычынах змяніла яе. Змест гэтай кнігі склалі ўспаміны пісьменніцы, звязаныя з трагічнай паўстанцкай парой. Творы такой тэматыкі і такога патрыятычнага пафасу, зразумела, маглі з'явіцца толькі пасля 1905 г. у атмасферы адноснай лібералізацыі друку і паслаблення цэнзурнага ціску. Галоўны герой загалоўнага апавядання – лес, які распавядае свайму прыяцелю ветру гісторыю, што адбылася амаль паўстагоддзя таму. Вецер даведваецца пра вялікую бітву непадалёку ад лесу. Быў сярод безыменных герояў і іх правадыр Рамуальд Траўгут, названы Леанідам за сваю мудрасць, шляхетнасць і адвагу. Дрэвы найбольш прывязаліся да аднаго юнака з прозвішчам Тарлоўскі і яго прыяцеля Ягміна, які сваім выглядам нагадваў старажытнага рымляніна. Абодва героі ўдзельнічалі ў бітвах, пераносілі цяжкасці паходнага жыцця, абодва загінулі і былі пахаваны ў безыменнай магіле. Праз колькі гадоў сястра Тарлоўскага Анеля наведала магілу паўстанцаў, паставіла на ёй драўляны крыжык у памяць пра загінулых. А вольны вецер, крануты расповедам дрэў, «*ляцеў і ляцеў ад безыменнай лясной магілы, несучы і несучы ў бяз-*

*межную прастору, у час, у памяць, у сэрцы, у будучыню свету трыумфам далёкай будучыні гучны заклік "Gloria victis"*» [7, с. 126].

Гэтым творам Ажэшка хацела аддаць даніну памяці і ўдзячнасці палеглым ваярам у нацыянальна-вызваленчай барацьбе 1863 – 1864 гг. Праз відавочныя алюзіі на антычную гісторыю пісьменніца падкрэсліла гераічнасць мінулых падзей. Паўстанцы так любілі свабоду, мелі такую патрыятычную веру, адвагу і дух змагарства, што нагадвалі старажытных спартанцаў і рымлян. Нездарма вецер прамаўляе словы аднаго з рымскіх военачальнікаў, які быў настолькі здзіўлены мужнасцю і несамавітасцю пераможанага праціўніка, што выкрыкнуў: *"Слава пераможаным!"* Гэты афарызм, сцвярджае пісьменніца, цалкам слушны і адпаведны мужным удзельнікам паўстання.

На думку многіх даследчыкаў і крытыкаў, "Gloria victis" – гэта своеасаблівы падрахунак пісьменніцы з памяццю пра паўстанне. Зроблена гэта па-мастацку арыгінальна і па-чалавечы глыбока, з вышыні жыццёвага вопыту, таму аповед шчыры і мудры, нагадвае споведзь. Так, гэта і кніга памяці, і ўслаўленне мужнага чыну паўстанцаў, але гэта яшчэ і аўтарскае разважанне пра цуд жыцця, таямніцы існавання і прыгажосці свету. Да прыкладу, у навеле **"Яны"** Э. Ажэшка апісвае канспіратыўную нараду, сведкаю якой яна была і ў якой браў удзел Рамуальд Траўгут. Імёнаў іншых сапраўдных удзельнікаў пісьменніца, зыходзячы з тагачаснай складанай сітуацыі, не называе. Спрэчка разгарнулася вакол пытанняў пра адказнасць, пакуты і смерць і закончылася толькі на світанні. Аўтарка не столькі паказвае трагедыю, колькі жывапісуе будучых герояў няроўнай бітвы, іх юнацкую ўзнёсласць, веру і цярпенне. Адначасова Э. Ажэшка неўпрыкмет паказвае прыгажосць свету, непаўторнасць заквітнелага саду, энергію юнацтва. Маладыя героі, хоць і ведаюць пра магчымы трагічны фінал, радуюцца праявам жыцця, адчуваюць непаўторную радасць існавання. "Яны" – глыбокая рэфлексія пісьменніцы над амаль пяцідзесяцігадовым этапам пасля паўстання, біяграфія яе духоўнага і творчага сталення. Драма гісторыі стала драмай жанчыны ў трагічнай віхуры жыцця. Метафізічны сэнс гэтай падзеі вобразна раскрываецца ў наступных словах: *"Паэма і драма. Рай і чысцец. Заціша і бура"*.

Здольнасць адчуваць прыгажосць свету, нягледзячы ні на што, прадстаўлена таксама ў навеле **"Гекуба"**. У ёй адлюстравана гісторыя пані Тэрэзы, сціплай маці-шляхцянкі, і яе чатырох дзяцей. Прыходзіць паўстанне – старэйшы сын Юлек гіне ў адным з першых баёў, а два малодшыя сыны трапляюць у турму і на катаргу. Ёсць яшчэ Інка, прыгожая дзяўчына, якую забірае з сабою ў сталіцу імперыі расійскі афіцэр. Маці ў глыбокай роспачы, нібы легендарная жонка Прыяма Гекуба. Роспач жанчыны кранае да глыбіні душы, а сама яна паўстае ўвасабленнем маткі-Польшчы.

Праблема здрады таксама цікавіла Э. Ажэшку. У зборніку "Gloria victis" яна звяртаецца да гэтай тэмы неаднаразова. Пацверджаннем можа служыць апавяданне **"Афіцэр"**, дзе распавядаецца гісторыя расійскага жаўнера польскага паходжання. Ён без адпаведнага загаду вызваляе паўстанца-вязня, але не ўцякае з ім і не пераходзіць на бок паўстанцаў. Адказы здрадніка няпэўныя: *"Нельга разам. Я сабе іншую дарогу прыдумаў…"* І на самай справе, счакаўшы крыху, застрэліўся. Загінуў так не з прычыны страху перад ганьбай і пакараннем, а таму што жыццё прымусіла зрабіць менавіта такі выбар акрамя яго жадання, бо далейшае існаванне не мела для яго сэнсу ў рэзка палярных каардынатах, вострых падзелах тагачаснага грамадства.

Творы, якія ўваходзяць у зборнік "Gloria victis", вызначае выразны аўтабіяграфічны аспект. Яны нагадваюць эмацыянальна насычаныя ўспаміны сведкі і ўдзельніка падзей, якія раскрывалі прычыны мінулага паўстання. Гэтая кніга, як ніякае іншае папярэдняе выданне пісьменніцы, характарызуецца паэтычнасцю, настраёвасцю, сугестыўнымі вобразамі, наяўнасцю прыёмаў і сродкаў з вусна-народнай скарбніцы (трохразовыя паўторы, паралелізм і інш.). Нездарма, як слушна зазначае В. Гапава, «літаратурную крытыку крыху бянтэжыла незвычайнасць, неадпаведнасць мастацкага жанру, калі ў навелістычную аснову раптам уключаюцца старонкі дзённіка або ўласны "паэтычны рэпартаж". У гэтым "разбурэнні" навелістычнага жанру выявілася мастацкая сіла, а не слабасць пісьменніцы» [4, с. 17].

Такім чынам, паўстанне 1863 – 1864 гг. стала вызначальнай падзеяй у жыцці і творчасці Элізы Ажэшкі, абумовіўшы ў значнай ступені будучыя праблемна-тэматычныя і філасофска-эстэтычныя пошукі пісьменніцы. Раман "Над Нёманам" і зборнік навел "Gloria victis" – адметны помнік удзельнікам нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускага і польскага народаў.

**Спіс літаратуры**

1. **Ажэшка, Э.** Выбранае / Э. Ажэшка. – Мінск, 1975.
2. **Ажэшка, Э.** Аповесці, апавяданні, нарысы / Э. Ажэшка. – Мінск, 2000.
3. **Гапава, В.** Шляхам праўды / В. Гапава // Э. Ажэшка. Выбранае. – Мінск, 1975. – С. 3 – 8.
4. **Гапава, В.** Каралева жывога слова / В. Гапава // Э. Ажэшка. Аповесці, апавяданні, нарысы. – Мінск, 2000.
5. **Казбярук, У. М.** Ступені росту : Беларуская літаратура канца XIX – пачатку XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў / У. М. Казбярук. – Мінск, 1974.
6. **Наша Ніва.** – 1910. – № 20. – 13 (26) мая.
7. **Orzeszkowa, E.** Gloria victis / E. Orzeszkowa. – Warszawa, 1986.



# МОВЫ РЫСЫ НЕПАЎТОРНЫЯ

*Асобы*

## З КЛОПАТАМ ПРА РОДНУЮ МОВУ

### ДА 75-ГОДДЗЯ АЛЕСЯ КАЎРУСА



Імя Алеся Аляксандравіча Каўруса добра вядомае ўсім, хто звязаны з вывучэннем і выкладаннем беларускай мовы, з мастацкім словам, з беларускай культурай.

Алесь Каўрус нарадзіўся 18 мая 1935 г. у вёсцы Брусы. З маленства спазнаўшы сілу і хараство роднага слова, ён пасля заканчэння Мядзельскай сярэдняй школы ў 1954 г. паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт (беларускае аддзяленне) Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Навукова-педагагічны шлях Алеся Аляксандравіча распачаўся больш за паўстагоддзя таму, калі ў якасці маладога спецыяліста ён вярнуўся на родную Мядзельшчыну, дзе выкладаў беларускую мову, гісторыю і іншыя прадметы ў сямігадовых школах. Пазней была вучоба ў аспірантуры пры pedінстытуце, якая завяршылася паспяховай абаронай у снежні 1965 г. кандыдацкай дысертацыі "Станаўленне апавядальнай мовы Якуба Коласа" пад кіраўніцтвам Ф. Янкоўскага. Дарэчы, менавіта Алесь Каўрус стаў першым абароненым аспірантам вядомага вучонага. Дысертацыя прыцягнула ўвагу навуковай грамадскасці і паслужыла асновай для першай кнігі Алеся Аляксандравіча пад сімвалічнай назвай "З крыніц народнай мовы" (1968).

Пасля заканчэння аспірантуры маладога таленавітага даследчыка накіравалі ў Мазырскі педагагічны інстытут, дзе ён працаваў старшым выкладчыкам беларускай мовы (да 6 жніўня 1968 г.). Цяга да філалагічнай навукі прывяла Алеся Аляксандравіча ў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі. Абраны па конкурсе на пасаду старшага навуковага супрацоўніка, выконваючы планавыя тэмы, Алесь Каўрус працягваў назапашваць матэрыялы для даследаванняў у галіне беларускай стылістыкі, культуры мовы, лексікалогіі.

Аднак 1970-я гады былі складаным перыядам для ўсіх, хто шчыраваў на ніве беларушчыны. Выдаваліся акадэмічныя слоўнікі і энцыклапедычныя даведнікі, рыхтаваліся манаграфіі па розных праблемах нацыянальнай лінгвістыкі, але адначасова ў грамадстве набіралі сілу і працэсы дэбеларусізацыі. У акадэмічным асяродку станавілася ўсё цяжэй працаваць на прынцыпова нацыянальных пазіцыях.

Далейшы жыццёвы шлях Алеся Каўруса быў звязаны з выдавецтвам "Народная асвета": менавіта там, працуючы з 1974 г. на пасадзе рэдактара, а потым старшага рэдактара, А. Каўрус многа зрабіў не толькі для павышэння якасці беларускіх выданняў, але і для папулярызацыі роднага слова – на грамадскіх пачатках ён стаў адным з укладальнікаў зборніка апавяданняў беларускіх пісьменнікаў для дзяцей "Ручаінкі" (1978), куды былі ўключаны арыгінальныя творы Уладзіміра Дубоўкі, Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Янкі Брыля, Алены Васілевіч, Васіля Віткі, Сяргея Грахоўскага і іншых.

Выдавецтва "Народная асвета" ў 1980 г. апублікавала дапаможнік А. Каўруса "Стылістыка беларускай мовы" (серыя "Бібліятэка настаўніка"), дзе прапаноўвалася апісанне функцыянальных стыляў і стылістычных рэсурсаў беларускай мовы, а таксама змяшчаліся тэксты і заданні да асноўных раздзелаў стылістыкі. Гэты дапаможнік вытрымаў тры выданні (апошняе ў 1992 г.), ён аказаўся запатрабаваным не толькі

ў сярэдніх школах, але і ў вышэйшых навучальных установах.

У 1981 г. Алесь Аляксандравіч прыняў прапанову свайго былога навуковага кіраўніка прафесара Ф. Янкоўскага і перайшоў працаваць на кафедру беларускага мовазнаўства ў Мінскі педінстытут (цяпер – Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка). Гэтай навучальнай установе Алесь Каўрус аддаў 25 гадоў свайго жыцця. Выпускнікі факультэта беларускай філалогіі і культуры добра памятаюць яго змястоўныя лекцыі па стараславянскай мове, гістарычнай граматыцы і стылістыцы беларускай мовы. Вынікам руплівай выкладчыцкай працы стаў шэраг вучэбных дапаможнікаў, падрыхтаваных А. Каўрусам для студэнтаў ВНУ.



**Сям'я Каўрусаў. На першым плане дочкі Лена і Люба, сядзяць бацька Аляксандр Канстанцінавіч і маці Настасся Максімаўна, за імі сыны Валодзя і Алесь.**
Вёска Брусы, 1950 (?) г.

З прыхільнасцю і ўдзячнасцю чытачы сустрэлі кнігі Алеся Каўруса “Культура мовы” (1983), “Мова народа, мова пісьменніка” (1989), у якіх на падставе яркага, арыгінальнага матэрыялу з твораў беларускіх пісьменнікаў, сродкаў масавай інфармацыі раскрываюцца асноўныя якасці літаратурнай мовы: правільнасць, дакладнасць, выразнасць, асвятляюцца найбольш актуальныя пытанні літаратурна-моўнага працэсу, узаемадзеяння дыялектнай і літаратурнай формаў нацыянальнай мовы ў мастацкім творы, асаблівасці мовы і стылю вядомых беларускіх пісьменнікаў.

Сапраўднай знаходкай для ўсіх, хто ў варунках адзінай дзяржаўнай мовы хацеў карыстацца ёю ў сваёй прафесійнай дзейнасці, стала кніга А. Каўруса “Дакумент па-беларуску”, у якой змяшчаецца тэрміналагічная лексіка і тлумачацца асноўныя паняцці рыначнай эканомікі, бухгалтэрыі, справаводства і іншых сумежных галін.

Акрамя таго, у 1998 г. убачыла свет выданне А. Каўруса “Уводзіны ў стараславянскую мову” (у сааўтарстве), а праз 7 гадоў на яго аснове быў створаны новы грунтоўны вучэбны дапаможнік (у сааўтарстве), дзе ўпершыню па-беларуску апісваліся лексіка, словаўтварэнне, фанетыка і граматыка стараславянскай мовы.

Аб'ектам навукова-метадычных заняткаў А. Каўруса былі і некаторыя іншыя праблемы сучаснай лінгвапедагогікі. Так, ён з'яўляецца сааўтарам дапаможніка для аспірантаў і студэнтаў “Англійская мова” (1992), які прызначаецца для інтэнсіўнага навучання чытанню і разуменню навуковай літаратуры на англійскай мове.

З пачатку 1960-х гг. Алесь Каўрус занатоўваў з розных крыніц беларускай літаратурнай мовы лексіку, якая не трапіла ў вялікія акадэмічныя слоўнікі. Вынікам гэтай складанай і карпатлівай працы стала выданне ў 25 нумарах часопіса “Роднае слова” унікальнага лексікаграфічнага праекта “Словы без прапіскі”, куды ўвайшло 2840 адметных беларускіх слоў.

З велізарнай цікавасцю чытаюцца шматлікія навуковыя артыкулы Алеся Каўруса, надрукаваныя ў гэтым часопісе, – “Агледзіны слова”, “Граматычная схема і жывая мова: пра некаторыя формы дзеясловаў і назоўнікаў”, “У пошуку дасканаласці: агляд падручнікаў беларускай мовы”, “Выбар слова” і многія іншыя. У кожнай з гэтых публікацый ставяцца актуальныя лінгвістычныя пытанні і вырашаюцца важныя навуковыя задачы.

Таленавіты вучоны, педагог, Алесь Аляксандравіч карыстаецца заслужаным аўтарытэтам і павагай сярод навуковай і педагагічнай грамадскасці. Яму ўласцівы інтэлігентнасць, аптымізм, добразычлівасць, дэмакратызм, увага да калег, здольнасць бачыць галоўнае ў складаных праблемах. Сустракаючы свой шаноўны юбілей, Алесь Каўрус актыўна працуе і развівае традыцыі беларускай лінгвістыкі.

**Дзмітрый ДЗЯТКО,**
загадчык кафедры беларускага мовазнаўства
БДПУ імя Максіма Танка,
кандыдат філалагічных навук.

Алесь КАЎРУС

# МАЕ СЛОВЫ

## СПРОБА "САМАЛІНГВААНАЛІЗУ"

Для назвы лінгвістычнай рубрыкі ў газеце "Звязда" (21.01.2010) мною было прапанавана некалькі слоў, першае з іх – *слоўніца*. Яго ў рэдакцыі ўхвалілі.

Адна з надзённых задач, як абвясціла вядоўца рубрыкі, – стварэнне, пры патрэбе, новых слоў. На пачатак я падрыхтаваў навукова-папулярны тэкст пра мажлівасць і мэтазгоднасць "абнаўлення" дзеяслова *лідзіраваць*. Спадзяваўся, што ён будзе змешчаны як самастойная публікацыя і ў такім выглядзе ўпершыню трапіць у поле зроку чытачоў, у тым ліку супрацоўнікаў газеты. Але вёршатэкст "Лідар, пэўна ж, лідаруе" надрукавалі, суправаджаючы каментаром супрацоўніка аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі Веранікі Курцовай.

Каментар гэты нейкі ўхілісты (больш непрыхільны да варыянта *лідараваць*), супярэчлівы. На падтрымку формы дзеяслова *лідзіраваць* В. Курцова заклікае фанетычныя з'явы беларускай мовы – дзеканне і цеканне, увогуле мяккасць, уласцівую нашай мове: «Калі я гавару "лідзіраваць", у гэтым выпадку адлюстроўваю "дзеканне" – найадметнейшую асаблівасць беларускай мовы».

Але, як вядома, у беларускай літаратурнай мове дзеіць тэндэнцыя да захавання цвёрдых *д*, *т* у запазычаных словах: *дэкада*, *дыскусія*, *дэкрэт*, *лідэр*, *петыт*, *тэатр*, *эпітэт*. (У пэўнай пазіцыі дзеканне, цеканне рэалізуецца ў некаторых з такіх слоў: *дэкадзе*, *дэкрэце*.)

У адпаведнасці з адзначанай тэндэнцыяй пры словаўтварэнні дзеясловаў выкарыстоўваецца той суфікс, які не пачынаецца галосным *і*, у выніку пазбягаецца дзеканне, цеканне.

Параўнаем словы ў рускай і беларускай мовах: *деградировать – дэградаваць*, *баррикадировать – барыкадаваць*, *пропагандировать – прапагандаваць*, *ликвидировать – ліквідаваць*, *проектировать – праектаваць*, *адаптировать – адаптаваць*.

Пераходнае становішча займаюць варыянты: *бамбардаваць – бамбардзіраваць*, *кадаваць – кадзіраваць*, *тэставаць – тэсціраваць*, *парадыяваць – парадзіраваць*.

Увогуле ж у беларускай мове "пераважная большасць запазычаных дзеясловаў ужываецца з суфіксам -*ава*- (-*ява*-): *прагназаваць*, *функцыянаваць*, *прафіляваць*…" (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, 2008).

У вялікі шэраг дзеясловаў з суфіксам -*ава*- арганічна ўлучаецца варыянт *лідэраваць* (*лідараваць*). Заўважым, што пры ўжыванні дзеяслова *лідзіраваць* ёсць верагоднасць "адваротнага" ўплыву: змякчаць *д* у назоўніку [лідз'эр].

Выходзіць, фанетычная падстава (як яе фармулюе В. Курцова) для непрымання варыянта *лідараваць* не вырашальная. Таксама іншыя звесткі адносна гэтага слова навукова негрунтоўныя ці недакладна выказаныя. Напрыклад: "Людзі чуюць слова па-свойму і выбіраюць тую форму, якая для іх зручнейшая", "Па значэнні гэта [*сеціва*] вельмі ёмістае слова, бо ўтворана па вядомай словаўтваральнай мадэлі (напрыклад, *змесціва*, *месіва*)", "*Немаўля* ў свой час было прапанавана Брылём", "Немаўля – той, хто не размаўляе", "Дранько-Майсюк у дачыненні да слова *тэлефон* увёў беларускі адпаведнік *далькажык*".

Не ведаю, якая рэакцыя на маю прапанову – ужываць слова *лідараваць* – у саміх супрацоўнікаў газеты "Звязда". Але ўжо тады, калі нататка была пасланая ў рэдакцыю, мне пашанцавала ўбачыць спартыўную інфармацыю на экране аднаго тэлеканала (24.12.2009): *"Юнацтва" ўпэўнена* ***лідэруе***… Пазней (1.02.2010) гэтае слова пачуў у вуснай мове журналіста таго самага канала.

Прызнаюся, упершыню я прапанаваў увазе чытачоў слова *лідэраваць* больш за 10 гадоў таму (Полымя. 1999. № 1). Не лічу, што непасрэдна пад уплывам маёй публікацыі з'явіліся паказаныя вышэй ужыванні дзеяслова *лідэраваць*. Тым большае іх значэнне: пра дасканаленне разгляданага слова не адзін я думаю.

Гэтыя абставіны і прывялі да "адкрыцця" тэмы (і мэты) чарговай публікацыі – пазнаёміць чытачоў "Роднага слова" з наватворамі ў навуковых (маіх) тэкстах.

Каб не пісаць гэтым разам пра словы традыцыйна, звыкла (і, бывае, нецікава, сумна), дазволю сабе пакарыстацца адметнай формай выкладу – рыфмаванымі радкамі. Пагатоў, і падыход да тэмы бадай што арыгінальны: аўтар звяртаецца да мовы сваіх тэкстаў, праводзіць "самалінгвааналіз".

## НАРОДЗІНЫ СЛОЎ

*Слова – радасць, слова – чары…*
Якуб Колас.



**Алесь Каўрус з мамай Настассяй Максімаўнай і жонкай Лінай Іванаўнай.** 1973 г.

Ад пакаленняў даўніх голас
Данеслі нам Купала, Колас.
Іх слова – прыкладам-узорам,
Калі мы пішам і гаворым.
Ды, як штодня у свежым хлебе,
У новых словах ёсць патрэба.
Не здавальняюся гатовым –
І часам утвараю словы.
*Цяпераснасць*, *лёгкапрагляднасць* –
Шукаў выказвання дакладнасць
Я колісь,
Коласавай мовы
Спрабуючы спазнаць асновы.
*Адорвень* – навуковы тэрмін –
Быў першы з наватвораў-перлін
(Сказаў як жартам, дзеля складу:
Без гумару ці ж слова – радасць?!).
А вось: “По щучьему веленью”.
Па-беларуску як заменім?
Звярнуўся хтось да перакладу:
“Па шчупаковаму загаду”.
Але спалучаны тут словы
Ненарматыўна, памылкова,
А правільна: *па шчупаковым…*
*Загад* не тоесны *веленью*,
Бо афіцыйнасці адценне
І кніжнасці у ім прыкметна…
У цэлым выраз некарэктны.
Паразважалі – і даволі:
Пісаць *“па шчупаковай волі”*
Прапанаваў я у БелСЭ –
І там згадзіліся мо ўсе.
Ды быў працяг. Па нейкім часе
Фразема даўняя знайшлася:
“На шчупакова(е) казанне” –
Дзяды выказвалі жаданне.
(Не захрасаць *словаправоду*,
Што з *моватворыва* народу!)
Мне словы новыя – багацце,
Як дзеці родным бацьку, маці.
Не прыдумляў іх адмыслова,
Яны з майго маўлення-мовы –
З балонак працаў навуковых.
Даследчык мовы – мовазнаўца,
Пісьменнік-майстар – *мовадбаўца*,
Дыктуе нормы *нармадаўца*.
Той, хто сказаў ужо, – *сказаўца*,
А хто спытаўся, той – *спытаўца*.
Даў прапанову прапаноўца,
Накіраваў нас накіроўца.
Паводле слоў “размоўца”, “моўца”
Узнікла: *беларускамоўца*
(Па-беларуску ён гаворыць
І часам нават *словатворыць*).
Не ўпэўнены, што гэта слова
Прыдумаў я, не ўзяў гатовым.
Культурны чалавек – пісьменны.
*Пісьменнасны* бок – неад’емны
Складовік атэстацый мовы,
І вуснай, і – часцей – пісьмовай.
Ад выразу “культура мовы”
Спатрэбіўся прыметнік новы –
І я пішу: “*Культурамоўны*
Аспект мне блізкі, найгалоўны”.
Ужыў раз, два *часцінамоўны*
І многа больш – *цяжкавымоўны*.
Агляд слоў новых тут няпоўны.
Рэдактару-руплiўцу дзякуй,
Што не губляе густу-смаку
І, слову ставячы адзнаку,
Не блытае набытку з бракам!
Вальней ступаюць *навасловы*,
Чым пад камандай Крапівовай.
Народ, усе мы – моватворцы
(І адначасна *нарматворцы*), –
Кладу канец *вершагаворцы*.
…Пільную мову вокам, вухам:
Яна жывая – *словарухам*!
І словаруху – быць нязводным,
І заставацца слову – родным!

З гісторыі мовазнаўства

Мікалай ПРЫГОДЗІЧ

# ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ ВОПЫТЫ ПАЎЛА ШПІЛЕЎСКАГА

Лёс адвёў яму толькі 38 гадоў, з якіх апошнія 15 былі напоўнены прыемнымі ўспамінамі, сустрэчамі з роднымі мясцінамі, хвілінамі чакання публікацый у навуковых выданнях і літаратурных часопісах Санкт-Пецярбурга і Масквы, новымі задумамі і планамі. Кожны пражыты ім у далечыні ад зямлі бацькоў дзень быў прасякнуты думамі пра гэты край, яго насельнікаў, пра іх звычаі і павер'і, песні і прымаўкі, пявучую і звонкую гаворку. Такім быў і застаўся ў памяці сучаснікаў Павел Шпілеўскі, такім ён уяўляецца і нам – сённяшнім этнографам, літаратуразнаўцам, моваведам.

Павел Міхайлавіч Шпілеўскі (12.11.1823 – 29.10.1861) нарадзіўся ў вёсцы Шыпілавічы Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер Любанскі раён) у сям'і святара. Вучыўся ў Мінскай (Слуцкай) духоўнай семінарыі, а ў 1847 г. са званнем кандыдата багаслоўя закончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію. Аднак ад царкоўнай кар'еры адмовіўся: працаваў выкладчыкам славеснасці ў Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы, а з 1852 г. жыў у Санкт-Пецярбургу, са снежня 1853 г. знаходзіўся на пасадзе пакаёвага наглядчыка ў Галоўным педагагічным інстытуце, з красавіка 1855 г. працаваў настаўнікам школы пры Экспедыцыі падрыхтоўкі дзяржаўных папер.

Па ўсім відаць, яшчэ з юнацкіх гадоў П. Шпілеўскі захапіўся вуснай народнай творчасцю беларусаў, чаму ў немалой ступені садзейнічалі службовыя пераезды бацькі, якому з-за неспакойнага характару часта даводзілася мяняць царкоўныя прыходы. У студэнцкія гады, у вольны ад заняткаў час, ён падарожнічаў па Беларусі, запісваў адметныя мясцовыя словы, заслухоўваўся меладычнымі спевамі і вывучаў побыт простага люду.

Першыя лінгвістычныя вопыты Паўла Шпілеўскага прыпадаюць на 1845 г., час яго вучобы ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Менавіта гэтым годам пазначаны яго рукапіс "Словарь белорусского наречия, составленный П. Шпилевским" і "Краткая грамматика белорусского наречия". Дзве гэтыя работы структурна прадстаўлены як адна, а граматыка з'яўляецца своеасаблівым разгорнутым уступам да слоўніка. Магчыма, першапачаткова граматыка і стваралася з мэтай даць чытачу пэўнае ўяўленне пра фанетычную і граматычную сістэмы беларускай мовы, дапамагчы правільна ўспрымаць і разумець напісанне і вымаўленне пададзеных у слоўніку слоў і граматычных формаў. Пра гэта сведчыць і агульная нумарацыя абедзвюх прац, а таксама прадмова, змешчаная перад граматыкай, але поўнасцю адрасаваная слоўніку.

Рукапісны "Словарь белорусского наречия…" П. Шпілеўскага – самая значная самастойная беларусазнаўчая лексікаграфічная праца першай паловы XIX ст. Нягледзячы на адсутнасць адпаведнага вопыту, малады навуковец вельмі сур'ёзна паставіўся да складання слоўніка. Зразумела, ён меў канкрэтныя ўзоры тагачасных лексіконаў, а магчыма, свядома арыентаваўся на пэўныя працы. Таму, згодна з выпрацаванай традыцыяй, непасрэдна перад тэкстам слоўніка ён падаў спіс умоўных скарачэнняў – "Объяснения, относящиеся к словарю". Напр.: *без.* – безличный глагол, *воз.* – возвратный глагол, *мн. ч.* – множественное число, *с.* – имя существительное.

Рэестравыя словы тлумачацца рускімі адпаведнікамі, часта з выкарыстаннем некалькіх сінанімічных адзінак: *Абецадло, с. ла, азбука; букварь. Гасцинец, с. нца, дар, подарок; почтовая столбовая дорога. Маіонтак, с. тка, имение, поместье; усадьба.* Пры адсутнасці рускіх лексічных эквівалентаў Павел Шпілеўскі беларускія словы тлумачыць апісальна. Параўн.: *Цвинтар, с. ра, погост церковный; пространство вокруг Церкви.* Некаторыя слоўнікавыя артыкулы пры гэтым нагадваюць разгорнутыя этнаграфічныя апісанні: *Азерод, с. да, род строения из жердей. Это собственно белорусская выдумка для проветривания убранного с поля хлеба в снопах; се нигде не видно, даже по соседству – в Украине и прочих южных губерниях. Без складки в азерод белорусцы не станут класть снопов в овин. Потому что у них хлеб хорошо умолачивается и бывает бел.*

Аўтар імкнуўся максімальна дакладна перадаваць фанетычныя асаблівасці беларускай мовы – дзеканне і цеканне, зацвярдзеласць шыпячых, ***ц*** і ***р***, падаўжэнне зычных, аканне, пераход ***в*** у ***ў*** і інш.

Услед за Канстанцінам Калайдовічам (аўтарам першага навуковага апісання і кароткага слоўніка беларускай мовы, апублікаваных у 1822 г.) Павел Шпілеўскі да некаторых слоў



**Рукапісная старонка**
**“Спіса мужчынскіх і жаночых імёнаў...”**
**Паўла Шпілеўскага.** 1845 г.

даў этымалагічныя каментарыі, хоць часам яны наіўныя.

“Словарь белорусского наречия...” П. Шпілеўскага займае 45 рукапісных старонак вялікага фармату, у ім прыводзіцца прыблізна паўтары тысячы слоў (пераважна назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, прыслоўяў і выклічнікаў) на ўсе літары алфавіта. У рэестравую частку складальнік уключыў толькі ўласнабеларускія словы, якія выразна адрозніваліся ад рускіх і польскіх, агульнаславянскія і агульнаўсходнеславянскія па паходжанні словы сюды не ўвайшлі. Пададзены ў ім і некаторыя іншамоўныя запазычанні: *атрамент, вализа, гарбата, зэгар, филижанка, фузия* (стрэльба), *цына, ядваб* і інш.

Варта адзначыць, што “Словарь белорусского наречия...” П. Шпілеўскага быў разгледжаны на пасяджэнні Аддзялення рускай мовы і славеснасці акадэміі навук толькі ў красавіку 1853 г. Хутчэй за ўсё, ён быў дасланы разам з “Заметкой белорусца о белорусском наречии”*, складзенай 15 лютага 1853 г. З тэксту апошняй, дарэчы, добра відаць, што П. Шпілеўскі ўважліва сачыў за навуковай літаратурай па беларусазнаўчай тэматыцы, паколькі тут ён крытычна ацаніў выдадзеную ў Мітаве працу Ф. Галатузава “Заметки касательно белорусского наречия” (1852). У выпісцы з пратакола пасяджэння Аддзялення рускай мовы і славеснасці ад 2 красавіка 1853 г. рэцэнзент “Словаря белорусского наречия...” акадэмік Я. Бярэднікаў піша, што гэта “краткий сборник белорусских слов, составленный наскоро и потому требующий тщательного пересмотра”. Слоўнікам зацікавіўся і акадэмік І. Сразнеўскі, які ўважліва разгледзеў рукапіс і вярнуў яго 24 верасня 1853 г., аддзяленне ж пастанавіла “в поощрение г. Шпилевского выдать за труд его шестьдесят рублей серебром”.

Даследчык беларускай лексікаграфіі XIX ст. М. Гуліцкі адзначае, што ў рэестравай частцы слоўніка рэцэнзенты дапісалі больш за 450 слоў, у тым ліку акадэмік Я. Бярэднікаў каля 20 слоў, астатнія – акадэмік І. Сразнеўскі: “...вучоныя імкнуліся дапісаць прапушчаныя словы (*засек, згода, злыдзень, калубеля, канец, касавіца, крупнік, луста, маланка, мань, мурава, нішка, ныдзень, тузаць, цікун*), удакладніць тлумачэнне, пераклад беларускага слова, змешчанага ў слоўніку, даць некаторыя этымалагічныя звесткі...” Вядома, што акадэмікі Я. Бярэднікаў і І. Сразнеўскі мелі шырокую карэспандэнцкую перапіску з беларускімі этнографамі, настаўнікамі, проста аматарамі-“белорусцами”, якія дасылалі ў Аддзяленне рускай мовы і славеснасці Расійскай акадэміі навук свае спісы-падборкі слоў, прыказкі, прымаўкі, народныя песні і іншыя матэрыялы. Дарэчы, і сёння ў архіве бібліятэкі Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу захоўваецца некалькі дзесяткаў тысяч (!) картак з такімі (на жаль, не запатрабаванымі ў наш час) матэрыяламі.

На апошніх старонках слоўніка як своеасаблівы дадатак да яго П. Шпілеўскі падаў “Списокъ именъ мужескихъ и женскихъ, несходныхъ съ именами русскаго языка”. У ім у алфавітным парадку прыводзіцца 78 (І. Германовіч чамусьці называе лічбу 81) ужывальных сярод простых беларусаў уласных мужчынскіх і жаночых імёнаў з рускімі адпаведнікамі.

---

* Першая частка “Заметок белорусца о белорусском языке” амаль поўнасцю ўключана ў раздзел пра Мінскую губерню “Путешествия по Полесью и Белорусскому краю” (Современник. – 1853. – № 8. – С. 70 – 76).



*Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч – мовазнаўца. Доктар філалагічных навук, прафесар. Загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, старшыня экспертнага савета ВАК Рэспублікі Беларусь. Апублікаваў каля 300 навуковых прац, у тым ліку кнігі "Шчодрасць слова" (1990), "Старабеларускі лексікон" (1997; з Г. Цівановай), "Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków słowiańskich" (Аполе, Польшча, 1998; з В. Краснеем, А. Крывіцкім, А. Лукашанцам і інш.), "Гістарычная граматыка беларускай мовы: Зборнік практыкаванняў" (1999, з У. Анічэнкам), "Словаскладанне ў беларускай мове" (2000), "Пішам без памылак: Разам, асобна, праз дэфіс" (2002), "Беларускае мовазнаўства" (2006), "Герман Бідэр як даследчык беларускай мовы" (2007, у сааўтарстве), "Слоўнік сучаснай беларускай мовы" (2009, у сааўтарстве) і інш. Аўтар і сааўтар тыпавых праграм па вучэбных курсах гісторыка-лінгвістычных дысцыплін.*

**А**

**Ага́па**, пы, *Агафія*.
**Алекса́ша**, шы, *Александра*.
**Алижбе́та**, ты, *Елисавета*.
**Апана́съ**, са, *Афанасій*.
**Аста́пъ**, па, *Евстафій*.
**Аўдо́цця**, ци, *Евдокія*.
**Аўду́ля**, ли, *Дуня*, ум.

**Б**

**Базы́ль**, ля, *Василій*, *Василь*.
**Базы́лько**, ки, *Василько*, ум.
**Ба́зя**, зи, *Вася*, ум. Базы́ль.
**Ба́зячка**, ки, *Васечка*, ум. Базы́ль.
**Ба́ся**, си, *Васса*, *Василисса*.
**Бо́ня**, ни, *Вонифаций*, ум.

**В**

**Ва́рка**, ки, *Варвара*, ум.
**Віе́ня**, ни, *Евгенія*, ум.
**Ви́нцусь**, ся́, *Викентій*, ум.

**Г**

**Галїо́на**, ны, *Елена*, *Алёна*.
**Га́лька**, ки, *Елена*, *Алёна*, ум.
**Галю́ся**, си, *Елена*, *Алёна*, ум.
**Га́нка**, ки, *Анюта*, ум.
**Га́нна**, ны, *Анна*.
**Ганну́ся**, си, *Аннушка*, *Анютка*, ум.
**Га́пка**, ки, *Агафьюшка*, ум.

**Ґ**

**Ґабру́сь**, ся, *Гаврило*, ум.
**Ґа́рко**, ки, *Герасимъ*, ум.

**Д**

**До́рка**, ки, *Дорофей*, ум.

**Е**

**Еро́мъ**, мы, *Еремей*.
**Е́сипъ**, па, *Іосифъ*, *Осипъ*.

**З**

**Зми́церъ**, Змитра́, *Димитрій*; поговорка: *хиціо́ръ якъ Змиціо́ръ*; вообще въ Белорусии имя Змитцеръ, Димитрій служитъ какимъ-то символомъ хитрости, и потому-то оно не въ большомъ ходу у белорусцевъ.
**Змицю́ха**, хи, *Митя*, ум.
**Зо́ся**, си, *Соня*, *Софьюшка*, ум.
**Зу́ля**, ли, *Софія*, *Софьюшка*.
**Зу́лячка**, кі, *Соня*, *Сонюшка*, ум.

**J**

**Jо́ŷга**, ги, *Jоанна*, *Евгенія*.

**К**

**Касьцю́къ**, ка, *Константинъ*, ум.
**Ка́тра**, ры, *Катерина*.
**Ку́зя**, зи, *Косьма*, ум.

**Л**

**Лу́па**, пы, *Любовь*.

**М**

**Мары́ля**, ли, *Марья*, *Марьянушка*, ум.
**Ма́ська**, ки, *Мойсей*, ум.
**Миха́лка**, ки, *Михаилъ*, ум.
**Миха́лочка**, ки, *Михаилъ*, ум.

**Н**

**На́ста**, ты, *Настасия*.
**Насту́ля**, ли, *Настенька*, ум.
**Ни́лка**, ки, *Николаша*, ум.

**П**

**Пала́жка**, ки, *Пелагія*, ум.
**Петрачо́къ**, ка́, чка́, *Петрушка*, ум. = **Паŷлю́къ**, ка, *Павелъ*.
**Пи́ля**, ли, *Филиппушка*, ум.
**По́ля**, ли, *Пелагія*.
**Про́ся**, си, *Ефросиния*.
**Прузы́нка**, ки, *Ефросиния*, ум.
**Пру́зя**, зи, *Ефросиния*, ум.

**Р**

**Радзиво́нъ**, на, *Иродіонъ*.
**Раи́на**, ны, *Ирина*.
**Раи́нка**, ки, *Иринушка*, ум.

**С**

**Савасьце́й**, я, *Севастіанъ*.
**Савасьце́йка**, ки, *Севастіанъ*, ум.
**Салама́ха**, хи, *Саламонія*.
**Се̋мка**, ки, *Симеонъ*, ум.
**Сці̋опа**, пы, *Сцепанъ*, ум.
**Сці̋опка**, пки, *Степанушка*, ум.
**Сці̋оха**, хи, *Степанида*.

**Т**

**Тафи́ля**, ли, *Тереза*.
**Тодаръ**, ра, *Федоръ*.

**Х**

**Хама́**, мы, *Ѳома*.
**Хаўро́ння**, ни, *Февронія*.
**Хи́ма**, мы, *Евфимія*.
**Хи́мка**, ки, *Ефимушка*, ум.

**Ц**

**Цимо́ша**, шы, *Тимофей*, ум.
**Цимо́хъ**, маха́, *Тимофей*.
**Цу́ля**, ли, *Товія* [*Тавія?*], ум.
**Ця́ха**, хи, *Таня*, ум.

**Ш**

**Ша́ля**, ли, *Сампсонія*.

**Ю**

**Ю́рка**, ки, *Егоръ*, *Георгій*, ум.

**Я**

**Ядви́ля**, ли, *Авдотья*, ум.
**Яку́бъ**, ку́ба, *Яковъ*.
2. **Яўхи́мъ**, ма, *Евфимій*.
1. **Яўхи́ма**, мы, *Евфимія*.

Як сведчыць матэрыял, у слоўніку адлюстраваны як імёны, што сустракаюцца і ў нашы дні (*Апанас, Астап, Ганна, Марыля, Раіна, Сцёпа, Юрка, Яўхім*), так і тыя, якія, за рэдкім выключэннем, ужо сталі анамастычнымі архаізмамі (*Аўдуля, Базя, Боня, Гапка, Гарко, Зуля, Цуля, Цяха* і інш.).

Варта адзначыць і той факт, што да імя *Зміцер* П. Шпілеўскі прыводзіць прыказку *Хіцёр як Зміцёр* і пры гэтым заўважае: “Увогуле ў Беларусі імя *Зміцер* служыць нейкім сімвалам хітрасці, і таму яно не ходкае ў беларусцаў”.

Нягледзячы на свой нібыта вучнёўскі характар, слоўнік П. Шпілеўскага стаў у далейшым і для самога аўтара добрай крыніцай пры апісанні звычаяў беларусаў у падарожных і этнаграфічных нарысах, асобных артыкулах.

Так, першы этнаграфічны артыкул “Белорусские народные поверья” (пад псеўданімам *П. Древлянский*) Павел Шпілеўскі апублікаваў яшчэ ў студэнцкія гады ў літаратурным дадатку да “Журнала Министерства народного просвещения” (1846, кн. 1, 4; працяг у кн. 3 за 1852 г.). У гэтай, а таксама ў іншых працах даследчык прывёў шмат цікавых звестак пра фанетычныя, лексічныя, фразеалагічныя і граматычныя асаблівасці беларускай мовы, паспрабаваў высветліць паходжанне асобных беларускіх слоў, даў своеасаблівую характарыстыку некаторых дыялектаў. Напрыклад, у “Путешествии по Полесью и Белорусскому краю”* ён коратка тлумачыць такія беларускія словы, як *вьюны* (рыба, похожая в миниатюре на угрей), *дзякуемо* (спасибо), *Десятуха* (десятая неделя после Пасхи), *гостинец* (почтовая дорога), *хлопцы* (парни), *комин* (труба), *отава* (новая трава), *гай* (рощица), *загоны* (грядки или полосы пашни) і інш. Параўн. таксама: *К дидам на хавтуры* (отошёл к предкам, на тот свет); *шляховая дорога* = шляховый, от слова *шлях*, значит – большая столбовая дорога; …головы их были покрыты так называемыми *наметками*, то есть длинными узкими полотнищами, сложенными в несколько рядов и обвитыми вокруг головы в множество складок, с висящими по бокам концами; поле, назначенное для посевов, или *полетки*; *саха* (плуг), известная в некоторых уездах под двумя названиями: *павзухи* и *брынды*; название “замок” произошло от белорусского или кривичского слова *замкнуть*, запирать: во время нападений соседних племён в замке запирались мирные жители и там отстреливались.

А вось як характарызуе П. Шпілеўскі мову жыхароў Белавежскай пушчы: “Жители пущи, большей частью казённые крестьяне, и составляют какое-то отдельное племя, не то литовское, не то русское; язык их – смесь древнелитовского с русским, малороссийским и полесским”.

Некаторыя даследчыкі гісторыі беларускай мовы мяркуюць, што студэнцкія лінгвістычныя вопыты П. Шпілеўскага былі першай спробай стварэння аб'ёмнай працы пра беларускую гаворку. І сапраўды, калі сюды далучыць яго шматлікія моўныя каментарыі ў этнаграфічных выданнях, асобныя апісанні паходжання некаторых слоў і назваў абрадаў, то перад намі паўстае воблік апантанага збіральніка і інтэрпрэтатара вуснай народнай спадчыны, філолага-славіста, які, несумненна, у будучым змог бы ўзбагаціць лінгвістычную навуку буйнымі дасягненнямі.

**Спіс літаратуры**

**Вашчанка, А.** Загадка прыцягальнасці / А. Вашчанка // ЛіМ. – 2008. – 14 ліст. – С. 12.
**Вашчанка, А.** Вечны спадарожнік чалавека / А. Вашчанка // ЛіМ. – 2008. – 14 ліст. – С. 12.
**Гуліцкі, М. Ф.** Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі / М. Ф. Гуліцкі. – Мінск, 1978.
**Прыгодзіч, М. Р.** Беларускае мовазнаўства / М. Р. Прыгодзіч. – Мінск, 2006.

* Прыклады падаюцца паводле выдання: **Шпилевский, П. М.** Путешествие по Полесью и Белорусскому краю / П. М. Шпилевский; предисл., текстол. подгот., прим. и коммент. С. А. Кузняевой. – Минск, 2004. – 251 с.

*Малады даследчык прапануе*

# "MUŻYCKAJA PRAUDA" КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА: ГРАФІКА-АРФАГРАФІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ВЫДАННЯ

Кастусь Каліноўскі – мысліцель, публіцыст, паэт і рэвалюцыянер-дэмакрат з'явіўся на гістарычнай арэне якраз у той час, калі пытанне нацыянальнага самасцвярджэння беларускага народа царскімі ўладамі фактычна не разглядалася. Працэс дэнацыяналізацыі, які інтэнсіўна адбываўся ў XVIII ст. пасля пераводу справаводства на польскую мову паводле пастановы Варшаўскай канфедэрацыі саслоўяў 1696 г., не спыніўся і пасля далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Беларускай мове ўсё менш і менш заставалася месца і ў недзяржаўных сферах. Праз школу, культурныя ўстановы і дзелавыя кантакты ўсё шырэйшыя колы грамадства Беларусі адыходзілі ад роднай мовы і пераключаліся на польскую ці рускую [6, с. 243 – 244].

Тым не менш XIX стагоддзе – прынцыпова новы этап у гісторыі развіцця і вывучэння беларускай мовы. У гэты час павялічылася цікавасць да этнаграфіі беларускага народа, да народных гаворак. Шмат цікавых звестак пра лексічныя, фразеалагічныя, фанетычныя і граматычныя асаблівасці беларускай мовы, яе гісторыю, межы тэрытарыяльнага распаўсюджвання сустракаецца ў працах А. Кіркора "Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню" (1857 – 1859), Е. Раманава "Нарыс побыту жабракоў Магілёўскай губерні і іх умоўная мова" (1890), М. Нікіфароўскага "Нарысы Віцебскай Беларусі" (1892 – 1899) і інш. Аднак лінгвістычны матэрыял у гэтых працах даволі павярхоўны і мае пераважна даведачны характар.

У XIX ст. вяліся актыўныя спрэчкі адносна характару беларускай мовы. Шэраг даследчыкаў (С. Ліндэ, Я. Чачот, М. Надзеждзін, М. Максімовіч, К. Калайдовіч) беларускую мову разглядалі як самастойную і заклікалі яе вывучаць, іншыя (У. Даль, В. Багародзіцкі, А. Будзіловіч, І. Лапо, А. Сабалеўскі, І. Сразнеўскі і інш.) лічылі беларускую мову гаворкай рускай мовы. З найбольш сур'ёзных прац першай паловы XIX ст., прысвечаных беларускай мове, варта адзначыць прадмову Яна Чачота да 6-га тома фальклорнага зборніка "Сялянскія песенькі з-пад Нёмана і Дзвіны" (Вільня, 1846). Навуковым вывучэннем беларускага пісьменства плённа займаўся І. Грыгаровіч, які першы распачаў публікацыю беларускіх пісьмовых помнікаў ("Беларускі архіў старажытных грамат", ч. I, 1824).

Некалькі неапублікаваных работ сярэдзіны XIX ст. засталіся ў архівах: "Слоўнік і караняслоў беларускай мовы" (1845) і "Заўвагі беларусца пра беларускую мову" П. Шпілеўскага (1853), "Граматыка беларускай гаворкі" К. Нядзведскага (1854).

У другой палове XIX ст. пачалася навуковая дзейнасць выдатнага беларускага лінгвіста І. Насовіча, які ўвайшоў у гісторыю беларускага мовазнаўства як аўтар першага гістарычнага слоўніка беларускай мовы (у рукапісе) – "Алфавітнага паказальніка старажытных беларускіх слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі". Шырокую вядомасць і прызнанне яму прынёс "Слоўнік беларускай мовы" (1870), у які ўвайшло больш за 30 тысяч слоў, запісаных аўтарам у Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губернях, а таксама выбраных з твораў вуснай народнай творчасці, помнікаў старабеларускага пісьменства.

Акрамя таго, у гэты перыяд плённа працавалі вядомыя беларускія этнографы і фалькларысты А. Багдановіч, У. Дабравольскі, М. Доўнар-Запольскі, Я. Карловіч, М. Нікіфароўскі, Е. Раманаў, А. Сержпутоўскі, М. Федароўскі, П. Шэйн, якія, апісваючы фальклорную і этнаграфічную спадчыну беларусаў, змяшчалі ў сваіх зборніках разнастайныя моўныя каментарыі. Наяўнасць такіх прац стала перадумовай для падрыхтоўкі лінгвістычных даследаванняў.

Бясцэнную навуковую спадчыну пакінуў заснавальнік беларускага мовазнаўства Яўхім Карскі, аўтар больш як тысячы работ, прысвечаных актуальным праблемам славістыкі, беларусістыкі і русістыкі. У "Беларусах" ён даў закончанае вучэнне пра гукавы і граматычны лад старабеларускай і сучаснай беларускай мовы ў яе народна-дыялектнай і літаратурнай формах, стварыў цэласную карціну фарміравання, станаўлення і развіцця мовы і літаратуры беларускага народа, заклаў асновы для далейшага развіцця беларускага мовазнаўства [8, с. 142 – 143].

Відавочна, што нават у такіх няспрыяльных грамадска-палітычных умовах вывучэнне мовы беларусаў ішло даволі інтэнсіўнымі тэмпамі.

Зусім натуральна: змагары за свабоду і правы беларускага народа (напрыклад, Кастусь Каліноўскі) маглі звярнуцца да простага чалавека на даступнай яму роднай мове, каб дайсці да яго душы, абудзіць нацыянальную самасвядомасць. Таму К. Каліноўскі цудоўна разумеў: толькі пры дапамозе друкаванага слова іскрынкі сялянскай незадаволенасці можна будзе распаліць у вялікі касцёр усеагульнага паўстання.

Пастаўленая задача па падрыхтоўцы перыядычнага падпольнага выдання была рэалізавана, калі ўлетку 1862 г. выйшаў першы нумар газеты "Mużyckaja prauda", якая выдавалася на беларускай мове лацінкай. Усяго за перыяд з ліпеня 1862 да чэрвеня 1863 г. убачыла свет 7 нумароў [9, с. 16].

На Беларусі лацінскі алфавіт вядомы са старажытнасці ў помніках на польскай і лацінскай мовах. Асабліва спрыяльныя ўмовы для выкарыстан-

ня лацінкі склаліся ў XVI ст. у сувязі з пашырэннем каталіцызму. Найбольш шырока і актыўна лацінка ўжывалася на заходніх землях Беларусі. У той час адукацыя ў Рэчы Паспалітай была манаполіяй каталіцкіх законаў, найперш езуітаў, піяраў, а таксама пракаталіцкага базыльянскага закону, таму, каб працягваць вучобу, нашы суайчыннікі часта накіроўваліся ў заходнееўрапейскія краіны, дзе латынь была афіцыйнай мовай навукі. Як вынік лацінскі алфавіт атрымаў урадлівую глебу для распаўсюджвання на Беларусі [1, с. 185].

Лацінская графіка ў помніках беларускага пісьменства існавала ў двух варыянтах – польскім і чэшскім. Тэксты ж, створаныя на Беларусі ў XIX ст., бытавалі пераважна ў польскім варыянце. Аднак сёння лічыцца, што чэшскі варыянт беларускай лацінкі лепш прыстасаваны для перадачы гукавога ладу беларускай мовы, бо ў ім найбольш поўна ўвасобіўся фанетычны прынцып напісання, калі адну фанему імкнуліся перадаць адной графемай [7, с. 100]. Параўн.: польскі варыянт: *ш, ч, х – sz, cz, ch*; чэшскі варыянт: *ш, ч, х – š, č, x*. Закончыўшы фарміравацца ў пачатку XX ст., чэшскі варыянт пазней фактычна не апрацоўваўся.

Пры стварэнні “Mużyckaj praudy” Кастусь Каліноўскі выкарыстоўваў польскі варыянт лацінкі (гл. табліцу).

**Графічныя сродкі газеты “Mużyckaja prauda”.**

| Сучасная кірылічная літара | Літара або спалучэнне літар у тэксце “Mużyckaj praudy” | Гук у сучаснай беларускай мове |
|---|---|---|
| А а | A a | [а] |
| Б б | B b | [б], [б′] |
| В в | W w | [в], [в′] |
| Г г | H h, g | фрыкатыўны [γ], [γ′], выбухны [г] |
| Д д, Дз дз, Дж дж | D d, Dz dz | [д], [дз′] |
| Е е | ie, je | [э], [jэ] |
| Ё ё | io, jo | [о], [jо] |
| Ж ж | Ż ż | [ж] |
| З з | Z z | [з], [з′] |
| І і | I i | [і], [jі] |
| Й й | J j | [j] |
| К к | K k | [к], [к′] |
| Л л | Ł ł, L l | [л], [л′] |
| М м | M m | [м], [м′] |
| Н н | N n | [н], [н′] |
| О о | O o | [о] |
| П п | P p | [п], [п′] |
| Р р | R r | [р] |
| С с | S s, ś | [с], [с′] |
| Т т | T t | [т] |
| У у | U u | [у] |
| Ў ў | u | [ў] |
| Ф ф | f, chw | [ф], [хв] |
| Х х | Ch ch | [х], [х′] |
| Ц ц | C c, ć | [ц], [ц′] |
| Ч ч | Cz cz | [ч] |
| Ш ш | Sz sz | [ш] |
| Ы ы | y | [ы] |
| Ь ь | дыякрытычны знак ´ (*iści, kaliści*) | |
| Э э | e | [э] |
| Ю ю | iu, ju | [у], [jу] |
| Я я | ia, Ja, ja | [а], [jа] |
| | ą, ę | |

Як бачым з табліцы, пры перадачы галосных прымяняліся тыя ж літары, што і ў іншых славянскіх мовах з лацінскай графічнай сістэмай. Літарай ***a*** перадаваўся гук [а]: *zdawało sia, sachi, nastau*; ***o*** – [о]: *możem, szto, usio*; ***u*** – [у]: *usim, ruka, budu***ć***; ***e*** – [э]: *manifest, heto, czeho*; ***i*** – [і]: *pisaci, druhi, widać*; ***y*** – [ы]: *uczyć, pytali, mużykam*. Пры адсутнасці ў лацінскай графіцы літар адпаведных кірылічным ётаваным галосным тыпу ***е, ё, ю, я*** для абазначэння біфанемнага комплексу “j + галосны” ўжываліся спалучэнні графемы ***j*** з ***a***: *Jaśko, jak*; ***j*** з ***o***: *jon*; ***j*** з ***u***: *takuju, paznajuć, adzinakuju*; ***j*** з ***e***: *razumniejszyie, wiedaje, jeho*. У постпазіцыйным становішчы да галоснага без ***j*** ужываўся гук [і], напрыклад: *swaim*. Акрамя таго, у тэкстах газеты зафіксаваны спецыфічныя літары, якія ў польскай мове абазначаюць насавыя галосныя ***ą, ę*** і не суадносяцца з фанетычным ладам беларускай мовы: *książkach* – кніжках, *rąd* – урад, *święty* – святы, *zmiłuj się* – памілуй нас, *usiękо* – усё.

У сістэме кансанантызму мовы “Mużyckaj praudy” адметнымі з’явамі выступаюць наступныя. Фрыкатыўны [ш] і афрыкатыўны [ч] перададзены дыграфамі ***sz*** і ***cz***: *szto, choczesz, czynouniki*; фрыкатыўныя [з], [ж], афрыкатыўны [дз] – знакамі ***z, ż, dz*** (лексем з графемай *dż* не сустракаецца): *zahnać, żyu, ludźmi*; [х] – спалучэннем літар ***ch***: *chto, chocze, wielikich, razumniejszych*; [ф] – ***f*** (сустракаецца толькі ў № 1), ***chw***: *manifest, manichwest*; фрыкатыўнага [γ] – ***h***, выбухнога [г] – ***g***: *druhi, dobraho, hłumu, Angliczanina*; фрыкатыўнага [в] – ***w***: *wolnośc, woroch*. Знак ***ł*** абазначае цвёрды гук [л]: *służy, płaci, Łapsesor*; ***l*** – мяккі: *byli, ziemlu, sprawiedliwość*; [й] – ***j***: *wiecznoj, waszej, nijakoj*. Для адлюстравання мяккасці папярэдняга зычнага ўжывалася літара ***i***: *miasteczkowych, sakieru, na niebi*. Назіраецца паслядоўны пераход гукаў [л], [в] у гук [ў], які перададзены літарай ***u*** без дыякрытычнага знака: *musieu, poustania, wiekou*. Яшчэ адной адметнасцю графікі “Mużyckaj praudy” з’яўляецца абазначэнне асіміляцыйнай мяккасці зычных і мяккасці зычных на канцы слова пры дапамозе надрадковага значка: *kaliści, iści, Kaściuszki, prapaści*.

Абапіраючыся на аналіз графічных асаблівасцей газеты “Mużyckaja prauda”, можна зрабіць выснову, што тагачасная лацінка, якой карысталіся К. Каліноўскі і яго сучаснікі, была максімальна адаптавана да перадачы жывой гутарковай мовы беларусаў. Пацверджаннем таму служаць выяўленыя факты рэалізацыі фанетычных працэсаў і з’яў беларускай мовы, уласцівых як сучаснай літаратурнай мове,

так і паўднёва-заходняму дыялекту і яго групам гаворак: паслядоўная перадача дзекання і цекання: *spadziewaci sia, dzieciej, tumanić, czytajcie*; цвёрдасць [р]: *stworyu, karystawau, robić*; зацвярдзеласць [ж], [ш], [ч]: *skażu, hroszy, czelawiek*; няпоўнае рэгрэсіўнае кантактнае асіміляцыйнае змякчэнне зычных: *sprawiedliwość, nieśmieu, piśma*. Іншыя віды асіміляцыі не назіраюцца: *narod pa prykazu, pamież saboju, upiered i paznali*; нехарактэрнае для дадзенай мясцовасці рэгрэсіўнае дыстантнае дысіміляцыйнае яканне: *niechaj, dziedy, niema*, але *uziało sia* (рэгрэсіўнае дыстантнае недысіміляцыйнае яканне); поўнае недысіміляцыйнае аканне ў пераднаціскных складах і ў пачатку слова: *prapaści, maskala, prahnać, adno, adzinakuju, aszukaci*, але *poustania, buntowaci*; няпоўнае недысіміляцыйнае аканне, пры якім галосныя [о], [э] этымалагічна захоўваюцца: *mnoho, waszaho, sposobom, chocze*; ужыванне прыстаўнога гука [γ]: *harali, hetyje*; адсутнасць падоўжаных зычных: *sumlenie, poustania*. Разам з тым многія з пералічаных з'яў і працэсаў уласцівыя ў большай ступені мове №№ 1 – 6 і адлюстраваны спарадычна.

Разглядаючы спецыфіку графіка-арфаграфічнай сістэмы газеты "Mużyckaja prauda", трэба адзначыць, што з тэрмінам *арфаграфія* звычайна звязваецца паняцце пра сістэму агульнапрынятых, узаконеных, абавязковых правілаў, якія забяспечваюць аднолькавую перадачу на пісьме слоў літаратурнай мовы, нармалізуюць яе, а "пісьмовыя нормы неабходны мове як усеагульнаму сродку зносін усіх людзей грамадства, якія гавораць на дадзенай мове" [2, с. 207]. У дачыненні да XIX ст., калі адсутнічалі спецыяльныя зводы арфаграфічных правілаў, гэты тэрмін, відаць, не зусім падыходзіць. Але ў "Mużyckaj praudzie", нягледзячы на пэўны разнабой, нормы перадачы слоў вымалёўваюцца даволі выразна, пра ўсю сукупнасць гэтых нормаў можна гаварыць іменна як пра арфаграфічную сістэму.

Дакладнае ўяўленне пра графіка-арфаграфічныя асаблівасці помніка і пра адхіленне ад гэтых нормаў садзейнічае больш глыбокаму разуменню фанетычных працэсаў, якія адбываліся ў жывой мове. Гэтым абумоўлена вывучэнне правапісу газеты шляхам аналізу ад графікі да арфаграфіі [3, с. 3 – 4].

Напісанне слоў і асобных марфем у іх складзе ў газеце галоўным чынам грунтуецца на фанетычным прынцыпе, паводле якога перадаюцца канкрэтныя гукі пры іх пазіцыйным чаргаванні. Як у мове газеты, так і ў сучаснай правапіснай практыцы замацавана аканне, рэдка – яканне, правапіс прыставак *без-* (*бяз-*), *раз-*, *уз-*, *з-* (перад глухімі [з] пераходзіць у [с]), напісанне літары *ц* на месцы спалучэнняў [тс], [чс], [кс], [цс], напісанне *ш* (*sz*) у слове *шчасце*: *malanka, swajej, uziało sia, schoczuć, stworyuszy* (але: *raztałkawać, bezpieczności*), *bahactwo, mużyckaja, szczaścia*.

У правапісе "Mużyckaj praudy" паступова (зразумела, з некаторымі адступленнямі) праяўляецца марфалагічны прынцып, паводле якога пішуцца звонкія перад глухімі і на канцы слова, а таксама глухія перад звонкімі: *ciażko, duższy, odpłacicsa, rąd słuchaje, służki, odkazuje*.

Тое, што з пункту гледжання сучаснай арфаграфіі называецца традыцыйным напісаннем, у арфаграфіі газеты праяўляецца ў перадачы ўласных імёнаў, геаграфічных аб'ектаў і назваў разнастайных пасад, афіцыйных органаў улады, адміністрацыйных утварэнняў, а таксама слова *Boh* і яго варыянтаў-сінонімаў, звароту *Dziaciuki* (*Dzieciuki*) з вялікай літары: *Jaśko, Kaściuszka, Wilni, Car, Karol Polski da i Litouski, Kancelaryi, Senat, Pisarou, Pasrednikou, Spraunik, Akruźny, Łapsesor, Kamisar, Ciwun, Pan*. Таксама з вялікай літары пішуцца намінацыі жыхароў той ці іншай краіны, ужытыя ў метанімічным значэнні, напрыклад: *A kali za hranicaju czy to u Prancuza czy u Angliczanina, narod spahadaje rądowi, to dla toho szto rąd słuchaje narodu i robić tak kab narod byu bahaty i szczaśliwy* [5].

Падсумоўваючы прыведзеныя факты, трэба адзначыць, што графіка-арфаграфічнае афармленне газеты "Mużyckaja prauda" працягвала традыцыі XVII – XVIII стст., калі пры перадачы вуснай мовы на пісьме кіраваліся ў першую чаргу фанетычным прынцыпам. Складзеная тэндэнцыя стала адным з узораў канца XIX – пачатку XX ст.

**Спіс літаратуры**

1. **Біндзіч, Т. У.** Рукапісная беларуская лацінка (да пастаноўкі пытання) / Т. У. Біндзіч // Беларускі археаграфічны штогоднік / рэдкал.: Р. П. Платонаў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск : БелНДІДАС, 2001. – Вып. 2. – С. 182 – 193.
2. **Будагов, Р. А.** Введение в науку о языке / Р. А. Будагов. – М., 1959.
3. **Булыка, А. М.** Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы / А. М. Булыка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1970.
4. **Каліноўскі, К.** За нашую вольнасць : творы, дакументы / К. Каліноўскі; уклад., прадм., пасляcл. і камент. Г. Кісялёва. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 1999.
5. **Костусь Калиновский : Из печатного и рукописного наследия** / предисл. В. Ф. Шалькевича. – Минск : Беларусь, 1988.
6. **Крамко, І. І.** Каліноўскі Кастусь / І. І. Крамко // Беларуская мова : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994.
7. **Лычкоўская, М. Б.** "Чэшскі" варыянт лацінкі ў запісах беларускай народнай творчасці канца XIX – пачатку XX ст. / М. Б. Лычкоўская // Дыялекталогія і культура беларускай мовы : тэзісы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 10 – 11 снежня 1991 г.) / рэдкал. : Э. Д. Блінава [і інш.]. – Мінск, 1991.
8. **Прыгодзіч, М. Р.** Гісторыя беларускага мовазнаўства / М. Р. Прыгодзіч // Беларуская мова : энцыклапедыя. – Мінск : БелЭн, 1994.
9. **Слука, А. Г.** Беларуская журналістыка (1760 – 1917 гг.) / А. Г. Слука. – Мінск : БДУ, 1991. – Ч. 1.

**Андрэй ГРЫГАРОВІЧ,**
спашукальнік кафедры гісторыі беларускай мовы
Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Ганна КУЛЕШ

# ПОЛІНАЙМЕННАСЦЬ ТЭРМІНАЎ-АГЕНТЫВАЎ У ЗАКАНАДАЎСТВЕ 1920 – ПАЧАТКУ 1930-х гг.

За першае дзесяцігоддзе ад моманту, калі пачалося выданне законаў па-беларуску (сярэдзіна 1920-х гг.), група юрыдычных тэрмінаў, якія намінуюць асобу, была дастаткова грунтоўна распрацавана ў колькасных адносінах.

У заканадаўчых тэкстах выкарыстоўваліся як аднаслоўныя, так і выражаныя словазлучэннем асабовыя назвы. У межах гэтай групы тэрмінаў можна вылучыць:

назвы ўдзельнікаў злачынных дзеянняў: *злачынец* (КК-28, 1)*, *удзельнік злачынства* (КК-28, 177), *падбухторшчык* (КК-28, 24), *дапамагальнік* (КК-28, 24), *грамадзка-небяспечная асоба* (КК-28, 7), *рэцыдывіст* (КК-28, 47), *правапарушнік* (КК-28, 1);

назвы ўдзельнікаў судовага працэсу з пацярпелага боку: *пакрыўджаны* (КК-28, 197), *пакрыўджаная асоба* (КПК-32, 4), *пацярпеўшы* (КПК-32, 8), *ісьцец* (ГПК-30, 9), *заяўнік* (КПК-32, 95), *заяўшчык* (КПК-32, 219), *скаргнік* (КПК-32, 214), *зьняважаная асоба* (КК-28, 169), *спагнальнік* (ГПК-30, 192);

назвы ўдзельнікаў судовага працэсу з адказнага боку: *правапарушнік* (КК-28, 1), *падазраваемы* (КПК-32, 100), *падвіноўны* (КК-28, 53), *абвінавачваны* (КПК-32, 4), *падсудны* (КПК-32, 80), *няплатнік* (КК-28, 93), *асуджаны* (КК-28, 34), *умоўна асуджаны* (КК-28, 56), *арыштаваны* (КК-28, 117);

назвы ўдзельнікаў праваадносін з пацярпелага і адказнага бакоў: *цяжбеньнікі* (ГПК-30, 5), *старана* (ГПК-30, 96), *супраціўная старана* (ГК-32, 141), *трэцяя старана* (ГПК-30, 115);

назвы ўдзельнікаў судовага працэсу з боку судовых органаў: *народны засядацель* (КПК-28, 24), *абвінавайца* (КПК-28, 50), *памоцнік пракурора* (КПК-28, 440), *старшыня судовага паседжання* (КПК-28, 257);

назвы асоб, прыцягнутых для дапамогі ў судовым працэсе: *сьведка* (КК-28, 134), *відавочнік злачынства* (КПК-32, 99), *паняты* (КК-28, 134; КПК-32, 78);

назвы асоб паводле сваяцтва: *сваякі* (КК-32, 59), *блізкія родзічы* (КПК-32, 23), *кроўныя па простай лініі* (КЗаШС-27, 7), *супруг* (КЗаШС-27, 30), *бацькі* (КК-28, 59);

назвы прадстаўнікоў улады: *службовая асоба месц зняволення* (КК-28, 101), *асобы начальніцкага складу* (КК-28, 82), *асобы страявога складу міліцыі* (КК-28, 101);

назвы асоб паводле маёмасных і фінансавых адносін: *уласьнік* (КК-28, 69), *уладар* (ГК-32, 59), *крэдытор* (ГК-32, 44), *набывец маёмасці* (ГК-32, 60), *даўжнік* (ГК-32, 47), *наймадавец* (ГК-32, 154), *пазычкадавец* (ГК-32, 217), *пазычальнік* (ГК-32, 217), *заставатрымальнік* (ГК-32, 85), *заставадавец* (ГК-32, 88), *паручнік* (ГК-32, 245), *адчужальнік* (ГК-32, 66);

назвы асоб паводле спадчынных адносін: *насьледнік* (ГПК-30, 43), *спадчынадавец* (ГК-32, 464), *выканавец завяшчання* (ГК-32, 475);

назвы асоб паводле страхавых адносін: *страхавальнік* (ГК-32, 404), *страхоўшчык* (ГК-32, 424), *выгаданабыўца* (ГК-32, 405), *застарахаваная асоба* (ГК-32, 422), *трымацель страхавога квітку* (ГК-32, 423), *паказчык старахавога поліса* (ГК-32, 412);

агентывы, ужывальныя як у заканадаўстве, так і ў тэрмінасістэмах іншых галін: *вайскоўцы* (КК-28, 31), *чужаземцы* (КК-28, 120), *іншакраёўцы* (ЗК-29, 10), *працаўнік* (КК-28, 139) і інш.

Варта агаварыцца, што пэўная частка такіх назваў, напрыклад *ісцец*, *заяўнік*, *уласнік*, *наймальнік, спагнальнік*, ужывалася ў дачыненні як фізічных, так і юрыдычных асоб.

Увядзенне асобных з названых тэрмінаў у беларускамоўнае заканадаўства выклікала непрыманне з боку спецыялістаў. Напрыклад, неадназначнае стаўленне было да тэрміна *ісцец*.

Мікола Гуткоўскі, дакладаючы ў юрыдычнай секцыі навуковага таварыства пры БДУ аб выніках работы па ўкладанні 10-га выпуску "Беларускай навуковай тэрміналогіі" ("Тэрміналогія права"), называе тэрмін *ісцец* сярод слоў, уключаных у гэты слоўнік са старабеларускага канцылярска-юрыдычнага пісьменства, у прыватнасці, з Метрыкі Вялікага княства Літоўскага [4, с. 85]. А правазнавец Леў Акіншэвіч, выказваючы свае меркаванні адносна слоўніка, адзначае,

*У студзеньскім нумары* ***Г. Кулеш*** *разглядзела пераклад "Конституции РСФСР" (1918) як першую спробу перадаць паняцці заканадаўства сродкамі сучаснай беларускай мовы, у сакавіцкім нумары ішла гаворка пра 1920-я гады як пачатковы этап гісторыі сучаснага беларускамоўнага заканадаўства.*

* Пасля скарочанай назвы кодэкса ўказваецца нумар артыкула пераважна першага ўжывання тэрміна ў кодэксе.

што гэта не беларускае слова і раіць узяць “добры тэрмін з Байкова ды Гарэцкага *пазывальнік*” [6, с. 190].

Чаму Л. Акіншэвіч лічыў тэрмін *ісцец* не беларускім словам? Можна меркаваць, таму, што суадносіў яго з неўласцівым для беларускай мовы словам *искать*. Аднак *ісцец* паходзіць не ад *искать*, як «тлумачаць звычайна па народнай этымалогіі, а ад *ісцы* ‘заможны’, ‘уладальнік рухомасці’» [10, с. 360], якое ў сваю чаргу карэлюецца з назоўнікам *истизна* ‘сапраўдная (без працэнтаў і прыбытку) сума грошай; кошт, цана чаго-небудзь’; ‘уласнасць’ [9, с. 184]; ‘капітал, уласнасць’ [8, с. 194]. *Истизна* паходзіць са старапольскага *iścizna* [1, с. 78]. У рад аднакаранёвых уваходзіў і дзеяслоў *истити* ‘забяспечваць; выплачваць’.

Найбольшыя нараканні з боку правазнаўцаў выклікала полінайменнасць, г. зн. ужыванне ў перакладзеных у той час на беларускую мову заканадаўчых тэкстах неаднолькавых слоўных абазначэнняў аднаго і таго ж юрыдычнага паняцця. Спецыяліст у галіне грамадзянскага права М. Грэдынгер, напрыклад, адзначаў, што калі ў законе той, хто купляе маёмасць, называецца то *пакупнікам*, то *купцом*, дык гэта выклікае ў лепшым выпадку непаразуменні. Для пацвярджэння ён прыводзіць артыкул 192 з Грамадзянскага кодэкса 1932 г.: *Калі **пакупнік**, парушаючы дагавор, адмовіцца прыняць купленую маёмасць… то прадавец можа… патрабаваць выкананьня дагавору з выплатаю яму ўмоўнай* (павінна быць *умоўленай*. – ***Г. К.***) *цаны і з сплатаю яму страт, зробленых яму нясправўнасьцю **купца***… “Хто – пакупнік, хто – купец, хто – прадавец? Няясна”, – адзначае М. Грэдынгер [3, с. 36 – 37]. Сапраўды, узнікае пытанне: у куплі-продажы ўдзельнічаюць два бакі (*прадавец* і *пакупнік*) ці ўзнікае яшчэ і трэці бок – нехта *купец*, які і павінен кампенсаваць прадаўцу страты ад невыканання дагавора. У рускай рэдакцыі гэтага артыкула і ў першым, і ў другім выпадку выкарыстаны тэрмін *покупатель*: *Если **покупатель** в нарушение договора откажется принять купленное имущество… продавец может… требовать исполнения договора с уплатой ему условленной цены и возмещением ему убытков, причиненных неисправностью **покупателя***… (ГК-32, 192).

Выкарыстанне розных слоў пры абазначэнні адных і тых жа прававых паняццяў правазнаўцы ацэньваюць як “парушэнне прынцыпу адзінства юрыдычнай тэрміналогіі” [7, с. 114]. Разнастайнасць сродкаў выяўлення, якая вітаецца ў мастацкіх і публіцыстычных тэкстах, у заканадаўчым наносіць шкоду адназначнасці і дакладнасці юрыдычных фармулёвак, паколькі можа стварыць памылковае ўражанне, быццам тэрміны, якія на самай справе абазначаюць адно і тое ж, маюць розны прававы сэнс.

Лінгвісты і правазнаўцы прапануюць розныя класіфікацыйныя схемы такіх тэрмінаў. У працах юрыстаў аб мове законаў перадусім звяртаецца ўвага на іх дыферэнцыяцыю паводле лакалізацыі. Неаднолькава кваліфікуецца полінайменнасць у межах аднаго нарматыўнага акта (або асноўнага акта і актаў, што канкрэтызуюць яго палажэнні) і ў розных галінах заканадаўства. Асабліва строга і паслядоўна прынцып адзінства тэрміналогіі патрабуецца праводзіць у межах аднаго нарматыўнага акта. Тэрміналагічны разнабой тут ацэньваецца як істотнае парушэнне заканадаўчай тэхнікі. Менш катэгарычна ставяцца да парушэння адзінства тэрміналогіі ў нарматыўных актах, якія належаць да розных галін заканадаўства. Тлумачыцца гэта несупадзеннем значэння некаторых тэрмінаў, напрыклад, у крымінальным і грамадзянскім праве або ў сямейным, жыллёвым і працоўным праве. У той жа час калі ў розных галінах заканадаўства выкарыстоўваецца адно і тое ж прававое паняцце, то і тэрмін для яго абазначэння павінен быць адным і тым жа [7, с. 115 – 117].

Для кодэксаў, выдадзеных па-беларуску ў 1920-я – пачатку 1930-х гг., уласціва як унутрыгаліновая, так і міжгаліновая полінайменнасць тэрміналогіі. Парушалася адзінства тэрміналогіі і ў межах аднаго тэксту. Напрыклад, у Грамадзянскім працэсуальным кодэксе (1930) адзначаны такія бінарныя апазіцыі: *цяжбеннікі – спрачаючыеся*, *заставатрымальнік – залогатрымальнік*, *удзельнікі працэсу – супольнікі ў працэсе*, *трымальнік дакумэнту – трымаўца дакумэнту*. Прывядзем кароткія фрагменты паралельных двухмоўных тэкстаў, якія ілюструюць перадачу аднаго і таго ж рускага тэрміна рознымі беларускімі, што пацвярджае поўнае семантычнае супадзенне апошніх пры іх фармальным адрозненні:

[извещение] *может быть выдано на руки **тяжущемуся*** / [паведамленне] *можа быць выдадзена на рукі **цяжбеньніку*** (ГПК-30, 66) – *в случае смерти одного из **тяжущихся** / у выпадку сьмерці аднаго з **спрачаючыхся*** (ГПК-30, 225);

*претензии **залогодержателя** / пратэнзіі **заставатрымальніка*** (ГПК-30, 311) – *о дне продажи извещается также **залогодержатель** / пра дзень продажы паведамляецца таксама **залогатрымальнік*** (ГПК-30, 350);

*против нескольких **соучастников** процесса / супроць некалькіх **удзельнікаў** працэсу* (КПК-30, 183) – ***соучастники** в процессе могут присоеди-*

*ниться к жалобе* / ***супольнікі*** *ў працэсе могуць далучыцца да скаргі* (КПК-30, 284);

***держатель*** *означенного документа* / ***трымальнік*** *гэтага дакумэнту* (КПК-30, 269) – ***держатель*** *утраченного документа* / ***трымаўца*** *згубленага дакумэнту* (ГПК-30, 270).

Лінгвісты ў залежнасці ад характару семантыка-стылістычных адносін паміж кампанентамі полінайменнай пары або рада вылучаюць абсалютныя (поўныя), семантычныя, стылістычныя і семантыка-стылістычныя сінонімы [5, с. 242]. Спецыфіка тэрміналагічнай лексікі абумоўлівае стылістычную нейтральнасць, а важнасць дакладнай перадачы прававога паняцця патрабуе семантычнай тоеснасці слоў для яго абазначэння. Тоеснасцю значэння і адсутнасцю стылістычных адрозненняў характарызуюцца абсалютныя сінонімы, або дублеты. У заканадаўчых тэкстах 1920 – пачатку 1930-х гг. выкарыстоўваліся як рознакаранёвыя, так і аднакаранёвыя дублетныя тэрміны-агентывы.

Колькасную перавагу мелі рознакаранёвыя: *чужаземецы* (КК-28, 120 ув.) – *іншакраёўцы* (ЗК-29, 10), *уладар* (ГК-32, 59) – *уласьнік* (ГК-32, 430), *правазаступнік* (ГПК-30, 115) – *правапераймальнік* (ГК-32, 78), *непаўналетнія* (ППК-27, 12) – *недарослыя* (СПК-26, 12), *доктар* (ППК-27, 73) – *урач* (СПК-26, 73), *сваякі* (СПК-26, 80) – *кроўныя* (КЗаШС-27, 7) – *родзічы* (КПК-32, 43), *дзяжурны* (ППК-27, 82) – *вартаўнічы* (СПК-26, 82), *служачыя* (ППК-27, 61) – *службоўцы* (СПК-26, 61), *незаможныя зьняволеныя* (ППК-27, 213) – *убогія зьняволеныя* (СПК-26, 214), *цяжбеньнікі* (ГПК-30, 66) – *спрачаючыеся* (ГПК-30, 225), *заставатрымальнік* (ГПК-30, 311) – *залогатрымальнік* (ГПК-30, 350), *супольнік* (КПК-30, 284) – *удзельнік* (КПК-30, 183), *кабета* (КЗаШС-27, 42) – *жанчына* (ППК-27, 26), *пакрыўджаны* (КК-28, 197) – *пацярпеўшы* (ГК-32, 449).

З сённяшняга пункту гледжання не ўсе кампаненты названых пар семантычна тоесныя. Адрозніваюцца значэннем ці яго адценнямі *уладар – уласнік, дзяжурны – вартаўнічы, незаможны – убогі, супольнік – удзельнік, пакрыўджаны – пацярпеўшы*. Ды і прававое значэнне набылі не ўсе. Напрыклад, агентыўная назва *пакрыўджаны*, што выкарыстоўвалася ў КК-28 і КПК-32 як адпаведнік да рускага *потерпевший*: *с насилием, опасным для жизни или здоровья* ***потерпевшего*** *– з гвалтам, небясьпечным для жыцьця альбо для здароўя* ***пакрыўджанага*** (КК-28, 197). Словам *пакрыўджаны* ў наш час можа быць абазначана паняцце маральнае, а не юрыдычнае. Аднак нельга ацэньваць ступень семантычнай тоеснасці гэтых слоў цяперашнімі крытэрыямі. На пачатковым этапе фарміравання сучаснай беларускай тэрміналогіі іх юрыдычнае значэнне не было яшчэ канчаткова акрэсленым, кожная пара прапаноўвалася для аднаго паняцця, што дае падставы ўключыць іх у групу абсалютных сінонімаў.

Аднакаранёвыя дублетныя тэрміны часцей за ўсё адрозніваліся суфіксамі: *выгаданабыўца* (ГК-32, 405) – *выгаданабывец* (ГК-32, 427), *парушыцель* (ЗК-29, 254) – *парушнік* (ППК-27, 12), *працоўныя* (ППК-27, 15) – *працаўнікі* (СПК-26, 15), *падсьледны* (ППК-27, 142) – *падсьледчы* (СПК-26, 142) – *падсьледзтвены* (СПК-26, 161), *настаўнікі-выхаваўцы* (СПК-26, 165) – *настаўнікі-выхавацелі* (СПК-26, 167), *сьледчы* (ППК-27, 210) – *сьледавацель* (СПК-26, 211).

Колькасць аднакаранёвых дублетаў з прэфіксальнымі і прэфіксальна-суфіксальнымі адрозненнямі невялікая: *правапераймальнікі* (ГК-32, 78) – *правапрымальнікі* (ГК-32, 270, 309), *асуджаны* (ППК-27, 36) – *засуджаны* (СПК-26, 36), *абвінавачваны* (КПК-32, 4) – *падвіноўны* (КК-28, 53), *пакупнік* (ГК-32, 182) – *купец* (ГК-32, 201).

Як паказвае ілюстрацыйны матэрыял, полінайменнасць беларускай тэрміналогіі ў кодэксах розных галін права ды нават і ў межах аднаго кодэкса была нярэдкай. З аднаго боку, гэта можна ацаніць як натуральную з'яву для пачатковага этапу фарміравання тэрміналогіі, калі адбор найбольш адэкватнага тэрміна з некалькіх магчымых варыянтаў яшчэ не завяршыўся. Але з другога боку, непаслядоўнасць ва ўжыванні тэрмінаў прыводзіла да разыходжанняў у беларускіх і рускіх заканадаўчых тэкстах, якія з'яўляліся раўнапраўнымі і афіцыйнымі. У сувязі з гэтым у юрыдычнай практыцы ўзнікла пытанне аб аўтэнтычнасці тэксту закона пры раўнапраўнасці дзвюх моў: які тэкст у выпадку разыходжанняў павінен карыстацца перавагай – беларускі ці рускі [2].

Прычынай полінайменнасці, якая магла выклікаць калізіі паміж тэкстамі законаў на беларускай і рускай мовах, з'явілася тагачасная агульная неўпарадкаванасць і неўнармаванасць тэрміналагічнай сістэмы беларускай мовы, адсутнасць грунтоўнага слоўніка юрыдычнай тэрміналогіі. Мяркуючы па бібліяграфічных дадзеных, пераклад і выданне кодэксаў ажыццяўляліся рознымі калектывамі. Напрыклад, Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (1927) – выдавецтвам Савета Народных Камісараў БССР, Зямельны кодэкс (1929) – выдавецтвам Наркамзема, Грамадзянскі працэсуальны кодэкс (1930) – Народнага Камісарыята Юстыцыі. Нявытрыманасць у выкарыстанні тэрмінаў (а ў выніку яе і магчымае сутыкненне нормаў права), напэўна, можна патлумачыць і адсутнасцю каардынацыі паміж перакладчыцкімі калектывамі.

**Спіс літаратуры**

1. **Булыка, А. М.** Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV – XVII стст. / А. М. Булыка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1980.
2. **Грэдынгер, М.** Да пытання аб аўтэнтычнасці тэксту закона пры раўнапраўнасці дзвюх ці некалькіх моў / М. Грэдынгер // Працы БДУ : Выд. Праўлення БДУ. – Мінск, 1930. – С. 77 – 90.
3. **Грэдынгер, М.** Да дзесяцігоддзя грамадзянскага кодэкса ў БССР / М. Грэдынгер. – Мінск : Выд-ва БАН, 1933.
4. **Гуткоўскі, М.** Беларуская праўная тэрміналогія / М. Гуткоўскі // Працы БДУ. – 1927. – № 14-15. – С. 81 – 91.
5. **Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы** / пад рэд. А. Я. Баханькова. – Мінск : Навука і тэхніка, 1994.
6. **Окіншэвіч, Л.** Да пытання пра беларускую юрыдычную тэрміналогію / Л. Окіншэвіч // Полымя. – 1928. – № 4. – С. 187 – 195.
7. **Язык закона** / под ред. А. С. Пиголкина. – М. : Юрид. лит., 1990.
8. **Brückner, A.** Słownik etymologiczny języka polskiego / A. Brückner. – Warszawa : Wiedza Powszechna, 1989.
9. **Гістарычны слоўнік беларускай мовы.** – Мінск : Навука і тэхніка, 1996. – Вып. 14.
10. **Черных, П. Я.** Историко-этимологический словарь современного русского языка : в 2 т. / П. Я. Черных. – 6-е изд., стереотип. – М. : Рус. яз. – Медиа, 2004. – Т. 1.

**Скарачэнні**

**ГК-32** – Грамадзянскі кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі: са зменамі з 1927 па 1-е лістап. 1932 г. – Мінск: Выд. НКЮ БССР, 1932; **ГПК-30** – Грамадзянскі працэсуальны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. – Мінск: Выд. НКЮ БССР, 1930; **ЗК-29** – Зямельны кодэкс БССР: Праект / Наркамзем БССР. – Мінск: Выд. НКЗ, 1929; **КК-28** – Крымінальны кодэкс Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Афіц. выд. – Мінск: Выд-ва кіраўніцтва спраў СНК: Выд. эканам. нарады БССР, 1928; **КЗаШ-27** – Кодэкс законаў аб шлюбе, сям'і і апецы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. – Мінск: Выд. СНК БССР, 1927; **КПК-32** – Крымінальна-працэсуальны кодэкс Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі. – Мінск: Выд. НКЮ БССР, 1932; **ППК-27** – Папраўна-працоўны кодэкс Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі. – Мінск: Выд. Выдавецкага п/аддзелу заканадаўчых праектаў НКЮ БССР, 1927; **СПК-26** – Справіцельна-працоўны кодэкс Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. – Мінск, 1926.

*Малады даследчык прапануе*

# ЛЕКСІКА НАРОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ І РАМЁСТВАЎ

## СТРУКТУРНА-ГЕНЕТЫЧНАЯ І СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

*Заканчэнне. Пачатак у № 4.*

**III.** Нацыянальную спецыфіку беларускай мовы, яе непаўторнасць у параўнанні з іншымі славянскімі мовамі вызначаюць ***уласнабеларускія словы*** [5, с. 573].

Фарміраванне гэтай лексікі адбывалася ў перыяд станаўлення беларускай народнасці, які стаў пачатковым этапам як у развіцці лексічнага складу беларускай мовы ў цэлым, так і лексікі народных промыслаў і рамёстваў у прыватнасці.

Уласнабеларуская лексіка папаўнялася і папаўняецца рознымі шляхамі. Асноўнае месца займаюць уласнабеларускія дыялектныя новаўтварэнні промыславай лексікі з адметнай семантыкай, а таксама агульнаславянскія і ўсходнеславянскія лексемы з новым семантычным напаўненнем.

Так, да ліку ўласнабеларускіх утварэнняў, не засведчаных у бліжэйшых славянскіх мовах або зафіксаваных з іншым семантычным напаўненнем, адносяцца лексемы: *адлéўнік, зýбель, калóда, ладзéйка, латóк, мяднíк, саплю́к (сóпэль), сінь*. Назва *адлеўнік* 'гліняны гаршчок' не мае аналогій у іншых славянскіх мовах, яна ўтворана ад дзеяслова *ліць*, прасл. **liti* (ЭСБМ, т. 1, с. 85); слова *зубель* 'дымар, якім падкурваюць пчол' сваім значэннем адрозніваецца ад роднасных слоў у славенскай мове: *zúbelj* 'полымя', *zúblja* 'факел' (ЭСБМ, т. 3, с. 347); найменне *калінаўка* 'рыба краснапёрка' ўтворана шляхам пераносу семантыкі: назва расліны → лінь, які нерасціцца ў час цвіцення каліны (ЭСБМ, т. 4, с. 167). Уласнабеларускімі дыялектнымі адзінкамі з'яўляюцца словы *саплюк*, *сопэль* 'рыба ёрш'. Назвы ўзніклі на аснове асацыятыўнага пераносу "знешні выгляд → назва рыбы" (ЭСБМ, т. 11, с. 313; т. 12, с. 212). Назоўнік *сінь* 'малы шчупак' паходзіць ад прыметніка *сіні*. Назва дадзена паводле характэрнага цёмна-сіняга колеру рыбы (ЭСБМ, т. 12, с. 87).

Пэўная частка ўласнабеларускай лексікі народных промыслаў мае праславянскія карані, на аснове якіх былі ўтвораны найменні для ідэнтыфікацыі новых прадметаў і паняццяў, што ўзніклі ў працэсе развіцця і ўдасканалення народных рамёстваў і промыслаў.

Праславянскую ўтваральную аснову, напрыклад, мае назоўнік *гібáла* 'спецыяльная прылада, на якой бондар гне абручы': **gybati* 'гнуць' + суф. *-*dlo* (ЭСБМ, т. 3, с. 80).

Лексема *ко́лат* ‘прылада для загону рыбы ў сеткі’ ўтворана ад дзеяслова *калаціць*, праслав. **koltiti* (ЭСБМ, т. 5, с. 92).

Намінацыя *скамы́* ‘прылада для выціскання мёду і воску’ з’яўляецца ўласнабеларускім нульсуфіксальным дэрыватам ад дзеяслова *скаміць*, які паходзіць ад прасл. **skomiti* (ЭСБМ, т. 12, с. 110). Праслявянскую аснову мае і назоўнік *ляжойка* ‘прыстасаванне з вяровак для ўздымання на дрэва’: утворана ад дзеяслова *лезці*, прасл. **lěsti* (ЭСБМ, т. 6, с. 116).

Агульнаславянская лексема *корань* у беларускай мове набыла вузкаспецыяльную семантыку пчалярскага промыслу: ‘калодачны вулей’, прасл. **kor-ьnь* (ЭСБМ, т. 5, с. 99).

Значная частка ўласнабеларускай лексікі ўтворана ад агульнаславянскіх і ўсходнеславянскіх каранёў пры дапамозе тыповых беларускіх словаўтваральных сродкаў, найперш суфіксаў.

1. Суфікс ***-к-***: *лётка, капа́нька, каўга́нка, кле́йка. Лётка* ‘ляток у вуллі’ ← *лётаць* + *-к-* (ЭСБМ, т. 5, с. 303); *капанька* ‘драўлянае карыта для мыцця бялізны’ ← *капан*’ + *-к-* (*а*), параўн. паўн.-польск. *kopań*, макед. *копана* (ЭСБМ, т. 4, с. 246); *каўганка* ‘драўляная міска’ ← *каўган* + *-к-* (*а*) (ЭСБМ, т. 4, с. 309).

2. Суфікс ***-ак-***: *кажу́шак, прычы́нак. Кажушак* ‘шчупак’, паводле Г. Цыхуна, утворана ад слова *кажух* ‘від адзення’ з матывацыяй ‘гладкая (як вырабленая) скура ў маладых шчупакоў’ (ЭСБМ, т. 4, с. 43); *прычынак* ‘дошчачка для закрывання адтуліны ў калодачным вулеі’ ← суфіксальны дэрыват ад *прычыніць* (ЭСБМ, т. 10, с. 172).

3. Суфікс ***-ач-***: *зацíра́ч, мардá́ч.* Назва бандарскага разца *зацірач* утворана ад дзеяслова *зачырыць* + суфікс *-ач-*; назва *мардач* ‘пад’язік (рыба)’ выступае дэрыватам назоўніка *морда*, утварылася пры дапамозе суфікса *-ач-* .

4. Суфікс ***-ыч-***: *завíрыч* ‘інструмент для нацягвання абручоў на бандарныя вырабы’ ўтворана ад дзеяслова *завераць* ‘зачыняць, замыкаць’ з дапамогай суфікса *-ыч-*, які ўжываецца для ўтварэння назваў прылад (ЭСБМ, т. 3, с. 280).

5. Суфікс ***-юк-***: назва *жарлю́к* ‘маленькі шчупачок’ утворана ад дзеяслова *жарляць* з прадуктыўным на Брэстчыне суфіксам *-юк-* (ЭСБМ, т. 3, с. 213).

6. Суфікс ***-ец-***: назва *зяме́ц* ‘пчаляр’ утварылася ад **zem* + суф. *-ец-*; вуллі размяшчаліся на зямлі, а не на борцевых дрэвах (ЭСБМ, т. 3, с. 359).

Уласнабеларуская промыславая лексіка ўтваралася і бязафіксным спосабам. Напрыклад, найменне *закро́п* ‘прыманка для пчол’ трэба разглядаць як бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *закрапіць*. Ад вербатыва *іскаць* утворана лексема *іск* ‘пчаліная разведка’.

Зрэдку склад уласнабеларускай лексікі папаўняецца і за кошт асноваскладання: *куро́дым* ‘прылада абкурваць пчол’ ← *курыць* + *дым* (ЭСБМ, т. 5, с. 169).

Толькі 2 адзінкі сярод выяўленых намі ўласнабеларускіх лексем засведчаны ў “Гістарычным слоўніку беларускай мовы”: *колода* (т. 15, с. 214), *лазбень* (т. 16, с. 277).

**IV.** Значную ролю ў папаўненні слоўнікавага складу мовы адыгрываюць **запазычанні**, якія з’яўляюцца ў выніку міжмоўных кантактаў. Як адзначае А. Станкевіч, “значны ўплыў на пранікненне і замацаванне запазычанняў у лексічнай сістэме беларускіх гаворак аказаў этнічны фактар” [8, с. 3]. Пры гэтым “ацэнка запазычвання як заканамернага працэсу… дазваляе бачыць у мовах, якія запазычваюць, не праяўленне занядаду, а імкненне да паўнаты сродкаў выражэння” [3, с. 3].

У складзе беларускай лексікі своеасаблівае месца займаюць запазычанні з галіны народных промыслаў і рамёстваў, якія ўвайшлі ў народную тэрміналогію як для абазначэння новых рэалій і паняццяў, так і ў якасці адпаведнікаў беларускамоўным адзінкам.

Аналіз фактычнага матэрыялу паказвае, што агульная колькасць засведчаных у этымалагічных крыніцах промыславых лексем дасягае 234 адзінак, з якіх 56 (23,9%) – запазычанні (германізмы, паланізмы, літуанізмы, цюркізмы, русізмы).

Спецыфіка выкарыстання промыславай лексікі абумовіла значны аб’ём запазычанняў з **нямецкай** мовы, дзе народныя рамёствы і промыслы былі на больш высокай ступені развіцця. Найперш запазычваліся самі рэаліі (прадметы, прылады працы і пад.), для намінацыі якіх і сталі выкарыстоўвацца замежныя лексемы. Запазычванне промыславай лексікі з нямецкай мовы было як прамым, так і апасродкаваным. Ролю мовы-пасрэдніцы з прычыны геаграфічных і этнічных абставін адыграла польская мова, праз якую ў беларускі промыславы слоўнік і прыйшлі многія намінацыі.

У складзе германізмаў вылучаецца некалькі тэматычных груп:

1. Прылады для лоўлі рыбы: *боўт, ва́та, гак, жак, кры́га. Боўт* ‘шост, якім заганяюць рыбу ў сетку’ праз польск. *bełt* запазычана з н.-ням. *bolt(e)* (ЭСБМ, т. 1, с. 373); *жак* ‘рыбалоўная снасць у выглядзе нерата з двума крыламі’, параўн. польск. *żak* ‘тс’ < ням. *Sack* ‘мяшок, кішэнь’ (ЭСБМ, т. 3, с. 202); *крыга* ‘прылада для лоўлі рыбы’ з с.-в.-ням. *kriege* ‘тс’ (ЭСБМ, т. 5, с. 129).

2. Бандарныя і ганчарныя вырабы: *бале́я, басэ́тля, ко́наўка, ку́бел, ку́па, ку́халь, па́са. Басэтля* ‘вялікая бочка’, параўн. польск. *basetla*

'тс' < ням. *basset(t)el* (ЭСБМ, т. 1, с. 327); *кубел* 'бочачка' < польск. *kubeł* 'пасудзіна, вядро' < с.-в.-ням. *kűbel* (ЭСБМ, т. 5, с. 142); *кухаль* 'гліняны кубак', праз польскае *kufel* з с.-в.-ням. *kuefel* (ЭСБМ, т. 5, с. 174); *паса* 'посуд для ссыпання зерня' запазычана праз польскую мову з с.-в.-ням. *paz* (ЭСБМ, т. 8, с. 174).

3. Прылады працы бондара: *бор, вінкель, гэ́бель, калёўка, сталю́га, стаме́ска, фуга́нак. Бор* 'свердзел' < ням. *bohr* 'тс' (ЭСБМ, т. 1, с. 371); *гэбель* 'рубанак' < польск. *hebel* < ням. *Hobel* 'тс' (ЭСБМ, т. 3, с. 116); *сталюга* 'прыстасаванне для апрацоўкі клёпак, абручоў' < польск. *staluga, sztaluga* < ням. *stellage* 'рыштаванні; стэлаж' (ЭСБМ, т. 12, с. 285); *фуганак* 'від рубанка' < н.-ням. *Foogbank* 'тс' (Фасмер-4, с. 209).

Значную ролю ў дыялектнай лексіцы народных промыслаў адыгрываюць запазычанні з **польскай мовы**, што тлумачыцца прамымі кантактамі беларусаў з носьбітамі польскай мовы. У складзе паланізмаў вылучаюцца наступныя тэматычныя групы:

1. Назвы рыб: *келб, пстро́нга, распёр*. *Келб* 'рыба пячкур', польск. *kiełb* 'тс' (ЭСБМ, т. 5, с. 18); *пстронга* 'рыба фарэль', польск. *pstrąg, pstrąga* 'тс' (ЭСБМ, т. 10, с. 188).

2. Бандарныя і ганчарныя вырабы: *ба́нька, бэ́дня, вуша́т, га́рнец, гарну́шак. Бэдня* 'пасудзіна з клёпак', польск. *bednia* 'тс' (ЭСБМ, т. 1, с. 434); *гарнец* 'бандарны выраб', параўн. польск. *garniec* 'тс' (ЭСБМ, т. 3, с. 63); *гарнушак* 'невялічкі гаршчочак для кіпячэння і паркі малака' < польск. *garnuszek* 'тс' (ЭСБМ, т. 3, с. 64).

Здабыткам беларускіх дыялектаў сталі запазычанні з **літоўскай** мовы, звязаныя з промыславай лексікай. Сярод літуанізмаў вылучаюцца наступныя тэматычныя групы:

1. Назвы рыб: *аджгу́р, вяга́ла, сты́нка, мальга́*. *Аджгур* 'рыба джгір звычайны' < літ. *ãdžgaras, ãčgaras* 'тс' (ЭСБМ, т. 1, с. 95); *вягала* 'рыба мянтуз' < літ. *vėgėlė* 'тс' (ЭСБМ, т. 2, с. 298); *стынка* 'рыба корушка' < літ. *stinka, stinta* 'азёрная корушка' (ЭСБМ, т. 12, с. 364).

2. Прылады для лоўлі рыбы: *ве́нцер, ведзя́я, ку́ка, куль. Венцер* 'стаўная рыбалоўная пастка' < літ. *venteris* 'тс' (ЭСБМ, т. 2, с. 83); *ведзяя* 'від сеткі для лоўлі рыбы' < літ. *vedėja* 'тс' (ЭСБМ, т. 2, с. 298); *кука* 'драўляны молат глушыць рыбу' < літ. *kúokas* 'драўляны молат для гульні або глушэння рыбы' (ЭСБМ, т. 5, с. 149).

3. Бандарныя вырабы: *жлу́кта, коўш. Жлукта* 'пасудзіна для запарвання бялізны', літ. *žlùgtas, žlùktas* 'пасудзіна, у якой мыюць бялізну' (ЭСБМ, т. 3, с. 229); *коўш* 'драўляная конаўка з доўгай ручкай' < літ. *káušas* 'тс' (ЭСБМ, т. 5, с. 105).

Да запазычанняў з **цюркскіх** моў адносіцца лексема *бакла́га* 'бандарны посуд для вады', параўн. каз.-тат., тур. *baklak* 'від пасудзіны для вады' (ЭСБМ, т. 1, с. 283).

З **рускай** мовы запазычана лексема *про́паліс* 'прадукт, выраблены пчоламі', якая ўзыходзіць да грэчаскай мовы: рус. *прополис* < грэч. *προπολις* (ЭСБМ, т. 9, с. 358).

Значная колькасць запазычанняў адзначана ў старабеларускай мове, што ўказвае на даўні час іх пранікнення ў лексічную сістэму мовы: *баклажка, бодня, вата, гак, гебель, жак* і інш.

У складзе намінацыйнай сістэмы беларускіх народных промыслаў і рамёстваў прадстаўлена агульнаславянская лексіка (32,5%), усходнеславянскія словы (7,3%), уласнабеларускія ўтварэнні (36,3%) і запазычанні (23,9%).

Найбольш выразна пласт агульнаславянскай паводле паходжання лексікі характарызуюць намінацыі *воск, вугор, гліна, дзяжа, долата, збан, лешч, лін, пчала* і іншыя, якія актыўна выкарыстоўваліся нашымі продкамі ў рамках пэўнага промыслу ці рамяства.

Усходнеславянская лексіка народных промыслаў і рамёстваў менш пашыраная, чым агульнаславянская. Намінацыі гэтага паходжання папоўнілі адпаведныя тэматычныя аб'яднанні агульнаславянскай лексікі: *бабыр, брэдзень, галавень, гладыш, ляток, махотка* і інш.

Значная колькасць прааналізаваных намінацый адносіцца да ўласнабеларускіх утварэнняў – *адлеўнік, завірыч, ладзейка, мяднік, сінь, скамы* і інш. Утварэнне і папаўненне гэтай групы лексікі адбывалася двума агульнамоўнымі шляхамі: а) за кошт уласнабеларускіх дыялектных наватвораў (*адлеўнік, зубель, калінаўка, сінь, саплюк* і інш.), б) на аснове агульнаславянскіх і ўсходнеславянскіх каранёвых марфем з дапамогай адметных беларускіх словаўтваральных сродкаў, найперш суфіксаў (*прычынак, кажушак, зацірач, завірыч, жарлюк, зямец* і інш.).

Прыкметны лексічны пласт утвараюць запазычанні, пераважную большасць якіх у складзе лексікі народных промыслаў і рамёстваў складаюць германізмы: *басэтля, гак, жак, крыга* і інш. (39,3%), паланізмы: *бэдня, кавадла, келб, пстронга* і інш. (28,6%). Адзінкавымі намінацыямі выступаюць запазычанні з цюркскіх і рускай моў (*баклага, пропаліс*).

**Міхаіл МАКАРЭВІЧ,**
аспірант кафедры беларускага мовазнаўства
Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта
імя І. П. Шамякіна.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук прафесарам М. Прыгодзічам.*

*Спіс літаратуры і скарачэнні змешчаны ў № 4.*

Алена БАГАМОЛАВА

# *"ПРАЖЫЛА ЖЫЦЦЁ, ЯК ПТУШКА…"*

## СЕМАНТЫКА-СТЫЛІСТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПАЭТЫЧНЫХ ТРОПАЎ НІНЫ МАЦЯШ

Ніны Мацяш не стала ў 2008 годзе… І хоць яна параўнала сябе з птушкай, што не пакідае следу ў паветры (*Пражыла жыццё, як птушка: / След яе ў паветры дзе…*), мы ведаем: птушка заўсёды пакідае пасля сябе песню… І нават калі мы не бачым той птушкі, мы пазнаём яе па голасе, па песні… Ніна Мацяш – шчыравальная птушка на ніве паэзіі, таму сёння ад яе вершаў, яе творчасці мы маем след у душах, у сэрцах. Пра што ні пісала б паэтка (пра навакольны свет, уласныя пачуцці, малую ці вялікую радзіму, рэальныя падзеі ці абстрактныя паняцці – назвы складнікаў лёсу і душы чалавека), яна заўсёды рабіла высновы, якія варта чытаць і перачытваць нашчадкам, "занатоўваць" у памяці, каб у моманты расчаравання, здрадніцтва, ашуканства, чарговага выпрабавання паўтараць іх сабе, каб не збочыць з таго адзінага шляху, які падораны кожнаму з нас Усявышнім. "Не збочыць" ва ўсіх сэнсах гэтага слова, бо шлях тады пройдзены з годнасцю, калі, як сцвярджае паэтка, не пярэчыў уласнаму сумленню (*І адвеку будні нашы ўпарта / Цвердзяць, новы беручы рубеж: / Дай нам, лёс, таго, чаго мы вартыя, / Каб не здрадзіць нам самім сабе*), калі ўмеў не толькі шкадаваць бліжняга, але і радавацца за яго і захапляцца ім (*Між людзей не можа быць старонняга болю!*; *Бойся спазніцца са словам харошым: / Тонка прадзецца жыццёвая ніць*), калі ўмеў знайсці радасць пад сваім небам (*чужое неба шчасця не дае*), калі ўмеў працягнуць руку дапамогі (*І не падлічваюць пры гэтым людзі, / А што за ласку ім прыбудзе*). Паэтка ведае, у чым паратунак, дзе шукаць гармонію, калі *"…людзі – не анёлы, / Толькі гэта сэрца не гоіць"*. Яна ведае і гэтым ратуецца сама і сваімі думкамі шчодра дзеліцца з чытачом: *Хай не журыцца, хай не плачацца: / Далягляд з жальбы не зыначацца*; *Умеем і гарбець, і весяліцца, / Не патрапляем толькі навучыцца / Не дазваляць жыццю свайму таннець*; *Жахлівей не бывае здрады, / Як сонца ўласнае забіць!*

Прыведзеныя радкі з вершаў Ніны Мацяш маюць афарыстычны змест. Аднак неверагодная ступень мудрасці паэткі, яе арыгінальнае светаўспрыманне, своеасаблівае бачанне і адчуванне чалавека ўвасобіліся не толькі ў гэтых і шматлікіх іншых радках, але і ў словах вобразнага характару. Праз сэрца-душу аўтаркі праходзяць разнастайныя жыццёвыя рэаліі, звычайныя і будзённыя, якія ў вершах яе пераўтвараюцца ў высокамастацкія вобразы малой і вялікай Радзімы. Гэтыя вобразы немагчыма забыць, бо кожнаму з нас яны нагадваюць мясціны, дзе прайшло-праляцела хуткакрылае маленства. Распавядаючы пра вецер і гай, вясну і ліпень, сон-траву і ноч, пра сталасць, шлях, смак радасці і іншае, аўтарка знаходзіць такія словы / словазлучэнні вобразнага зместу, якія разам з паяснёнымі словамі ствараюць мініторы: *Ох, які ты* ***вымаклы, вецер!***; *Бярозавым святлом упала поўня / У* ***ціха разгайданы ветрам гай***; *…Што з жаўруком на* ***крылах чуйных*** */ Нясуць* ***вясну зеленабокую***; *Якая дзіўнасць… Аж неверагодна… /* ***Схмялелы ліпень, чабаровы свет…***; *Ліецца* ***духажыўнае цяпло***; *На ўзлесках цвіў* ***лілова-сіні сон*** */ І аддаваў мне ўсю пяшчоту*; *Ступае на кацiных лапках /* ***Ноч зорна-жнівеньскае масці***; *Зелянее* ***шчырая трава…***; *…як упэўнена ён* [спадарожнік] *торыць / Свой* ***мэтаносны шлях!***; *Радасці* ***непрыядальны смак…***

Як відаць, кожнаму з эпітэтаў (а яны ўсе аказіянальныя) уласціва вобразная дакладнасць: з аднаго боку, гэты троп у кантэксце паэзіі Н. Мацяш – вобразны прыметнік (просты ці складаны), дзеепрыметнік, спалучэнне слоў ад'ектыўнага характару, з другога боку, ён сэнсава адназначны, з глыбокім падтэкстам. Паэтка эксперыментуе са словам, ствараючы унікальныя складаныя прыметнікі – двайныя, або злітныя, эпітэты. Такія аўтарскія моўныя знаходкі-вынаходніцтвы не могуць не захапляць чытача, дазваляюць аўтарцы ў лаканічнай форме выказаць глыбокі змест: …***хмары*** *бываюць* ***і лёгкамінальныя***; *Да* ***святадарнага святла*** *– / Узмах крыла!*; *Век над лёсам дачкі калыхаца /* ***Сонцалюбым*** *іх* [рабіны, клёна] ***кронам***; *Прыпадае да грудзей з павіннай /* ***Старасць марнакрылая*** *мая…* і інш.

Даволі рэдкая з'ява ў паэтычным кантэксце (часцей ужываецца ў празаічным) – стылістычны прыём канцэнтрацыі прыметнікаў, калі амаль кожная ўзгаданая ў тэксце з'ява ці прадмет маюць пры сабе вобразныя і нявобразныя азначэнні-апісанні. Н. Мацяш у вершава-

ным радку гэты прыём выкарыстоўвае: *Тут* ***рук сяброўскіх шчырае цяпло***; ***Туга няшчадная*** */ Па крыку кнігаўкі / Над* ***лотацева-залатым разводдзем,*** */ Па* ***аксамітных азярынах лёну сіняга,*** */ Па* ***далікатным*** */* ***Бэзава-ружовым цвеце*** *бульбы…*; *Быццам зрок расхінае* ***святлістая доля*** *сама /* ***Рукой гарачай***; *Была такой* ***вясёлкаваю птушка*** *– / Скуль на далоні* ***чорнае пяро****?*

Як відаць, шматлікія эпітэты, дакладныя і метафарычныя, робяць лёгкаўяўляльным паэтычны свет аўтара, і ў кожным з іх гучыць замілаванне роднай зямлёй.

Вобразнае азначэнне ў мове вершаў Ніны Мацяш – актыўны структурны кампанент метафары, якая і сама з'яўляецца адным з актыўных стылеўтваральных сродкаў. Метафара без эпітэта мела б сэнсавую недакладнасць (пры якой назіраецца схематызм вобразаў), эмацыянальную незавершанасць (што вядзе да зніжэння эстэтычнай вартасці твора). Звернемся да фактычнага матэрыялу: *Сонца залівае тратуары / У* ***абдымках густалістых ліп***; *О дзе ты,* ***промня вясновага шоўк****?!*; *Як дзівосна туліцца гарачай шчакою / Да* ***шалёна-вясёлага твару завеі****…*; *І раптам…* ***Званок світальны сон-травы*** *ў траве*; ***Канае самотнае рэха***; ***Дзень*** *натхнёна* ***вяслуе пунсовым вяслом,*** */ Выплываючы з мора*; ***Ляціць*** *майго* ***лёсу кульгавае кола*** */ ад долу ў нябёсы – як з неба дадому…*; ***Успаміну светлы каласок***; *Сляпога* ***ліўня кручаная плётка****.*

Нават вусна правёўшы лінгвістычны эксперымент, апусціўшы вылучаныя прыметнікі-эпітэты, пацвердзім выказаныя думкі: *абдымкі (густалістых) ліп, промня (вясновага) шоўк, (шалёна-вясёлы) твар завеі, лёсу (кульгавае) кола.* Відавочна, у прыметніку сканцэнтравалася глыбіня аўтарскага пачуцця, тонкае адчуванне свету.

Аднак метафара Н. Мацяш валодае не меншай выразнасцю, відавочнасцю, калі мае лаканічную структуру і складаецца са спалучэння двух назоўнікаў (назоўнікавы тып тропа): *Не заходзь, / Маё сонца, / За доўгія* ***хмары маўчання***; *Прыкладваем да сінякоў, да ран / Гаючы /* ***Трыпутнік*** *той* ***сустрэчы****…*; *Дзень* ***павуцінку шчасця*** *ловіць…*; *Паслухаць, / Што там, за вачыма, / За* ***небам позірку*** *твайго*; *Берагу – не ўберагаю /* ***Сцежкі паясок***; *Што яшчэ мне, лёс, падкінеш / Пад* ***зацьменне душ****?*; *І бледнай* ***зоркі вастрыё*** */ У сэрца самае ўпілося!..*; *Яшчэ цягну* ***ярмо тугі***; *Яшчэ між намі* ***яр абставін****…*; *Адно табе / Даводзіцца брысці* ***ледавікамі гора****?..*; *Я не аддам цябе* ***імгле зняверы****…*; *Як багата людзей умуравана ў* ***змрок*** */* ***Страху, злосці*** *або* ***наракання****ў…*; *Бачу той час, калі шызую* ***чаплю*** */* ***Суму*** *твайго я прагнаць не патраплю*; *Нічога, што* ***зроку лязо*** */ прытупела, прыцьмела*; *На* ***крыжы*** *твайго* ***цела*** [бусла] */ вяртаюцца з выраю / Траваквецце і птаства, / Матылі і грамы*; *Падаю табе рукі свае / разам з* ***сонцам сяброўства*** *ў прыгаршчах*; ***Небашатра*** *палескага* ***сацін****.* Фактычны матэрыял сведчыць, што рад назоўнікавай метафары можна яшчэ доўжыць, паколькі менавіта гэтая разнавіднасць тропа з'яўляецца стылеўтваральным вобразным сродкам паэтычнай мовы аўтаркі. Прычым самы актыўны тып метафарычнага пераносу – перанясенне прымет, якасцей і ўласцівасцей з неадушаўлёных на неадушаўлёныя прадметы: *плётка ліўня, хмары маўчання, трыпутнік сустрэчы, неба позірку, паясок сцежкі, ярмо тугі, яр абставін, лязо зроку, крыж цела* і г. д. Бясспрэчна тое, што прыведзеныя тропы маюць аказіянальны змест, вызначаюцца дасканаласцю пры адлюстраванні стану лірычнай гераіні / паэткі. Уявіце сабе, як засцяць святло адносін хмары маўчання, якой непераадольнаю перашкодаю паўстае яр абставін, як гняце ярмо тугі і ратуе трыпутнік сустрэчы…

Другая разнавіднасць паэтычнай метафары Ніны Мацяш – дзеяслоўная; гэты від тропа не праз статычны малюнак, а праз рух (праз перанясенне ўласцівасцей з "жывога" на "нежывое") стварае дынамізм апісанага. Адухаўляючы свет вакол сябе, паэтка стварае свет чароўны і вабны, дзе сябра, сусед, суразмоўца – гэта як чалавек, так і ноч, вецер, таполі, дажджы, завіруха, восень і інш.: *Калі на дахі мякка* ***ноч прысядзе****, / Павее казкай ад старых азёр*; ***Прыбілі*** *ноч да долу* ***перуны***; ***Прыклала ноч*** *свае далоні сінія / Да шыб…*; *Дзе ў ліпень* ***плывуць палеткі****, / Дзе з сонцам* ***пяюць таполі***; *Цяпер* ***дажджы дзяўбуць акно***; *Ды* ***прадраўся*** *ружовай крэскаю / Ўрэшце* ***золак*** *праз завіруху*; *…Пра сонца* ***трызніць лотаць*** *бледная, / А ў слоіку* ***галінка вербная*** */* ***Смяецца*** *жоўтымі пупышкамі*; *І раптам* ***усміхнуўся дуб*** *стары*; *У зялёным плашчы нарасхрыст / Па гаях* ***вецер*** *чэрвеньскі* ***ходзіць***; *На вуліцы* ***вядзьмарыць завіруха***; ***Завітвае дождж*** *і ў душы*; ***Дзень*** *кожны гук на павуцінку* ***ніжа****. /* ***Цалуе*** *хрызантэміну* ***аса****.*

Нягледзячы на тое, што большасць з прыведзеных метафар агульнамоўнага тыпу, усе яны ў макракантэксце набываюць аўтарскае гучанне. Параўнаем: *вецер ходзіць* і *ў зялёным плашчы нарасхрыст / Па гаях вецер чэрвеньскі ходзіць*; *прадраўся золак* і *Ды прадраўся ружовай крэскаю / Ўрэшце золак праз завіруху.* Варта зазначыць, што разгорнутыя метафары Н. Мацяш можна кваліфікаваць як увасабленні: свет, у якім жыве паэтка, "адухоўлены", прыродныя рэаліі набываюць чалавечыя якасці. Часам на-



***Алена Міхайлаўна Багамолава*** *– мовазнаўца. Кандыдат філалагічных навук (1995). Закончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт (1988), аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка (1994). Дацэнт кафедры філалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў. Аўтар манаграфіі “Дэрывацыя і функцыя экспрэсіўных прыметнікаў у мове народна-паэтычных твораў” (2005), навучальных дапаможнікаў “Практычная стылістыка” (1996), “Функцыянальная стылістыка” (2003), “Беларуская мова і чытанне: Інтэграваны курс” (у сааўтарстве, 2004), “Культура мовы” (у сааўтарстве, 2006), а таксама шэрага навуковых артыкулаў.*

ват назвы абстрактных паняццяў метафарызуюцца, у выніку ўзнікаюць вобразы любові, скрухі, будучыні, сну, адзіноты, лёсу, бяды, якія іграюць істотную ролю пры раскрыцці настрою лірычнай гераіні / аўтаркі, пры выяўленні ўспрымання пэўных маральных каштоўнасцей: ***Любоў нябёсы*** *над табой* ***трымае***. / ***Любоўю зорацъ дні*** *ў тваім акне*; *Што за* ***скруха*** *пакутная* / ***На*** *цярплівыя* ***плечы лягла***; ***Будучыня зазірае*** *ў вочы*, / ***Будучыня выбірае*** *нас*; *Бо часта* ***будні*** *твае* ***скрэслены*** / ***Рукой*** *няшчаднай* ***адзіноты***…; *Што яшчэ мне*, ***лёс***, ***падкінеш*** / *Пад зацьмене душ?*; *Толькі* ***рэкі*** *людской* ***бяды*** *ніяк* ***не вымярзаюць***; *У хмельнасці чабору страсна* ***спее*** / ***Званок*** *няспраўджанага* ***сну*** *майго*.

Арыгінальны троп вершаванай мовы Н. Мацяш – параўнанне. Гэты вобразны сродак дэталізуе малюнак, выяўляе самыя тонкія эмацыянальныя нюансы аўтарскага пачуцця: ***Без дружбы мне – як без вады і хлеба***, / ***Як птушцы – без глыбінь высокіх неба***…; ***Лета бабіна кароткае, бы ўскрык***. / ***Гнуцца*** *долу* ***арабіны***, ***як рабыні***, / ***Як збавення***, ***выглядаюць*** *красавік*; *І зноў* ***сумую па буслах***, / ***Нібы*** *па* ***родным чалавеку***; *Я* ***маўчу***, ***як зерне*** *ў баразне*; *Краю родны! Я ўжо* ***неаддзельна*** / ***Ад цябе***, ***як ад зямлі расток***.

Самыя шчырыя свае пачуцці аўтарка ўвасабляе, як правіла, у тропах, якія маюць традыцыйную злучнікавую структуру (аб’ект і прадмет супастаўлення звязваюцца злучнікамі *як*, *бы* / *нібы*, *быццам*): *Цёплы* ***лівень***, ***густы***, ***як руно***, / *З насалодай акрыў дол вячысты*; ***Як птушанё***, *спалохана* ***нямею***; *Ды* ***сухастоіна***, ***нібы дракон*** / *З вычварна пакручастым мёртвым крыллем*; *І снег, і* ***снег***, ***як спозненая*** *ласка!..* / *І гэтак жа*, ***як ласка***, ***растае***; ***Сустрэчы – нібы міражы***…; *Як сіроткі, ля вады* ***тры дзьмухаўцы***.

З прыведзеных прыкладаў відаць, што паводле граматычнага выражэння злучнікавы тып параўнання вызначаецца разнастайнасцю: субстантыўны від (*сустрэчы, нібы міраж*; *арабіны, як рабыні*; *дзьмухаўцы, як сіроткі*), ад’ектыўны (*лівень густы, як руна*; *лета бабіна кароткае, бы ўскрык*); вербальны (*нямею, як птушанё*; *маўчу, як зерне*; *паўтараю, як замову*).

Другі тып параўнання выражаецца творным склонам назоўніка (творны параўнання), мае бяззлучнікавую структуру, а значыць, лаканічную форму: *Зноўку* ***ноч цыганкай*** *каля ганка*, / *Зноў* ***прыйшла*** *прарочыць-варажыць*…; ***Стаяць манахамі сады*** / *Ў сутанах вымаклых за плотам*; ***Капеж аркестрам струнным*** *раскаваны* / *Тарочыць гамы веснія свае*; *Чаму ж ад кволай думкі зябка* – / *Што згэтуль* ***знічкай мне прапасці***?; *І раптам* – ***кропляю нябёс пагодных*** – [сон-трава]…; *Твой* ***сум*** *кароткім* ***ценем*** *праплывае*; *Ходзіць* ***студзень непадкупным сведкам***; *Запозненаю* ***дзікаю ажынай*** / ***Ўзаемнасць*** *наша дзёрзка расцвіла*.

Прыведзены матэрыял сведчыць, што структурна сціслы від тропа з’яўляецца кампанентам такога вобразнага сродку, як метафара, і гэта, безумоўна, узбагачае вобразнасць, узмацняе экспрэсію радка. Сціслая форма абодвух тропаў, іх багаты змест дэманструюць “віртуознасць” аўтарскага словаўжывання: сум можа гнясці, цяжарам легчы на душу, сум аўтаркі “*кароткім ценем праплывае*”, узаемнасць прыходзіць, у аўтаркі ж яна “*запозненаю дзікаю ажынай… дзёрзка расцвітае*”.

Паэзіі Ніны Мацяш уласцівы яшчэ адзін від параўнання, даволі рэдкі, які паходзіць з мовы фальклору, – адмоўнае параўнанне: ***Не калоссем*** – / *Тваімі* ***рукамі шурпатымі*** / *лашчыцца* ***поле***. / ***Не асотам*** – / *тваёю* ***халоднай цвярозасцю*** / *колецца* ***поле***; *Ах,* ***не час валошкавы*** *мой* ***тае*** – / *То* ***пылок*** / *З* ***трапятлівых крыльцаў асыпае Матылёк***.

Прадмет супастаўлення ў пачатку такога тропа адмаўляецца і тым самым узмацняе цікавасць чытача. Хоць падобная структура параўнання мае фальклорнае паходжанне, у прыведзеных кантэкстах яно ўсё ж адлюстроўвае аўтарскія асацыяцыі. Гэта азначае, што адмоўнае параўнанне Н. Мацяш – аказіянальны від вобразнага сродку.

Сістэма вобразна-выяўленчых сродкаў паэтэсы была б не поўнасцю ахарактарызаванай, калі б па-за ўвагай лінгвістаў засталася перыфраза. Гэты троп частаўжывальны ў вершаваных кантэкстах; ён уяўляе сабой апісальны выраз пераносна-вобразнага ўжывання, сінанімічны, як правіла, назоўніку (назоўнікавы тып перыфразы): *І вось ужо з акна майго выглядвае* / ***Скупы агеньчык***, ***добры гном начэй***!; *І* ***два камбайны – два караблікі*** – / *На фоне яркага бяздоння*;

*Аднак усюды* [хвалі] – ***берагоў палонныя****?*; *Жыў ды быў* ***вялікі цар*** *–* ***/ Смутак, духу валадар****; Не каюцца* ***ласі, лясоў князі****;* ***Жыццё – вандроўны лялечны тэатр****, – / Ніколі не звядуцца ў ім дзівосы!..; Марудна* ***хмаркі, белыя ягняткі****, / Таўклі капыцікамі час…; У* ***памяць – хвалю шызую*** *– ступі…;* ***Два снегіры – дзве кропелькі зары*** *– / На шэрую галіну вольхі ўпалі;* ***Час****, гэты /* ***Пастух усюдыісны****, / Па неўгаданай прыхамаці звёў нас / На міг…;* ***Час*** *– /* ***Рахманы, бясстрасны, натурысты дзед****.*

Радкі з перыфразамі даюць дакладнае ўяўленне пра аўтарскі змест і разнастайнасць граматычнага выражэння тропа. Пры гэтым прадмет і аб’ект супастаўлення належаць як да назоўнікаў адной тэматычнай групы (*камбайны – караблікі, жыццё – тэатр, памяць – хваля*), так і да розных (*агеньчык – гном, хвалі – палонныя, смутак – валадар / цар, ласі – князі, снегіры – кропелькі, час – пастух, час – дзед*).

Часам для індывідуалізацыі вобразаў, для перадачы ўласнага пачуцця аўтарцы не хапае адной перыфразы, і тады яе асацыяцыі нібы “нанізваюць” пераносна-вобразныя выразы, тым самым узбагачаючы ідэйна-эмацыянальны змест твора: *Бусько, бусьо, /* ***Чорна-чырвона-белы / Йерогліф жыцця, / пацалунак прыроды****, / якога баяцца / балотныя жабы і гады. /* ***Пацалунак вясны / ззімелым / Палессю і мне****.*

Лінгвістычны аналіз паэзіі Н. Мацяш дазволіў нам выявіць шматлікія аказіянальныя неалагізмы, якія з’яўляюцца кампанентамі тропаў або самі выступаюць у іх якасці: *Развярэдлівы* ***трывогапад*** */ На планеце днюе і начуе…; І нядзеля /* ***запанядзелена****; Мае добрыя людзі, / Суайчыннікі, /* ***Сузямельцы****…;* ***Запабеглівыя*** *рухі, /* ***запабеглівыя*** *словы, /* ***запабеглівая*** *ўсмешка – хоць да раны прыкладай!; Як рана васількі* ***завасільковелі!****; Да* ***святадарнага*** *святла – / Узмах крыла; Дакладнасць руху / Ім – / Лёткім злучнікам нябёсаў і вады, – / Азёрным чайкам* ***воляюбным*** */ Дадзена.*

Паэтка – словатворца, яе тонкае, філалагічнае адчуванне слова вынікае таксама з ужывання амонімаў і паронімаў, якія ў адным вершаваным кантэксце (як правіла, у сказе) раскрываюць вастрыню аўтарскага пачуцця: ***Край*** *так ужо даведзены да* ***краю****; Няма* ***чуллівасці*** *– / ёсць годная* ***чуласць****; Бо муза, хоць і* ***верніца****, й* ***даверніца****, / а ўсім пра дух бунтоўны твой расскажа…; Як наша вёска* ***Горыч****, / Збудзе* ***горыч*** */ І назавецца Светачам нарэшце; У сталасці, / Жорстка зранены ў вечных сутычках /* ***Уявы і явы****…*

На наш погляд, яшчэ большая глыбіня думкі, пачуцця праяўляецца праз супастаўленне тых з’яў і паняццяў, што названы словамі антанімічнага зместу. Менавіта аўтарскія прыёмы кантрасту (аксюмаран і антытэза) сведчаць, што паэтка кожную апісаную з’яву адчула ўласным сэрцам, пражыла кожную ўзгаданую падзею. Такая шчырасць не пакідае чытача абыякавым: *Кагосьці* ***вёрсты разлучаюць****, / Кагосьці* ***звязваюць*** *навек; Перабіраю ў памяці сяброў, / Якіх спагадна* ***доля*** *мне надбала, /* ***На ліха не скупая й на дабро****; І што ні міг, сваёй кажнюткай нотай /* ***Святло*** *і* ***цень*** *– табе –* ***складаюць гімн****; І на* ***Чорным возеры растуць / Белыя лілеі****…; І ў печы пячэцца твой* ***белы*** *– наш* ***чорны – пірог****…; І* ***лета*** *доўгае* ***неразімую****; Дзе адна – на ўсё жыццё –* ***сустрэча*** */ І адна – на ўсё жыццё –* ***разлука****…; Глянь, як* ***смела / Нясмелыя вольхі*** */ У паднябессі захмараным, волкім / Ловяць сны; Абавязкова некалі прыпомніць / Табе* ***твая шчаслівая туга****…*

Усё жыццё чалавека адлюстроўваецца праз прызму кантрасту, і гэта натуральна: складнікі любога лёсу – нараджэнне і смерць, радасць і гора, сустрэчы і расстанні, смех і слёзы, палёт і нерухомасць. Чалавек сам павінен выбраць, з чым і з кім будзе жыць, як і для чаго:

*Усё звычайна ў гэтым свеце:*
*І першы ўсхліп, і ўздых апошні –*
*Як дым над комінам вясковым,*
*Як тонкі месяца акрайчык.*
*Спакон вякоў было такое:*
*Смяюцца людзі, людзі плачуць.*

Паэтычны свет Н. Мацяш непаўторны, кантрастны, недвухсэнсоўны, мудры, лірычны, вобразны. Сапраўднаму таленту не трэба шукаць крыніцу натхнення, бо ўсё, што знаходзіцца вакол яго (ад *траваквеццяя* да *небнага даху*), само напоўнена сэнсамі, само багатае на колеры і гукі, на пачуцці і словы… Паэтка адкрыла нам свой свет чалавека, жанчыны, адкрыла нам Брозаўшчыну; усе вобразы, створаныя ёю, высокамастацкія, эстэтычна вартасныя, раскрываюцца менавіта з дапамогай тропаў – эпітэтаў, метафар, параўнанняў і інш. Багаты фактычны матэрыял сведчыць, што ў вершаваным радку Ніны Мацяш дамінуе іх аказіянальная разнавіднасць, і гэта яшчэ раз пацвярджае ўжо выказаную думку пра арыгінальнасць паэтычнага таленту творцы.

**Спіс літаратуры**

1. **Мацяш, Н.** Паміж усмешкай і слязой / Н. Мацяш. – Мінск : Маст. літ., 1993.
2. **Мацяш, Н.** У прыгаршчах ветру : вершы, пераклады, эсэ / Н. Мацяш. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2009.

Марыя НОВІК

# САМАЦВЕТЫ НІНЫ МАЦЯШ

Кнігу выбраных перакладаў з розных еўрапейскіх моў Ніна Мацяш назвала “Перабіраю самацветы” і такім чынам у самой назве дала ацэнку-характарыстыку творам – самацветам еўрапейскай паэзіі. У невялікай прадмове, слове да чытача, аўтарка запрашае “кінуць вокам” на «прыгаршчы замежных “пацёрак”», удакладніўшы: «Вельмі розныя яны зместам і кшталтам: “агранялі” ж бо іх шмат якія майстры, адлеглыя спаміж сабой і ў прасторы і ў часе. Але прыглədзься да “пацеркаў” гэтых, хоць бы дзеля таго, каб убачыць: і Час – нерухомы, і душа чалавечая паўсюль стурбавана адным усё й тым жа!» [1, с. 5]. Праз таленавітае перастварэнне Н. Мацяш адкрыліся беларускаму чытачу сваімі непаўторнымі гранямі самацветы еўрапейскай паэзіі, адкрылася і сама перакладчыца як мастачка агранящь арыгінальны верш, каб здабыў ён красу і сілу ўжо ў аздобах беларускай мовы. Адмыслова выбранай нізкай “пацерак”-перакладаў паэтка пацвердзіла майстэрства тварыць родным словам пераразовы аўтараў розных культур, здольнасць ствараць і сваё самабытнае слова, такім чынам папаўняючы здабыткі беларускай літаратурнай мовы. І арыгінальныя творы, і пераклады сведчаць, што Ніна Мацяш сапраўды спрычынілася да ўзбагачэння скарбаў роднай мовы, да адраджэння, развіцця, шліфоўкі яе залатога запасу. Паэтка даволі смела, а то і рызыкоўна, ішла на абнаўленне прывычнага слова ды на стварэнне зусім новага, не зафіксаванага сучаснымі слоўнікамі беларускай мовы. Ужо з самых першых паэтычных зборнікаў відаць, што Н. Мацяш творча ставіцца да матчынага слова – жывой палескай гаворкі, да самабытнага слова пачынальнікаў новай беларускай літаратурнай мовы – пісьменнікаў пачатку XX ст., а таксама да арыгінальных наватвораў паэтаў-сучаснікаў. Алесь Яскевіч, гаворачы пра асаблівасці мовы ў паэтычных творах, адзначае, што ў паэзіі “крыху інакшыя законы моватворчасці, дзе мае месца рызыка – аж да поўнай улады над словам” [2, с. 29]. Гэтыя словы сапраўды можна аднесці да Ніны Мацяш – паэткі і перакладчыцы. Ад зборніка да зборніка павялічваецца колькасць наватвораў ці слоў, якія рэдка ўжываюцца ў мастацкім кантэксце і якіх няма ў сучасных беларускіх слоўніках. У пэўнай меры да мовы твораў Н. Мацяш стасуецца выказванне А. Яскевіча, дзе акрэсліваюцца асаблівасці псіхалогіі творчасці: “Паэтычная мова – гэта ў непасрэдным сэнсе моўны кентаўр, мова правапаўшарных вобразных глыбаў, часам скручаны веер так званай унутранай мовы, дзе агульнаўжытковая нацыянальная мова толькі замацаванне, толькі знешняе падабенства яе” [2, с. 29]. Ніна Мацяш выявілася чуйнаю да жывой народнай мовы, да наватвораў папярэднікаў і сучаснікаў, імкнулася да навізны ў змесце, форме і засталася непаўторнаю ў арыгінальнасці абноўленага ці створанага слова. Сапраўды, “вобразны эфект рэдкіх слоў вельмі высокі. Вытлумачэнне гэтага феномена стала магчымым у святле тэорыі інфармацыі. Сэнс гэтага эфекту ў тым, што на рэдкіх словах, як на апорных пунктах, падтрымліваецца адчуванне навізны тэксту. Словы ж, якія часта сустракаюцца, – гэта ў большасці словы інфармацыйна сцёртыя, стылёва бляклыя, калі толькі ім праз таленавітае спалучэнне з іншымі словамі не надаецца канкрэтнае значэнне, калі яны не вернуты да рэальнасці, да пачуццёвага вобраза. Апошняе, дарэчы, і складае сэнс пісьменніцкай словатворчасці” [2, с. 153]. Паэзія Ніны Мацяш вылучаецца метафарычнасцю, асацыятыўнасцю. У яе творах агульнаўжывальныя лексемы трапляюць у непрывычныя спалучальныя ўзаемаадносіны, адсюль і навізна сэнсу слова (*ажыннік будняў*). Адметныя ў арыгінальных паэтычных творах, а таксама ў перакладах індывідуальна-аўтарскія выразы – перыфразы. Прыгадаем асобныя выразы: жыццё – *ступанне па канаце пад зменлівым скляпеннем неба* [3, с. 45], мама – *бяссонная Берагіня* [3, с. 22], яйка – *несфармаванае слова*; *капшучок спадзяванняў, мякка стрымліваных межамі звапнаванае цішы* [4, с. 14]; Рыгор Барадулін – *нязбройны рыцар з тарчай псальмаспеву, не рыгарыст і не гардун – свой дзядзька і гораду, і вёсцы, і нябёсам, з запазухаю досціпаў і жартаў, з заплеччам смуткаў, непадымных жаляў пад палыновай зоркаю крывіцкай* [3, с. 29].

У творах Ніны Мацяш вельмі многа адметных слоў-наватвораў, асноваю для якіх стала ці то слова жывой народнай гаворкі, ці слова агульнапрынятае, з літаратурнай мовы, зафіксаванае ў слоўніках. Сярод іх – вялікі пласт абстрактнай лексікі. Вядома, што філасофская паэзія самой Н. Мацяш, а таксама пераклады сусветнай паэзіі і прозы падштурхоўвалі да пошуку патрэбнага слова, якога вельмі часта не знаходзілася ў сучасных слоўніках. Да таго ж пераклад твораў французскай плеяды – паэтаў XIV ст., а такса-

ма арыгінальнага бельгійскага франкамоўнага паэта XX ст. Франсуа Жакмэна, прадстаўніка неасюррэалізму і сімвалізму, паэта, які вызначаецца адметным мастакоўскім мысленнем і "ўразлівай метафарычнасцю" (Н. Мацяш) мовы, а таксама твораў славянскіх аўтараў вымагаў ад перакладчыцы высокага напружання думкі, эмоцыі, пошуку адпаведнага слова. У пасляслоўі да зборніка "Перабіраю самацветы" паэтка так акрэслівае свой выбар твораў, прыводзячы словы Алеся Разанава: "Усё, што кранае мяне, падобнае на мяне". Далей аўтарка працягвае: "Вось чаму пераклад у маім творчым высілку мае роўны статус з уласным вершаскладаннем" [1, с. 138]. Для перастварэнняў Ніны Мацяш характэрна актыўнае ўжыванне наватвораў. І гэта невыпадкова: "…словатворчасць заўсёды была глыбока ўласціва сапраўднаму перакладу, яна патрэбна часам тут больш, чым у арыгінальнай творчасці. Бо ў працэсе перакладу тая мова, на якую пераствараецца твор, прыходзіць у найвялікшае намаганне, вынікам якога бывае ўзбагачэнне нацыянальнай культуры новымі гранямі і фарбамі" [2, с. 156]. Варта паглядзець хоць бы толькі на асобныя пласты слоў, да прыкладу – на абстрактныя назоўнікі. Сярод прадуктыўных суфіксаў, пры дапамозе якіх утвараюцца абстрактныя назоўнікі, вылучаюць суфіксы *-асць* (*-осць*). У творах Н. Мацяш сустракаем такія адзінкі, якія актыўна пачалі ўжывацца ў вусным і пісьмовым маўленні, іх фіксуюць тлумачальныя слоўнікі беларускай мовы: *чыннасць, шчаснасць, удумнасць, угрунтаванасць, прасветласць, прошласць, прышласць* і інш. Сярод ужытых слоў гэтага лексіка-граматычнага разраду шмат, аднак, такіх, якіх няма ў сучасных слоўніках. Прывядзем некаторыя з іх (у кантэксце), а таксама гняздо аднакаранёвых слоў, якія падаюць слоўнікі беларускай мовы.



***Марыя Іванаўна Новік*** – *даследчык мовы. Кандыдат філалагічных навук (1990). Закончыла філалагічны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна (1978). Загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А. С. Пушкіна. Даследуе паэтыку мастацкіх твораў.*

**Адзіннасць** (адзіны, адзінства). *Як свядомая дзелька Адзіннасці, / не прымае раздробу* [3, с. 26].

**Водарнасць** (водар, водарны). *Штоpазу кожная вясна / тхне водарнасцю абяцанняў / прахлых* [4, с. 14].

**Вымоўнасць** (вымаўляць). *Чую, як дрэва ўслаўляе ашчаднасць / вымоўнасці* [4, с. 62]. *Дастаткова глыбока ўдыхнуць, каб / упасці ад моцы ягонай / вымоўнасці* [4, с. 44].

**Вялікаснасць** (вялікасны, вялікасць). *Усемагутны Бог, дай мне ўвабраць душой / Тваёй вялікаснасці хоць малую долю…* [5, с. 90].

**Дуплетнасць** (дуплет, дуплетны). *Мяккай дуплетнасцю свайго кування / зязюля важыцца нясмела / папярэдзіць* [4, с. 13].

**Жывільнасць** (жывільны, жывінка, жывіца, жывіцца, жывіць, жывучасць). *…Так і мой сонны дух у ковах тла / Плоць грубая і цёмная насіла, / Пакуль яе любоў не азарыла / Вачэй тваіх жывільнасцю святла* [5, с. 10].

**Імпэтнасць** (імпэт, імпэтны). *Дажджы, якія надавалі вясне / радасці, а лету / пышнасці, больш не натхняюць сад. / Ён іх староніцца, бы нейкай бруднай / ласкі. Дарма яны сіляцца / зноў абудзіць імпэтнасць / росту* [4, с. 65].

**Занадтасць** (надта). *Занадтасць сонечнага шчыравання / павыснажвала яркасць іхных / пялёсткаў* [4, с. 64].

**Затайненасць** (затаіцца, затаіць, таіцца, таіць, тайна, тайны, тайнасць). *Матэрыя ўхваліла затайненасць* [4, с. 24].

**Заўсёднасць** (заўсёды, заўсёдны). *Свет пазычкуе інструмант / уласнай заўсёднасці* [4, с. 35].

**Зваблівасць** (звабіць, зваблівы). *Дзе зваблівасць таго пяшчотнага настою, / якім нас хмеліў май?* [5, с. 121].

**Знікомасць** (знікаць, зніклы, знікненне). *Знікомасць усмешкі* [3, с. 37].

**Зыбістасць** (зыб, зыбанне, зыбануць, зыбнуць, зыбаць, зыбісты; зыбка, зыбкасць, зыбкі, зыбун, зыбучы). *Ноч венамі сваімі / скрозь цьмяна-сталёвую зыбістасць / шматжыльна цягнецца / да рання* [1, с. 106].

**Мінальнасць** (мінаць, мінулы, мінуцца, мінуць). *На купку мінальнасцяў часам / сыходзіць цяпло / вышняй ласкі* [4, с. 102]. *Дык гэта і ёсць яго маці. / Кволая гэта кабетка. / Віноўніца шэравокая. / Лодка, у якой ён калісьці / прычаліў да берага. / Гэта з яе выкараскваўся / на свет, / на мінальнасць* [6, с. 81].

**Мянлівасць** (мяняцца, мяняць). *Чуйны мураш, / які ў пошуках рады / ад самаўладнай мянлівасці / таго, што мянуем жыццём, безабаронна завяз / у дзяцінай крыўдлівасці / марнай* [3, с. 51].

**Істасць.** *Уяўнасць больш, чым істасць, мне ў ахвоту* [5, с. 64].

**Ісцівасць** (ісціна, істотны). *Ты ведаеш, яе* [дабрадзейнасці] *ні звання там няма, / Дзе на-*

*паказ яна. А маска надзяецца, / Каб ісцівасць душы скрыць ад людзей* [5, с. 103].

Варта адзначыць, што ў творах Ніны Мацяш сустракаем такія словы, як *іста, істы, ісцівы*, аднакаранёвыя да *істасць, ісцівасць*. Прывядзем кантэксты: *Іста жывога, калі яно камянее, / зноў набывае сваю абсалютную этымалогію* [4, с. 98]. *Ты ведаеш, што ісцівы паэт у люду / Не ў учце пры жыцці* [5, с. 104]. Сярод наватвораў паэткі – і абстрактны назоўнік *праўднасць*, матываваны аднакаранёвымі словамі *праўда, праўдзівы, праўдзівасць*. У перакладах твораў Франсуа Жакмэна чытаем: *Душа цешыцца колкім / паветрам. Яна зноў набывае / жаданую праўднасць* [4, с. 96]. На аснове новых слоў з'явілася яшчэ адно – *істапраўднасць*. Прыгадаем кантэкст: *Сонца скажае лінію / дня. / Яно кліча хутчэй да слепаты, / а не да істапраўднасці* [4, с. 50].

Сярод наватвораў паэткі вылучаецца адметная група складаных абстрактных назоўнікаў:

**Дабраяўнасць.** *Фігуры зла, гнюсоты, пошасці, бязладдзя / У вабкіх строях дабраяўнасці самой* [5, с. 106].

**Дужакрыласць.** *Ніко, Прырода кожнага ўзброіць змагла: / Быка – рагамі, дужакрыласцю – арла* [5, с. 26].

**Небапрычашчэнне.** *Падмосткі Дантэ толькі там. / І небапрычашчэнне. / О Муза* [6, с. 54].

**Патойбочнасць.** *На днях ужо ляжыць пазнака / патойбочнасці, якая не прымае подавак / матэрыі* [4, с. 61].

**Праўдападабенства.** *Адбылося нават / дамоўленае спатканне. / Па-за межамі нашай наяўнасці. / У страчаным раі / праўдападабенства* [6, с. 80].

**Прасталегласць.** *Безаб'ектная прасталегласць / кіруе ягоным кружляннем* [4, с. 88].

**Пустапарожнасць.** *Адрозніць не здолею пустапарожнасць* [6, с. 144].

**Самаастуда.** *З натуры – / жарына ў попеле будняў / і самаастудзе кайнай малітвай* [3, с. 39].

**Самаашука.** *Не ўмееш быць нядобрай. / Нават там, / дзе дабрата стаецца нечым іншым – / падставай для самаашукі злой* [3, с. 39].

**Самадратаванне.** *А мой вечны тлум будзённы, / маё сэрца і карона, / сэрца самадратаванне / і кароны той спаданне…* [6, с. 34].

**Самакатастрофа.** *Руіны ў трале часу – / рэч звычайная. / А да ўсяго, / ты гэткі сумнавокі / дасціпнік, / гэткі тонкі шкель, / што ты, бадай, і самакатастрофу / пашлеш… далёка!* [3, с. 42].

**Самаспакуса.** *Існаванне – гэта / самаспакуса* [4, с. 64].

**Самастрата.** *Вось, расхінаюся й я прад Табою, / растапляюся – / да самастраты, / да страты ўласнае самасці зямной…* [7, с. 46].

**Тагасвецце.** *Каб і яму, як мне, балела душа па сумленных і несумленных, ахвярных і сквапных, хітрых і абыякавых палтаўчанах, прагнулася справядлівасці дзеля кожнага і волі дзеля ўсяго люду, каб разам з Марусяй прайсці ўсімі ўздымнымі ды пякельнымі сцежкамі кахання і здрады, у прорве роспачы ўжо схіляцца да тагасвецця і ўсё-ткі не зламацца дарэшты, вярнуцца да жыцця…* [3, с. 123].

**Турботаварот.** *О, каб далося і вам / Стацца нямарнай надзеяй, / Што, як бы ні мэнчыў усіх / Злыбедны турботаварот, / Вы будзеце помніць, што вы – / БЕЛАРУСКІ НАРОД, / Жывы на нябёсах, / Які і на прахлай зямлі / Не згібее* [7, с. 19].

Даволі вялікую групу сярод наватвораў у паэзіі Н. Мацяш складаюць абстрактныя назоўнікі, утвораныя пры дапамозе суфіксаў *-нн-, -енн-* (*-энн-*). Цікавы наватвор *адтайнаванне*. У творах паэткі сустракаем шэраг аднакаранёвых слоў: *таіна, тайнота, тайнаванне, адтайнавацца*. Прыгадаем кантэксты да некаторых з іх: *Вышукваючы засень дрэваў, / барвінак цьмяна адчувае, / што творыцца нейкае тайнаванне* [4, с. 17]. *Святло заходзіць у лес, / быццам адтайнаванне* [4, с. 33].

**Вялічанне.** *Усшэсця Госпадава дзень. / Вялічанне Ўсёмоцы Духа. / Прыпятых да зямлі людзей / Слоў шаматкая пацяруха* [7, с. 7].

**Задзіваванне.** *Дрэва адладжвае крону. / Яно напінае пупышку аж па / беражочкі смалы і / страляе кшталтам задзівавання* [4, с. 25].

**Занемаганне.** *Медны цуд камп'ютэрнага веку – / Зелянкава-жоўты бранзалет, / Ад усіх занемаганняў лекі: / Покуль носіш – будзе ўсё як след!* [8, с. 218].

**Затурбаванне.** *Ні страху, ні затурбавання, / Ні ад сяброўкі пагарджання, / Ні корці збагачаць сябе…* [5, с. 28].

**Земнаванне.** *Прымі, зямляча мілы, віншаванне! / Ажно губляюся, што пажадаць: / Ты так бліскуча творчым шчыраваннем / Умееш земнаванню сэнс надаць* [8, с. 196].

**Маяванне.** *Вось ружы б хоць, не болей дня / Далося ім на красаванне: / Ледзь апынуцца ў маяванні, / Як блякне іх харашыня* [5, с. 74].

**Пашлюбаванне.** *Брыз абвяшчае неміласэрныя / пашлюбаванні. / Нейкі апакаліпсісны бляск / ува ўсім, што раджаецца* [4, с. 6].

**Труднаванне.** *Ты на зямлі, каб несці крыж з пакорай, / Наканаванне дзейснячы сваё. / І ты чыймусьці труднаванню ўторыш, / І хтось мацуе спраўджванне тваё* [7, с. 31].

**Удавольванне.** *Удавольванне ахвяравана дзеля / ўсяго выпадковага, але цудоўнага* [4, с. 24].

**Укарэньванне.** *А потым – / а так неўзабаве – / слёзы, і крыўды, і роспач / з укарэньваннем у зацятасць* [7, с. 47].

Для некаторых наватвораў Н. Мацяш асновай сталі словы, якія ў акадэмічным “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” падаюцца з паметай *размоўнае.* Так, сярод аднакаранёвых слоў *задумлівы, задуменны, задуменнасць* слоўнік падае як размоўнае слова *задумны.* У творах Н. Мацяш ужываецца і вытворны ад яго абстрактны назоўнік *задумнасць.* Як размоўныя падаюцца і словы *застыглы, летаць*, хоць, вядома, такая стылістычная дыферэнцыяцыя даволі спрэчная і названыя словы могуць быць раўнапраўнымі варыянтамі, як і тыя, што падаюцца ў сучасных слоўніках з паметай *абласное*: *злагада, пекната, пахібка, бессань, ашука* і інш. Што да новаўтвораных назваў абстрактных паняццяў – *задумнасць, застыгласць, леткасць,* – то яны не ўспрымаюцца як гутарковыя і маюць усе падставы для пашырэння ў літаратурнай мове. Гэта адносіцца і да такіх наватвораў з суфіксам *-ств-* (*-цтв-*), як *далікацтва, няверства, жыцядайства, немаўленства, нікчэмства, няверства, пахлебства, пачварства, пустахвальства, творства.*

У творах Н. Мацяш шмат наватвораў, якія папаўняюць пласт абстрактнай лексікі і з’яўляюцца здабыткам нацыянальнай мовы. Напрыклад: *пашанота, марнота, руйнота, белата, вільгота, весялота; удзяка, услава, дагода, аслона, абнямога, няшчада, знявера, ахінка, подумка; аддар, выбліск, высверк, невараць, нечап, подзьмух, пожад, поклік, порух, пропад, пострах, розлуск, развяз, ускалых, узрух, шчэм; неабсяг, неадзінота, невяртанне, непрамінанне, нямамяць, несустрэча.*

Мова мастацкай літаратуры заўсёды была крыніцай узбагачэння лексікі беларускай літаратурнай мовы. Словатворчасць мастакоў слова спрыяла і спрыяе папаўненню лексічных сродкаў розных стылявых узроўняў, асабліва сродкаў высокага стылю. Арыгінальныя творы Ніны Мацяш, а таксама яе пераклады з розных моў свету сведчаць пра творчыя адносіны паэткі да жывой народнай мовы, да лексічнага ядра беларускай літаратурнай мовы, пра ўменне абнаўляць прывычныя словы, напаўняць іх новымі адценнямі, надаваць ім “полісемантычную змястоўнасць” (А. Яскевіч), навізну, узвышанасць.

### Спіс літаратуры

1. **Мацяш, Н.** Перабіраю самацветы : выбраныя пераклады з еўрапейскай паэзіі / Н. Мацяш. – Мінск, 2002. – 138 с.
2. **Яскевіч, А.** Сумежжа : мова, пераклад, вытокі прозы / А. Яскевіч. – Мінск : Маст. літ., 1994. – 253 с.
3. **Мацяш, Н.** У прыгаршчах ветру : вершы, пераклады, эсэ / Н. Мацяш. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2009. – 144 с.
4. **Жакмэн, Ф.** Поры году : вершы / Ф. Жакмэн; пер. з фр. Н. Мацяш. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 2003. – 116 с.
5. **Мацяш, Н.** Багаславі сустрэчу мне… : выбраная лірыка Плеяды / Н. Мацяш. – Берасьце, 2001. – 168 с.
6. **Шымборска, В.** Свет, варты вяртання : лірыка / В. Шымборска; пер. з польскай і камент. Н. Мацяш; прадм. У. Калесніка. – Мінск : Маст. літ., 1991. – 151 с.
7. **Мацяш, Н.** Палёт над жытам : вершы / Н. Мацяш. – Брэст : Выд. С. Лаўрова, 1997. – 58 с.
8. **Мацяш, Н.** Душою з небам гаварыць : выбраная лірыка / Н. Мацяш. – Мінск : Маст. літ., 1999. – 462 с.

*Актуальная тэма*

Фёдар ПІСКУНОЎ

# СПАЛУЧЭННЕ ГАЛОСНЫХ У ЗАПАЗЫЧАНЫХ СЛОВАХ: *ІЯ* (*ЫЯ*), *ІЕ* (*ЫЕ*) ЦІ *ІА* (*ЫА*), *ІЭ* (*ЫЭ*)

У артыкуле “Правапіс спалучэнняў *еа* / *эа*, *ея* / *эя*: Спроба камп’ютэрна-лінгвістычнага аналізу” [1] ужо былі дэталёва разгледжаны выпадкі напісання спалучэнняў ***еа*** і ***эа***, ***ео*** і ***эо*** ў словах замежнага паходжання. Паказана, што толькі ў двух словах (*плеяда*, *эякуляцыя*) і іх вытворных напісанне згаданых спалучэнняў адрозніваецца ад замацаванага. Сфармуляваныя ў тым артыкуле крытэрыі не разыходзяцца (за выняткам слоў *Барнео* / *Барнеа*, *радэо* / *радэа*) з новымі зменамі ў правапісе [2].

З нагоды з’яўлення ў адным з нумароў часопіса каментарыя да § 9 новай рэдакцыі “Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі” (“…нягледзячы на тое, што ў гэтым параграфе сфармуляваны асноўныя, найбольш тыповыя правілы правапісу спалучэнняў галосных у словах іншамоўнага паходжання, застаецца пэўная колькасць напісанняў, якія могуць быць вызначаны толькі па слоўніку” [3]) паўстае патрэба працяг-

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

нуць аналіз, каб паказаць, што сфармуляваныя ў § 9 правілы **дастатковыя** для правільнага напісання пэўнага корпуса слоў.

Перш за ўсё заўважым, што выпадкі літарных спалучэнняў ***іа*** (***іо́***), ***ыа*** (***ыо́***), ***іэ*** (***ыэ***) у запазычаных словах даволі рэдкія* і лёгка класіфікуюцца наступным чынам:

1. На стыку кампанентаў складанага слова, першым з якіх з'яўляецца прэфікс з канцавымі галоснымі ***і*** / ***ы*** (*ангі-, анты-, бі-, гемі-, ды-, квазі-, мілі-, оксі-, перы-, полі- / палі-, семі-, тры-, эквіэпі-*), а другі пачынаецца з літар ***а***, ***о***, ***э*** і можа выступаць у якасці самастойнага слова ці афіксоіда з пачатковай неётаванай галоснай (напр. *-эдр-, -арх-, -айк-*): ***ангі****эктазія* мед. (але *ангіялгія*, *міялгія*: *ангія- + -алгія*, *мія- + -алгія*), ***анты****адгезійны*, ***анты****электрон*, ***бі****аксіяльны*, ***гемі****анестэзія* мед., ***гумі****арабік*, ***ды****аксід* хім., ***ды****амін* хім., ***ды****архія*, ***квазі****актыўны* фіз., ***мілі****ампер*, ***перы****адэніт* мед., ***палі****а́рхія*, ***тры****эдр*, ***палі****эдр* (параўн.: ***гекса****эдр*, ***тэтра****эдр*), ***полі****этылен*, ***полі****эмбрыянія*, ***семі****арыдны*, ***тры****ангуляцыя* (параўн.: *ангулярны*, *ангуляцыя*), ***тры****атлет*, ***тры****атлон* (параўн.: *дуатлон*, *поліатлон*, *пентатлон* і г. д.), ***тры****ацэтат*, ***экві****афінны* мат., ***эпі****аб'ектыў* тэх., ***эпі****айкія* (параўн.: *айконім*).

2. У спалучэннях ***іо́***, ***ыо́*** ў складзе трохлітарных фрагментаў *іо́п*, *іо́б*, *ыо́п*, *ыо́б*. Спіс такіх слоў абмежаваны: *Анціо́па* міф., *Каліо́па* міф., *Ніо́ба* міф., *Эфіо́пія* (і вытворныя: *эфіоп*, *эфіопка* і г. д.), *ніо́бій* і вытворныя (*ніобіевы*, *ніабат* хім.), *дыо́птр*, *дыо́птрыя* (*дыаптрычны*), *трыо́ба* (від экстрэмальных аўтагонак), *"Рыо́ба"* (гандлёвая марка).

3. У словах *іо́н*, *Іардан*, іх вытворных і кампанентах складаных слоў: *іанізацыя*, *неіанагенны*, *іарданскі* і г. д.

4. У нескланяльных назоўніках ніякага (мужчынскага) роду, а таксама аманімічных ім прыслоўях і незмяняльных прыметніках, якія раней пісаліся з канцавымі *іо* / *ыо*: *ін-фоліа* (нескл. н.; прысл.; нескл. прым.), *адажыа* (нескл. н.; прысл.), *Токіа* (нескл. муж.), *ажыа* (нескл. н.; прысл.), *трыа* (нескл. н.; прысл.) і г. д.

5. У складанаскарочаных словах, у тым ліку тых, што падпарадкоўваюцца міжнародным правілам тэрмінаўтварэння (тычыцца ў асноўным хімічнай / фармакалагічнай тэрміналогіі): *авіаль* (сплаў *авіяцыйны алюміній*), *дыазоній* хім., *дыакарб* фарм., *дыазепам* фарм., *дыан* хім. (= *дыфенілолпрапан*), *антыангін* фарм., *гліаксаль* хім.

**Заўвага:** 1. Словы *дыэлектрык*, *дыэлектрычны* этымалагічна звязаны з прэфіксам *дыя-* (ад грэч. *diá* 'праз') і замацаваліся ў напісанні ў выніку паглынання *я* дзеля непарушэння словаўтваральнай мадэлі для складаных слоў з другім кампанентам *-электрык*, *-электрычны* (***ды****электрык*, ***піра****электрык*, ***сегнета****электрык*, ***п'еза****электрык* і г. д.).

2. Слова *біятлон* этымалагічна звязана з прэфіксам *бі-* (лац. *bis* 'двойчы'), а не *бія-* (грэч. *bíos* 'жыццё'), і было б карэктней падаваць яго ў слоўніках як *біатлон* (параўн.: *дуатлон*, *дэкатлон*, *пентатлон*, *поліатлон*).

Ва ўсіх астатніх выпадках у межах аднаго кампанента запазычанага слова ўжываюцца спалучэнні ***ія*** (***іё***), ***ыя*** (***ыё***), ***іе*** (***ые***), што, мяркуючы па наборы слоў-прыкладаў, вынікае з тэксту § 9 "Правілаў...". Гэта датычыць і такіх слоў, як *міелі́т*, *астэаміелі́т*, *поліеміелі́т*, *піетэ́т*, памылкова прапанаваных у каментарыях [3] для напісання са спалучэннем ***іэ***. Напісанне "піэтэт" не пацвярджаецца СБМ-87, БРС-2003, якія даюць адзінае напісанне *піетэт* побач з аднатыповымі *піетызм*, *піетыст*. Відавочна некарэктнае** напісанне слоў "міэлацыт", "міэлін", "міэлінавы", "міэліт", "поліяміэліт", крыніцай якога былі некаторыя рускамоўныя слоўнікавыя выданні першай паловы XX ст. [4], часткова выпраўлена ў РБС-2003, дзе прыведзена толькі правільная форма *поліяміеліт*, выдалена форма "астэаміэліт" без прывядзення правільнага напісання, дабаўлены правільныя напісанні *міелацыт*, *міелін*, *міелінавы*, *міеліт* (т. 2, с. 384), але адначасова захаваны і састарэлыя дублеты (т. 2, с. 397 – 398).

### Спіс літаратуры

1. **Піскуноў, Ф.** Правапіс спалучэнняў *еа / эа, ея / эя* : Спроба камп'ютэрна-лінгвістычнага аналізу / Ф. Піскуноў // Роднае слова. – 2006. – № 1.

2. **Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.** – Мінск : Нац. цэнтр прававой інфарм. Рэсп. Беларусь, 2008.

3. **Лукашанец, А.** Правапіс галосных (§ 9) / А. Лукашанец, Л. Кунцэвіч, І. Кандраценя // Роднае слова. – 2009. – № 4.

4. **Словарь иностранных слов.** – М. : ОГИЗ РСФСР, Гос. ин-т "Сов. энцикл.", 1937. – Режим доступа : http://www.tangomango.ru/html/m/mi6lit.html.

### Скарачэнні

**СБМ-87** – Слоўнік беларускай мовы: Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне / пад рэд. акадэміка АН Беларусі М. Бірылы. – Мінск, 1987; **БРС-2003** – Беларуска-рускі слоўнік: у 3 т. / пад рэд. акадэміка НАН Беларусі А. Падлужнага. – 3-е выд. – Мінск: БелЭн, 2003.

* У фрагменце электроннай базы аўтара, выкладзенай у праграмах "Літара" і "Парадыгма" (рэжым доступу: http://pravapis.tut.by/), налічваецца 71 слова, у поўным варыянце – 241, у СБМ-87 – 61 слова.

** Згаданыя словы ўзыходзяць да грэчаскага *myelós* 'касцявы мозг', параўн. з грэчаскім *pýelos* 'лаханка'. Апошні кампанент дае пачатак такім словам, як *піеланефрыт*, *піеліт*, арфаграфічна карэктна пададзеным у СБМ-87 і БРС-2003.



# МЕТОДЫКА І ВОПЫТ

*Новае ў правапісе*

Віктар ІЎЧАНКАЎ

## БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС У АПОРНЫХ СХЕМАХ

2010 год азнаменаваны тым, што ў дзеянне ўступае Закон Рэспублікі Беларусь “Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”, прыняты 23 ліпеня 2008 г. Законам зацверджана новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу, над якой працавалі навукоўцы, заканадаўцы. На адрас распрацоўшчыкаў, у Міністэрства адукацыі, у Нацыянальную акадэмію навук Беларусі ад людзей, неабыякавых да лёсу роднай мовы, прыходзілі шматлікія заўвагі і прапановы. Яны ўважліва аналізаваліся, слушныя з іх прымаліся і станавіліся фактам новай рэдакцыі “Правіл…”.

Гісторыя распарадзілася так, што новая рэдакцыя правіл беларускага правапісу была зацверджана не пасля прыняцця адпаведных дакументаў у суседзяў-расіян, як гэта назіралася ў ХХ ст. Так, у 1917 – 1918 гг. адбылася рэформа правапісу і графікі рускай мовы, што своеасаблівым рэхам адгукнулася для беларусаў у 1933 г. У 1956 г. правілы рускай арфаграфіі былі ўдасканалены і набылі сучасны выгляд, падобнае адбылося і ў нас, толькі ў 1959 г. Сёння можна канстатаваць, што беларускі закон аб правапісе – беспрэцэдэнтны крок у развіцці грамадства суверэннай і незалежнай Беларусі.

Змены ў правапісе не вырастаюць на пустым месцы, а дыктуюцца натуральным ходам развіцця мовы. Правапіс – люстэркавы адбітак таго, што адбываецца ў мове і ўвогуле ў грамадстве.

Цяпер асабліва актуальнай становіцца роля настаўніка ў рэалізацыі палажэнняў закона. Нашы крокі павінны быць метадычна выверанымі, матэрыял, прапанаваны ў дапамогу педагогам, – жывым і наглядным, сучасным.

Шчырая зацікаўленасць грамадства правапіснымі праблемамі наводзіць на думку, што лёс роднай мовы хвалюе многіх. Значыць, мы ўмацоўваемся сваёй еднасцю, выхоўваем у маладога пакалення новыя густы, берагаем духоўныя каштоўнасці, ушаноўваем спадчыну.

Закон Рэспублікі Беларусь “Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі”, які пачне дзейнічаць з 1 верасня 2010 г., і ёсць адзін са складнікаў паспяховага аднаўлення духоўнай спадчыны і развіцця літаратурнай мовы – найвышэйшай формы праяўлення нацыянальнай культуры любога народа.

Увазе чытачоў прапануюцца апорныя схемы па новай рэдакцыі беларускага правапісу. Правілы падаюцца пакрокава ў выглядзе стандартных фігур рознай формы. Схемы адпавядаюць структуры правіл (Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. – Мінск: Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2008).

Новае і тое, што патрабуе асаблівай увагі, у апорных схемах пазначана клічнікам.

---

***Віктар Іванавіч Іўчанкаў** – мовазнаўца, журналіст. Доктар філалагічных навук, прафесар. Дарадца міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь па сувязях са СМІ і грамадскасцю. З 1989 г. працуе ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (спачатку на пасадзе дацэнта, з 1996 г. – загадчыка кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта). Аўтар больш як 220 навуковых і метадычных прац, у тым ліку пяці манаграфій. Змясціў на старонках друку больш за 100 публіцыстычных матэрыялаў па праблемах адукацыі, навукі і выхавання. Займаецца даследаваннем праблем стылістыкі беларускай і рускай моў, правапісу. Заснавальнік навуковай школы лінгвістыкі публіцыстычнага тэксту і дыскурснага аналізу СМІ. Член Беларускага саюза журналістаў. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, выдатнік друку Рэспублікі Беларусь.*



## ЛІТАРЫ *О, Ё*

Схема 1

# ЛІТАРА *О*

**Пад націскам:**
*год, кот, скрозь, шоўк, ко́лас, мо́ва, до́ўга, шо́лах, плячо́, разго́ртваць, дапамо́га, О́сла, О́ксфард, Орск.*

**Не пад націскам:**
*гады́, каты́, скразны́, шаўкі́, каласы́, маўле́нчы, даўгава́та, шалахну́ць, плечавы́, разгарну́ць, дапамагчы́.*



**Увага:**
*То́кіа, Ватэрло́а, тры́а, Медэ́а, ада́жыа, сальфе́джыа, арпе́джыа, дыза́жыа, капры́чыа, імпрэса́рыа, партфо́ліа, Касто́ліа.*

Схема 2

# ЛІТАРА *Ё*

**Пад націскам:**
*лёс, вёска, сёстры, цёмны, цёплы.*

**Не пад націскам:**
**Толькі ў словах з каранямі *ёд-* і *ём-*:**
*ёдапіры́н, ёта́цыя.*
**У складаных словах з першай часткай *радыё-*:**
*радыёста́нцыя, радыёгра́ма, радыёантэ́на.*

**Увага:**
**Калі першая частка складанага слова ўтворана ад назвы хімічнага элемента *радый*, то пішацца літара *е*, якая з'яўляецца злучальнай галоснай:**
*радыебіяло́гія, радыеакты́ўнасць, радыеметры́чны, радыеізато́п* і інш.
**У першым складзе перад націскам у гэтым выпадку пішацца *я*:**
*радыяме́трыя, радыяхі́мія, радыяло́гія, радыягра́фія.*

**ЛІТАРЫ *Э, Е***

Схема 3

# ЛІТАРА Э

**У словах славянскага паходжання і даўно запазычаных словах абазначаецца літарай *а*:**
*стрэ́хі – страха́, шэ́ры – шарэ́ць, чэ́ргі – чарга́, крэмль – крамлёўскі, жэ́мчуг – жамчу́жына, арэ́нда – арандава́ць, майстэ́рня – ма́йстар.*



**У запазычаных словах пасля губных зычных, а таксама пасля *з, с, н*:**
*капэ́ла, сурвэ́тка, экзэмпля́р, маянэ́з, тунэ́ль, сэ́рвіс, інтэрнэ́т;*
**але:**
*бі́знес, меда́ль, ме́неджмент, не́рвы, парла́мент, перспекты́ва, газе́та, сервіз.*

**На канцы запазычаных нязменных слоў, а таксама ўласных імён і геаграфічных назваў пасля зычных, акрамя *л, к*:**
*купэ́, рэзюмэ́, рэнамэ́, кафэ́, галіфэ́, кашнэ́, кабернэ́, фрыкасэ́, плісэ́, каратэ́, дэкальтэ́; Стру́вэ, Мерымэ́, Эйвэ́, Хасэ́, Мо́рзэ, Табі́дзэ, Брэгва́дзэ, Каба-Ве́рдэ, Душанбэ́, Сан-Тамэ́;*
**але:**
*са́льта-марта́ле, філе́, камюніке́, піке́.*

Схема 4

# *-ЭЛЬ, -ЭР*
# У ЗАПАЗЫЧАНЫХ СЛОВАХ



**Не пад націскам:**
*шні́цаль, мі́таль, фо́рталь, ка́рцар, камп'ю́тар, лі́дар.*

**Пад націскам:**
*гатэ́ль, картэ́ль, арыэ́ль, фарэ́ль, мільярдэ́р.*

**Ва ўласных імёнах:**
*Ла́ндэр, О́дэр, Пі́тэр, Юпі́тэр.*

## ЛІТАРЫ *А*, *О*, *Э* Ў СКЛАДАНЫХ СЛОВАХ

Схема 5

### ЛІТАРЫ *А*, *О*

**Калі ў другой частцы складанага слова націск на першым складзе, то ў першай частцы замест *о* пішацца *а*:** *дабрадзе́й, скарахо́д, салява́р.*

**Калі ў другой частцы складанага слова націск не на першым складзе, то ў першай частцы захоўваецца *о*:** *во̀гнетрыва́лы, высо̀каідэ́йны, ко̀негадо́ўля.*

**Літара *о* пішацца ў першай частцы складаных слоў, калі другая частка пачынаецца з *ў* (*у* нескладовага):** *марозаўсто́йлівы, торфаўбо́рачны, вогнеўсто́йлівы, збожжаўбо́рка.*

!

***Слова-, што-, фота-, мота-*:**
*словафо́рма, словатво́рчасць; штодзённы, штоме́сяц, штого́д; фотазды́мак, фотако́пія, фотаплёнка, фотака́мера, фотавы́стаўка* і г. д.; **але:** *фатагра́фія* і вытворныя ад яго;
*мотаго́нкі, мотакро́с, мотаспо́рт* і г. д.; **але:** *матаво́з, матацы́кл* і вытворныя ад іх.

Схема 6

### ЛІТАРА Э Ў СКЛАДАНЫХ СЛОВАХ

**Захоўваецца ў першай частцы складаных слоў:**
*мэтанакіраваны, мэтазгодна, рэдказубы, шэравокі, арэхападобны, крэдытаздольнасць, тэлебачанне.*

**ЛІТАРЫ *Е, Ё, Я***

Схема 7

# ЛІТАРА *Я*

**У першым складзе перад націскам *е, ё* пераходзяць у *я*:**
*зе́млі – зямля́, зе́лень – зялёны, се́м'і – сям'я́, сёлы – сяло́, сёстры – сястра́, вёслы – вясло́, вёска – вяско́вы.*

**У іншых ненаціскных складах *е* не пераходзіць у *я*:**
*селяні́н, зеляні́на, вестуны́, лесніκі́, векаве́чны, верацяно́, нерухо́мы, безупы́нны, во́зера, ве́села, во́сем, во́сень.*




**Увага!**
*Дзе́вяць – дзявя́ты, дзе́сяць – дзяся́ты, сем – сямна́ццаць, во́сем – васямна́ццаць.*

**Незалежна ад націску *е* не пераходзіць у *я* ў запазычаных словах:**
*леге́нда, метро́,*
**але:**
*дзяжу́рства, каляндáр, яфрэ́йтар, сяржа́нт.*

**Літара *я* пішацца ў некаторых каранях слоў нязменна:**
*ві́цязь, су́вязь, за́яц, яравы́, вяза́ць, за́вязь, по́вязь, мяккава́ты, цягаві́ты, цяжкава́ты, святкава́ць, ме́сяц, по́яс, па́мяць, дзе́вяць, дзе́сяць, ты́сяча, Бе́сядзь, Пры́пяць; япру́к – япрука́, япруко́вы; ядло́вец – ядлаўцо́вы.*

**Заўсёды захоўваецца *е* ў першым складзе перад націскам пасля заднеязычных *г, к, х*:**
*геро́й, Гера́сім, кера́міка, кефі́р, Херсо́н.*

**ЛІТАРЫ *Е, Ё, Я***

Схема 8

# ЛІТАРЫ *Е, Ё, Я* Ў СКЛАДАНЫХ СЛОВАХ

**У першай частцы складанага слова *е* захоўваецца незалежна ад таго, на якім складзе націск у другой частцы:**
*сенакасі́лка, серпадзю́б, верхнеазёрскі, белабры́сы, землетрасе́нне, светапо́гляд, свежавы́мыты, свежамаро́жаны, сенажа́ць.*

**У першай частцы складанага слова *ё* захоўваецца пры націску не на першым складзе другой часткі і замяняецца на *е*, калі націск на першым складзе другой часткі:**
*лёгкаатлеты́чны, лёдадрабі́лка, мёдавара́нне; ледарэ́з, медаго́нка, легкаду́мна.*

**Калі першай часткай складаных слоў з'яўляецца аснова *велік- / вялік-*, напісанне літар *е* або *я* залежыць ад таго, які склад у другой частцы націскны: калі першы – пішацца *е*, калі другі – пішацца *я*:**
*велікаду́шны, велікару́скі, велікаму́чанік, велікасве́цкі; Вялікабрыта́нія, вялікадзяржа́ўны, вялікагало́вы.*

**Злучальная галосная *е* ў складаных словах пераходзіць у *я*, калі націск на першым складзе ў другой частцы складанага слова:**
*баязды́льны, зернясхо́вішча, земляро́б, жыццяра́дасны, крывятво́рны;*
**але:**
*боепрыпа́сы, жыццеапіса́нне, землекарыста́нне, зернебабо́вы.*

**Злучальная галосная *е* ў складаных словах захоўваецца, калі другая частка пачынаецца з *ў* (*у* нескладовага):**
*зернеўбо́рачны, вогнеўсто́йлівы.*
**Складанаскарочаныя словы пры напісанні звычайна разглядаюцца як простыя словы з адным націскам:**
*зямфо́нд, лясга́с.*

## ПРЫСТАЎНЫЯ ГАЛОСНЫЯ *І*, *А*

Схема 9

# ЛІТАРА *І*

**У пачатку слова перад спалучэннямі зычных з першай літарай *м*:**
*імшара, імчаць, імгла, імгненне, імклівы.*

**У пачатку слоў перад спалучэннямі зычных з першымі літарамі *р, л*, калі слова з такімі спалучэннямі зычных пачынае новы сказ або стаіць пасля знака прыпынку ці слова, што заканчваецца на зычную:**
*іржа, іржаць, іржышча; ілгун, ільдзінка.*

**Калі слова з такім пачатковым спалучэннем зычных стаіць пасля слова, якое заканчваецца на галосную, і пасля яго няма знака прыпынку, то прыстаўная літара *і* не пішацца:**
*Азалаціла восень поле ржышчам, дрэвы лісцем, гумны снапамі* (К. Чорны).

Схема 10

# ЛІТАРЫ *І, А*

!

**1. У некаторых словах можа з’яўляцца прыстаўная галосная *а*:**
*імшара* і *амшара, іржаны* і *аржаны, іржышча* і *аржанішча.*
**2. Пасля прыставак і першай часткі складанага слова, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя літары *і* і *а* перад *р, л, м* не пішуцца:**
*заржавець, заржаць, зардзецца, замглёны, замшэлы, прымчацца, вокамгненна.*

Мікалай ЯЛЕНСКІ

# ТЭАРЭТЫЧНАЯ БАЗА ЛІНГВАМЕТОДЫКІ

Лінгваметодыка як педагагічная навука развіваецца на аснове пэўнай тэарэтыка-метадалагічнай базы. Пад метадалогіяй педагогікі разумеецца “сістэма ведаў аб асновах і структуры педагагічнай тэорыі, прынцыпах, падыходах і спосабах дабывання ведаў, якія адлюстроўваюць педагагічную рэчаіснасць, а таксама сістэма дзейнасці па атрыманні такіх ведаў і абгрунтаванні праграм, логікі і метадаў, ацэнкі якасці даследчай працы” [1, с. 26]. Асэнсаванне паняцця “метадалогія педагогікі” набывае такім чынам анталагічны характар і суадносіцца, нарэшце, з педагагічнай рэальнасцю, а не з агульнатэарэтычнымі ўяўленнямі аб працэсах пазнання. Заўважым, што традыцыйна ў якасці метадалагічнай асновы лінгваметодыкі называлася філасофія.

У **аснове кожнай прадметнай методыкі** (прыватнай дыдактыкі) як асобнай галіны педагагічнай навукі знаходзіцца **базавая навука**, якая вызначае яе змест (чаму вучыць?): матэматыка, фізіка, хімія і г. д. У лінгваметодыцы такая навука – *лінгвістыка.* Што да тэхналогіі навучання, яе абгрунтаванне даюць *педагогіка* і *псіхалогія*. Стратэгічная мэта моўнай адукацыі, несумненна, суадносіцца з тэарэтычнымі палажэннямі *філасофіі адукацыі*. Таму тэарэтыка-метадалагічнай асновай лінгваметодыкі, на наш погляд, з’яўляецца **сукупнасць лінгвістычных, педагагічных, псіхалагічных, філасофскіх ідэй, прынцыпаў, установак і працэдур, якія ляжаць у аснове даследавання і трансфармацыйных працэсаў моўнай адукацыі.**

Каб праверыць сапраўднасць выказанага меркавання, паспрабуем знайсці адказы на наступныя пытанні: ці адбіваюцца парадыгмальныя змены ў лінгвістыцы на лінгваметодыцы? Як звязана лінгваметодыка з педагогікай, псіхалогіяй і філасофіяй адукацыі?

Моўная адукацыя на працягу XX ст., на думку вядомага расійскага лінгвіста, доктара філалагічных навук, прафесара І. Міласлаўскага, базавалася на трох асноўных лінгвістычных парадыгмах (прымем наступнае азначэнне тэрміна “парадыгма” ў якасці сукупнасці метадалагічных установак, якія адлюстроўваюць сутнасныя рысы з’яў рэчаіснасці).

Першая лінгвістычная парадыгма (існавала ў першай палове мінулага стагоддзя) будавалася на “фармальнай класіфікацыі моўных фактаў” [2, с. 50]. Яе распрацоўка звязана з імёнамі Ф. Буслаева і Ф. Фартунатава. У лінгваметодыцы ў сувязі з гэтым трывала замацаваліся логіка-граматычны і фармальна-граматычны падыходы. У адпаведнасці з логіка-граматычным падыходам (заснавальнікам яго быў Ф. Буслаеў, які сцвярджаў, што “грамматика приуготовляет детей к логике”), вывучэнне мовы ажыццяўляецца на аснове лагічнага аналізу граматычных з’яў і накіравана на засваенне граматычных ведаў і развіццё лагічнага мыслення дзіцяці. Апошняе было, бадай што, галоўнай мэтай школьнай моўнай адукацыі: “Для дзяцей лагічныя катэгорыі з’яўляюцца значна больш зразумелымі ў мове, у граматыцы, чым у адцягнутых мудраваннях. Настаўнік павінен у самой граматыцы, у чытанні байкі, у разборы сказа вучыць дзяцей мысленню” [3, с. 65].

Прыкладна такога пункту гледжання на школьную граматыку прытрымліваліся вядомыя лінгвісты і метадысты М. Дурнаво, Дз. Ушакоў, В. Малахоўскі, А. Пяшкоўскі. Апошні, у прыватнасці, спецыяльна падкрэсліваў, што “граматыка займаецца найбольш схаванымі ад нашай свядомасці з’явамі мовы (фармальным чляненнем яе і фармальнымі значэннямі)” [4, с. 123]. У практыцы навучання мове таго часу выкарыстоўваўся тэрмін “лагічны разбор” паралельна з тэрмінам “граматычны разбор”. Вобразнае азначэнне фармальна-граматычнаму падыходу ў моўнай адукацыі даў вядомы лінгвіст І. Бадуэн дэ Куртэнэ: “Самі выкладчыкі… глядзяць на сваю задачу ўкараняць у выхаванцаў граматычную мудрасць як на нешта ў найвышэйшай ступені агіднае, як на нейкую непазбежную катаргу і мараць толькі пра тое, каб хутчэй вызваліцца ад граматыкі і перайсці да літаратуры” [5, с. 132].

Згодна з другім падыходам, вывучэнне граматыкі павінна быць арганізавана праз назіранні над марфалагічнай сістэмай формаў і сінтаксічнай структурай сказаў, “каб вучні набылі разуменне граматычных з’яў роднай мовы, каб яны свядома ставіліся да граматычных формаў і да тых класаў асобных слоў і словазлучэнняў, якія ўтвараюцца прысутнасцю формаў у словах” [6, с. 437].

У далейшым у практыцы навучання былі выяўлены сур’ёзныя недахопы фармальна-граматычнага падыходу, звязаныя з аднабаковай увагай да формы і ігнараваннем сэнсавага боку мовы, хоць яшчэ ў 1921 г. на Петраградскім з’ездзе выкладчыкаў роднай мовы і літаратуры Л. Шчэрба перакануча даказваў, што “неабходна вывучаць формы паралельна з іх значэннем” [7, с. 144]. Агульным для абодвух падыходаў было тое, што галоўным і універсальным метадам навучання прызнаваўся граматычны разбор і назіранні над мовай.

***Мікалай Георгіевіч Яленскі*** *– мовазнаўца, метадыст. Намеснік дырэктара па навукова-метадычнай рабоце Нацыянальнага інстытута адукацыі, прафесар кафедры беларускага і рускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, доктар педагагічных навук, прафесар. Аўтар больш як 140 публікацый па праблемах навучання беларускай мове. Сярод іх: манаграфіі (“Асобасны падыход у методыцы навучання беларускай мове”, 1997; “Лінгвадыдактычная парадыгма асобасна арыентаванага навучання мове ў сучаснай школе”, 2002), вучэбныя дапаможнікі для студэнтаў універсітэтаў (“Методыка выкладання беларускай мовы. Сучасная лінгвадыдактыка”, 2004; “Методыка выкладання беларускай мовы. Практыкум”, 2006, у сааўтарстве; “Методыка выкладання беларускай мовы”, 2007, у сааўтарстве), вучэбна-метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў (“Развіццё вуснай мовы вучняў”, 1985; “Выкладанне беларускай мовы ў школе”, 1994, у сааўтарстве) і інш.*



Згаданыя лінгваметадычныя падыходы былі характэрныя не толькі для рускай, але і для беларускай лінгваметодыкі. У аснове школьных падручнікаў А. Саломеніка і Н. Шэўчыка, Ю. Шакаля і М. Жыркевіча знаходзіўся менавіта фармальна-граматычны падыход.

Другая лінгвістычная парадыгма (афармілася ў другой палове ХХ ст.) характарызавалася павышанай увагай ужо не да фармальнага, а да зместавага боку мовы. У дадзенай парадыгме “дамінуючае становішча заняла лексіка, г. зн. слова як абавязковы носьбіт значэння” [2, с. 50]. У беларускай лінгвістыцы ў той час назіралася павышаная ўвага да лексікі, фразеалогіі, стылістыкі (Ф. Янкоўскі, І. Лепешаў, Г. Малажай, Н. Гаўрош, А. Каўрус і інш.). Адсюль, лінгвадыдактыка пачала арыентавацца на выпрацаваны ёю структурна-семантычны падыход. У пачатку 1970-х гг. у змест школьнага навучання быў уключаны раздзел “Лексіка”. Лексіка-граматычныя разрады слоў пачалі разглядацца з пазіцыі іх асноўнага граматычнага значэння (прадметнасці, працэсуальнасці і г. д.), а структурныя элементы слова – не як фармальныя, а як значымыя часткі, што нясуць пэўную семантычную нагрузку. Апісанне сістэмы мовы ажыццяўлялася ў першую чаргу з пункту гледжання структуры і значэння моўных адзінак. Згаданая тэарэтычная пазіцыя знайшла сваё адлюстраванне ў падручніках М. Яўневіча і У. Андрэенкі, Л. Падгайскага, тэарэтычных распрацоўках В. Протчанкі, Я. Лаўрэля і інш.

Трэцяя парадыгма (афармілася ў 1980-я гг., характэрна для сучаснага этапу развіцця лінгвістыкі) “патрабуе абавязковага ўключэння ў аб’ект даследавання чалавека ў якасці асноўнага героя, які выкарыстоўвае… мову для сваіх мэт і праяўляе пры гэтым свае індывідуальныя і тыпізаваныя рысы, абумоўленыя месцам і часам жыцця, адукацыяй і культурай, этнічнай і прафесійнай прыналежнасцю і г. д.” [2, с. 50]. У лінгвістыцы ўвага была скіравана на праблему моўнай асобы (А. Падлужны, А. Міхневіч, А. Крывіцкі, Л. Выгонная, А. Лукашанец і інш.).

Лінгваметодыка ў сувязі з гэтым тэарэтычна абгрунтавала функцыянальна-семантычны, камунікатыўна-дзейнасны, асобасна арыентаваны і культуралагічны падыходы, якія ўключаюць у сябе асобныя элементы логіка-граматычнага, сістэмна-апісальнага і найбольш – структурна-семантычнага падыходаў. Моўныя адзінкі пачалі разглядацца з пункту гледжання структуры, значэння і функцыі (ужывання ў маўленні). Пад **зместам навучання** сталі разумець наступнае: навуковыя (лінгвістычныя) веды як частка нацыянальнай культуры, а таксама моўныя, маўленчыя ўменні і спосабы дзейнасці (у тым ліку вопыт творчай дзейнасці), якімі павінны авалодаць вучні, эмацыянальна-каштоўнасныя адносіны як да самой мовы (форма існавання духоўнай нацыянальнай культуры), так і непасрэдна да формаў, спосабаў рэалізацыі маўленчай дзейнасці (форма і спосаб аб’ектывацыі чалавечай суб’ектыўнасці). Змест моўнай адукацыі набыў маўленча арыентаваны характар.

Вышэйназваныя падыходы адлюстраваны як у школьных падручніках (Г. Малажай, Л. Васюковіч, В. Несцяровіч, В. Красней, Я. Лаўрэль, С. Язерская, У. Саўко, І. Саматыя і інш.), так і ў манаграфіях (М. Яленскі, Г. Валочка, Л. Гамеза, І. Паўлоўскі, В. Ляшчынская і інш.), вучэбна-метадычных дапаможніках (С. Якуба, З. Варановіч, С. Рачэўскі, Г. Верашчака, У. Піскун і інш.).

У педагагічнай навуцы найбольш вядомымі ў ХХ ст. былі дзве метадалагічна абгрунтаваныя і прынятыя практыкай адукацыйныя парадыгмы – ведавая (эпістэмалагічная) і антрапацэнтрычная.

Ведавая парадыгма склалася яшчэ ў даваенны перыяд, грунтуючыся на неабходнасці істотнага павышэння адукацыйнага ўзроўню моладзі. У 60 – 80-я гг. ХХ ст. адбывалася паступовая мадэрнізацыя адукацыі: назіралася яе пераарыентацыя з “**пэўнага** ўзроўню развіцця пазнавальных сіл”, “працэсу **перадачы** навуковых ведаў” на **фарміраванне** ведаў, уменняў і навыкаў, якія “забяспечваюць **развіццё** разумовых і фізічных здольнасцей школьнікаў…” [8, с. 103]. Тагачасная

адукацыя была “ведавай” па сутнасці: у якасці галоўнай прымалася максіма, што “навучанне – гэта працэс авалодання ведамі, уменнямі і навыкамі”, а веды – “першы і вядучы элемент зместу працэсу навучання” [9, с. 126]. З часам ведавая парадыгма ўсё выразней уступала ў супярэчнасць з патрэбамі грамадства.

З па-сапраўднаму рэвалюцыйнымі поглядамі на адукацыю як сістэму развіцця асобы выступіў Э. Ільенкаў. У сваёй знакамітай кнізе “Аб ідалах і ідэалах” ён сфармуляваў новыя агульнафіласофскія прынцыпы пераўтварэння дыдактыкі, якія грунтаваліся на прыярытэце засваення законаў дыялектыкі як логікі і тэорыі пазнання, рухальнай спружынай якой з’яўляецца супярэчнасць. Вядучая ідэя канцэпцыі Э. Ільенкава заключаецца ў тым, што школа павінна вучыць дзяцей мысліць, а не засвойваць гатовыя веды. Індывідуальнае засваенне ведаў неабходна, на думку філосафа, арганізаваць так, каб у працэсе навучання аднаўляўся шлях іх нараджэння і развіцця: «Дзіця з самага пачатку становіцца не спажыўцом гатовых вынікаў, зафіксаваных у абстрактных дэфініцыях, аксіёмах і пастулатах, а, так бы мовіць, “саўдзельнікам” творчага працэсу» [10, с. 202]. Э. Ільенкаў катэгарычна выступіў супраць фармальнага засваення ведаў, назваўшы такі шлях адным «з самых “надзейных” спосабаў нявечання мозгу і інтэлекту» [10, с. 158].

Палемізуючы з прыхільнікамі традыцыйнай педагогікі пра неабходнасць фармальнага засваення асноў навук у выглядзе абсалютных ісцін, ён справядліва параўноўваў такі падыход з рэйкамі для цягніка, калі мозг прывыкае рухацца толькі па наезджаным шляху і няздольны, сутыкнуўшыся з супярэчнасцю, знайсці адказ на пастаўленае жыццём пытанне. Дзейнасць па штампе, па гатовых рэцэптах не развівае як трэба мысленне. Мозг напаўняецца лавінай інфармацыі, якая часцей за ўсё забываецца, становіцца збыткоўнай і незапатрабаванай жыццёва, а вучань пры гэтым застаецца няздольным да самастойнай творчай дзейнасці пры сутыкненні з сітуацыяй-супярэчнасцю, што не адпавядае яго ранейшым уяўленням і да вырашэння якой ён не падрыхтаваны, паколькі валодае толькі традыцыйным інструментарыем развязвання стандартных задач. Фактычна школа выхоўвала спажыўцоў, а не творцаў. Э. Ільенкаў лічыць, што ў працэсе навучання “трэба не пачынаць з выніковай дэфініцыі, а заканчваць ёю, бо шлях пазнання заўсёды пачынаецца з пытання, якое фармулюецца для свядомасці як фармальна не вырашаная супярэчнасць” [10, с. 167]. Менавіта тады і там, дзе сярод вядомага ўзнікае супярэчнасць, узнікае і неабходнасць знайсці ісціну, даследаваць з’яву, факт. На думку вучонага, “розум з самага пачатку трэба выхоўваць так, каб супярэчнасць служыла для яго не прычынай для істэрыкі, а штуршком для самастойнай працы, для самастойнага разгляду самой рэчы, а не толькі для таго, што пра яе сказалі іншыя людзі” [10, с. 169].

Філасофска-адукацыйная канцэпцыя Э. Ільенкава прагучала ва унісон з цэлым кірункам псіхолага-педагагічных даследаванняў, звязаных са стварэннем новай адукацыйнай парадыгмы. З антрапалагічнай канцэпцыяй філасофіі суаднасіцца антрапацэнтрычная парадыгма ў педагогіцы. Яе сутнасць заключаецца ў тым, што ў якасці аксіёмы прызнаецца “цэласнасць і непадзельнасць асобы, адзінства агульнага, асаблівага і адзінкавага ў кожным, актыўная арудзійна-знакавая прырода душэўных сіл, вышэйшых псіхічных функцый і здольнасцей чалавека, аперцэптыўны характар набыцця любога вопыту, пластычнасць усіх асобасных уласцівасцей; развіццё душэўных сіл у ходзе і выніку ўзаемадзеяння спадчынных праграм росту са светам прыроды, рэчаў, сацыяльных установак, светам культуры, які акружае чалавека” [11, с. 6]. Антрапацэнтрычная парадыгма скіроўваецца на індывідуальнае развіццё асобы дзіцяці ў адпаведнасці з закладзенымі прыродай задаткамі і схільнасцямі. У першую чаргу маецца на ўвазе інтэлектуальнае і творчае развіццё, а таксама фарміраванне базавых якасцей асобы – камунікатыўнай актыўнасці, крытычнасці мыслення, самастойнасці, кампетэнтнасці, ініцыятыўнасці і інш.

У адносінах да моўнай адукацыі гэта набывае асаблівую актуальнасць, паколькі мова – галоўная крыніца пазнання свету, інтэлектуальнага і духоўнага развіцця, найважнейшы сродак сацыялізацыі і нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі індывіда. Калі класічная адукацыйная парадыгма ўсю ўвагу скіроўвала ў першую чаргу на вывучэнне звестак пра мову і фарміраванне навыкаў граматнага пісьма, то антрапацэнтрычная парадыгма галоўным у навучальнай дзейнасці лічыць развіццё “чалавека ў чалавеку”. У цэнтр антрапацэнтрычнай адукацыйнай парадыгмы ставіцца вучань, па-першае, **як моўная асоба** і, па-другое, **як суб’ект свядомай вучэбнай дзейнасці**. А гэта патрабуе перагляду традыцыйных падыходаў і скіраванасці даследчыцкай увагі, з аднаго боку, на моўным ядры асобы вучня (моўных ведах, лінгвакультурных узорах і маўленча-камунікатыўных здольнасцях), якое павінна стаць дамінантай пры вызначэнні мэты і зместу моўнай адукацыі (у сувязі з гэтым у сучасных праграмах узмоцнены **маўленчы** аспект у навучанні мове), а з другога боку – на асэнсаванні прынцыпаў і тэхналогіі развіццёвага, асобасна арыентаванага навучання школьнікаў.

Такім чынам, лінгвістычныя фармальна-лагічная і ў пэўнай ступені структурна-семантычная парадыгмы суадносяцца з эпістэмалагічнай парадыгмай у педагогіцы, паколькі ў адпаведнасці з імі моўная адукацыя была арыентавана на фармальнае засваенне асноў навук.

Антрапацэнтрычная лінгвістычная парадыгма суадносіцца з антрапацэнтрычнай парадыгмай у лінгваметодыцы, якія ў сваю чаргу карэлююць з аднайменнай парадыгмай у педагогіцы (дыдактыцы).

Тэарэтычнай асновай лінгваметодыкі таксама з'яўляюцца псіхалогія і псіхалінгвістыка. Трэба прызнаць, што асобныя сучасныя лінгваметадычныя даследаванні ігнаруюць гэты факт. У той час як даследаваць працэс фарміравання пазнавальнай дзейнасці без апоры на вызначаныя псіхалогіяй заканамернасці пазнавальных працэсаў, што адбываюцца ў свядомасці дзяцей пры навучанні мове, немагчыма. Як немагчыма даследаваць заканамернасці засваення мовы і маўлення без апоры на псіхалінгвістыку – тэорыю маўленчай дзейнасці.

З усяго сказанага зробім вывад: развіццё лінгваметодыкі найперш залежыць ад яе фундаментальнага базісу – навукі пра чалавечую мову, **лінгвістыкі**, і навук пра адукацыю і выхаванне чалавека – **педагогікі** і **псіхалогіі**.

**Спіс літаратуры**

1. **Анисимов, В. В.** Общие основы педагогики / В. В. Анисимов, О. Г. Грохольская, Н. Д. Никандров. – М. : Просвещение, 2006.
2. **Милославский, И. Г.** О соотношении целей и содержания обучения русскому языку в школе / И. Г. Милославский // Русский язык в школе. – 2006. – № 3.
3. **Буслаев, Ф. И.** О преподавании отечественного языка / Ф. И. Буслаев // Хрестоматия по методике русского языка / сост. А. В. Текучёв. – М. : Просвещение, 1982.
4. **Пешковский, А. М.** Грамматика в новой школе / А. М. Пешковский // Избранные труды. – М. : Гос. уч.-пед. изд-во МП РСФСР, 1959.
5. **Бодуэн де Куртенэ, И. А.** Значение языка как предмета изучения / И. А. Бодуэн де Куртенэ // Избранные труды по общему языкознанию. – М. : Изд-во АН СССР, 1963. – Т. 2.
6. **Фортунатов, Ф. Ф.** О преподавании грамматики русского языка в средней школе / Ф. Ф. Фортунатов // Избранные труды. – М. : Гос. уч.-пед. изд-во МП РСФСР, 1957. – Т. 2.
7. **Щерба, Л. В.** Замечания на новую московскую программу / Л. В. Щерба // Хрестоматия по методике русского языка / сост. А. В. Текучёв. – М. : Просвещение, 1982.
8. **Педагогика** : учеб. пособие для студ. пед. ин-тов / под ред. Ю. К. Бабанского. – М. : Просвещение, 1983.
9. **Педагогика** / под общ. ред. Г. И. Щукиной, Е. Я. Голанта, К. Д. Радиной. – М. : Просвещение, 1966.
10. **Ильенков, Э. В.** Об идолах и идеалах / Э. В. Ильенков. – М. : Политиздат, 1968.
11. **Бим-Бад, Б. М.** Антропологические основы теории и практики образования / Б. М. Бим-Бад // Советская педагогика. – 1994. – № 5.

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

### ЛІПЕНЬ

**1 ліпеня** – 90 гадоў з дня нараджэння Тацціяны Дзеранок, майстра народнага мастацкага ткацтва

75 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Крываля, празаіка, парадыста

**2 ліпеня** – 90 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Лісіцына (1920 – ?), музыканта, дырыжора, педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі

**3 ліпеня** – 115 гадоў з дня нараджэння Сары Каган (1895 – 1941), яўрэйска-, беларуска- і рускамоўнай паэткі, празаіка

60 гадоў з дня нараджэння Міколы Арахоўскага (1950 – 1997), драматурга

**6 ліпеня** – 105 гадоў з дня нараджэння Пятра Глебкі (1905 – 1969), паэта, перакладчыка, драматурга, вучонага, грамадскага дзеяча

**8 ліпеня** – 85 гадоў з дня нараджэння Міхася Клышкі (1925 – 1984), мовазнаўцы

75 гадоў з дня нараджэння Леанарда Гадлеўскага (1935 – 1982), мастака тэатра і тэлебачання

**10 ліпеня** – 110 гадоў з дня нараджэння Пётры Сергіевіча (1900 – 1984), беларускага і літоўскага жывапісца, графіка, мастака-манументаліста, заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы

100 гадоў з дня нараджэння Сяргея Астравумава (1910 – 1991), акцёра і рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі

30 гадоў з дня заснавання Літаратурнага музея Петруся Броўкі ў Мінску

30 гадоў з дня заснавання хаты-музея Петруся Броўкі ў Пуцілкавічах

**11 ліпеня** – 80 гадоў з дня нараджэння Івана Рэя (1930 – 2002), жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**14 ліпеня** – 105 гадоў з дня нараджэння Пятра Сакола (сапр. Масальскі; 1905 – 1985), паэта, перакладчыка

90 гадоў з дня нараджэння Алеся Астапенкі (1920 – 1970), паэта, перакладчыка

**15 ліпеня** – 110 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Дубоўкі (1900 – 1976), паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка

100 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Стэльмаха (1910 – 1974), тэатральнага дзеяча, драматурга, акцёра, крытыка, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**16 ліпеня** – 90 гадоў з дня нараджэння Яўгена Харытоненкі (1920 – 1998), жывапісца, педагога

70 гадоў з дня нараджэння Ніны Загорскай, паэткі, публіцыста, крытыка, сцэнарыста, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Беларусі

**18 ліпеня** – 280 гадоў з дня нараджэння Юзафа Катэнбрынга (1730 – пасля 1804), беларускага і польскага пісьменніка, педагога

**20 ліпеня** – 130 гадоў з дня нараджэння Гальяша Леўчыка (сапр. Ляўковіч; 1880 – 1944), паэта, празаіка, перакладчыка

*Заканчэнне на с. 110.*

*У дапамогу настаўніку*

# СТЫЛІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ ВЕРША "НАВЕДВАЙЦЕ БАЦЬКОЎ..." РЫГОРА БАРАДУЛІНА

Выхаванне найлепшых чалавечых якасцей паэтычным словам рэалізуецца на ўроках беларускай мовы і літаратуры. Так, для вучняў IX класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання прапануецца верш Рыгора Барадуліна "Наведвайце бацькоў..." (Беларуская літаратура: хрэстаматыя: вучэб. дапам. для 9-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. і рус. мовамі навучання / уклад. У. А. Дзіско, В. В. Кушнярэвіч. – Мінск: Нар. асвета, 2001, с. 691 – 692).

Гэта верш-зварот да чытача, насычаны дзеясловамі загаднага ладу *наведвайце*, *пішыце*, *ахінайце*, *спяшайцеся*. Такія дзеяслоўныя формы часта выкарыстоўваюцца ў публіцыстыцы для ўзмацнення функцыі ўздзеяння. Аднак верш – жанр мастацкага стылю, і яго асноўнай функцыяй выступае эстэтычная. Найперш праз вобразныя сродкі мовы паэт уплывае на думкі і пачуцці чытача.

Перад аналізам верша настаўнік можа правесці гутарку з вучнямі пра іх стаўленне да сваіх бацькоў, бабуль і дзядуляў (такая гутарка надзвычай важная ў падлеткавым узросце). Варта прыгадаць народныя выслоўі: *Бацька і маці ад Бога ў хаце, хто іх зневажае, дабра не знае. У каго ёсць матка, у таго галоўка гладка. Ад добрага кораня – добры і адростак. Бацька з маткаю на рабоце не томяцца, калі з дзетак сваіх цешацца. Будзь, сынок, тату сынком, а тата – да смерці (табе) тата. Дзетак узгадаваць – не грыбкоў назбіраць. Добра сыну – добра маме: падужэў, пахарашэў і не пачужэў. Добра ў свеце, лепш пры матцы. Дома хоць няўежна, ды ўлежна. Дужэй, сынок, сталей і нам не чужэй. З гадамі, дзеці, разумнейце, але ні мне, ні людзям не чужэйце (не рабіцеся чужакамі). Мілая тая дарожка, кудою я да мамы хадзіла. Ніхто так дзецям не спагадае, як матка родная. Свая матка шкадуе дзіцятка. Татава хата ўсім багата. Шануй бацьку з маткаю: другіх не знойдзеш.*

Моўныя сродкі верша ствараюць псіхалагічныя вобразы вяртання і памяці. На стылістычным узроўні вызначаюцца мастацкія дэталі, якія адлюстроўваюць агульнае ў прыватным. Прычым некаторыя з іх аўталагічныя (выкарыстаны ў прамым значэнні): *коміны*, *слупкі*, *страха*, *бацян*, *гняздо*, *галлё*, *лісток*. У аснове металагічных мастацкіх дэталей – пераноснае ўжыванне: *вецер*, *шпакоўні*, *шпачкі*, *сцяжынкі*, *бяссонніца*, *завеі*. Вобразнасць металагічных дэталей выяўляецца ў кантэксце: *вецер крые страху* – метафарычнае асэнсаванне нямогласці бацькоў, якім патрэбны ўвага і клопат; *бацькі глядзяць на свет шпакоўнямі пустымі* – метафара *шпакоўні* рэалізуе сему 'бацькоўскі дом', а слова з эмацыянальна-экспрэсіўнай канатацыяй *шпачкі* сімвалізуе дзяцей, абагрэтых утульным бацькоўскім жытлом. Азначэнне *вясёлыя* падмацоўвае станоўчую ацэнку такога ўспрымання дзяцінства. *Сцяжынка* – сімвал вяртання, аднак паэт падбірае да гэтай мастацкай дэталі азначэнне *дымкія* 'туманныя, цьмяныя', якое выражае няўпэўненасць. Ці вернецца калі-небудзь сын ці дачка? Ці наведае старэнькіх бацькоў? *Трымціць лісток ледзь-ледзь бяссонніцай на вейцы* – праз параўнанне выяўляецца сема 'пастаянная трывога'. У лексеме *завеі* сімвалічна асэнсоўваецца ідэя бяспамяцтва. Заўважце: завея ў вершы замятае *шляхі*. Гэта шляхі не толькі да бацькоўскага дому, але і да ўласнага "я", здольнага разумець і спачуваць. *Дымкія сцяжынкі* паступова трансфармуюцца ў *завейныя шляхі* – сведчанне дынамікі паэтычнай думкі, якая праз канкрэтнасць мастацкіх дэталей стварае агульны псіхалагічны вобраз.

У вершы ўжываюцца тропы: метафары *адчай вякоў завые*, *вецер крые*, *бацян нясе цяпло*, *след стыне*, *выбягаюць сцяжынкі*, *завеі ў роспачы*; эпітэты *сляпыя* слупкі, *ціхая* ласка, *старыя* бацькі, *няўмольны* клопат, *глухая* страха, *забыты* клёкат, *пустыя* шпакоўні, *вясёлыя* шпачкі, *лёткі* след, *дымкія* сцяжынкі, *выстылае* галлё; параўнанні *гайнёй ваўкоў*, *бяссонніцай*. Як бачым, металагічныя мастацкія дэталі – структурныя кампаненты тропаў – узмацняюць эстэтычную функцыю мастацкага тэксту.

*Вы* ***маладыя*** *ўсе, пакуль бацькі* ***старыя*** */ Жывуць няўмольным клопатам, каб вам лягчэй было* – антытэза *маладыя – старыя* ў сваёй аснове мае моўныя антонімы, але ў кантэксце слова *маладыя* абазначае не проста ўзрост, а пэўны ўнутраны стан – бадзёрасці, упэўненасці, аптымізму.

Верш уключае фразему *душою разгавецца*. Вядомае выслоўе *душой загавець* размоўнае, абазначае 'памерці, загінуць'. Сінанімічныя фразеалагізмы – *адкідваць хвост*, *адпраўляцца на той свет*, *адыходзіць у вечнасць*, *выпростваць ногі*, *даваць дуба*, *дух выпусціць*, *заснуць вечным*

*сном*, *складваць рукі*, *трапіць да Абрама на піва*. Антанімічная фразема *душой адгавець* мае значэнне 'ажыць'. Паэтычны кантэкст выяўляе ў выслоўі *душою разгавецца* сэнсавае пашырэнне 'духоўна адрадзіцца'.

На стварэнне адпаведнага вобраза ўплываюць абстрактныя назоўнікі твора (*адчай*, *сум*, *спакой*, *ласка*, *цяпло*, *трывога*, *жаль*, *душа* і інш.). Іх стылістычная функцыя – перадаць насычаную разнастайнымі пачуццямі дынаміку чалавечага "я".

Носьбітам індывідуальна-аўтарскага стылю найперш выступае сказ. Менавіта сінтаксіс дазваляе зразумець адметнасць пісьменніцкага "почырку" ў стварэнні мастацкай карціны свету, адлюстраванні светапогляду апавядальніка або лірычнага героя. На думку М. Цікоцкага, «кожны пісьменнік мае свой "сінтаксічны код", сваю ўласную сістэму граматычнай арганізацыі моўных сродкаў у адно арганічнае мастацкае цэлае» [6, с. 116]. Ёсць такая сістэма і ў вершы "Наведвайце бацькоў…". Увесь твор (апрача аднаго сказа) складаецца са складаназалежных сказаў. Як зазначае А. Каўрус, "мастацкая мова аддае перавагу складаназалежным сказам з даданымі месца, часу і даданымі азначальнымі і параўнальнымі" [4, с. 191]. У вершы ўжываюцца сказы з даданымі часу, месца, мэты, параўнальнай і азначальнымі часткамі. Іх стылістычная функцыя не толькі ў перадачы align рознабаковых сувязей паміж з'явамі, але і ў разгорнутым разважанні над спрадвечнымі жыццёвымі каштоўнасцямі.

Такі ж "сінтаксічны код" прысутнічае і ў вершы "Трэба дома бываць часцей…" Р. Барадуліна, тэматычна і эмацыянальна ён вельмі блізкі да верша "Наведвайце бацькоў…". Прывядзём пачатковыя строфы:

*Трэба дома бываць часцей,*
*Трэба дома бываць не госцем,*
*Каб душою не ачарсцвець,*
*Каб не страціць святое штосьці.*

*Не забыць, як падвялы аер*
*На памытай падлозе пахне,*
*Як у студню цыбаты асвер*
*Запускае руку да пахі…*

Супастаўляльна-стылістычны метад аналізу выяўляе спецыфіку стылёвай танальнасці вершаў Р. Барадуліна, прысвечаных бацькоўскаму дому. Як відаць з прыведзеных прыкладаў, няспешны роздум паэта ўдала перадаецца складаназалежнымі сказамі. Адпаведнае моўнае афармленне спрыяе глыбіні філасофскага зместу твораў.

Такім чынам, верш як жанр мастацкага стылю рэалізуе эстэтычную функцыю, якая ўздзейнічае на пачуцці чытача праз тропы, стылістычныя фігуры і сродкі стварэння вобразнасці. У гэтым тэксце паэт звяртаецца да разнастайных тропаў – метафар, эпітэтаў, параўнанняў. Яны, відавочна, актывізуюць асацыятыўны пошук, дазваляючы тварыць разам з пісьменнікам. Нават стылістычна нейтральная лексема ў кантэксце мастацкага цэлага можа набываць камбінаторныя прырашчэнні сэнсу, станавіцца эмацыянальна значнай і актывізаваць эстэтычную функцыю мастацкага твора. Такая асаблівасць паэтычных тэкстаў заўважаецца і ў вершы "Наведвайце бацькоў…". У прыватнасці, слова *шлях* са значэннямі 'шырокая, прыстасаваная для руху транспарту дарога', 'месца для праходу, праезду', 'вялікі перыяд, этап развіцця', 'орган у выглядзе каналаў, якія забяспечваюць жыццядзейнасць арганізма', 'падарожжа, перамяшчэнне', 'напрамак, маршрут', 'напрамак, дзейнасць, учынкі', 'жыццёвы лёс' (ТСБМ, т. 5, кн. 2, с. 375 – 376) выяўляе сімвалічнае напаўненне 'вяртанне да ўласнай душы, да найлепшых чалавечых якасцей'. Шлях дадому, да бацькоў памастацку трансфармуецца ў шлях да самога сябе. Менавіта сімвалічны вобраз шляху паглыбляецца ў вершы, поўніцца новымі адценнямі сэнсу дзякуючы тропам, стылістычна нейтральным словам (у кантэксце твора яны набываюць камбінаторныя прырашчэнні сэнсу), фраземе, а таксама пэўнаму сінтаксічнаму афармленню. Як бачым, выяўленне ў знешне простых жыццёвых фактах падвойнага сэнсу, псіхалагізму – спецыфіка індывідуальна-аўтарскага стылю Рыгора Барадуліна.

**Спіс літаратуры**

1. **Барадулін, Р.** Выбраныя творы : 2 т. / Р. Барадулін. – Мінск : Маст. літ., 1984. – Т. 1 : Вершы. – С. 47.
2. **Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы** / склаў Ф. Янкоўскі. – 3-е выд., дапрац., дап. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – С. 112 – 141.
3. **Горшков, А. И.** Русская стилистика / А. И. Горшков. – М. : ООО "Издательство Астрель" : ООО "Издательство АСТ", 2001. – С. 161 – 169.
4. **Каўрус, А. А.** Стылістыка беларускай мовы / А. А. Каўрус. – 3-е выд., дапрац. і дап. – Мінск : Нар. асвета, 1992. – С. 191 – 194.
5. **Лепешаў, І. Я.** Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І. Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн, 2004. – С. 125.
6. **Цікоцкі, М. Я.** Сугучнасць слоў жывых… : нататкі па стылістыцы маст. літ. / М. Я. Цікоцкі. – Мінск : Выд-ва БДУ, 1981. – С. 62 – 116.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА,**
кандыдат філалагічных навук.

*ВНУ – школе*

# УСТАРЭЛЫЯ СЛОВЫ ЯК ЧАСТКА ЛЕКСІЧНАГА ЗАПАСУ ШКОЛЬНІКАЎ

На ўроках беларускай мовы пры вывучэнні тэмы “Актыўная і пасіўная лексіка” вучні знаёмяцца з устарэлымі словамі. Гэта словы, якія перайшлі з актыўнага слоўніка ў пасіўны, але не зніклі з моўнага ўжывання. Паводле прычын архаізацыі яны падзяляюцца на гістарызмы і архаізмы.

Гістарызмы – лексічныя адзінкі, якія выйшлі з актыўнага ўжытку і перайшлі ў пасіўны запас у сувязі са знікненнем тых рэалій, што яны абазначалі: *войт, казакін, мушкет, ятка* і інш.

Архаізмы – частка пасіўнага слоўнікавага складу, намінацыі, якія ў сувязі з пэўнымі моўнымі і пазамоўнымі прычынамі заменены ў актыўным ужытку сінонімамі: *гістарыёграф, іншаверац, паасобнік, ясыр* і інш. У адпаведнасці з агульнапрынятай у мовазнаўстве класіфікацыяй адрозніваюць два тыпы архаізмаў – лексічныя і семантычныя. Сярод лексічных архаізмаў выдзяляюць уласналексічныя, лексіка-словаўтваральныя і лексіка-фанетычныя. Уласналексічныя архаізмы цалкам адрозніваюцца ад сучасных назваў, яны выцясняюцца з мовы словамі іншага кораня: *аэраплан – самалёт, бортнік – пчаляр, панталоны – штаны* і інш. Лексіка-словаўтваральныя архаізмы – устарэлыя словы, якія маюць аднолькавы корань з сучаснымі назвамі, але адрозніваюцца суфіксамі ці прыстаўкамі: *абставы – абставіны, дзейца – дзеяч, прасвета – асвета* і інш. Лексіка-фанетычныя архаізмы адрозніваюцца ад адпаведных ім сучасных слоў адным-двума гукамі: *кроніка – хроніка, ратай – араты, патока – паток* і інш. Семантычныя архаізмы – словы, якія актыўна выкарыстоўваюцца ў мове, але асобнае іх значэнне (значэнні) выйшла з ужытку, стала ўстарэлым. Напрыклад, у слове *абітурыент* устарэлае значэнне – ‘выпускнік сярэдняй школы’.

Устарэлыя словы з’яўляюцца кампанентамі фразеалагізмаў: *аршын з шапкай, касы сажань у плячах, падымаць на шчыт, скрыжоўваць мячы, сто вёрст да нябёс і ўсё лесам, як вол да карэты* і інш.

Словы могуць не толькі пераходзіць у пасіўны склад лексікі, але і вяртацца ў актыўны ўжытак, г. зн. зноў станавіцца агульнаўжывальнымі. Адзначым, што ў мовазнаўстве пакуль няма адзінага тэрміна для абазначэння гэтай з’явы. Палітычныя, сацыяльна-эканамічныя і культурныя пераўтварэнні ў Беларусі ў 90-я гг. XX ст. паспрыялі таму, што некаторыя ўстарэлыя лексічныя адзінкі сёння зноў становяцца агульнаўжывальнымі ў сучаснай беларускай мове. Так, за апошні час “вярнуліся”, хоць і з некалькі змененай семантыкай, словы *гімназія, губернатар, дума, ліцэй, міратворац, мытнік, правазнавец, рада, травень, угодкі* і інш.

Тэставыя заданні на тэму “Устарэлыя словы беларускай літаратурнай мовы” будуць карысныя старшакласнікам пры падрыхтоўцы да алімпіяды па беларускай мове і літаратуры, абітурыентам – да цэнтралізаванага тэсціравання, а таксама студэнтам філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў.

У канцы артыкула падаецца для даведак кароткі слоўнік устарэлых слоў, выкарыстаных у тэсце.

## ТЭСТ “УСТАРЭЛЫЯ СЛОВЫ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ”

### Частка А

**А1.** Падбярыце да сучаснага слова *настаўнік* устарэлы адпаведнік:

1) мецэнат 3) ментар
2) латнік 4) ліктар

**А2.** Завітая кольцамі пасма валасоў – гэта:

1) баярка 3) букі
2) букля 4) бурса

**А3.** Даўней *ручка* называлася:

1) стыло 3) асадка
2) пяро 4) фламастар

**А4.** Слова *атрамант* запазычана з:

1) грэчаскай мовы 3) рускай мовы
2) лацінскай мовы 4) нямецкай мовы

**А5.** Адзначце словазлучэнні з устарэлымі лексемамі:

1) салодкі кляновік 3) прыгожае бра
2) гасціны двор 4) лобнае месца

**А6.** Адзначце гістарызм:

1) бурштын 3) аканом
2) крышталь 4) футарал

**А7.** Адзначце ўстарэлыя назвы грашовых адзінак:

1) пенязь 3) долар
2) пістоль 4) грыўня

**А8.** У царскай Расіі – журнал, у які заносіліся звесткі пра паводзіны вучняў або ваеннаслужачых (пераважна ў духоўных навучальных установах і кадэцкіх карпусах):

1) нататнік 3) часопіс
2) матрыкул 4) кандуіт

**А9.** Старажытная адзінка масы *пуд* роўная:

1) 10 *кг* 3) 16,38 *кг*
2) 14,38 *кг* 4) 18 *кг*

**А10.** Адзначце сярод устарэлых слоў архаізмы:
1) кісліна 3) магнэс
2) аршын 4) матацыклет

**А11.** Адзначце ўстарэлыя назвы адзінак транспарту:
1) матацыкл 3) конка
2) омнібус 4) пакетбот

**А12.** Да сучаснага паняцця *геаграфічная карта* падбярыце ўстарэлыя адпаведнікі:
1) мапа 3) ландкарта
2) куля 4) землеапісанне

**А13.** Адзначце сярод запазычаных слоў устарэлае:
1) ганак 3) вета
2) дэфіцыт 4) талер

**А14.** *Рэкрэацыя* – гэта:
1) пашана, павага
2) школьныя канікулы
3) перапынак паміж урокамі ў школе
4) выпускны баль у школе

**А15.** Адзначце фразеалагізмы з устарэлымі кампанентамі:
1) з адкрытым забралам
2) бібікі біць
3) мераць асьмінай грошы
4) шарваркі адрабляць

**А16.** Адзначце лексіка-фанетычныя архаізмы:
1) гэст 3) газэта
2) лятун 4) філёзофія

**А17.** Сялян-апалчэнцаў у паўстаннях 1794 г., 1830 – 1831 гг., 1863 – 1864 гг. на Беларусі, Польшчы і Літве, узброеных косамі, называлі:
1) касары 3) касінеры
2) касарыкі 4) касачы

**А18.** Даўнейшая мера даўжыні *локаць* роўная:
1) 0,45 *м* 3) 0,7 *м*
2) 0,65 *м* 4) 0,8 *м*

**А19.** Удар лінейкай па далоні як від пакарання школьнікаў у Расійскай імперыі называўся:
1) лапа 3) хвост
2) нос 4) лоб

**А20.** Адзначце сярод устарэлых слоў гістарызмы:
1) шуйца 3) кунічнікі
2) локаць 4) лаўнік

**А21.** *Падарожныя грошы* – гэта:
1) грошы, знойдзеныя на дарозе
2) грошы, якія выдаваліся выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў у царскай Расіі ў XVII – XVIII стст.
3) грошы за праезд на паштовых конях ці за праезд па чыгунцы афіцэраў і чыноўнікаў у царскай Расіі ў XVII – XVIII стст.
4) грашовы падатак на рамонт дарог у дарэвалюцыйнай Расіі

**А22.** Адзначце лексіка-словаўтваральныя архаізмы:
1) кісліна 3) карэтнік
2) тэза 4) інсургент

**А23.** Пашпарт, які выдаваўся сялянам і мяшчанам у дарэвалюцыйнай Расіі, называўся:
1) дыплом 3) запіс
2) пасведчанне 4) плакат

**А24.** У актыўны ўжытак "вярнуліся" ўстарэлыя словы:
1) рада 3) гімназія
2) балонка 4) травень

**А25.** *Зяніца* – гэта:
1) назва літары з 3) падсвечнік
2) прыбытак 4) зрэнка, вока

**А26.** Да ўласналексічных архаізмаў адносяцца:
1) дзейца 3) рондаль
2) гелікаптэр 4) Эўропа

**А27.** Якой часцінай мовы з'яўляецца ўстарэлае слова *мерсі*:
1) назоўнік 3) прыслоўе
2) дзеяслоў 4) часціца

**А28.** Сярод фразеалагізмаў адзначце ўстарэлы фразеалагізм:
1) вярзці грушкі на вярбе
2) з'есці не адзін пуд солі
3) кату па пяту
4) біць чалом

**А29.** Агульнаўжывальнымі ў сучаснай беларускай мове зноў сталі ўстарэлыя словы:
1) мытнік 3) латы
2) лат 4) правазнавец

**А30.** Шчыльна аблягаючыя штаны з ласінай скуры як частка парадная формы некаторых палкоў арміі Расійскай імперыі называліся:
1) рэйтузы 3) ласіны
2) порткі 4) галіфэ

**Частка В**

**В1.** Запішыце, як называюцца даўнейшыя намінацыі прадметаў і з'яў, якія існуюць і ў наш час, але ў працэсе развіцця мовы атрымалі іншыя "імёны".

**В2.** Суаднясіце архаічныя назвы і іх сучасныя адпаведнікі:
А) атрамант 1) буквар
Б) тлумач 2) лоб
В) чало 3) чарніла
Г) лемантар 4) перакладчык

**В3.** Адзначце ўстарэлае слова:
1) вір 3) лгар
2) гардэроб 4) вейка

**В4.** Адзначце ў сказах архаізмы. Запішыце адпаведныя ім сучасныя назвы:
1) Ім пакінута ў тэстаменце спадчына, бо яны неад'емная частка маярату.
2) Кусток каліны абпёр галіны на трухлай тоўстай борці.

3) Цішу парвалі сыгналы – свісткі, крокі.

4) Па дарогах зямнога шара крылатая скача рацьь.

**B5.** Устанавіце адпаведнасць паміж назвамі і іх азначэннямі. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| А) марціра | 1) назва транспарту |
| Б) пенязь | 2) грашовая адзінка |
| В) ушкуй | 3) назва зброі |
| Г) тамбур | 4) музычны інструмент |

**B6.** Вызначце ў сказе архаізм. Падбярыце да яго сучасны адпаведнік і запішыце ў пачатковай форме.

Бачым: сунецца ад катэдры нейкая чорная маса людзей.

**B7.** Якія ўстарэлыя словы не маюць сінонімаў? Адказ запішыце.

**B8.** Устанавіце адпаведнасць паміж устарэлымі словамі і іх паходжаннем. Адказ запішыце.

| | |
|---|---|
| А) булат | 1) лацінізм |
| Б) маёнтак | 2) паланізм |
| В) граф | 3) германізм |
| Г) інквізіцыя | 4) цюркізм |
| | 5) украінізм |

**B9.** Суаднясіце архаічныя назвы і іх сучасныя адпаведнікі:

| | |
|---|---|
| А) азіят | 1) выпускнік сярэдняй школы |
| Б) брандмайстар | 2) грубы, жорсткі, некультурны чалавек |
| В) паштмайстар | 3) начальнік пажарнай каманды |
| Г) абітурыент | 4) кіраўнік паштовай канторы |

**A10.** Дапішыце сказ:

У старажытнасці: металічныя даспехі, браня, якія засцерагалі воіна ад удараў халоднай, а ў сярэднія вякі і ад агнястрэльнай зброі, – гэта…

**АДКАЗЫ**

**Частка А: A1.** 3; **A2.** 2; **A3.** 3; **A4.** 2; **A5.** 2, 4; **A6.** 3; **A7.** 1, 2, 4; **A8.** 4; **A9.** 3; **A10.** 1, 3; **A11.** 2, 3, 4; **A12.** 1, 3; **A13.** 4; **A14.** 3; **A15.** 1, 3, 4; **A16.** 1, 3, 4; **A17.** 3; **A18.** 2; **A19.** 1; **A20.** 2, 3, 4; **A21.** 3; **A22.** 1, 2; **A23.** 4; **A24.** 1, 3, 4; **A25.** 4; **A26.** 2, 3; **A27.** 4; **A28.** 4; **A29.** 1, 2, 4; **A30.** 3.

**Частка В: B1.** – архаізмы; **B2.** А3Б4В2Г1; **B3.** – лгар; **B4.** 1 – завяшчанне, 2 – вулей, 3 – сігналы, 4 – войска; **B5.** А3Б2В1Г4; **B6.** – кафедра; **B7.** – гістарызмы; **B8.** А4Б2В3Г1; **B9.** А2Б3В4Г1; **B10.** – латы.

**КАРОТКІ СЛОЎНІК УСТАРЭЛЫХ СЛОЎ, УЖЫТЫХ У ТЭСЦЕ**

**Архаізмы**

**Абітурые́нт,** *-а*, м. (арх.). Выпускнік сярэдняй школы.

**Аса́дка,** *-і*, ж. (арх.). Ручка.

**Атра́мант** (інкаўст), *-у*, м. (арх.). Чарніла.

**Аэрапла́н,** *-а*, м. (арх.). Лятальны апарат, цяжэйшы за паветра; самалёт.

**Бало́нка,** *-і*, ж. (арх.). Старонка кнігі, часопіса.

**Бая́рка,** *-і*, ж. (арх.). Шаферка, дружка маладой на вяселлі.

**Бо́ртнік,** *-а*, м. (арх.). Пчаляр.

**Борць,** *-і*, ж. (арх.). Вулей у выглядзе выдзеўбанай калоды або дупло ў дрэве, дзе жывуць пчолы.

**Брандма́йстар,** *-тра*, м. (арх.). Начальнік пажарнай каманды.

**Бу́кі,** нескл., н. (арх.). Стараславянская назва літары *б*.

**Бу́кля,** *-і*, ж.; бу́клі, *-яў*, мн. (арх.). Завітая кольцамі пасма валасоў.

**Газэ́та,** *-ы*, ж. (арх.). Газета.

**Гелікаптэ́р,** *-а*, м. (арх.). Верталёт.

**Гістарыёграф,** *-а*, м. (арх.). Гісторык.

**Гэст,** *-а*, м. (арх.). Жэст.

**Дзе́йца,** *-ы*, м. (арх.). Дзеяч.

**Землеапіса́нне,** *-я*, н. (арх.). Геаграфія.

**Зяні́ца,** *-ы*, ж. (арх.). Зрэнка, вока.

**Інсурге́нт,** *-а*, м. (арх.). Удзельнік узброенага паўстання супраць урада; паўстанец.

**Іншаве́рац,** *-рца*, м. (арх.). Чалавек іншай, не пануючай веры або рэлігіі.

**Катэ́дра,** *-ы*, ж. (арх.). Кафедра.

**Кіслі́на,** *-ы*, ж. (арх.). Кіслата.

**Кро́ніка,** *-і*, ж. (арх.). Хроніка.

**Ку́ля,** *-і*, ж. (арх.). Зямны шар.

**Ландка́рта,** *-ы*, ж. (арх.). Геаграфічная карта.

**Лані́та,** *-ы*, ж.; ланіты, *-ніт*, мн. (арх. і паэт.). Шчака.

**Лгар,** *-а*, м. (арх.). Ілгун.

**Леманта́р,** *-а*, м. (арх.). Буквар.

**Ляту́н,** *-а*, м. (арх.). Лётчык.

**Магнэ́с,** *-а*, м. (арх.). Магніт.

**Ма́па,** *-ы*, ж. (арх.). Геаграфічная карта.

**Матацыкле́т,** *-а*, м. (арх.). Матацыкл.

**Ма́трыкул,** *-а*, м. (арх.). Заліковая кніжка.

**Ме́нтар,** *-а*, м. (арх.). Настаўнік, выхавальнік, кіраўнік.

**Мерсі́** (арх.). Дзякуй.

**Мы́тнік,** *-а*, м. (арх.). Таможнік.

**Паасо́бнік,** *-а*, м. (арх.). Экземпляр чаго-небудзь.

**Пантало́ны,** *-аў*, мн. (арх.). Штаны.

**Паштма́йстар,** *-тра*, м. (арх.). Кіраўнік паштовай канторы.

**Правазна́вец,** *-ўца*, м. (арх.). Юрыст.

**Ра́ме,** *-я*, н.; рамёны, рамён, мн. (арх.). Плячо.

**Рацьь,** *-і*, ж. (арх.). Войска, ваенны атрад.

**Ро́ндаль,** *-я*, м. (арх.). Каструля з ручкай.

**Рэкрэа́цыя,** *-і*, ж. (арх.). Перапынак паміж урокамі ў школе.

**Рэспе́кт,** *-у*, м. (арх.). Пашана, павага.

**Сыгна́л,** *-а*, м. (арх.). Сігнал.

**Тамбу́р,** *-а*, м. (арх.). Барабан.

**Тлума́ч,** *-а*, м. (арх.). Перакладчык (звычайна для вуснага перакладу ў час размовы, перагавораў).

**Тра́вень,** *-ўня*, м. (арх.). Май.

**Тэ́за,** *-ы*, ж. (арх.). Тэзіс.

**Тэста́мент** (таста́мент), *-а*, м. (арх.). Прававы акт, распараджэнне пра асабістую маёмасць, складзеныя ў вызначанай форме на выпадак смерці; завяшчанне.

**Уго́дкі,** *-дак*, толькі мн. (арх.). Гадавіна з дня смерці; адзначэнне гэтай даты.

**Філёзо́фія,** *-і*, ж. (арх.). Філасофія.

**Чало́,** *-а*, н.; чо́лы, *-аў*, мн. (арх.). Лоб.

**Шу́йца,** *-ы*, ж. (арх. і кніжн.). Левая рука.

**Эўро́па,** *-ы*, ж. (арх.). Еўропа.

**Ясы́р,** *-а*, м. (арх.). Нявольнік, палонны.

**Я́тка,** *-і*, ж. (арх.). Месца, дзе прадаюць мяса; мясная лаўка, прылавак.

**Гістарызмы**

**Акано́м,** *-а*, м. Кіраўнік панскай гаспадаркі, наглядчык за працай у фальварку ў перыяд феадалізму і капіталізму.

**Аршы́н,** *-а*, м. 1. Мера даўжыні, роўная 71,12 *см*, якой карысталіся на Беларусі, у Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы. 2. Лінейка, планка такой даўжыні для мерання.

**Була́т,** *-а* і *-у*, м. 1. *-у*. Старадаўняе: узорыстая цвёрдая сталь для клінкоў. 2. *-а*. Клінок (меч, шабля, кінжал) з такой сталі.

**Войт,** *-а*, м. 1. Службовая пасада ў Вялікім княстве Літоўскім. Войт узначальваў мясцовае (гарадское або сельскае) кіраванне ці самакіраванне. 2. Асоба, якая наглядала за працай прыгонных сялян і выкананнем імі павіннасцей. 3. Кіраўнік гміны ў Заходняй Беларусі ў 1921 – 1939 гг.

**Вярста́,** *-ы*, ж. 1. У Вялікім княстве Літоўскім: мера даўжыні, роўная 1554,6 *м*. 2. Дарожны слуп, які адзначае гэтую меру.

**Граф,** *-а*, м. Дваранскі тытул у царскай Расіі і краінах Заходняй Еўропы, а таксама асоба, якая мае гэты тытул.

**Гры́ўня,** *-і*, ж. 1. Грашовая адзінка ў старажытнай Русі: залаты або сярэбраны злітак, першапачаткова вагой каля фунта. 2. Залатое ці сярэбранае ўпрыгожанне на шыю ў старажытнай Русі. 3. Сярэбраная або медная дзесяцікапеечная манета ў XVIII – XIX стст. 4. Медная трохкапеечная манета пасля грашовай рэформы 1839 – 1843 гг.

**Забра́ла,** *-а*, н. Пярэдняя частка шлема, якая апускаецца ўніз для аховы твару ў час бою.

**Інквізі́цыя,** *-і*, ж. У XIII – XIX стст.: следчы і карны орган каталіцкай царквы, які дзейнічаў надзвычай жорсткімі метадамі ў барацьбе з ерэтыкамі.

**Казакі́н,** *-а*, м. Старадаўняе: мужчынскае верхняе адзенне на apліках, са зборкамі ззаду.

**Карэ́та,** *-ы*, ж. Чатырохколавы закрыты конны экіпаж на рысорах у XVII – пачатку XX ст. пры дварах буйных магнатаў Еўропы і Расіі.

**Карэ́тнік,** *-а*, м. Майстар, які рабіў карэты, экіпажы.

**Ко́нка,** *-і*, ж. Да ўвядзення трамвайнага руху: гарадская рэйкавая дарога, па якой хадзілі вагоны на коннай цязе, а таксама вагон такой дарогі.

**Куні́чнікі,** *-аў*, пераважна мн. У Вялікім княстве Літоўскім у XV – XVII стст.: назва людзей, якія бралі ў арэнду ворную зямлю і іншыя ўгоддзі за пэўную плату – куніцу.

**Ла́тнік,** *-а*, м. Сярэдневяковы воін у латах.

**Ла́ўнік,** *-а*, м. У Вялікім княстве Літоўскім: прысяжны засядацель у гарадах, якія атрымлівалі магдэбургскае права, член войтаўскалаўніцкага суда.

**Лі́ктар,** *-а*, м. У старажытным Рыме: член ганаровай стражы вышэйшай адміністрацыі, які насіў пучок розгаў і сякеру як сімвал улады і пакарання.

**Ліцэ́й,** *-я*, м. У царскай Расіі: сярэдняя (або вышэйшая юрыдычная) мужчынская навучальная ўстанова закрытага тыпу для дваранскіх дзяцей.

**Ло́бны,** *-ая*, *-ае*: у словазлучэнні *лобнае месца*. Узвышэнне, з якога ў старажытнасці аб'яўляліся царскія ўказы і на якім адбываліся пакаранні смерцю.

**Ло́каць,** *-кця*, м. Мера даўжыні, роўная 0,6497 *м*, якой карысталіся на Беларусі і ў Расіі да ўвядзення метрычнай сістэмы мер.

**Мае́нтак,** *-тка*, м. Агульная назва землеўладання з панскай гаспадаркай (жылыя і гаспадарчыя будынкі, прадпрыемствы і г. д.) у феадальным і капіталістычным грамадствах.

**Марці́ра,** *-ы*, ж. Караткаствольная артылерыйская гармата.

**Мецэна́т,** *-а*, м. Багаты апякун навук і мастацтваў.

**Меч,** *-а*, м. Сякучая або сякуча-колючая зброя блізкага бою, падобная да шаблі, вострая з абодвух бакоў.

**Мушке́т,** *-а*, м. Буйнакалібернае ружжо з кнотам для запальвання пораху.

**Мушкецёр,** *-а*, м. Узброены мушкетам салдат у арміях еўрапейскіх краін, у тым ліку Вялікага княства Літоўскага, у XVI – пачатку XVIII ст.

**Мы́тнік,** *-а*, м. Службовая асоба ў Вялікім княстве Літоўскім, якая збірала пошліну (мы́та)

з купцоў і іншых гандляроў за ўвоз і вываз тавараў.

**О́мнібус,** *-а*, м. У Заходняй Еўропе ў XVII – пачатку XX ст.: шматмесны конны экіпаж з платнымі месцамі для пасажыраў; першы від грамадскага транспарту.

**Паке́тбот,** *-а*, м. Старадаўняе: марское паштова-пасажырскае судна.

**Пе́нязь,** *-я*, м. Манета, грашова-лікавая адзінка і сукупны тэрмін для пазначэння грошай у Вялікім княстве Літоўскім XIV – XVI стст. і Рэчы Паспалітай XVI – XVII стст.

**Пісто́ль,** *-я*, м. Іспанская залатая манета, якая чаканілася ў XVI – XVIII стст.

**Пяро́,** *-а*, н. Завостранае вялікае птушынае пяро, якое ўжывалася для пісання чарнілам да з'яўлення металічных пёраў.

**Ра́да,** *-ы*, ж. Народны сход, а таксама савет прадстаўнікоў у розныя гістарычныя перыяды на Беларусі, Украіне, у Літве, Польшчы.

**Са́жань,** *-жня*, м. 1. Мера даўжыні, роўная 3 аршынам, або 2,16 *м*, якая ўжывалася ў Беларусі і Расіі да 1918 г. 2. Колькасць чаго-н., роўная гэтай меры. 3. Прылада для абмервання зямельных участкаў.

**Стыло́,** нескл., н. Прылада для пісьма; пяро.

**Та́лер,** *-а*, м. 1. Старажытная сярэбраная манета высокай пробы, якая ў 1518 г. пачала чаканіцца ў Чэхіі, а пазней распаўсюдзілася ў Германіі, Скандынавіі, Галандыі, Італіі і іншых еўрапейскіх краінах; на тэрыторыі Беларусі талер абарачаўся з XVI ст. 2. Лікава-грашовае паняцце для вызначэння рэальных сум у меншых за талер наміналах. 3. Вагавая адзінка для вырабаў з серабра, якая адпавядала масе талера.

**Ушку́й,** *-я*, м. Старадаўняе: пласкадонная лодка з парусамі і вёсламі.

**Шарва́рка,** *-і*, ж.; шарва́ркі, *-рак*, мн. Грамадская працоўная павіннасць пераважна па будаўніцтве і рамонце дарог, мастоў, грэбляў, дзяржаўных і панскіх будоўляў у Вялікім княстве Літоўскім, Рэчы Паспалітай у XV – XVIII стст., а таксама ў Заходняй Беларусі ў 1921 – 1939 гг.

**Шпіцру́тэны,** *-аў*, толькі мн. У царскай Расіі: доўгія гнуткія дубцы або палкі, якімі білі салдат, злачынцаў, праганяючы іх праз строй.

**Шчыт,** *-а*, м. Ручная ахоўная зброя старажытнага воіна ў выглядзе прамавугольніка, круга, эліпса з дрэва, металу і пад., якая служыла для засцярогі ад удараў халоднай зброяй.

**Аляксандр МАКАРЭВІЧ,**
кандыдат філалагічных навук.

*Настаўнік прапануе*

Аксана ПАЛЯШЧУК

# ДЗЕЯСЛОЎ

## УРОК АБАГУЛЬНЕННЯ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫІ ВЕДАЎ У VI КЛАСЕ

**Мэты і задачы ўрока:** замацаваць асноўныя паняцці і тэрміны па тэме "Дзеяслоў", фарміраваць навыкі яго дакладнага слова- і формаўжывання; развіваць лінгвістычнае мысленне школьнікаў праз фарміраванне ўмення аналізаваць і супастаўляць моўныя факты, навыкі працы з тэкстам, павышаць узровень арфаграфічнай і пунктуацыйнай пісьменнасці; стварыць умовы для выхавання пачуцця гонару і любові да роднага горада, павагі да культуры беларускага народа.

**Абсталяванне:** фотаздымкі старога Мазыра, зборнікі вершаў мазырскіх паэтаў.

### ХОД УРОКА

**I. Арганізацыйны момант.**

**• Эмацыянальная падрыхтоўка вучняў да ўрока.**

**Настаўнік.** Звярніце ўвагу на эпіграф да сённяшняга ўрока і паспрабуйце вызначыць тэму і сфармуляваць мэту ўрока.

*Ёсць у марфалогіі хлопец вельмі статны,*
*Ён да розных дзеянняў спрытны, здатны.*
*Мае час, спражэнне, асобу і лік.*
*Ён сябра Назоўніка слухацца прывык.*
*У сказе ролю розную выканаць гатоў.*
*Вы яго пазналі? Гэта –* ***Дзеяслоў***.

**II. Пастаноўка мэт і задач урока.**

*1) Фармуліроўка настаўнікам тэмы ўрока.*

*2) Сумесная дзейнасць настаўніка і вучняў па вызначэнні мэты і задач урока.*

**Настаўнік.** Паўтарэнне тэмы "Дзеяслоў" мы арганізуем на аснове мастацкіх твораў, прысвечаных нашаму роднаму гораду – Мазыру.

**III. Абагульненне і сістэматызацыя ведаў па тэме.**

**• Праверка ўзроўню засваення тэмы.**
**Вуснае бліц-апытванне.**

*Вучні задаюць пытанні і адрасуюць іх аднакласнікам. Калі адказ на тое ці іншае пытанне адсутнічае, адказвае вучань, які задаваў пытанне.*

Прыкладныя пытанні:

– Якія вы ведаеце спосабы вызначэння спражэння дзеяслова?

– На якія пытанні адказваюць дзеясловы незакончанага трывання?

**• Праверка арфаграфічнай пісьменнасці вучняў.**

*Вучань на адваротным баку дошкі запісвае прапанаваныя словазлучэнні ў адпаведнасці з арфаграфічнымі нормамі беларускай мовы, клас выконвае тое ж на месцах.*

Гас…ініца “(П, п)рыпяць”, т…атр (І, і)мя Мележа, (мікра)раён (Б, б)абры, (М, м)азырскі (пед)універсітэт, (аўта)вакзал, школа(гімназія), ж…мчуж…на (П, п)але(с, сс)я, (П, п)але(с, сс)кі раён, п…ўнаводная (П, п)рыпяць.

**• Заданні класу.**

**1.** Спішыце, устаўце прапушчаныя літары і знакі прыпынку, выпішыце дзеясловы, вызначце іх трыванне, час, асобу і лік або род і лік.

Знікае жуда (ў, у) Мазыры, нібы сон,
І страх тут а(д, дз)іны, павер…е:
Як (П, п)рып…ць шуміць каля самых …кон –
Баюся (ад) шчас…я памер…і.

*Для выканання наступнага задання настаўнік падзяляе клас на групы.*

**2.** Складзіце 5 тэставых заданняў па тэме “Дзеяслоў”.

**3.** Прачытайце тэкст.

Юнацтва маё, станаўленне... Першыя прыступкі да будучых вяршынь жыцця, да асэнсавання свайго прызначэння. Першыя ўражанні, першыя расчараванні, першыя радасці…

Горад майго кахання, спадзявання, узнёсласці…

Прыпяць, без якой нельга ўявіць Мазыр, яго гісторыю, яго будучыню. Яна, Прыпяць, працякала не толькі праз паляшуцкую зямлю, яна працякала праз маё сэрца. Яна лячыла мяне ў цяжкія хвіліны, і таму я некалі занатаваў пра яе такія радкі:

Калі тужліва стане на сэрцы,
Калі ў горадзе зробіцца цесна,
Калі няўсцерп закарціць адзіноты, –
То я да цябе прыйду, Прыпяць.

Кожны раз, калі еду ў родны горад, як толькі аўтобус вынырвае з лесу, ад Калінкавічаў, і перад намі раскрываецца панарама мазырскіх узвышшаў з квітнеючымі садамі і высотнымі дамамі, у мяне адразу пачынае спяваць душа, як быццам горад на адлегласці шле сваё прывітанне і перадае сваю радасць сустрэчы са мной… Тую ж радасць, узрушанасць і хваляванне перадаю яму і я.

Паводле А. Бароўскага.



***Аксана Анатольеўна Паляшчук** – настаўнік беларускай мовы і літаратуры другой кваліфікацыйнай катэгорыі агульнаадукацыйнай сярэдняй школы № 9 г. Мазыра. Закончыла Мазырскі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя І. П. Шамякіна (2000).*

Вызначце стыль і тып тэксту, яго тэму, ідэю, растлумачце сэнс назвы, абгрунтуйце сваё меркаванне. Выпішыце дзеясловы прошлага, цяперашняга, будучага часу. Дзеясловы ў форме якога часу ўжыты часцей за астатнія? Як вы думаеце, чаму?

**4.** На аснове выяў старога Мазыра напішыце сачыненне-мініяцюру на тэму “Мазыр у маім сэрцы”.

*Настаўнік аналізуе адказы вучняў, выпраўляе магчымыя памылкі.*

**• Рознаўзроўневыя заданні (па варыянтах).**

**І варыянт**

Пя…ь кургано… над …рыпя…ю стая…ь
Узіраю…ь (у) зорную шыр.
А (на) іх св…е крылы ра…кінуў,
Нібы сокал, мой любы …азыр.

**ІІ варыянт**

Едуць цуды шукаць на Памір
У …ібір на …аўказ у …алгарыю
Прыяз…айце да нас (у) …азыр –
У …але…кую нашу …вейцарыю.

**1-ы ўзровень**

Спішыце, устаўце прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

**2-і ўзровень**

Выпішыце ў два слупкі дзеясловы. У правы – пераходныя, у левы – непераходныя. Вызначце спражэнне і лад дзеясловаў.

**3-і ўзровень**

З дзеясловамі, ужытымі ў вершы, складзіце сказы пра горад Мазыр.

*Праверка выкананага вучнямі.*

**IV. Падвядзенне вынікаў урока, выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**V. Рэфлексія.**

**VI. Дамашняе заданне (каментарый да выканання).**

Падрыхтавацца да выніковай кантрольнай работы па тэме.

Наталля ФЯСЬКОВА

# "ЖЫЦІЕ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ"

## УРОК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў ІХ КЛАСЕ

**Мэты:** шляхам аналізу зместу твора ўзнавіць паслядоўнасць этапаў біяграфіі Еўфрасінні Полацкай, даць паняцце пра жыціе як жанр старажытнай літаратуры, прасачыць асноўныя падзеі жыцця асветніцы, паказаць адметнасць будовы твора; развіваць навыкі самастойнай пазнавальнай дзейнасці; садзейнічаць выхаванню павагі да нацыянальна-культурнай спадчыны.

**Тып урока:** урок засвоення новых ведаў.

### ХОД УРОКА

**І. Арганізацыйны момант.**

**ІІ. Актуалізацыя апорных ведаў.**

*Гучыць запіс царкоўнага перазвону.*

– Перад тым як мы пачнём вывучаць новую тэму, запішыце асацыяцыі, якія ўзніклі ў вас у час праслухоўвання запісу. Зачытайце. *(Вучні зачытваюць. Выбіраюцца асноўныя словы, сярод якіх павінна быць слова "святы" і вытворныя ад яго, і запісваюцца на дошцы.)*

**• Эўрыстычная гутарка.**

– Што, на вашу думку, абазначае слова *святы*? *(Вучні выказваюць свае меркаванні.)*

– Якіх вы ведаеце святых на Беларусі? *(Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Сімяон Полацкі.)* Сёння мы засяродзім увагу на асобе Еўфрасінні Полацкай. І тэма нашага ўрока – "Жыціе Еўфрасінні Полацкай".

– Першая беларуская святая… Святыя – гэта настойлівыя, самаахвярныя людзі, якія прысвяцілі жыццё служэнню Богу, умацаванню хрысціянскіх нормаў маралі. Для іх існуе два светы, якія непарыўна звязаны паміж сабой і ў той жа час зусім розныя. Гэта штодзённае, зямное жыццё і найвышэйшае, незямное, Боская рэальнасць. У народзе слова *святы* асацыіравалася са словамі *святло*, *светлы* і абазначала тых, хто "асвятляе" і "асвячае" сваім богаўгодным служэннем шлях астатнім.

– Сёння мы з вамі ўзгадаем, што вы ўжо ведаеце пра жыццё і дзейнасць Еўфрасінні Полацкай, пазнаёмімся з новымі фактамі.

– Раскажыце, што вы ведаеце пра святую Еўфрасінню Полацкую. Назавіце мастацкія творы, прысвечаныя нашай славутай зямлячцы. *(Вучні выказваюць свае меркаванні.)*

– Так, прападобная Еўфрасіння Полацкая, у свеце князёўна Прадслава, – выбітная асоба ў гісторыі нашай краіны. Пра яе слаўны шлях быў напісаны твор, дзе апавядаецца пра духоўныя подзвігі беларускай асветніцы, – жыціе – шырока распаўсюджаны жанр старажытнай літаратуры.

**• Праверка дамашняга задання.**

– Дома вы павінны былі прачытаць "Жыціе…" і скласці двухбаковы дзённік: у першы слупок выпісаць цытаты, якія найбольш уразілі і спадабаліся, у другі – змясціць да іх каментарыі.

*Вучні зачытваюць цытаты і каменціруюць іх, настаўнік карэкціруе адказы.*

**ІІІ. Тлумачэнне новага матэрыялу.**

**• Знаёмства з тэарэтычным паняццем.**

*Наступны матэрыял вучні занатоўваюць у рабочых сшытках.*

Жыціе – жанр старажытнай літаратуры, які апавядае пра жыццё духоўнай ці свецкай асобы, прызнанай царквой святой. Звычайна жыціі ствараліся па пэўнай схеме. Ва ўступе гучала пахвала Богу. У асноўнай частцы апавядалася пра дзяцінства, подзвігі, пакуты і смерць святога. Заканчваўся твор традыцыйным пахвальным словам у гонар галоўнага героя.

"Жыціе Еўфрасінні Полацкай" – арыгінальны помнік старабеларускай літаратуры, створаны ў Полацку на мяжы ХІІ – ХІІІ стагоддзяў невядомым аўтарам. Поўная назва твора – "Аповесць жыцця і смерці святой і блажэннай і найпадобнейшай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Святога Спаса і Найсвяцейшай Ягонай Маці, што ў горадзе Полацку. Благаславі, Ойча!".

**IV. Замацаванне. Праца над зместам твора.**

*Перад вывучэннем "Жыція…" настаўнік праводзіць слоўнікавую работу (знаёміць вучняў з незразумелымі словамі), напрыклад:*

*Ігуменя – настаяцельніца праваслаўнага жаночага манастыра.*

*Ра́ка – грабніца, дзе захоўваюцца святыя мошчы.*

*Фрэска – малюнак вадзянымі фарбамі па свежаатынкаванай сцяне ці столі.*

**• Франтальная гутарка, накіраваная на выяўленне ведання зместу твора.**

**• Кампазіцыйны аналіз "Жыція…". Праца з тэкстам твора.**

– Як правіла, мастацкі твор мае сюжэт. Давайце ўспомнім, што называецца сюжэтам і з

якіх этапаў складаецца сюжэтная лінія. *(Вучні выказваюць свае меркаванні.)*

*Далей настаўнік прапануе вучням знайсці ў тэксце "Жыція..." экспазіцыю, завязку, кульмінацыю, развязку, эпілог.*

• **Стылістычны аналіз твора.**

– Цяпер ваша задача знайсці і выпісаць вобразна-выяўленчыя сродкі, пры дапамозе якіх старажытны аўтар паказаў ідэальнасць гераіні.

*Вучні выпісваюць эпітэты, метафары, параўнанні, гіпербалы і да т. п., пасля зачытваюць. Настаўнік каменціруе, выпраўляе магчымыя памылкі.*

**V. Абагульненне і сістэматызацыя вывучанага на ўроку.**

– Еўфрасіння Полацкая пражыла слаўнае жыццё, пакінула пасля сябе памяць як пра чалавека, што дбаў пра чысціню душы людзей, распаўсюджванне пісьменства праз Божае Слова.

Беларуская асветніца здзейсніла напрыканцы жыцця, відаць, самае важнае для яе падарожжа ў Іерусалім, дзе і памерла. У 1178 годзе рускія манахі вывезлі святыя мошчы Еўфрасінні Полацкай, перазахаваўшы іх у Кіева-Пячорскай лаўры. У дзень смерці асветніцы 23 мая (па новым стылі 5 чэрвеня) 1910 года нятленныя астанкі Еўфрасінні Полацкай прывезлі ў Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву. Іх паклалі ў абкладзеную срэбрам кіпарысавую раку. З таго часу 23 мая – дзень памяці святой Еўфрасінні Полацкай.

І напрыканцы ўрока пры дапамозе тэста праверым вашы веды па вывучанай тэме.

### ТЭСТ

**1.** Еўфрасіння Полацкая ўвайшла ў гісторыю беларускай культуры як:

1) нябесная заступніца Беларусі;

2) заснавальніца манастыроў і манастырскіх школ;

3) перапісчыца і перакладчыца кніг;

4) пачынальніца полацкага летапісання;

5) збіральніца талентаў;

6) выдатны палітычны дзеяч;

7) народная лекарка.

**2.** У якой сям'і нарадзілася Еўфрасіння Полацкая?

1) У сям'і святара;

2) у сям'і князя Святаслава-Георгія;

3) у сям'і рамесніка.

**3.** З якімі ніжэйназванымі мясцінамі звязана імя святой Еўфрасінні Полацкай?

1) З Полацкам, дзе нарадзілася будучая асветніца;

2) з Візантыяй, куды ў 1129 г. кіеўскі князь Мсціслаў выслаў полацкіх князёў за адмову ісці ў паход на полаўцаў. Сярод выгнанцаў апынуўся бацька Еўфрасінні, разам з ім вымушаны былі пакінуць радзіму і жонка з дачкой;

3) з Іерусалімам – на схіле жыцця Еўфрасіння Полацкая здзейсніла паломніцтва ў Святую Зямлю да Труны Гасподняй. Захварэўшы ў дарозе, памерла і была пахавана ў адным з іерусалімскіх манастыроў;

4) са Смаленскам – горадам, які наведала Еўфрасіння Полацкая ў час аднаго са сваіх падарожжаў;

5) з Кіевам – сюды ў 1178 г. праваслаўныя манахі перавезлі святыя мошчы Еўфрасінні Полацкай і перазахавалі іх у Кіева-Пячорскай лаўры.

**4.** У якіх галінах культуры Еўфрасіння Полацкая выступала ў ролі мецэната?

1) У галіне архітэктуры – па яе заказе дойлід Іаан пабудаваў у Полацку замест драўлянай белакаменную аднакупальную царкву;

2) у музыцы – пры яе падтрымцы быў створаны музычны цыкл у гонар дынастыі Рагвалодавічаў;

3) у старажытнабеларускім ювелірна-прыкладным мастацтве, шэдэўрам якога з'яўляецца славуты крыж Еўфрасінні Полацкай, зроблены Лазарам Богшам.

**Адказы: 1.** 1, 2, 3, 4; **2.** 2; **3.** 1, 3, 5; **4.** 1, 3.

**VI. Выстаўленне і каменціраванне адзнак.**

**VII. Рэфлексія.**

**VIII. Дамашняе заданне.**

Падрыхтаваць адказы на пытанні, змешчаныя ў падручніку пасля тэксту "Жыція...".

**

***Наталля Анатольеўна Фяськова** – настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі агульнаадукацыйнай сярэдняй школы № 22 г. Гомеля. Закончыла Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны (1991).*

*У нашым часопісе былі змешчаны наступныя метадычныя распрацоўкі, прысвечаныя жыццю і дзейнасці Еўфрасінні Полацкай: **Воюш І.** "Я – вясна непаўторная": Вобраз Еўфрасінні Полацкай у беларускай літаратуры. – 2001. – № 1. – С. 24 – 31; **Мацюкевіч М.** Пуцяводная зорка беларусаў: Вусны часопіс, прысвечаны Еўфрасінні Полацкай. – 2001. – № 1. – С. 59 – 68; **Кулагін А.** Архітэктура і мастацтва Полацка [Сафійскі сабор, Спаса-Еўфрасіннеўская царква. Фрэска ў Спаса-Еўфрасіннеўскай царкве. Крыж Еўфрасінні Полацкай]: Тэксты для работы з каляровымі ілюстрацыямі на занятках. – 1991. – № 10. – С. 60 – 62; **Кунцэвіч К.** Спеў аб Еўфрасінні: Сцэнар літаратурна-музычнай вечарыны, прысвечаны Еўфрасінні Полацкай. – 1994. – № 7-8. – С. 108 – 111.*

*Рыхтуемся да цэнтралізаванага тэсціравання*

# ТЭСТ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

**Частка А**

**А1.** Адзначце словы, вымаўленне якіх не супадае з напісаннем:

1) пячора 4) краявід
2) лёгка 5) не вельмі
3) карысць

**А2.** Адзначце назоўнікі, у якіх пры змене формы ліку змяняецца месца націску:

1) фартух 4) запавет
2) капыт 5) таварыш
3) пачуццё

**А3.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара ***а***:

1) ц…ліна 4) в…страверхі
2) ш…разём 5) пр…ставалосы
3) выстр…л

**А4.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара ***я***:

1) в…лікадушны 4) поз…х
2) б…сспрэчна 5) выгл…д
3) м…дуза

**А5.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара ***й***:

1) аб…дуцца 4) пера…начыць
2) пра…снаваць 5) вы…сці
3) сы…сці

**А6.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара ***ў*** (*у* нескладовае):

1) дзі…ны
2) ка…чук
3) схаваў … торбу
4) стра…с
5) аповесць “Сын вады” …ражвае

**А7.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара ***ь***:

1) сур…ёзны 4) штос…ці
2) с…пеў 5) насып…
3) рэл…еф

**А8.** Адзначце правільна напісаныя словы:

1) асяродзе 4) сцюдзёны
2) суччa 5) аблічча
3) здарэне

**А9.** Адзначце словы, у якіх на месцы пропускаў пішацца літара ***т***:

1) радас…ны 4) на кве…цы
2) догля… 5) а…кінуць
3) кантрас…ны

**А10.** Адзначце словы, у якіх выдзеленыя марфемы – канчаткі:

1) злаві*ў* 4) спяша*емся*
2) пальм*а* 5) справ*а*
3) збірае*цца*

**А11.** Адзначце сінонім да слова ***прыгожы***:

1) цудоўны 4) здатны
2) непаўторны 5) мілавідны
3) прыгодны

**А12.** Адзначце словазлучэнні, у якіх выдзеленыя назоўнікі маюць правільныя склонавыя канчаткі:

1) не было *дажджа*
2) хлопец *у лодцы*
3) расказаць *дачцы*
4) падняцца *па трывозі*
5) выдатнага *настрою*

**А13.** Адзначце словы, якія пішуцца разам:

1) (мала)населенасць 4) (паў)Лондана
2) (трох)кутнік 5) (чарна)лессе
3) (нож)складанчык

**А14.** Адзначце словазлучэнні з адноснымі прыметнікамі:

1) касцяны нож 4) сённяшні дзень
2) сухі бераг 5) каменная сякера
3) сынава лодка

**А15.** Адзначце складаныя прыметнікі, якія пішуцца праз злучок:

1) (бела)шэры 4) (дробна)нарэзаныя
2) (двух)гадовы 5) (паўночна)заходні
3) (кісла)салодкі

**А16.** Адзначце сказы, у якіх ёсць дзеясловы незакончанага трывання:

1) Тры гады пражыў Міклуха-Маклай адзін сярод папуасаў.
2) Хлопцы ішлі па зялёным, залітым сонцам лузе.
3) Верхавіны гор ззялі на сонцы.
4) Рака безупынна шумела ў цішыні.
5) Незвычайны гоман падняўся ў пячоры.

**А17.** Адзначце дзеясловы, якія ў форме 2-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу маюць канчатак ***-аце́*** (***-яце́***):

1) праскакаць 4) плесці
2) браць 5) шукаць
3) плыць

**А18.** Адзначце словазлучэнні, у якіх выдзеленыя словы пішуцца разам:

1) апрануцца *(на)спех*
2) глянуць *(па)прыяцельску*
3) чакаць *(што)дзень*
4) пераплысці *(як)небудзь*
5) адкласці *(на)заўтра*

**А19.** Адзначце прыклады, у якіх ***не*** з выдзеленымі словамі пішацца асобна:

1) *(не)вельмі* добра
2) *(не)далёка*, а блізка
3) *(не)паднімаючы* галавы

4) *(не)знайсці* брата
5) *(не)бяспечнае* месца

**А20.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў пішацца ***ні***:

1) Як бы там … было, гэты таемны конь пачынаў ужо трывожыць падарожнікаў.
2) …колі птушкі не бачылі чалавека, …хто на іх не паляваў, і яны не думалі сцерагчыся двуногіх звяроў.
3) …здарма распрасцёртыя крылы альбатросаў маюць два з паловай метры ўшыркі.
4) Як … прыглядаўся і … прыслухоўваўся Брук, ён не мог заўважыць нічога асаблівага.
5) …раз жывёлы збівалі хлопцаў з ног.

**А21.** Адзначце канструкцыі, у якіх сувязь паміж словамі падпарадкавальная:

1) ідуць мастадонты
2) какосавае малако
3) піць сок
4) уздоўж лесу
5) цягнуцца ўверх

**А22.** Устанавіце адпаведнасць паміж выдзеленымі словамі і іх сінтаксічнай роляй:

| | |
|---|---|
| А) Пляцоўка *была невялікая.* | 1) дапаўненне |
| Б) *Адпачываць* – вялікая асалода. | 2) дзейнік |
| В) Каля дрэва сядзеў папуас *высокага росту*. | 3) выказнік |
| Г) *Раніцою* людзі пайшлі шукаць вады. | 4) акалічнасць |
| | 5) азначэнне |

**А23.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў неабходна паставіць працяжнік:

1) Пачаў свяціць, прыглядацца … нічога не відаць.
2) На гэты раз нічога не выйшла … трус уцёк у другі бок.
3) Плюхнула вада, бліснулі пырскі … ахвяра павольна пайшла на дно.
4) Хлопцы рынуліся да труса, але са страшэнным крыкам адскочылі назад … нешта так укусіла іх за ногі, што аж уваччу пацямнела.
5) На мангравае карэнне сцелюцца жэрдкі, пальмавае галлё сячэцца на сцены, а з лісця пляцецца страха … будуецца халупа для папуасаў.

**А24.** Адзначце сказы, у якіх знакі прыпынку пры аднародных членах пастаўлены правільна:

1) У гэтым мелася ўсё, што трэба чалавеку: і лясныя плады, і стэпавыя зёлкі, і рыба ў вадзе, і лугавая жывёла.
2) Прыгожая расліннасць, сухі стромкі бераг усё гэта было вельмі зручна для таго, каб спыніцца.
3) Некаторыя расліны з-за недахопу месца, і святла прыладзіліся на чужым карку, і п'юць сок з другога дрэва.
4) Закруцілася змяя засіпела так, што Ра спалохаўся, і адбег назад.
5) Яго памочнік быў зусім іншага складу: нізкі, тоўсты, зласлівы.

**А25.** Адзначце сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:

1) Туман разыходзіўся, рабілася ўсё святлей і святлей, але вёска была … нібы мёртвая: аніводнай фігуры не паказвалася.
2) На гэтай станцыі разводзіліся гумавыя … або каўчукавыя … дрэвы.
3) Ліяны … як вяроўкі.
4) Янка Маўр найбольш вядомы чытачу … як аўтар прыгодніцкіх аповесцей.
5) Некалькі дзён дождж ліў … як з вядра.

**А26.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба выдзеліць (аддзяліць) коскамі:

1) *Абараняючыся ад ворагаў* дынатэры ўсё адыходзіў, пакуль не падышоў да абрыву.
2) У лодку *акрамя шасці папуасаў* узброеных лукамі і пікамі, ніхто не сеў.
3) *Спалоханыя* яны ўскочылі спрасонку і пазналі павадыра.
4) А праз хвіліну на зямлі было першае *зробленае рукамі чалавека* вогнішча.
5) Паміж дрэў мільгалі нейкія рудыя звяры *падобныя да нашых тыграў*.

**А27.** Адзначце сказы, у якіх набраныя курсівам словы трэба выдзеліць (аддзяліць) коскамі:

1) У цішыні *было ўжо за поўнач* пачуліся раскаты грому.
2) *Тым часам* зверху вада таксама прыбывала.
3) І вось *на шчасце* з'явіўся чалавек, які прайшоў усю навуку белых.
4) *Відаць* гэтыя дзікуны, хоць і жылі па-першабытнаму, але ўжо карысталіся і сучаснымі прыладамі.
5) Нідзе не было *відаць* сяліб, і здавалася, што нашы падарожнікі былі адзінымі людзьмі ва ўсёй краіне.

**А28.** Адзначце складаназлучаныя сказы, у якіх на месцы пропускаў трэба паставіць коскі:

1) Каўчукавыя дрэвы належаць да аднаго роду з нашай травой малачаем … але тут яны дасягаюць велічыні дуба.
2) У высокім небе плыў ясны месячык … і слаба свяціліся зоркі.
3) Разам з дубам, клёнам і вязам падымаліся пальмы … а нашы бярозы і вербы стаялі побач з міртамі, магноліямі і алеандрамі.
4) Як добра было сядзець каля агню … і як моцна, сагрэўшыся, спалі дзеці.
5) Вось сустрэліся струмені зверху і знізу … і закруцілі човен.

**А29.** Адзначце складаназалежныя сказы, у якіх знакі прыпынку паміж сэнсава-граматычнымі часткамі пастаўлены правільна:

1) Адпачывалі толькі тады, калі гаспадары бачылі, што людзі не вытрымаюць, і што можа быць страта.
2) Пайшоў адзін, бяззбройны, не ведаючы, куды ісці і што рабіць.
3) І вось пад вечар калі людзі сядзелі ўжо ў пячоры гэты звер выйшаў з вады.

4) Бліжэй да вады размясціліся мангравыя дрэвы карэнне ад якіх уздымаюцца ўверх вышэй за рост чалавека.

5) Калі Саку падышоў блізка, папуасы выскачылі і акружылі яго.

**А30.** Адзначце бяззлучнікавыя складаныя сказы, у якіх на месцы пропускаў ставіцца двукроп'е:

1) Нельга было сказаць, што больш хвалявала яе … ці радасць сустрэчы, ці жах, што карабель абміне іх, як мінулы раз.

2) Вобразы самі паплылі перад яго вачыма … вось ён яе выратоўвае з мора, вось яны на скале, потым пяць дзён у чоўне.

3) Стаяць уначы на адным месцы было нядобра … у цемры маглі падкрасціся ворагі.

4) Праз біноклі заўважылі незвычайных пасажыраў … нібы еўрапейскую жанчыну, падобную да дзікай, і дзікуна, апранутага ў еўрапейскае адзенне.

5) Капітан дазволіў … праз мінуту на палубе з'явіўся Манг у сваім убранні.

**А31.** Адзначце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі, у якіх прапушчаны знакі прыпынку:

1) Да гэтага часу кітаец лёгка плыў уніз па рацэ а цяпер ён стаў адчуваць што вада пачынае цячы насустрач, уверх.

2) Паўзла чарапаха па зямлі вельмі павольна і нязграбна, і людзі зараз жа заўважылі, што баяцца яе няма чаго.

3) Абмыўшы раны вадой, Тайдо зрабіўся зусім бадзёры і яны ўрачыста павалаклі сваю здабычу дадому.

4) Усё было б добра, але з кожным разам трэба было адыходзіць усё далей і далей, бо спажывы блізка ўжо не хапала.

5) Людзі зусім скамянелі калі выглянулі праз галлё гара варушылася, дрыгала, груды зямлі разляталіся ў бакі.

**А32.** Адзначце сказы з простай мовай, у якіх знакі прыпынку пастаўлены правільна:

1) – Хутка прыйдзе карабель, сказаў Скот. Ці хопіць нам гумы і копры, каб нагрузіць яго?

2) – А што з ім можа здарыцца? – супакойваў дабрадушны Кос, а потым, падумаўшы, дадаў – Манг – хлопец спрытны.

3) "Іду да Какаду, дзе я жыву і дзе засталася мая маці, - сказаў Саку.

4) "Гэта праўда, – задуменна сказаў Скот, – прывядзіце яго сюды!"

5) Саку прамовіў "Не, браты, нядобра будзе, калі мы загубім гэтага чалавека".

## Частка В

**В1.** Утварыце ад колькаснага лічэбніка *сто* парадкавы. Парадкавы лічэбнік запішыце ў форме творнага склону.

**В2.** Знайдзіце назоўнік, форма назоўнага склону множнага ліку якога ўтворана няправільна. Запішыце назоўнік правільна:

1) вынаходцы  4) гіены
2) біўні  5) дробязі
3) дзвер

**В3.** Знайдзіце ў сказе фразеалагізм. Вызначце, якую сінтаксічную ролю ён выконвае. Адказ запішыце.

Краб зараз жа як след учапіўся за галіну, і кітаец без клопатаў выцягнуў яго з вады.

### ТЭКСТ ДА ЗАДАННЯЎ В4 – В8

1) Світала.

2) З лесу пачуўся шум. 3) Трашчала галлё, ламаліся дрэвы. 4) Нарэшце паказаліся нейкія велізарныя звяры, падобныя да сланоў. 5) Яны ішлі, відаць, на вадапой, якраз у гэты бок. 6) Людзі пабеглі назад. 7) Але, убачыўшы, што звяры не звяртаюць на іх увагі, супакоіліся, спыніліся і пачалі назіраць, што будзе далей.

8) Жывёлы гэтыя былі вельмі вялікія. 9) Даўжыня іх цела была восем-дзесяць метраў. 10) Галава была даўжэйшай, як у сланоў, а хобат значна карацейшы. 11) Галоўнай *жа* адзнакай былі біўні. 12) Іх было чатыры, зверху і знізу па два. 13) Ніжнія былі кароткія, а верхнія мелі тры-чатыры метры даўжыні.

14) Гэта былі мастадонты.

**В4.** Знайдзіце ў 7-м сказе дзеепрыслоўе. Вызначце яго трыванне. Адказ запішыце.

**В5.** Вызначце часцінамоўную прыналежнасць слова, выдзеленага ў 11-м сказе. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

**В6.** Вызначце від 1-га сказа. Адказ запішыце адпаведнай лічбай:

1) аднасастаўны пэўна-асабовы
2) аднасастаўны няпэўна-асабовы
3) аднасастаўны безасабовы
4) аднасастаўны абагульнена-асабовы
5) аднасастаўны назыўны

**В7.** Дапішыце сказ:

Сродкам сувязі 4-га і 5-га сказаў у тэксце з'яўляецца …

**В8.** Вызначце стыль тэксту. Адказ запішыце ў форме назоўнага склону.

### АДКАЗЫ

**Частка А: А1.** 2, 3, 4, 5; **А2.** 1, 2, 3; **А3.** 1, 3, 4; **А4.** 2, 5; **А5.** 4, 5; **А6.** 1, 2, 5; **А7.** 3, 4; **А8.** 2, 4, 5; **А9.** 3, 4; **А10.** 2, 4; **А11.** 5; **А12.** 2, 5; **А13.** 1, 2, 5; **А14.** 1, 4, 5; **А15.** 1, 3, 5; **А16.** 2, 3, 4; **А17.** 2, 3, 4; **А18.** 1, 3; **А19.** 1, 2, 3, 4; **А20.** 1, 2, 4; **А21.** 2, 3, 5; **А22.** А3Б2В5Г4; **А23.** 1, 3, 5; **А24.** 1, 5; **А25.** 2; **А26.** 1, 2, 3, 5; **А27.** 3, 4; **А28.** 1, 3; **А29.** 2, 5; **А30.** 2, 3; **А31.** 1, 3, 5; **А32.** 4.

**Частка В: В1.** – сотым; **В2.** – дзверы; **В3.** – акалічнасць; **В4.** – закончанае; **В5.** – часціца; **В6.** – 3; **В7.** – займеннік; **В8.** – мастацкі.

Падрыхтавала
**Ларыса ПШАНІЧНАЯ.**

*Тэст складзены на аснове твораў Янкі Маўра.*





*Літаратурная гасцёўня*


Алесь ЧЭЧАТ


## ШЛЯХАМІ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА

### СУСТРЭЧА З ТВОРЦАМ ЯК ФОРМА ПАЗАКЛАСНАЙ РАБОТЫ

Сустрэчы школьнікаў з творцам – карысны, цікавы і запамінальны від пазакласнай работы настаўніка беларускай мовы і літаратуры. Вопыт правядзення такіх мерапрыемстваў сведчыць, што знаёмства з паэтамі, празаікамі, літаратуразнаўцамі, мовазнаўцамі, краязнаўцамі, мастакамі, бардамі – гэта свята як для вучняў, так і для выкладчыкаў.

Да падобных сустрэч (вечарын, гасцёўняў, прэзентацый, канферэнцый, чытанняў і інш.) неабходна рыхтавацца як настаўніку, так і яго выхаванцам: упрыгожыць залу, зрабіць выставу кніг пісьменніка, надрукаваць праграму вечарыны, падрыхтаваць вучняў-выступоўцаў, чытальнікаў твораў госця, загадзя азнаёміць вучняў з асноўнымі падзеямі яго жыццёвага і творчага шляху, увогуле эмацыянальна настроіць дзяцей на сустрэчу. Пажадана перад правядзеннем мерапрыемства правесці для запрошанага творцы экскурсію па навучальнай установе, расказаць пра яе традыцыі, тых знакамітых людзей, што вучыліся ў яе сценах. Неабходна пазнаёміць з экспазіцыяй школьнага музея, выставачнай залы, этнаграфічнага кутка, калі яны ёсць ва ўстанове.

Распачаць сустрэчу ўступным словам, а таксама выконваць ролю вядучага можа настаўнік беларускай мовы і літаратуры ці кіраўнік установы.

Уражаннямі ад вечарыны можна падзяліцца на старонках мясцовага ці рэспубліканскага перыядычнага друку. Добра, калі ва ўстанове вядзецца альбом памятных сустрэч: у ім могуць быць змешчаны фотаматэрыялы, дарчыя запісы гасцей, пажаданні школе (каледжу, тэхнікуму і пад.) і яе калектыву.

Арганізатару мерапрыемства неабходна прадумаць парадак яго правядзення, вызначыць удзельнікаў, наладзіць падрыхтоўку. Пры непасрэдным правядзенні сустрэчы вядучы можа імправізаваць, але не павінен адыходзіць ад вызначанай мэты.

Віды творчых сустрэч могуць быць розныя:

– сустрэча з пісьменнікам-земляком;
– юбілей пісьменніка;
– прэзентацыя новай кнігі пісьменніка, навукоўца;
– навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная памятнай даце, творчасці літаратара, дзейнасці навукоўца;
– адкрыццё ва ўстанове літаратурнага ці краязнаўчага музея;
– тыдзень беларускай мовы і літаратуры і інш.

Вось, напрыклад, як была арганізавана ў лінгвагуманітарным каледжы сустрэча з Уладзімірам Ільічом Содалем, літаратурным краязнаўцам, даследчыкам творчасці Францішка Багушэвіча, прысвечаная 170-годдзю з дня нараджэння класіка.

**Мэты і задачы:** 1) пазнаёміць навучэнцаў з навуковай дзейнасцю Уладзіміра Содаля, літаратурнага краязнаўцы, даследчыка біяграфіі і творчасці класіка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча; 2) прэзентаваць новую кнігу “Блаславёныя Кушляны” Уладзіміра Содаля; 3) абуджаць цікавасць да даследчыцкай дзейнасці і павагу да роднай мовы.

**Абсталяванне:** партрэт Францішка Багушэвіча, тэматычная выстава кніг, альбомаў, медалёў, паштовак, канвертаў, марак, каляндарыкаў з вывамі пісьменніка; выстава кніг Уладзіміра Содаля пра Францішка Багушэвіча і пра мясціны, звязаныя з жыццём і творчай дзейнасцю пісьменніка; аўдыёзапіс песні “Маналог Францішка Багушэвіча” барда С. Сокалава-Воюша.

#### ХОД МЕРАПРЫЕМСТВА

**Эпіграф:** “Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!”

Францішак Багушэвіч.

*Гучыць запіс песні “Маналог Францішка Багушэвіча” С. Сокалава-Воюша. Словы песні пра Багушэвіча-паўстанца, адваката-абаронцу ся-*



*Алесь Віктаравіч Чэчат* – *выкладчык беларускай мовы і літаратуры вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі лінгвагуманітарнага каледжа УА "Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт". Закончыў філалагічны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1978). Аўтар шэрага публіцыстычных і навукова-метадычных артыкулаў.*

*лян павінны настроіць слухачоў на патрыятычны лад, абудзіць гордасць за такіх людзей, якім быў на Беларусі ў XIX ст. Францішак Багушэвіч.*

**Уступнае слова вядучага.** Па праграме тыдня беларускай і рускай моў і літаратур, які традыцыйна праводзіцца ў лінгвагуманітарным каледжы ў снежні, у нас сёння ў гасцях вядомы беларускі пісьменнік, літаратурны краязнаўца Уладзімір Ільіч Содаль.

*Навучэнцы вітаюць госця апладысментамі.*

**Вядучы.** Нарадзіўся Уладзімір Ільіч Содаль у 1937 годзе ў в. Мормаль Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Вучыўся на філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя Максіма Горкага ў прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Пра яго і іншых выкладчыкаў пасля не раз з цеплынёй узгадваў у сваіх артыкулах і тэлевізійных перадачах. Больш за 30 гадоў працаваў журналістам на беларускім тэлебачанні. Рыхтаваў і вёў перадачу "Роднае слова". Быў пачынальнікам вучэбных перадач "Тэлебачанне – школе". З гэтага ж часу пачалося яго захапленне творчасцю Францішка Багушэвіча, бо тады для здымак тэлесюжэтаў пра Багушэвічавы мясціны не раз наведваў Кушляны і Жупраны.

Сёння Уладзімір Содаль – аўтар шматлікіх артыкулаў і кніг пра Янку Купалу, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага), Аляксандра Уласава. У перыёдыцы змясціў шмат артыкулаў-даследаванняў пра нашых творцаў, іх родных, пра мясціны, дзе яны жылі і працавалі.

*Дэманструюцца кнігі Уладзіміра Содаля: "Людзьмі звацца" (1997), "Францішак Багушэвіч: Альбом-выстава ў школе" (1986), "Кушлянскі кут" (1990), "Сцежкамі Мацея Бурачка" (1991), "Жупранская старонка" (1992), "Свіранскія крэскі" (1995), "Умей слухаць" (2003), "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч: Альбом-выстава ў школе" (1998), "Карпілаўка" (2001), "Святы той куточак фальварак Свіраны" (2005), "Волат з Мігаўкі" (2007), "Народныя апавяданні" (2009).*

**Вядучы.** Уладзімір Содаль сёння ў нас не ўпершыню: ён ужо сустракаўся з нашымі навучэнцамі, у 2000 годзе ўдзельнічаў у канферэнцыі, прысвечанай 160-годдзю Францішка Багушэвіча; у 2004 годзе быў на прэзентацыі кнігі "Святло маёй крынічкі" свайго ўнука Сяргея Чылікіна-Садэльскага.

*Дэманструюцца публікацыі Уладзіміра Содаля ў часопісе "Роднае слова" пра радаводы Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Ядвігіна Ш.*

*Падрыхтаваныя навучэнцы выразна чытаюць на памяць вершы "Мая дудка", "Ахвяра", фрагмент прадмовы да зборніка "Дудка беларуская" Францішка Багушэвіча.*

*Пасля гучыць верш-прысвячэнне паэта Віктара Шніпа Францішку Багушэвічу:*

Ён сядзеў каля дарогі,
Як туман, увесь сівы.
– Бурачок, ты ж пахаваны…
– Дудка грае – я жывы.

– Падкажы мне, што іграці?
– Грай, што маеш на душы,
Толькі ад няшчырай песні
Дудку, браце, беражы.

І пайшоў ён па дарозе,
Як туман, увесь сівы.
– Бурачок жа пахаваны.
– Дудка грае – ён жывы.

*Выступленне Уладзіміра Содаля: а) пра ролю і асобу Францішка Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры; б) пра запавет пісьменніка будучым пакаленням беларусаў "Братцы мілыя, дзеці зямлі-маткі маёй!.. Не пакідайце ж мовы нашай, каб не ўмёрлі!..", пра глыбокае, сакральнае значэнне гэтых слоў; в) пра даследчую дзейнасць, звязаную з асобай Францішка Багушэвіча (найбольш значныя эпізоды з гісторыі пошукаў, сустрэчы з землякамі песняра); г) пра Міхала Ляпеху, Алеся Жамойціна – захавальнікаў музея Францішка Багушэвіча ў Кушлянах; д) зачытванне аўтарам некалькіх апавяданняў-мініяцюр пра Францішка Багушэвіча; е) пра свае далейшыя творчыя планы; ж) прэзентацыя новай кнігі аўтара "Блаславёныя Кушляны" (2009).*

**Вядучы.** Цяпер вы можаце задаць пытанні шаноўнаму госцю Уладзіміру Содалю. *(Прыводзяцца некаторыя з іх.)*

1. Што падштурхнула Вас звярнуцца да асобы і творчай спадчыны Францішка Багушэвіча?

2. Ці задаволены Вы тым, як ушаноўваецца беларусамі памяць пра Багушэвіча сёння? ►

*Да Дня Перамогі*

Віктар ПУНТУС

# *“НЕ ЗАБУДУ ТЫХ ДЗЁН…”*

*Сярод важных жыццёвых падзей*
*Мне з дзяцінства запала адна.*
*Будзе помніць і мноства людзей,*
*Што прынесла нам тая вайна.*

*Шэсцьдзесят пяць год назад…*
*Трэба помніць усім пакаленням.*
*Як герой, наш савецкі салдат*
*Беларусі прынёс вызваленне!*

*Я, равеснік Айчыннай вайны,*
*Бачыў сам тых фашыстаў жывымі.*
*Як сялян выганялі яны*
*З сваіх хат, з сваёй мілай Радзімы.*

*Паланілі мірных людзей.*
*Не забуду тых дзён да сканчыны:*
*І старых, і жанчын, і дзяцей*
*Гналі статкам, як быццам скаціну.*

*Кожны дзень з наступленнем святла*
*Самалёты з крыжаміляталі.*
*І бамбілі, палілі датла*
*Усё тое, што людзі стваралі.*

*Нас фашысты ўсюды шукалі,*
*Нас жадалі жывымі ўзяць.*
*І завесці ў замежныя далі,*
*Каб забіць, зрабаваць, растаптаць.*

*Патрабую, прашу помніць тых,*
*Хто загінуў салдатам.*
*Помніць іх, ветэранаў жывых,*
*Шанаваць Перамогі свята.*
Ліпень 2009 г.



***Віктар Максімавіч Пунтус** – педагог, інжынер-будаўнік. Працаваў майстрам вытворчага навучання, выкладчыкам спецыяльных прадметаў, інспектарам у Мінскім абласным упраўленні прафтэхадукацыі, Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь, метадыстам у БелВМЦ, метадыстам вышэйшай катэгорыі ў РІПА. Выдаў два падручнікі для прафтэхвучылішчаў, больш за 10 зборнікаў вучэбна-праграмнай дакументацыі для розных прафесій, каля 20 іншых вучэбна-метадычных матэрыялаў рэспубліканскага прызначэння. Выдатнік прафтэхадукацыі СССР, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, ветэран працы сістэмы прафтэхадукацыі.*

“Мне на пачатку вайны было амаль пяць гадоў, – згадвае Віктар Пунтус. – Дзіцячая памяць на ўсё жыццё захавала ўспаміны пра фізічныя і маральныя пакуты ваенных дзён, разруху. Я нарадзіўся ў вёсцы Серпішчана на Лагойшчыне. У суседняй вёсцы Янушкавічы (цэнтры сельскага савета) гітлераўцы знішчылі ў пачатку 1943 г. каля 150 чалавек. Шмат разоў смерць была на валасок ад мяне і маіх блізкіх.

Праходзяць гады. Вырасла новае пакаленне беларусаў. У згадках тых, каму сёння за семдзесят, жудасныя дні ваеннага ліхалецця. Абавязак відавочцаў – перадаць моладзі, нашчадкам праўду пра апошнюю вайну на Беларусі.

---

3. Ці здзейсніцца ў поўнай меры запавет Францішка Багушэвіча: “Яно, можа, і трэба ведаць іншыя мовы, але найперш трэба ведаць сваю”?

**Падагульняльнае слова вядучага.** Уладзімір Ільіч Содаль яшчэ і цяпер лёгкі на пад’ём: з ахвотаю згадзіўся сустрэцца з Вамі, будучымі настаўнікамі. Ён цікавы, дасціпны суразмоўца, чалавек з добрым пачуццём гумару, вялікі аптыміст. Верыць, што беларуская мова запануе ў нашым грамадстве, стане сапраўднай гаспадыняй на Беларусі.

У яго шмат задумак, ідэй: плануе выдаць новыя кніжкі (пра дзяцей вайны, пра беларускія вышыванкі; дарэчы, ужо і назва для будучай кніжкі ёсць – “Чалавек ў вышыванцы”).

Як бачыце, Уладзімір Ільіч – самы вялікі знаўца творчасці і біяграфіі Францішка Багушэвіча. Яго ўнёсак у багушэвічазнаўства ўражвае. Падзякуем шаноўнаму госцю за цікавую сустрэчу, за цудоўна праведзены час.

*Аўтар падпісвае кнігі навучэнцам, выкладчыкам, дорыць іх кабінету беларускай мовы і літаратуры, бібліятэцы каледжа.* ■



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ І СУСВЕТНАЯ КУЛЬТУРА

*Пошукі і знаходкі*

## ЭПОХА ПАСПАЛІТЫХ ТЫТАНАЎ

### ДА 210-ГОДДЗЯ ВАЛЕНЦІЯ-ВІЛЬГЕЛЬМА ВАНЬКОВІЧА



***Уладзімір Слабодчыкаў.* Валенцій Ваньковіч.** 2000 г.

XIX стагоддзе – эпоха значных і трагічных падзей у нашай айчыннай гісторыі, перыяд летуценняў і надзей на лепшую будучыню, на вяртанне дзяржаўнасці і незалежнасці ў межах былой Рэчы Паспалітай. Няпросты час дзейнасці тых, хто не пагадзіўся з ганебным падзелам вялікай еўрапейскай дзяржавы. Імі сталі верныя сыны і ўнукі, чые бацькі і дзяды ўдзельнічалі ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, на вачах якіх не толькі крамсалі Бацькаўшчыну і перайначвалі наноў палітычную карту Еўропы, але і фальсіфікавалі гісторыю забраных краін. Нашчадкам касінераў належала стаць чыннымі дзеячамі-будаўнікамі, здатнымі не толькі на ўзброенае змаганне, але і на стваральную працу.

На фарміраванне пакалення "народжанага ў няволі, закайданавага ў пялёнках" (Адам Міцкевіч), яго светаўспрыманне напачатку паўплываў не так павеў з усходу, ад новых сталіц – Пецярбурга і Масквы, як з захаду, дзе ў шэрагу няспынных войнаў паўставала асоба палкаводца Напалеона Банапарта. Вядома, напрыклад, пра бязмежнае захапленне французскім імператарам Адама Міцкевіча, які нават некаторыя асабістыя лісты падпісваў "Напалеон". Таму не дзіўна, што ў вайне 1812 г. шмат хто з нашых суайчыннікаў перайшоў на бок Банапарта, бачачы ў ім выратавальніка забранай Бацькаўшчыны – Беларусі-Літвы. Так пад французскімі штандарамі згінуў апошні ўладальнік старадаўняга нясвіжскага маярату Дамінік Радзівіл.

Аднак, не зважаючы на фатальныя палітычныя змены, культура нацыі працягвала развівацца. На пачатку XIX ст. паўстаюць і твораць гладыятары сваёй справы на культурнай арэне беларускага Калізея. Але ў іх руках не мячы, не трызубцы, а гусіныя пёры і пэндзлі. І яшчэ ў іх адзіны надзейны шчыт – высокая адукацыя, эрудыцыя і непарушны прадзедаўскі закон шляхецкай годнасці: "Каханне – жанчыне, пяшчоту – дзецям, пашану – продкам, а сэрца – Бацькаўшчыне". Гэтым творцам слушна здавалася, што ніколі не позна пачаць усё наноў. Менавіта ў штодзённай стваральнай працы бачылася ім адраджэнне вольнай Айчыны. І не дзіўна, бо ўсе яны маладыя – і тыя, хто толькі-толькі скончыў вучобу, і хто спрабаваў набыць еўрапейскую адукацыю ў старадаўняй сталіцы Літвы. Захопленай, але нескаронай.

Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Ян Дамель, Адам Шэмеш, Юзаф Аляшкевіч, Антон Гарэцкі, Станіслаў Манюшка і многія іншыя, у тым ліку 108 студэнтаў Віленскага універсітэта, хто складаў таварыствы філаматаў і філарэтаў, былі асуджаны на выгнанне – найганебнейшы прысудпакаранне яшчэ з рымскіх часоў – "баніцыю". Усе яркія постаці таго часу былі асабіста знаёмыя з героем нашага нарыса – Валенціем Ваньковічам – выдатным мастаком першай паловы XIX ст.

Ужо прамінула дзесяцігоддзе, як у Польшчы і тут, на радзіме, урачыста адзначалі 200-годдзе з дня нараджэння славутага майстра пэндзля. І нават у суседняй Літве, летапісцы культуры якой спрачаюцца за права называць В. Ваньковіча сваім творцам (для іх ён – *Vankiavičius*) [1].

Аднак з тым днём нараджэння не ўсё ясна дасюль. Так, у першай айчыннай энцыклапедыі заначалася, што "па некаторых звестках" мастак нарадзіўся ***14.2.1800*** у маёнтку "Калюжыца Ігуменскага пав. Мінскай губ.", а памёр 12.05.1842.

Разам з тым падаваўся верагоднай датай і год 1799, без пазнакі месяца і дня [2].

Названыя даты былі прадубляваны і праз 24 гады ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" [3], відаць, таму, што аўтарам артыкула зноў з'яўляўся Л. Дробаў.

У 1994 г. у часопісе "Мастацтва" была апублікавана копія хроснай метрыкі мастака ў перакладзе на рускую мову, знойдзеная ў невычэрпных фондах пецярбургскіх архіваў супрацоўнікамі будучага "Дома-музея Ванькавічаў":

*"1800 года траўня 24 дня. Я Смаленскі Канонік Берэзінскі святар Ігнась Кандратовіч ахрысціў немаўля на імя Валянцін-Вільгельм, якое нарадзілася 12 дня гэтага ж месяца. Сына шляхетных спадарства старшыні Ігуменскага павятога суда Мельхіёра і Схалястыкі з дому Парэцкай Ванковічаў"* [4].



**Тастамент Валенція Ваньковіча, запісаны Адамам Міцкевічам.**

Нягледзячы на некалькі памылак (імя *Валенці* – ператварылася ў *Валянціна*; прозвішча *Гарэцкіх* – у *Парэцкіх*, гэтак жа, як саміх *Ваньковічаў* – у *Ванковічаў*), гэты дакумент пралівае ўрэшце магічнае святло на вызначэнне праўдзівай даты нараджэння мастака.

Аднак, публікуючы ўпершыню такое каштоўнае сведчанне, рэдакцыя дадала слушную, на нашу думку, заўвагу: «*...як сьведчыць практыка архівістаў, выпіска з дакументаў, накшталт згаданай метрычнай хрысьцільнай кнігі... рабілася адпаведна календару, якім афіцыйна карысталіся ў Расійскай імперыі, – інакш кажучы, паводле "старога стылю". Дык ці не значыць, што Валенці Ваньковіч нарадзіўся ўсё ж не 12, а 24 мая 1800 года?..*»

Заўважана дакладна. Можна нагадаць, што сучаснік мастака, класік беларускай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч запісаны, згодна з лацінскай метрыкай, народжаным 23 студзеня 1808 г. Аднак яго юбілей мы адзначалі па новым календары, 4 лютага.

Ці не варта ў будучых біяграфіях Ваньковіча таксама падаваць даты двух стыляў: "Нарадзіўся 12(24).05.1800 г."?..

У чый гонар немаўля атрымала імя? У радаводзе Ваньковічаў, карані якога дакументальна сягаюць у XVI ст. (першым стаіць Еры-Юры Ваньковіч), а легендарным родапачынальнікам называецца полацкі князь Ванька, якога Кейстут ажаніў са сваёй дачкой (імя невядомае), найчасцей сустракаем наступныя родавыя імёны: Адам, Антось, Аляксандр, Стафан, Станіслаў, Тадэвуш, Уладзіслаў, Эдвард, Якуб, Ян...

Імя Валенцій* упершыню сустракаецца ў радаводзе Ваньковічаў у XIX ст. толькі ў нашага героя. Аднак паказальна, што дзед мастака па маці Схаластыцы Гарэцкай таксама зваўся Валенціем. Быў ён адным з апошніх войскіх** Віленскага ваяводства. Браў удзел у таемнай змове Якуба Ясінскага, а ў час паўстання 1794 г. увайшоў у Найвышэйшую Кіраўнічую Раду ў Вільні, а пазней – у Цэнтральную Дэпутацыю ВКЛ. Як бачым, асоба Валенція Гарэцкага – удзячны аб'ект для будучых даследаванняў нашых гісторыкаў.

Гэтак жа, як для літаратуразнаўцаў – творчасць яго ўнука, г. зн. кузена, стрыечнага брата В. Ваньковіча – паэта Антона Гарэцкага (Гурэцкага) (1787 – 1861). Паходзіў ён з Вільні, удзельнічаў у лістападаўскім паўстанні 1830 – 1831 гг., апынуўся ў эміграцыі, дзе сябраваў з Адамам Міцкевічам, выдаў зборнік "Паэзія літвіна" (Парыж, 1834).

На жаль, жыццёвы шлях самога В. Ваньковіча, яркага творцы, прадстаўніка рамантычнай плыні ў айчынным мастацтве першай паловы XIX ст., вядомы толькі ў агульных рысах і патрабуе грунтоўнага манаграфічнага даследавання. Крыніцамі для пошукавай працы ў Беларусі найперш могуць стаць радаводныя матэрыялы продкаў жывапісца і архівы былога Полацкага езуіцкага калегіума, дзе Валенцій вучыўся ў 1811 – 1818 гг. і адкуль вынес сур'ёзную класічную адукацыю. За межамі Беларусі пошукі вар-

---

* Па-беларуску больш слушна ўжываць менавіта такую форму імя замест польскамоўнага *Валенты* (параўнайце: *Уладзіслаў*, а не *Уладыслаў*, *Гедзімін*, а не *Гедымін*).

** **Войскі** – службовая асоба ў ВКЛ. У час войнаў і агульнай мабілізацыі (паспалітага рушэння), калі шляхта пакідала свае маёнткі, назіраў за парадкам у павеце.

та скіраваць у фонды колішняга Віленскага універсітэта ды Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, куды ў 1824 г. па рашэнні вучонага савета універсітэта мастака накіравалі “для ўдасканалення творчай манеры” (сябры там звярталіся да юнака не інакш, як да Вільгельма).

Калі напрыканцы 1830-х гг. жывапісец развітаўся з сямейнікамі і падаўся ў творчы ваяж па еўрапейскіх краінах, ніхто не думаў, што гэты шлях будзе незваротны. На доўгі час ён затрымаўся ў парыжскай кватэры Адама Міцкевіча, чыёй рукой 12.05.1842 г. (атрымліваецца, у дзень смерці мастака!) быў занатаваны апошні зямны след Валенція:

*“Абавязаны я сям’і і дзецям маім пакінуць рэчы, якія ад мяне застануцца. Жадаючы даверыць іх у надзейныя рукі аднаго з сяброў, Адама Міцкевіча, абавязваю, каб парупіўся ён заапекавацца маімі рэчамі, не дазваляючы, каб хто-небудзь іншы імі распараджаўся. Некаторыя з карцін прадаць на аплату маіх парыжскіх пазык, а рэшту грошай раздаць тым, хто мае патрэбу.*

*Абраз Св. Яна Евангеліста пакідаю Міцкевічу, які пазней пастараецца вярнуць карціну маёй сям’і.*

*Абраз Св. Клары пакідаю Андрэю Тавянскаму.*

*Папкі і альбомы захаваць для маіх дзяцей.*

*Абраз італьянскай Мадонны можна будзе прадаць. Карціны і папкі, што знаходзяцца ў Берліне, таксама вярнуць маёй сям’і.*

*Года 1842. М[есяца] Траўня 12 дня. Партрэт Андрэя пакідаю ў распараджэнне Андрэя. Акварэль з выявай сямейства Св. Яна аддаю Міцкевічу.*

*Валенці Ванькові*ч”.

Мастак да канца застаўся творцам. Калі ў развітальным запавеце людзі паспалітыя на зямлі пакідаюць нашчадкам маёнткі, іншую “рухомую й нерухомую маёмасць”, каштоўныя паперы-аблігацыі, дзесяткі, сотні ці нават тысячы душ падданых, Валенцій Ванькові найбольшым багаццем, як бачым, лічыў створаныя ім карціны – сканцэнтраванае мастацкае выяўленне ўласнага пачуцця да Айчыны, яе гісторыі, навакольнага свету. І ён не памыліўся.

“Vita brevis, ars longa!” – “Жыццё кароткае, мастацтва – вечнае”.

**Спіс літаратуры**

1. **Буйвал, В.** “MAESTRO ВАЛЕНЦІ”. Да 200-годдзя з дня нараджэння Валенція Ваньковіча (1800 – 1842) / В. Буйвал // Наша вера. – 2000. – № 1 (11). – С. 14 – 17.
2. **Дробаў, Л. Н.** Ванькові Валенцій Мельхіёравіч / Л. Н. Дробаў // БелСЭ. – Мінск, 1970. – Т. 2. – С. 592.
3. **Дробаў, Л.** Ванькові Валенцій Мельхіёравіч / Л. Дробаў // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. – Мінск, 1994. – Т. 2. – С. 218.
4. **Паньшына, І.** Ісціна вымалёўваецца : Валенцій Ванькові. Новыя факты біяграфіі / І. Паньшына // Мастацтва. – 1994. – № 17. – С. 53.

**Каміла ЯНУШКЕВІЧ.**

*Аўтар выказвае падзяку загадчыцы “Дома-музея Ваньковіча” Наталлі Сычовай за дапамогу ў падрыхтоўцы артыкула.*

*З гісторыі выяўленчага мастацтва*

# РАМАНТЫЧНЫ СВЕТ ПАРТРЭТАЎ ВАЛЕНЦІЯ ВАНЬКОВІЧА

Сапраўдным партрэтыстам-наватарам, яркім прадстаўніком рамантызму ў беларускім выяўленчым мастацтве з’яўляецца славуты Валенцій Ванькові (1800 – 1842).

Схільнасць да партрэтнага жанру, як і рамантычная “афарбоўка”, праявіліся ўжо ў ранніх творах жывапісца, зробленых падчас навучання ў Віленскім універсітэце. Першы біёграф В. Ваньковіча, Вінцэнт Смакоўскі, звяртае ўвагу на тое, што не толькі твар, але і ўся постаць партрэтаваных мелі вялікае падабенства з жывой мадэллю [12, с. 134]. А звычайныя штудыі аголенай натуры пераасэнсоўваліся маладым мастаком “у рамантычным духу” [6, с. 55].

Адна з першых вядомых прац В. Ваньковіча, у якой заўважны будучы славуты партрэтыст, – мініяцюра **“Пеўчыя”** (**“Пеўчыя віленскай кафедры”**; каля 1819 – 1820), дзе ў цэнтры ўвагі аўтара – двое пеўчых, захопленых малітвай.

Смакоўскі ў сваіх успамінах пісаў, што падчас вучобы ў Вільні В. Ванькові часта наведваў службы ў касцёле, якія праходзілі пры загадкавым святле свечак і лампад. “Ён намаляваў некалькі сцэн… дзе старыя і жанчыны пры запаленых вітых свечках спявалі малітвы. <…> Ілюзія была настолькі рэальнай… быццам бы ад запаленай свечкі святло падала на малюнак… [Ванькові] умеў надаць сваім працам такі ілюзорны, такі чароўны святлацень, што здавалася – да кожнай постаці можна дакрануцца рукой” [12, с. 127 – 128].

Мініяцюра, сапраўды, адпавядае гэтаму апісанню. Галоўны інтарэс мастака – эфектныя святлоценявыя кантрасты і незвычайнае асвятленне. Старанна распрацавана знешнасць пеўчых – адзін

з іх даволі сталы чалавек, другі – маладзейшы. Пастаць старэйшага, што знаходзіцца на першым плане, больш дэталізавана. В. Ванькові паказвае яго ўважлівыя вочы, што пільна ўглядаюцца ў кнігу, вусны пад абвіслымі вусамі, лысую галаву, ад якой эфектна адлюстроўваецца святло. Малады пеўчы выяўлены больш абагульнена. У правай руцэ ён трымае свечку. Пры гэтым, нібыта забыўшыся на яе, увесь ён захоплены малітвай.

Галоўнай задачы твора – перадаць цікавыя эфекты асвятлення – служыць і каларыт мініяцюры. В. Ванькові выкарыстоўвае вельмі мяккае спалучэнне светлых і цёмных вохрыстых, карычневых, а таксама лёгкіх блакітных адценняў. Пры гэтым вельмі дакладна перадае блікі, створаныя асвятленнем. Смела адлюстраваны рэфлексы (асабліва на адзенні старога). Карычневая па асноўным колеры вопратка ўтрымлівае вялікую колькасць адценняў, утвораных водбліскамі свечкі.

Жанравы характар мініяцюры, цікавасць да дынамічных светлавых эфектаў, гармонія часам даволі смелага каларыту прадказвалі аўтару "Пеўчых" славу знакамітага партрэтыста-рамантыка.

Вельмі блізкім да названага твора з'яўляецца **"Аўтапартрэт"** В. Ваньковіча (каля 1820 г.). Дзве мініяцюры яднае, перш за ўсё, тэхніка выканання; намаляваныя гуашшу, яны маюць відавочнае падабенства ў спосабе накладання фарбы, размеркаванні колеравых плям.

Да жанру аўтапартрэта В. Ваньковіч будзе звяртацца на працягу жыцця неаднаразова, што натуральна для прадстаўніка рамантызму, бо менавіта аўтапартрэт звычайна перадае "творчае крэда мастака" [8, с. 143].

У раннім творы перад намі малады чалавек з засяроджаным позіркам вялікіх вачэй, сапраўднай "рамантычнай" прычоскай – ускудлачанымі непакорлівымі валасамі, крыху прыпухлымі прыгожа акрэсленымі вуснамі. В. Ваньковіч не ідэалізуе сваю знешнасць, цвяроза перадае адметнасці твару з даволі буйнымі рысамі.

Вобразны строй партрэта нельга назваць адназначным. Замілаванне маладосцю і натуральнай прывабнасцю героя суседнічае з адчуваннем пэўнай унутранай неўраўнаважанасці. Ведаючы жыццёвы і творчы лёс мастака, можна з упэўненасцю гаварыць пра паходжанне гэтага стану. Як і ўсе рамантыкі, В. Ваньковіч пакутаваў ад неадпаведнасці паміж духоўным і матэрыяльным светам, высокім мастацтвам і непатрабавальным рамяством.

Пра наватарскія пошукі жывапісца сведчаць выказванні яго сучаснікаў (прычым, як гэта нярэдка бывае, негатыўнага зместу). Усхваляючы за ўменне падобна перадаць знешнасць у партрэтах, адзін з іх упікае мастаку за "ненатуральны каларыт" [6, с. 57]. Сапраўды, ужо ў "Аўтапартрэце" 1820 г. назіраецца спалучэнне насычаных ружова-чырвоных колераў з халодным блакітным фонам. Такое колеравае свавольства не магло спадабацца тагачасным крытыкам – прыхільнікам класіцыстычнага мастацтва. Вось толькі В. Ваньковіч ужо свядома адыходзіць ад традыцый класіцызму. Жывапісныя пошукі выяўляюць цікавасць маладога мастака да павышанай экспрэсіі, імкненне да выразнасці, характэрных для новай мастацкай плыні – рамантызму [6, с. 58].

Гады вучобы ў Віленскім універсітэце супалі з часам росквіту гэтай навучальнай установы, калі ў паветры луналі нацыянальна-вызваленчыя ідэі. Студэнцтва, аб'яднанае марамі пра роўнасць, братэрства і свабоду, з вялікім імпэтам бралася за навуку. Валенцій не заставаўся ўдалечыні ад найлепшых памкненняў віленскай моладзі (магчыма, нават уваходзіў у склад Таварыства філарэтаў [6, с. 59]).

Сведчаннем блізкасці жывапісца да найбольш актыўнай, прагрэсіўнай часткі пакалення з'яўляецца серыя графічных партрэтаў А. Міцкевіча, Ф. Малеўскага, А. Адынца, Ю. Корсака і іншых, створаных мастаком падчас навучання ў Вільні.

Блізкім па настроі да названых твораў з'яўляецца алейны **"Партрэт Э. Ромера"** (большасць навукоўцаў прыпісваюць недатаваную работу пэндзлю В. Ваньковіча).

Эдвард Ян Ромер – грамадскі дзеяч, перакладчык, мастак, літаратар. Прыкладна ў адзін час з В. Ваньковічам ён наведваў клас прафесара Я. Рустэма, дзе маладыя людзі маглі пазнаёміцца. Рысы рамантычнага жывапісу, заўважныя і ў ранейшых творах В. Ваньковіча, у дадзеным партрэце яшчэ больш узмацняюцца. Жывапісец выкарыстоўвае ўжо традыцыйную для сябе кампазіцыю з трохчвэрцевым ракурсам, прыглушаны фон, на якім вылучаецца больш інтэнсіўная па колеры фігура.

Разам з тым "Партрэт Э. Ромера" мае і сваю адметнасць. Па вобразнасці ён адрозніваецца ад лірычных, з настроем лёгкага суму графічных партрэтаў В. Ваньковіча. Рашучы паварот галавы, сціснутыя вусны, напружаны позірк сведчаць пра энергію героя, моц яго характару. Мастаку ўдаецца перадаць "рамантызм дзеяння, а не рамантыку пачуццяў" [6, с. 62].

Твор, які выдатна раскрывае характар тагачасных мастацкіх пошукаў В. Ваньковіча, – **"Партрэт К. Ліпінскага"** (1822). Вобразны строй працы цалкам адпавядае эстэтыцы рамантызму. На цёмным фоне ярка вылучаецца добра асветлены твар славутага скрыпача. У яго тыпова рамантычная ўскудлачаная прычоска, свабодна завязаны гальштук, які адкрывае шыю. Караль Ліпінскі паказаны не ў парадным, а ў звычайным хатнім адзенні (халаце з футравай аблямоўкай), што надае твору інтымны, камерны характар. Усё азначанае было абсалютна непрымальным для строгіх, "прыгладжаных" класіцыстычных партрэтаў.



***Валенцій Ванькові*ч. Партрэт К. Ліпінскага.**
1822 г. Палатно, алей.
Нацыянальны музей у Варшаве.

Славуты музыка адлюстраваны са сваёй улюбёнай спадарожніцай – скрыпкай. Разняволеныя, экспрэсіўныя мазкі, якімі жывапісец накладваў фарбу, дэталі знешнасці – твар, прычоска, адзенне – не пакідаюць сумнення, што перад намі таленавітая і яркая творчая асоба, мастак у шырокім разуменні гэтага слова. Разважаючы пра “Партрэт К. Ліпінскага”, І. Свірыда слушна заўважае, што менавіта з гэтага твора В. Ванькові распачаў пошукі тыпу партрэта, які выяўляў бы чалавека-творцу [6, с. 62]. Партрэта, які сапраўды праславіў жывапісца.

У 1824 г. вучоны савет Віленскага універсітэта накіраваў мастака ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў для ўдасканалення жывапіснага майстэрства. Пецярбургскі перыяд стаў вельмі плённым у творчым жыцці В. Ваньковіча. Шматлікія партрэты, напісаныя ў гэты час, мелі вялікі поспех сярод сучаснікаў, увайшлі ў залаты фонд беларускага мастацтва.

Сярод палотнаў мастака, прысвечаных яго сябрам, адасоблена стаіць партрэт жанравага характару **“Жанчына, якая раскладвае пасьянс”** (1829). Карціна знаходзіцца ў прыватнай калекцыі, але яе выяву можна знайсці ў спецыялізаваных інтэрнэт-рэсурсах.

Першае, што ўзгадваецца, калі глядзіш на твор, – славутая “Пікавая дама” А. Пушкіна. Сапраўды, тэма ігральных картаў, жанчына сталага ўзросту ў характэрным чапцы з фальбонамі і вельмі ўчэпістым позіркам – усё гэта адсылае да сюжэта і галоўнай гераіні пушкінскай гісторыі. Разам з тым нельга правесці прамых аналогій паміж аповесцю і партрэтам: “Пікавая дама” была напісана ў 1833 г., праз чатыры гады пасля карціны В. Ваньковіча.

Увогуле “Пікавую даму” лічаць адным з самых загадкавых твораў А. Пушкіна. Вядома, што сучаснікам пісьменніка аповесць не спадабалася – яны не маглі зразумець ідэю аўтара. Даследчыкі і сёння спрачаюцца пра сутнасць характару пушкінскага твора і прысутнасць у ім фантастычнага элемента.

У адным погляды навукоўцаў сыходзяцца: аповесць стваралася пад моцным уплывам рамантычнай эстэтыкі, перш за ўсё творчасці такіх пісьменнікаў, як Э. Гофман, Л. Цік. Толькі ў адрозненне ад Гофмана, у якога кожная з’ява мае два бакі і належыць двум светам – рэальнаму і звышрэальнаму адначасова, – у Пушкіна ўсё ірацыянальнае можа быць растлумачана рэальнымі прычынамі. Гэта можна патлумачыць вельмі моцнымі традыцыямі асветніцкага рацыяналізму ў Расіі. Менавіта таму аўтар наўмысна адхіляецца ад ацэнкі падзей, толькі канстатуе тое, што бачыў яго герой [5, с. 30].

Такое ж адчуванне дваістасці, недасказанасці пакідае і твор В. Ваньковіча. З аднаго боку, звычайная жанравая сцэна, момант, выхаплены з паўсядзённасці. А з іншага – насычанасць дэталямі, якія выклікаюць пачуццё загадкавай нявымаўленасці. Карціна мае прыглушаны каларыт, жывапісец выкарыстоўвае розныя адценні карычневага. Адзінай яркай светлай плямай выступае твар жанчыны (а таксама далоні, у якіх яна трымае карты). Агульны таямнічы настрой твора ўзнікае дзякуючы кантрасту паміж стрыманым каларытам, мяккімі рысамі знешнасці, адзення і вельмі ўчэпістым, глыбокім позіркам гераіні, які быццам не адпускае, прыцягвае гледача. Матыў дваістасці, неадназначнасці падтрымлівае і вельмі своеасаблівы фон – ён утвораны дзіўным спалучэннем карычнева-вохрыстых, чырванаватых пошугаў, якія таксама спрыяюць настрою загадкавасці, трывожнасці. У адрозненне ад Пушкіна Ваньковічу бліжэй еўрапейскі рамантызм, прасякнуты містыкай і адчуваннем падзелу жыцця на рэальнае і ірэальнае.

Разглядаючы жывапісную манеру мастака, можна адзначыць, што яна вельмі дынамічная, экспрэсіўная, сучасная. В. Ванькові далёка адыходзіць ад роўнага і стрыманага класіцыстычнага жывапісу ў бок новай, рамантычнай эстэтыкі.

Пра значны духоўны і мастацкі рост сведчыць пецярбургскі **“Аўтапартрэт”** (1830) В. Ваньковіча. Перад намі ўжо не сціплы студэнт-жывапісец з юнацкімі пяшчотнымі рысамі твару, а “малады чалавек з ясным і ўдумлівым позіркам, поўны надзей на будучыню і веры ў свой талент” [8, с. 145].

Сапраўдным "натхнёным пракорам" (вызначэнне сучасніка В. Ваньковіча Станіслава Мараўскага) мастак паўстае ў сваім славутым **"Партрэце А. Міцкевіча на скале Аюдаг"** (1827 – 1828). Ужо амаль два стагоддзі гэты твор нараджае ў мастацтвазнаўцаў і аматараў жывапісу ўзнёслыя водгукі. "Паэт натхніў мастака, мастак зразумеў і адлюстраваў паэта" (з ліста сучасніка В. Ваньковіча Аляксандра Ходзькі). "Візітная картка мастака" [3, с. 8], "прызнаны шэдэўр" [8, с. 145], "значны твор сталага польскага рамантызму" [6, с. 3], "маніфест рамантызму ў беларускім жывапісе" [1, с. 15] – вызначэнні сучасных даследчыкаў.

Нягледзячы на тое, што партрэт быў створаны ў пецярбургскай майстэрні, і жывапісец, і паэт у думках пераносіліся ў зусім іншую атмасферу. Натхнёны "Крымскімі санетамі" А. Міцкевіча, мастак змяшчае свайго героя на далёкую скалу Аюдаг, амаль пад самыя нябёсы:

*Люблю я з Аюдага пазіраць у далі,*
*Дзе ўсьпененай чаргой валы йдуць за валамі*
*То чорнай чарадой, то срэбнымі клубамі,*
*То ў сьнежных пырсках*
*і ў вясёлкавым крышталі,*
*На мель наткнуцца і раздробяцца на хвалі,*
*Абложаць узьбярэжжа, быццам бы кітамі.*
Пераклад У. Мархеля.

Гэта вельмі характэрна для рамантызму – суадносіць душэўны стан героя з прыродным асяроддзем. У дадзеным выпадку дух паэзіі А. Міцкевіча атаясамліваецца з велічнай прыгажосцю дзікай прыроды. Цікава, што В. Ваньковіч застаецца верным рамантычным канонам нават у дэталях. Так, вядома, што жывапісец адмовіўся ад ідэі адлюстраваць А. Міцкевіча ў рымскай туніцы з узнятай да нябёсаў рукой (падобнае кампазіцыйнае рашэнне было б традыцыйным для класіцыстычнага жывапісу [4, с. 46]). У канчатковым варыянце паэт напісаны ў звычайным паўсядзённым адзенні, на яго плечы накінута каўказская бурка (зноў жа тыпова рамантычныя матывы Усходу і свабоды).

Адзіны атрыбут, які дазволіў сабе В. Ваньковіч, – выява ліры – сімвал эпічнай гамераўскай паэзіі. Як слушна заўважае Я. Шунейка, "мастак адчуваў каласальны творчы патэнцыял Міцкевіча і таму смела атаясніў яго з антычным волатам літаратуры. Перад намі творца нацыянальнага эпасу, Гамэр Новых часоў, вышэй за якога яшчэ ніхто не ўзыходзіў да вяршыняў натхнення" [11, с. 30].

Рамантычную прыўзнятасць падтрымлівае і своеасаблівы каларыт партрэта. В. Ваньковіч выкарыстоўвае яркія сакавітыя колеры, кантрастныя спалучэнні – чырвоны, белы і амаль чорны – у адлюстраванні адзення і скал, блакітны і жоўта-ружовы – у выяўленні крымскага неба на захадзе сонца.

Цікава, што кансерватыўна настроеным крытыкам партрэт А. Міцкевіча не спадабаўся – мастака абвінавачвалі ў тым, што ліра паказана ў перспектыве няправільна, аблокі звісаюць занадта нізка [4, с. 46 – 47]. Для прыхільнікаў акадэмізму падобныя заўвагі былі вельмі сур'ёзнымі. У сваю чаргу, сярод прагрэсіўнай часткі грамадства твор меў велізарны поспех. Сучаснікі В. Ваньковіча адзначалі вялікае падабенства мадэлі і партрэта, прызнавалі палатно сапраўдным шэдэўрам.

У гэтай працы малады мастак праявіў сябе як сталы жывапісец-партрэтыст. Яму ўдалося вытрымаць гармонію паміж рэальным і ўмоўным, пазбегнуць празмернай пафаснасці і нагрувашчанасці. Рамантызацыя вобраза паэта не пераўтварылася ў ідэалізацыю. В. Ваньковіч здолеў асэнсаваць і надзвычай удала перадаць суадносіны чалавека і прыроды. Усё гэта дазволіла "Партрэту А. Міцкевіча на скале Аюдаг" стаць знакавым, этапным творам у гісторыі не толькі беларускага, але і ўсяго еўрапейскага мастацтва.

Парным да партрэта Адама Міцкевіча стаў партрэт Аляксандра Пушкіна (1828, незавершаная карціна засталася ў падмалёўку). На жаль, лёс твора невядомы, існуюць толькі апісанні і ўражанні сучаснікаў. У партрэце В. Ваньковіча Пушкін адлюстраваны ў стане сузірання і роздуму пад цяністым дрэвам. На ім шырокі іспанскі плашч-альмавіва з клятчастай падкладкай.

Людзі, якія бачылі твор, адзначалі "дзіўнасць" каларыту і надзвычайнае падабенства мадэлі. Як і ў партрэце Міцкевіча, мастак застаўся верным сабе. Падкрэсліваючы значнасць асобы, яе магутны творчы патэнцыял, ён, тым не менш, пазбягае залішняй ідэалізацыі.

З пецярбургскага перыяду творчасці В. Ваньковіча вядомы **"Партрэт М. Шыманоўскай"** (1828), славутай польскай піяністкі і кампазітара. У 1828 г. М. Шыманоўскую, якая паспяхова гастраліравала па ўсёй Еўропе, запрасілі на пасаду прыдворнай піяністкі і выкладчыцы фартэпіяна ў Санкт-Пецярбург. Салон славутай музыканткі наведвалі многія творчыя людзі, у тым ліку і В. Ваньковіч, А. Міцкевіч (які пазней ажаніўся з малодшай дачкой Шыманоўскай Цэлінай).

Але ж не толькі дзякуючы добраму сяброўству звярнуўся В. Ваньковіч да вобраза Марыі. Мастака-рамантыка ўвесь час прываблівалі асобы аднадумцаў – паэтаў, музыкаў, – усіх неабыякавых да свету прыгажосці людзей.

Паводле кампазіцыі "Партрэт М. Шыманоўскай" – партрэт-карціна, дзе вобраз раскрываецца ў тым ліку і з дапамогай атрыбутаў і аксесуараў. Пра мастацтва Адраджэння нагадвае характэрнае трохстворкавае акно ў глыбіні карціны. Присутнічае ў творы і выразны подых барока: амур падае піяністцы ноты, фартэпіяна і тэат-



***Валенцій Ваньковіч.***
**Партрэт К. Тавянскай.**
Да 1840 г. Палатно, алей.
Нацыянальны музей у Варшаве.

ральная заслона сімвалізуюць артыстычнасць і музыку [10, с. 41]. Падобныя рэмінісцэнцыі цалкам апраўданыя. Мастак хацеў стварыць велічны і ўрачысты партрэт "царыцы гукаў", паказаць яе значнасць, прыгажосць і высакароднасць.

Як сапраўдны рамантык В. Ваньковіч не выкарыстоўваў прыёмы класіцызму пры выкананні параднага партрэта (у адрозненне ад, напрыклад, свайго папярэдніка Я. Аляшкевіча з яго славутым "Партрэтам А. Чартарыйскага"). Жывапісцаў эпохі рамантызму прываблівала іншае мастацтва, якое класіцысты часта называлі варварскім, грубым – готыка, барока, экзатычныя матывы Усходу і іншае.

Валенцій Ваньковіч у гэтым плане не застаецца па-за межамі наватарскіх пошукаў. Так, напрыклад, жывапіс барока моцна ўразіў мастака яшчэ падчас навучання ў Полацкім езуіцкім калегіуме – менавіта тут захоўваліся шматлікія позне-барочныя творы Ш. Чаховіча. Маладому чалавеку так спадабаліся гэтыя карціны, што ён вырашыў прысвяціць жыццё мастацтву [12, с. 5].

Зварот да вобраза Марыі Шыманоўскай сведчыць не толькі пра актуальныя на той час мастацкія пошукі, але і пра значныя сацыяльныя змены, характэрныя для эпохі рамантызму. Стаўленне да жанчын як да сяброў-аднадумцаў пачынаецца ў многім менавіта ў гэты перыяд. Амаль упершыню ў гісторыі вобраз чалавека-творцы не асацыіруецца выключна з мужчынам [2, с. 141].

У канцы 1820-х гг. В. Ваньковіч вяртаецца на радзіму і пасяляецца ў родавым маёнтку Малая Сляпянка, дзе паглыбляецца ў творчасць: піша шматлікія вобразы родных, сяброў, суседзяў. Не раскоша і багацце, а сціпласць і шчырасць прываблiваюць у партрэтах А. Гарэцкага, В. Пуслоўскага, Г. Гарноўскага, партрэтах сястры і брата мастака. Майстэрня В. Ваньковіча паступова становіцца культурным цэнтрам Мінска. Яе часта наведвалі Я. Дамель, М. Кулеша, іншыя жывапісцы.

У мінскі перыяд з'яўляецца карціна, што стаіць асобна ў творчасці В. Ваньковіча. Гэта **"Партрэт жонкі з дзецьмі"** (1834), у якім відавочнае захапленне мастака жывапісам эпохі Адраджэння (у прыватнасці, творчасцю Рафаэля). Мяккія і пяшчотныя рысы твару жонкі Анэлі нагадваюць выявы мадоннаў, а двое маленькіх дзяцей падобныя да анёлкаў. Каларыт палатна таксама своеасаблівы: фарбы нияркія, стрыманыя, пры гэтым напоўненасць святлом робіць іх перламутравымі. Увогуле твор пакідае адчуванне абраза, а не свецкай карціны [10, с. 42].

Падобны зварот В. Ваньковіча да класікі можна патлумачыць аб'ектыўнымі прычынамі. Магчыма, жывапісец выконваў заданне Акадэміі мастацтваў. У 1833 г. ён атрымаў ліст, які сведчыў, што для надання звання сапраўднага члена гэтай установы неабходна прадставіць карціну – сямейную сцэну [10, с. 42]. Відаць, мастак разумеў, што твор будучага акадэміка павінен адпавядаць класічным традыцыям, менавіта таму партрэт не мае знешніх прыкмет "крамольнага" рамантызму.

Цікава, што ў Санкт-Пецярбург гэтая праца так і не патрапіла. Прычынай, хутчэй за ўсё, сталі значныя змены ў светапоглядзе мастака. Жывапісец усё больш трапляў пад уплыў рэлігійна-містычнага вучэння мінскага арыстакрата Андрэя Тавянскага.

Паводле яго ідэй, сэнс жыцця павінен заключацца ў імкненні да суладдзя духу і цела, а ўзорам падобнага суладдзя лічыўся Ісус Хрыстос.

Сардэчны, адкрыты да людзей В. Ваньковіч стаў адным з тых, хто шчыра імкнуўся да духоўнай і маральнай дасканаласці. У творчасці жывапісца містычныя пошукі сталі прычынай актыўнага звароту да рэлігійнай тэматыкі.

Найбольш удалымі працамі гэтага часу з'яўляюцца "Партрэт невядомага ў жоўтай камізэльцы" (1836), партрэты Караліны і Андрэя Тавянскага (каля 1837 г.).

У **"Партрэце А. Тавянскага"** мастаку ўдалося стварыць яркі вобраз неардынарнага чалавека. Ва ўсёй постаці і асабліва позірку адчуваецца рашучасць і мэтанакіраванасць. В. Ваньковіч так будуе кампазіцыю і каларыстычную гаму твора, што нічога не адцягвае ўвагу ад твару і далоней А. Тавянскага.

У руцэ містык трымае пяро, якім збіраецца пісаць. Нават у гэтым звычайным руху відаць моц-

ная воля героя партрэта. Прамая спіна, ганарліва прыўзняты падбародак, адкрыты позірк, скіраваны ўдалячынь, – усё сведчыць пра інтэлект і духоўную моц, гатоўнасць пайсці на рашучыя дзеянні ў імя дасягнення сваіх мэт.

Партрэт жонкі А. Тавянскага, Караліны, наадварот, прываблівае мяккасцю і пяшчотай. Маладая дама паказана за ігрой на клавесіне. Гарманічныя рысы твару, прыгожа выгнутыя вусны, глыбокі позірк сведчаць пра тонкі розум.

Твор прываблівае дзівоснай гармоніяй – мяккія і плаўныя лініі адзення і прычоскі пераклікаюцца з крыху сумным задуменным позіркам вялікіх вачэй. Усё гэта падтрымлівае тыпова рамантычны краявід на заднім плане партрэта. Дзякуючы выдатнаму мастацкаму густу В. Ваньковічу ўдалося галоўнае – яскрава "перадаць прыгажосць жыцця" [4, с. 52].

Валенцій Ваньковіч, як і многія патрыёты, не здолеў да канца перажыць паразу вызваленчага паўстання 1830 – 1831 гг. Спакойны перыяд, напоўнены сямейным шчасцем, для мастака скончыўся. Як і сучаснікі па ўсёй Еўропе, жывапісец выдатна разумеў, што "рамантычныя ідэалы маладосці разбіліся аб мур рэакцыі…" [1, с. 16]. Здароўе мастака пагоршылася. Сябры і родныя разумелі, што творчай фігуры такога маштабу, як В. Ваньковіч, цесна ў межах правінцыйнага горада. У 1839 г. ён канчаткова вырашае выехаць за мяжу.

Душэўны стан мастака ў гэты перыяд яскрава адлюстроўвае **"Аўтапартрэт"** (1840). Перад намі ўсё яшчэ натхнёны рамантык, які верыць у магчымасць удасканалення сусвету сродкамі мастацтва. Але ў позірку прысутнічае і пачуццё самоты, меланхоліі, што выразна характарызуюць тагачасны настрой і думкі В. Ваньковіча – стомленасць і расчараванне сталі жыццёвымі спадарожнікамі творцы.

Падчас знаходжання ў Заходняй Еўропе мастак не стварыў ніводнага значнага партрэтнага твора. Прычын таму было шмат: знясіленасць, расчараванне ў ідэалах, надзвычай моцны ўплыў "мага" Тавянскага. Пад уздзеяннем самазванага прарока В. Ваньковіч паглыбляецца ў рэлігійную тэматыку. Да гэтага ж часу належыць і зварот мастака да вобраза Напалеона.

Па вучэнні Тавянскага, Хрыстос – першы месія, за ім ідуць іншыя, у тым ліку Напалеон, сам Тавянскі лічыў сябе апошнім у гэтым спісе [7, с. 21]. Секта "напалеонаўшчызны" была надзвычай папулярнай на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, нават нягледзячы на паразу французаў. Пра гэта сведчаць таксама і алегарычныя палотны В. Ваньковіча – "Напалеон плача над картай Еўропы" і "Апафеоз Напалеона" (1841).

12 мая 1842 г. В. Ваньковіча не стала. Мастаку споўнілася ўсяго сорак два гады. Сучасніку цяжка зразумець падобнае, але вера прыхільнікаў секты Тавянскага ў свайго настаўніка была настолькі моцнай, што магла ўплываць нават на пытанне жыцця і смерці. У прызначаны "магам" дзень В. Ваньковіч памірае на руках свайго сябра А. Міцкевіча.

Складана назваць пэўную прычыну кароткага жыццёвага шляху таленавітага мастака. Матэрыяльныя цяжкасці не дазволілі В. Ваньковічу і многім іншым вартым жывапісцам актыўна ўключыцца ў мастацкае жыццё еўрапейскіх сталіц.

Разам з тым неадпаведнасць паміж матэрыяльным і духоўным – адзін з асноўных для эпохі рамантызму канфліктаў. Не толькі ў простым губернскім Мінску, але і ў Парыжы, Лондане, іншых найбуйнейшых мастацкіх цэнтрах творцы займаліся актыўнымі духоўнымі пошукамі, пры гэтым часта змагаючыся з вялікімі матэрыяльнымі цяжкасцямі. Неабходнасць адпавядаць густам замоўцаў-абывацеляў, прыземленасць паўсядзённага жыцця з яго клопатамі сталі прычынай згасання многіх яскравых прадстаўнікоў эпохі рамантызму, у тым ліку і Валенція Ваньковіча. Аднак з упэўненасцю можна сказаць: гэтыя творцы, не атрымаўшы багацця матэрыяльнага, здолелі здабыць багацце бессмяротнае – любоў, павагу і шанаванне сучаснікаў і нашчадкаў.

**Спіс літаратуры**

1. **Буйвал, В.** "MAESTRO ВАЛЕНЦІ". Да 200-годдзя з дня нараджэння Валенція Ваньковіча (1800 – 1842) / В. Буйвал // Наша вера. – 2000. – № 1 (11). – С. 14 – 17.
2. **Ванслов, В. В.** Эстетика романтизма / В. В. Ванслов. – М. : Искусство, 1966. – 403 с.
3. **Гибок-Гибковский, А.** Маэстро Валентий / А. Гибок-Гибковский // СБ. Беларусь сегодня. – 2008. – 19 сент. – С. 8 – 9.
4. **Дробов, Л. Н.** Живопись Белоруссии XIX – начала XX в. / Л. Н. Дробов; под. ред. А. И. Мальдиса. – Минск : Выш. школа, 1974. – 336 с.
5. **Романов, Н. М.** Русская фантастическая проза эпохи романтизма / Н. М. Романов. – СПб. : Изд-во Ленинградского университета, 1978. – 143 с.
6. **Свирида, И. И.** Раннее творчество Валентия Ваньковича / И. И. Свирида // Советское славяноведение. – 1972. – № 2. – С. 53 – 63.
7. **Сычова, І.** Валенцій Ваньковіч. Лёс мастака. Да 200-годдзя з дня нараджэння / І. Сычова // Мастацтва. – 2000. – № 3. – С. 19 – 22.
8. **Сычова, І.** Валенцій Ваньковіч. Старонкі творчасці / І. Сычова // Роднае слова. – 1999. – № 5-6. – С. 140 – 149.
9. **Сычова, І.** Рамантызм у беларускім жывапісе / І. Сычова // Роднае слова. – 1999. – № 3. – С. 192 – 199.
10. **Чаропка, В.** Выдатны майстар партрэта Валенцій Ваньковіч / В. Чаропка // Беларускі гістарычны часопіс. – 2007. – № 12. – С. 37 – 44.
11. **Шунейка, Я.** Уваскрашоны святою паннай / Я. Шунейка // Наша вера. – 1998. – № 3 (6). – С. 27 – 32.
12. **Smokowski, W.** Walenty Wankowisz / W. Smokowski // Athenaeum. – Wilno, 1845. – T. VI.

**Эла КАЛКОЎСКАЯ,**
аспірантка
Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

*Артыкул рэкамендаваны да друку кафедрай гісторыі і тэорыі мастацтваў БДАМ.*

*Да 135-годдзя Станіслава Жукоўскага*

# ПАЛОТНЫ СТАНІСЛАВА ЖУКОЎСКАГА СА ЗБОРУ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## ВЯТКАЎСКІ ПЕРЫЯД

Станіслаў Юльянавіч Жукоўскі (1875 – 1944) – пейзажыст, вельмі папулярны жывапісец сярод сучаснікаў, належаў да "Саюза рускіх мастакоў". У сваёй творчасці звяртаўся да прыёмаў імпрэсіянізму, чым узбагаціў традыцыі рэалізму. Для Жукоўскага імпрэсіяністычнасць – гэта сродак для яркага, эмацыянальнага адлюстравання рэчаіснасці. Працягваючы пленэрныя традыцыі XIX ст., ён працаваў свабодным і дынамічным мазком, выяўляючы ім адразу і колер, і форму прадметаў. Мастак захапляўся светлавымі эфектамі, разнастайнасцю колераў у прыродзе, у яго творах многа сонца. Працаваў пераважна ў жанрах пейзажа і сядзібнага інтэр'ера. Яму ўдалося перанесці на палотны неверагодна цёплую і вытанчаную атмасферу сядзіб з іх запаволеным жыццём, блізкім да наваколля, няхітрымі вясковымі забавамі, якія на пачатку XX ст. паступова пераставалі існаваць.

Жукоўскі ўмеў прыслухоўвацца да голасу прыроды, заўважаць працэсы, якія ў ёй адбываюцца, і адлюстроўваць гэта на палатне. Яго пейзажы маюць асаблівую камернасць і мяккасць. Мастак амаль ніколі не пісаў вялікіх панарамных карцін, бясконцых даляглядаў, манументальных твораў. Працуючы з фрагментамі, ён надаваў ім закончанасць цэлага свету, асаблівы сэнс і гучанне, якое мела гарманічную дасканаласць маленькага космасу. Такое асаблівае стаўленне да сядзібнай прасторы як да цэлага свету, магчыма, звязана з тым, што яго радзімай былі невялікія Ендрыхаўцы, недалёка ад Ваўкавыска, а для нашай шляхты невялікая прастора роднай сядзібы заўсёды з'яўлялася цэнтрам прыцягнення.

Калекцыя твораў Станіслава Жукоўскага ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь даволі вялікая – 39 палотнаў. Яна збіралася мэтанакіравана, і ў ёй прадстаўлены амаль усе перыяды творчасці мастака. І толькі з тых часоў, калі жывапісец вярнуўся з Савецкай Расіі на радзіму (на той час тэрыторыю Польшчы), у музеі захоўваецца ўсяго адзін твор – "Вясна ідзе" (1924).

### ГІСТОРЫЯ АТРЫБУЦЫІ АДНАГО ПЕЙЗАЖА

Мінулай восенню аддзел рускага мастацтва нашага музея працаваў над стварэннем экспазіцыі "Беларускія мастакі XIX – пачатку XX стагоддзя". Цэлая зала была прысвечана выдатнаму пейзажысту, майстру інтэр'ераў – Станіславу Жукоўскаму. Каб сфарміраваць выставу, са сховішчаў дасталі амаль усе палотны мастака. Адна справа – бачыць твор у каталозе, і зусім іншая – трымаць яго ў руках. Вось тут і пачынаецца літаральна дотык да мастацтва… Карціна з невыразнай назвай "Зімовы пейзаж" 1921 г. "пачала размову" першай.

Пра многія палотны Жукоўскага дакладна вядома, дзе і калі яны былі створаны. А тут, нягледзячы на дакладную дату напісання, на тое, што біяграфія мастака таго перыяду дастаткова вывучана, – поўнае маўчанне. Будынак на пейзажы меў даволі выразную архітэктуру, і на першы погляд здавалася, што яго няцяжка будзе ідэнтыфікаваць.

Вядома, што ў снежні 1919 г. Жукоўскі разам з сям'ёй пераехаў жыць у Вятку, бо ў Маскве стала вельмі цяжка з харчаваннем. З Вяткі вярнуўся ў Маскву толькі ў маі 1921-га. Гэтым жа годам датаваны і пейзаж. Святло на ім, снег, агульны настрой выразна сведчаць пра канец зімы, а гэта значыць, што твор напісаны ў Вятцы.

Будынак на карціне адназначна належаў да паркавай архітэктуры і з'яўляўся якой-небудзь альтанкай або ратондай, лавы ўздоўж сцежкі, радком пасаджаныя кусты – парк, не інačай. Таму лагічным было шукаць дваранскія сядзібы вакол Вяткі, апісанні паркаў. Пошукі ў сучасных расійскіх энцыклапедыях ніякага выніку не далі. Заставалася выйсці на бязмежныя абшары інтэрнэту і спадзявацца на тое, што пашанцуе. Ужо праз 20 хвілін працы на мяне пасыпаліся патрэбныя фотаздымкі. Побач з сучаснымі траплялiся і выявы 1920 – 1930-х гг. [3, 4], на іх нават прагледжваецца адмысловая канструкцыя паркавых лавак, якую мы бачым і на пейзажы Жукоўскага.

Такім чынам, высветлілася, што мастак пісаў гарадскі Аляксандраўскі сад з цэнтральнай ратондай у Вятцы. Ён быў адчынены ў 1835 г. у гонар наследніка царскага дому Аляксандра II. Архітэктар А. Цімафееў пабудаваў у ім дзве альтанкі – цэнтральны павільён і берагавую альтанку-ратонду. Яны дагэтуль цікавяць аматараў даўніны, а ў прафесійных колах лічацца адным з найлепшых ансамбляў садова-паркавай архітэктуры правінцыйнага рускага класіцызму.

Мастак, які традыцыйна працаваў у жанрах сядзібнага пейзажа і інтэр’ера, апынуўшыся ў Вятцы, адчуваў недахоп неабходных для творчасці матываў. “В творческом отношении он также чувствовал себя обедненным, не находя подходящих архитектурных объектов, которые могли бы войти в его пейзажи”, – успамінаў пра жыццё Жукоўскага ў Вятцы С. Емяльянаў [1, с. 227]. Таму ўсё, што нейкім чынам было звязана з мінулай эпохай, з улюбёнай культурай ампіру, класіцызму ці ўвогуле з XIX стагоддзем, што ідэалізаваў на сваіх палотнах мастак, павінна было патрапіць у поле яго зроку. Цудоўная паркавая архітэктура першай паловы XIX ст. не магла не прывабіць.

Але гісторыя атрыбуцыі палатна яшчэ не была завершана. Вядома, што, калі ў маі 1921 г. Жукоўскі вярнуўся ў Маскву, яму далі дазвол на вялікую персанальную выставу, якая адбылася восенню таго ж года (кастрычнік – лістапад) [1, с. 188]. Былі прадстаўлены 74 працы, выкананыя пераважна за папярэднія чатыры гады. “Зімовы пейзаж”, напісаны ў Вятцы, таксама павінен быў экспанавацца на гэтай выставе. Неабходную інфармацыю мог даць каталог [2]. І сапраўды, у пераліку прац за 1921 г. значыўся пейзаж: “№ 72. В старинном парке. Холст, масло. 67х45,5”. Такім чынам, мы змаглі не толькі ўдакладніць намаляванае месца, але і вярнуць твору аўтарскую назву. На наш погляд, нейтральнае “Зімовы пейзаж” значна саступае аўтарскай назве “У старадаўнім парку”…

**ПРАДМЕТНЫ СВЕТ ПАЛОТНАЎ СТАНІСЛАВА ЖУКОЎСКАГА**

Акрамя пейзажа “У старадаўнім парку” ў калекцыі музея захоўваецца некалькі карцін, напісаных у Вятцы ў 1920 г.: “Ручай”, “Вогнішча. Вясновая ноч” і “Ноччу. Інтэр’ер”. Пра пейзажы ўсё больш-менш зразумела. Яшчэ М. Гарэлаў сведчыў, што на працягу 1920 г. Жукоўскі часта пісаў пейзажы, выязджаў для гэтага на прытокі Камы [1, с. 185]. Але што за “Інтэр’ер” стварыў мастак, які краявід адлюстраваў за акном? Зразумела, што палатно, датаванае 1920 г., перадае вяткаўскі інтэр’ер. Больш за тое, у розных альбомах з рэпрадукцыямі твораў Жукоўскага сустракаюцца выявы аднаго або двух пакояў (хутчэй за ўсё, яны знаходзіліся ў адным доме), напісаных з розных ракурсаў, з невялікай перастаноўкай мэблі і перавескай адных і тых жа карцін. Прывядзем гэтыя інтэр’еры:

“Ноччу. Інтэр’ер” (1920; Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь);

“У пакоі” (1920; Музей выяўленчых мастацтваў у г. Растоў-на-Доне);

“Інтэр’ер пакоя” (1920; Дзяржаўны музей мастацтваў Казахстана);

“Інтэр’ер” (1920; Казьмадзям’янскі мастацка-гістарычны музей);

“Элегантны інтэр’ер” (“Eleganckie Wnętrza”; прыватная калекцыя) [5];

“Куток спальні з туалетным столікам” (калекцыя Г. Штокман; прыведзены ў каталозе твораў Жукоўскага). Апошняя праца ўнесена ў раздзел з карцінамі 1916 – 1917 гг., хоць гэты інтэр’ер – чарговая варыяцыя аднаго і таго ж пакоя ў Вятцы.

А вось што чытаем у М. Гарэлава: “Живя в Вятке в маленьком домике на окраине города, недалеко от железнодорожного вокзала, Станислав Юлианович был недоволен отсутствием удобств в квартире, жаловался, что зима была холодная, сетовал на жизнь в провинции в отрыве от своего привычного круга московских друзей и знакомых” [1, с. 227]. Гэты ж аўтар публікуе малюнак С. Емяльянава “Домік у Вятцы па вул. Свабоды, у якім жыў Жукоўскі з канца 1919 да мая 1921 года” [1, с. 174]. На выяве – аднапавярховы драўляны дом на невялікім узгорку, сярод такой жа забудовы – падобныя краявіды адлюстроўваў мастак у вокнах сваіх інтэр’ераў.

Сярод мэблі, што паўтараецца на згаданых палотнах, бачым ужо знаёмы нам па “Настурцыях” (1915) туалетны столік з люстэркам – уласнасць мастака. Пазней ён напіша яго ўжо ў Варшаве ў карціне “Перад маскарадам” (1923; Нацыянальны музей у Варшаве). Чатыры разы на вяткаўскіх інтэр’ерах нам сустракаецца адно і тое люстэрка са столікам. Жукоўскі не пакідаў старой мэблі, вазіў яе з сабою ў Вятку, а потым забраў у Польшчу. Ён старанна захоўвае частку страчанага свету, імкнецца ва ўласных інтэр’ерах стварыць атмасферу XIX стагоддзя…

Вяткаўскія палотны перадаюць тугу мастака па звыклым ладзе жыцця, сядзібнай культуры, свеце, які ўжо не мог вярнуцца. Недарэмна Жукоўскі з’ехаў на радзіму ў 1923 г., дзе пакуль яшчэ захоўвалася ранейшае жыццё шляхецкіх фальваркаў. Што ж датычыцца палатна “Ноччу. Інтэр’ер” з Нацыянальнага мастацкага музея, можна сказаць дакладна: Вятка, пакой мастака.

**Спіс літаратуры**

1. **Горелов, М. И.** Станислав Юлианович Жуковский. Жизнь и творчество / М. И. Горелов. – М. : Искусство, 1982.

2. **Хвойник, И.** Академик живописи С. Жуковский (к выставке работ) / И. Хвойник, И. Крайтор. – М., 1921.

3. **Электронны рэсурс** : http://www.enlight.ru/camera/nb/index.html.

4. **Электронны рэсурс** : http://foto.mail.ru/mail/alla_susloparova/106/170.html#152.

5. **Электронны рэсурс** : http://artyzm.com/obraz.php?id=2894.

**Юлія ЛІСАЙ,**
навуковы супрацоўнік
Нацыянальнага мастацкага музея
Рэспублікі Беларусь.

# СПАДЧЫНА ЛЯВОНА БАРАЗНЫ



**Капыльска-Клецкі строй. Вёска Падліпцы Слуцкага раёна.**
1957 г.
Папера на кардоне, акварэль.

Выстава пад назвай "Лявон Баразна (1928 – 1972). Спадчына (жывапіс, графіка)", што праходзіла з 11 лютага да 8 красавіка, ладзілася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь упершыню. Яна была прысвечана памяці мастака, даследчыка, этнографа, грамадскага дзеяча, аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай тэмы ў беларускім мастацтве 1960-х гг. Лявону Баразне належаць распрацоўкі касцюмаў для гродзенскага ансамбля песні і танца "Нёман" (1963), смаргонскага ансамбля песні і танца імя М. Агінскага (1965), навагрудскага ансамбля песні і танца "Свіцязь" (1969), што да сёння лічацца найлепшымі ўзорамі ў мастацтве беларускага народнага сцэнічнага касцюма. З 1963 да 1972 г. ён стварыў касцюмы для больш чым 15 народных і самадзейных мастацкіх калектываў, ансамбляў і хораў. Гэта быў новы этап у працэсе станаўлення і развіцця беларускага сцэнічнага касцюма. Былі сабраны і падрыхтаваны да выдання альбомы з замалёўкамі, зробленымі ў розных графічных тэхніках, пад назвамі "Беларуская народная вопратка", "Арнамент паўднёвай Беларусі", "Тканіны Гродзеншчыны". Галоўная выснова гэтых даследаванняў: народнае адзенне – каштоўны помнік мастацтва.

Экспазіцыя ў Нацыянальным мастацкім музеі ўключала 90 твораў графікі і жывапісу з адлюстраванымі ўзорамі ткацтва, што былі рэканструяваны творцам у народных строях, а таксама геаметрычнымі і раслiннымі арнаментамі з розных абласцей Беларусі. Дэманстраваліся таксама акварэльныя аркушы "Сялянка ў чырвонай кофце", "Дзяўчына ў святочным уборы", "Стары Мінск", малюнкі "Вяселле ў Танежы", "Вежа Навагрудка", "Гродзенскі мост", "Ля возера" і іншыя з калекцыі музея. Са збораў Талачынскага гісторыка-краязнаўчага музея былі прадстаўлены фотаздымкі розных творчых калектываў у сцэнічных касцюмах, выкананых па праектах Лявона Баразны.

Упрыгожыў выставу альбом мастака "Гравюры Францыска Скарыны", які быў выпушчаны выдавецтвам "Беларусь" у 1972 г. (перавыдадзены ў 1990 г.). У гэтай працы засяроджваецца ўвага на тым, што малюнкі адзення былі ўведзены ў навуковы ўжытак яшчэ з часоў Францыска Скарыны – у XVI стагоддзі!



**Капыльска-Клецкі строй. Пачатак XX ст.**
1958 г.
Папера на кардоне, акварэль.

Вынікі даследаванняў Лявона Баразны занялі годнае месца ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, дзе ўпершыню падаваліся малюнкі беларускага касцюма ад XI ст. і да нашых дзён. Гэтыя ўзоры народнага адзення зрабілі вялікі ўплыў на многіх даследчыкаў, этнографаў, мастакоў, якія тады толькі пачыналі свой навуковы шлях на амаль некранутай беларускай ніве. Сярод іх – Я. Сахута, М. Раманюк, В. Лабачэўская, мастакі В. Бартлава, Г. Крываблоцкая, Н. Крывашэева, Я. Кулік, А. Марачкін, М. Купава і іншыя. Яны пачалі даследаваць народны касцюм, развіваць пейзажную і гістарычную тэматыку, што стала бясспрэчным сцверджаннем творчай і навуковай праўды пра народнае мастацтва.

Выстава твораў Лявона Баразны выразна акрэсліла перспектыву далейшага развіцця як народнага дэкаратыўна-прыкладнога, так і прафесійнага мастацтва ў XXI стагоддзі.

**Людміла НАЛІВАЙКА,**
кандыдат мастацтвазнаўства.

*Дыялог з карцінай*

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# ГУЛЬНІ НА КРАІ ЗЯМЛІ

## ЗНАКАВЫ ЖЫВАПІС КАМІЛЯ КАМАЛА

*«Дваццатае стагоддзе – час людзей вераломных і нахабных, у нечым нават шалёных. Я хачу быць чалавекам простым, звычайным, хачу жыць без хітрыкаў і глупства.*

*Мне радасна і цікава маляваць мой свет. Думаю, што ў мастацтве няма канонаў. Кожны выконвае сваю песню. Мастацтва бязмежнае і неабсяжнае… Той, хто шчыры перад сваім сумленнем у мастацтве, застанецца, а хто няшчыры, той знікне, "выпарыцца", нібы яго і не было.*

*Я ведаю адно – што люблю жыццё, сваіх родных, братоў, сясцёр, сяброў і ўсё Чалавецтва. Гэтая любоў – таямніца і мэта маёй творчасці».*

Такі дыялог з гледачом, а больш нават з самім сабою, у цішыні майстэрні Каміль Камал вядзе пластычнай мовай сваіх твораў кожны дзень. А пасля – стварае прастору на палатне, якую запаўняе вобразамі, што прыйшлі з яго фантазій і філасофскіх разважанняў, успамінаў дзяцінства і вопыту навучанага жыццём сталага чалавека. Здаецца, мастак балансуе на мяжы існага і прыдуманага, на мяжы пластыкі і дысгармоніі, колеравай святочнасці і манахромнай стрыманасці. Здаецца, што ён імкнецца схапіць няўлоўную сутнасць імгнення і не спяшаецца спусціцца да будзённасці існавання – нібы ўсходні мудрэц або ўсхваляванае дзіця.

Фантазіі К. Камала не зблытаеш з палотнамі мастакоў беларускага творчага асяродку. Ён своеасаблівы, яскравы, шчыры, узрушаны. І ў той жа час павольны. У яго карцінах няма бурлівасці, дынамікі і руху, няма барацьбы. Там ёсць сцішанасць забыцця, засяроджанасць медытацыйнага ўзірання ў марскія хвалі, паветра, асвечанае промнямі сонца, прастору, акрэсленую ўдалечыні камянямі – спадарожнікамі гісторыі. Ёсць людзі, якія сустракаюцца, разважаюць, узіраюцца адзін у аднаго, а найбольш – у бясконцы свет навокал. І тады ўзнікае жаданне спыніць свой мітуслівы бег у штодзённасці, запаволіцца, угледзецца ў глыб самога сябе. Ды і што такое жыццё, калі не імкненне да вечнасці?

У карцінах К. Камала няма вэлюмнай тонкасці беларускіх краявідаў. Расплаўленая цягучасць яркага ранішняга сонца мякка перацякае ў мядовыя фарбы надвячорка. Погляд нібыта патанае ў гэтых глыбокіх цёплых колерах фону і пакідае ў душы гледача нечаканае прыемнае адчуванне спакою і задавальнення. І неспадзявана ўцягваешся ў працэс мастацкай медытацыі, якая не пакідае месца тэарэтычным развагам, а проста падпарадкоўвае свядомасць чалавека эмацыянальным хвалям – спакою і суладдзя з самім сабою.

Для нас, выхаваных на срэбным меланхалічным спеве нягучных колераў, К. Камал з'яўляецца ўвасабленнем Усходу, такога, якім мы сабе яго ўяўляем. Усходу не стэрэатыпнага, з шумнымі базарамі, гаваркімі гандлярамі-мужчынамі і жанчынамі з закрытымі ад чужых позіркаў тварамі, а чароўнага, нязведанага, таямнічага, які прыйшоў у нашу прагматычную рэальнасць з казак пра Алі-Бабу і Сіндбада-марахода.

Для жыхароў усходніх краін (у Турцыі, Азербайджане ў мастака часта адбываюцца персанальныя выставы) К. Камал даўно ўжо стаў хутчэй беларускім або еўрапейскім мастаком, у якога ад нацыянальнага засталіся хіба каларытная знешнасць, своеасаблівы гумар ды агульны менталітэт. А таксама тэмы, навеяныя дзіцячымі ўспамінамі. Еўрапейская мастацкая школа моцна паўплывала на творчае развіццё, натуральна ўплялася ў канву яго творчасці, захапіла ў варункі фарматворчасці і пластычных пошукаў. І гэта найбольш яскрава відаць у графічных аркушах мастака і невялікіх, поўных пачуццёвасці формах малой пластыкі.

Па нараджэнні К. Камал – азербайджанец. За творчым псеўданімам мастака хаваецца традыцыйна доўгае азербайджанскае імя – Камал Гамза аглы Гаджыеў. Лёс прымусіў шмат павандраваць па зямлі. Ён нарадзіўся ў Грузіі. Азы творчасці набываў у Бакінскім мастацкім вучылішчы імя Азім-задэ. Скончыў тры курсы Ленінградскага інстытута жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна. Майстэрня прафесара, народнага мастака СССР Яўсея Майсеянкі і яго класічныя прынцыпы жывапісу для маладога мастака сталі трывалым падмуркам майстэрства, першым крокам да традыцый рускай рэалістычнай школы – тут пісалі з душою, з размахам. Потым К. Камал жыў у Маскве, Кіеве. Калі нарэшце прыехаў у Мінск, тут і застаўся.

У 1984 г. трыццацігадовы К. Камал стаў студэнтам аддзялення жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Тут ён спасцігаў навуку колерабудовы пад кіраўніцтвам прафесара, заслужанага дзеяча

*Звесткі пра аўтара змешчаны ў № 1.*

мастацтваў Беларусі Пятра Крохалева. Праз некаторы час перайшоў на манументальна-дэкаратыўнае аддзяленне і, здаецца, менавіта там адчуў поўную гармонію паміж сваім своеасаблівым светаўспрыманнем і прынцыпамі навучання майстэрству ў інстытуце.

Як згадвае Гаўрыіл Вашчанка, народны мастак Беларусі, прафесар, у той час загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, "у ім адчуваўся цікавы неардынарны творца. І мне падабалася, што ён захаваў удалечыні ад роднага краю нацыянальныя традыцыі. Не хацелася перарабляць яго, а, наадварот, было жаданне захаваць у ім самабытнасць і непадобнасць да творчасці беларускіх мастакоў".

Каміль Камал сапраўды трапіў у атмасферу свабоднай творчасці, якая панавала ў тыя гады на манументальна-дэкаратыўным аддзяленні. Вучыцца ў Вашчанкі марылі многія – тыя, каму недаспадобы была дэталёвая выпісанасць, хто шукаў у творчасці знакавасць, абагульненні і філасофскі сэнс. Выпускнікі валодалі майстэрствам мазаікі, роспісу, энкаўстыкі і вітража. Яны бачылі наваколле праз абстрагаваныя вобразы, засяроджваліся на форме і пластычнасці мастацкай мовы.

У манументальных творах К. Камала відаць добрае валоданне прынцыпамі кампазіцыйнай пабудовы, тут ёсць вытанчанасць ліній, згарманізаванасць колераў, натуральная пластычнасць вобразаў, далікатнасць у распрацоўцы сюжэтаў. І ўжо ў самых першых самастойных працах маладога мастака вялікае значэнне надаецца прасторы вакол фігур. Яна іграе самастойную ролю, мае нечаканую глыбіню і асаблівую значнасць.

За дыпломную працу – шматфігурны роспіс "Покліч мары" ў 380 квадратных метраў у агульнаадукацыйнай школе № 181 г. Мінска – яго нават вылучылі на стыпендыю Саюза мастакоў СССР. У творчым набытку майстра таксама роспіс у памяшканні "Медкнігі" на вуліцы М. Танка, у мінскім кафэ "Калабок". Тры вітражы былі зроблены для рэстарана "Астара". Некаторыя працы засталіся нязакончанымі. Эскізны варыянт вітража "Асветнікам Азербайджана" Камалу так і не давялося ўбачыць у матэрыяле.

На жаль, як мастак-манументаліст К. Камал раскрыўся не цалкам. У канцы 1980-х гг. эканамічная сітуацыя ў Беларусі не спрыяла развіццю манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, скарачаліся выдаткі на мастацкія праекты. Большасць мастакоў-манументалістаў перайшлі ў шэраг станковых жывапісцаў. Сярод іх быў і К. Камал. У тыя гады ўзнікла новая сітуацыя ў жывапісе, новы кірунак, які прынёс большую ступень вобразнай экспрэсіўнасці.

З 1984 г. К. Камал жыве і працуе ў Беларусі. Тут ён ажаніўся. Яго жонка Ірына – артыстка драматычнага тэатра, чалавек таксама творчы. Расце сын. Тут, на Беларусі, сёння ёсць сябры, аднадумцы. Каміль не лічыць спадарожнікаў па мастакоўскаму цэху канкурэнтамі. Членства ў Беларускім саюзе мастакоў замацавала яго прафесійнае становішча. Саюз дапамог атрымаць майстэрню ў Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце. Плошча яе невялікая, але гэта не перашкодзіла гаспадару зрабіць на яе сценах невялікую выставу. Ён лічыць, што самыя блізкія і дарагія яго сэрцу карціны павінны заўсёды заставацца разам з ім.

*"Дыяген – вось герой і Бог у маім успрыманні. Гэта чалавек, для якога грошы не мелі ніякай цаны. Як і ён, я не шукаю матэрыяльнага звышдабрабыту, я шукаю навокал сябе людзей…"* – так акрэслівае К. Камал сваё жыццёвае крэда.

Я сказала б, што мастак шукае духоўнага спачування і разумення. І не заўсёды знаходзячы яго ў творчым асяродку, стварае ўласную прастору існавання. Гэта тое сапраўднае "я", што ідзе з глыбіні душы і сэрца. Калі ўглядаешся, "счытваеш" карціны К. Камала, спрабуеш агледзець усю прастору, захопленую мысленнем мастака, міжволі прыходзіш да думкі, што блізкія і далёкія вобразы людзей, птушак, паўфантастычных істот нам неабыякавыя і нечужыя. Яны здаюцца часткай свету, дзе так многа той прыгажосці, якую мы бачылі і разумелі толькі ў дзяцінстве. «*Я нібыта "завісаю" паміж дзіцячымі фантазіямі і дарослай разважлівасцю. І схіляюся больш да шчырасці дзіцячага погляду. Чым больш сталее чалавек, тым больш ён усведамляе, якую глыбу цягне на сваіх плячах, якую дысгармонію на самай справе пераадольвае*».

Сюжэты палотнаў К. Камала ўспрымаюцца намі, як усходнія казкі. Адна з найбольш цікавых жывапісных серый мастака так і называецца – "Усход". Яна складаецца з самых розных твораў, якія ні па тэматыцы, ні па стылі выканання, ні па пластыцы не спалучальныя. Сам Каміль любіць паўтараць, што аднастайнасць горш за бязладдзе. Таму мастак штораз імкнецца знайсці нечаканае колеравае злучэнне ці фантастычнае вобразнае вырашэнне, якое нараджае ўрэшце ўласцівую менавіта К. Камалу пластыку жывапісу.

Мастак сапраўды малюе Усход. Але ў яго карцінах не ўгадваецца Азербайджан, Грузія, Турцыя ці Іран. Тут няма пазнавальнасці характэрных дэталей, тыповасці краявідаў або традыцыйнай для ўсходніх народаў дробнасці мазаічнага ўзору. Мастак імкнецца ахапіць поглядам усю ўсходнюю культуру цалкам. І яе філасофію сузірання, яе незразумелую заход-

няму чалавеку прыгажосць і своеасаблівасць пакласці сонечным мазком на палатно. Ён захапляецца культурай народаў, якія даўно ўжо сталі гісторыяй. А найбольш Асірыяй і яе фантастычнымі культавымі і мастацкімі вобразамі.

Мастак часта і з відавочным задавальненнем уводзіць у свае карціны постаці жанчын. Жаночыя вобразы не маюць характарных твараў, мастак не піша партрэтаў. Яны абагульненыя, нават стылізаваныя. Рысы твараў толькі згадваюцца: аўтар падкрэслівае непрапарцыянальна вялікія вочы, тонкую лінію носа і кроплю вуснаў.

Амаль заўсёды жанчыны на карцінах К. Камала аголеныя. Мастак любуецца гнуткай і вытанчанай лініяй, якой абмалёўваюцца абрысы жаночага цела. Але ў гэтым няма адкрытай эратычнасці. Ён імкнецца перадаць эмацыянальнае ўражанне, вобраз, што будзе хваляваць, кранаць. Адсюль – рухомыя жаночыя постаці, падкрэсленыя, а не схаваныя за адзеннем формы, танчэзны флёр паэтычнасці, які дадае кожнаму партрэту таямнічасці.

Загадкавасць і прыцягальнасць – асаблівасці творчага таленту К. Камала. Ён сур'ёзна захапляецца літаратурай, з задавальненнем чытае Аляксандра Пушкіна, Амара Хаяма, Канфуцыя, Нізамі Гянджэві. І лічыць мастака "пасрэднікам паміж богам і людзьмі". Адзін з найбольш упадабаных мастаком вобразаў – вобраз дэрвіша, мусульманскага містыка. Здаецца, што сам К. Камал, як і дэрвіш, кладзе ў аснову ўласнай філасофіі ідэю асабістых адносін чалавека і Бога праз самапаглыбленне і маўклівае сузіранне. Некаторыя з яго літаграфій так і называюцца "Дэрвіш. Жалейка жыцця" (1997), "Захапленне Дэрвіша" (1998). На іх – адзінокая постаць чалавека, які знікае ўдалечыні. Для мастака дэрвіш стаў збіральным вобразам мудрасці. І неабавязкова, каб гэта быў менавіта чалавек. У скульптурнай выяве 2000 г. ён становіцца птушкай. Жывапісны твор "Дэрвіш, які нясе святло" (1999) важны для разумення светапогляду мастака. У вязкай карычнева-жоўтай прасторы толькі вымалёўваецца постаць чалавека. Яна дакладна не акрэслена, яе абрысы яшчэ губляюцца там, адкуль прыйшоў дэрвіш. Барадаты стары мудрэц нясе ў руках свечку. Чалавек у пустэчы бездухоўнасці шукае ісціну, але шлях гэты складаны і няпросты. Тэма духоўных пошукаў, духоўнага шляху, на якім мы ўсе падарожныя, часта сустракаецца ў літаратуры і мастацтве, асабліва ўсходняй. Спрадвечную мудрасць мастак адчуў і адлюстраваў па-свойму.

"Вось адзін чалавек сядзіць нерухома ўсё жыццё ў чайхане прыдарожнай пыльнай і расказвае казкі ў паветра, у вецер нямы, а яго ведае ўвесь свет.

А другі падарожнічае прагна па ўсім свеце… пыльны язык яго б'ецца ў роце, як горная рака ў камянях. І ніхто яго не ведае, акрамя дарожнага пылу, па якім ступалі нікчэмныя ногі яго або беглі бясслядоўныя колы яго…" – гучыць мудрасць Хаджы Насрэддзіна.

Так і мастак распавядае казкі на палатне, і перад намі разварочваецца карціна свету. Адна з найлюбімейшых жывапісных прац К. Камала называецца "Лёс любімага горада". Перадаць змест твора складана. Высачэзная скала, якая ўпіраецца ў небакрай. На адной з пляцовак – вярблюды. Замест гарбоў на адным з іх праглядваюцца абрысы старажытнага горада. Пакутлівы і складаны лёс радзімы мастак імкнуўся выказаць з філасофскім сэнсам.

Знакавасць прысутнічае амаль ва ўсіх творах К. Камала. Знакамі для яго становяцца дрэвы як сімвалы жыцця, птушкі як спадарожнікі вечнасці, звяры, якія аддалена нагадваюць ільвоў, тыграў, сланоў, нават хатніх козачак або ўвогуле нейкіх фантастычных істот, анёлы і барадатыя мудрацы, камяні і кветкі. Гэта – астравы вечнасці, забытыя закуточкі раю, дзіцячыя казкі і сны…

Нечакана цікава, моцна раскрыўся мастацкі талент К. Камала ў графіцы. Яго літаграфіі і афорты (а сёння іх творца зрабіў каля васьмідзесяці) здзіўляюць віртуознасцю выканання, лёгкасцю і гнуткай пакорлівасцю ліній, з якіх складаюцца вобразы, філасофскія і надзвычай моцныя па агульным гучанні і строі. Графіка К. Камала неаднаразова была часткай афармлення кніг Алеся Карлюкевіча, Ганада Чарказяна, Цімура Зульфікарава.

У апошнія гады мастак захапіўся малой пластыкай. Скульптуру ён абавязкова адлівае ў бронзе. Ён і тут імкнецца знайсці непаўторны стыль, адметную пластыку, спрабуе гуляць са святлаценем, адпаліроўвае да бляску некаторыя фігуры або часткі кампазіцый. Астатняе ж пакідае незавершаным матэрыялам, нібыта толькі-толькі вынятым з адлівачнай формы. Эфект атрымліваецца нечаканы. Мастак дасягае вытанчанасці, пачуццёвасці, напоўненасці ўнутранай моцай і глыбокім філасофскім сэнсам.

Калі К. Камал разважае пра сваё жыццё, ён адчувае сябе азербайджанцам. Але і беларусам таксама, бо менавіта на гэтай зямлі атрымаў магчымасць раскрыцца поўна, у самых розных творчых кірунках.

Ён марыць напісаць карціну – пра Усход і Захад. Але зусім не для таго, каб падкрэсліць сузіральнасць адной часткі свету і прагматычнасць другой. Каміль Камал марыць хоць бы ў сваіх мастацкіх творах пабудаваць новую вавілонскую вежу. І сапраўды, "як без ночы можа быць дзень?.."

"Роднае слова" працягвае друкаваць часопісны варыянт выбраных раздзелаў з кнігі – летапісу беларускай шляхты "Я – сын Ваш" Анатоля Статкевіча-Чабаганава, першы том якой рыхтуецца да выдання.

Анатоль СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ

# САЦКЕВІЧЫ-СТАТКЕВІЧЫ ГЕРБА "КАСЦЕША"

Мая мама Аляксандра Міхайлаўна паходзіць са старажытнага беларускага роду Сацкевічаў-Статкевічаў.

Назва герба "Касцеша", паводле легенды, звязана з гісторыяй пра рыцара. Гэты храбры воін, мужнасць якога адзначыў сам кароль Баляслаў I Храбры, прымаў удзел у 1072 г. у бітве пад Сноўскам. Ён змагаўся ў глыбіні варожага стану, не зважаючы на зламаны меч, шматлікія крывавыя раны на целе, расшчэпленую на дзве часткі стралу, што засела ў плячы. Калі закончылася бітва і войска пачало збіраць здабычу, тады і з'явіўся перад каралём Касцеша. Ён стомлена зняў змяты і парыжэлы ад варожай крыві баявы шлем і, паказваючы на сваё зраненае цела, сказаў: "Гэта і ёсць мая здабыча!"

На памяць пра такую адвагу кароль дазволіў храбраму рыцару змясціць у свой герб перакрыжаваныя стралу і меч. Вось і з'явіўся герб, на чырвоным фоне якога – выява раздвоенай стралы, накіраванай угору; у кляйнодзе – над прылбіцай з шляхецкай каронай тры страусавыя пёры. Пазней гэты знак пачалі называць стралой выратавання.

Трэба адзначыць, што герб "Касцеша" быў вельмі папулярны і ў XIX ст. Напрыклад, яго насіла адна з яхтаў расійскіх імператараў.

Як сведчаць архіўныя дакументы, "фамилия Стецкевич, употребляющая сей герб, была знатной с древних времен польских и удостоена шляхетского звания и привилегиями тому положению присвоенными продолжает пользоваться до нынешнего времени".

У XV ст. каля Нясвіжа, у сваім маёнтку Сачкевічы на Ліпах жыў баярын Сацкевіч. У яго было два сыны – Мікіта, ад якога бярэ пачатак наш род, і Багдан – родапачынальнік Сацкевічаў-Ліпніцкіх. У сваю чаргу Мікіта меў сем сыноў, аднаго з якіх звалі Сцяцко. У Сцяцко ж было тры сыны – Фядко, Лявон і Іван. Пачынаючы менавіта з Івана наша родавая галіна стала называцца Сацкевічы-Статкевічы. Відавочна, што ад імя яго бацькі бярэ пачатак прозвішча Статкевіч, а ад назвы вотчыннага маёнтка Сачкевічы на Ліпах далучыўся да прозвішча прыдомак Сацкевіч.

Дарэчы, гэты маёнтак з паэтычнай назвай таксама перайшоў Івану ў спадчыну ад бацькі.



**Герб "Касцеша" роду Статкевічаў.**

Здаецца, так і бачыш гэтыя высокія ліпы ў пару цвіцення, чуеш гул пчол і ўдыхаеш паветра, напоўненае непаўторным пахам мёду…

Як адзначана ў кантракце паміж Іванам Сацкевічам-Статкевічам і Мікалаем Радзівілам Чорным, нашы землі "ўпіраліся ў сцены палаца Нясвіжскага". Суседзі вырашылі ўпарадкаваць свае "грунты". Перамовы вяліся доўга і складана. Яно і зразумела: нашы продкі заўсёды цяжка расставаліся з родавымі гнёздамі, з тым, што было такім дарагім душы і сэрцу. Але давайце звернемся да кантракта-прывілея, да якога "прывешана пячатка ўвесістая Вялікага Княства Літоўскага і подпіс рукі найяснейшага караля Яго Міласці Жыгімонта Аўгуста". Як відаць з дакумента, сам "…Жыгімонт Аўгуст божаю міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, інфлянцкі" блаславіў здзелку і зацвердзіў яе ў кастрычніку 1562 г. "…Ваявода Віленскі, маршалак земскі, канцлер наш Вялікага Княства Літоўскага, староста Берасцейскі і Ковенскі, дзяржаўца Шавельскі, пан Мікалай Радзівіл… уладкаваў замену вячыстую з зяменінам нашага ваяводства Навагародскага панам Янам Статкевічам-Сацкевічам, ад якога выменяў Яго Міласць да палаца свайго Нясвіжскага маёнтак яго і душное, усё, што ён меў на Сацкевічах-Ліпах побач з Нясвіжам, а Яго Міласці ў адмену даў і на вечныя ча-

сы саступіў сёлы свае Нясвіжскія Валожычы і Юраўшчызну ў Куковічах ва ўсім, яко ж тыя сёлы ў сабе маюць з людзьмі, і землямі, і дрэвам бортным, з сенажацямі, рэчкамі, і з ловамі звярынымі, і птушынымі, і рысінымі, і бабровымі гонамі… і яшчэ да таго прыдаў Яго Міласць сумаю пенязямі трыста восемдзесят коп грошай… і па жаданні нашым пячаткі свае да сяго нашага ліста прыклалі.

*Пан Скумін Львовіч Тышкевіч, маршалак яго каралеўскай міласці, дзяржаўца чарнобыльскі; князь Іван Крошыцкі, дзяржаўца упіцкі; князь Багдан Цімафеевіч Пузына.*

Пісан у Вільні. Года ад нараджэння сына Божага 1562 месяца кастрычніка 9 дня".

Такім чынам, з гэтага часу ўладальнікам маёнткаў Валожыцы і Куковічы стаў Іван Сацкевіч-Статкевіч. У далейшым яны былі падзелены паміж яго сынамі. Чытаем архіўны дакумент: "Я, Ян Іванавіч Статкевіч, зацвярджаю сім маім лістом, каму пра гэта ведаць патрэбна… што каторыя маёнткі пасля смерці бацькі нашага, нябожчыка пана Івана Статкевіча, гэта значыць Валожыцы і Куковічы ў павеце Новагародскім, адпісаныя на нас чатырох братоў, засталіся, і мы, жадаючы раздзел вячысты паміж сабою, застанавілі і раздзялілі есма тыя маёнткі на чатыры часткі адпаведна праву спадчыннага раздзелу". Дарэчы, чатырох згаданых братоў звалі Валянцін, Іван, Якаў, Аляксандр, і ад першага з іх ідзе далей мой род.

У Валянціна нарадзіліся сыны Севярын і Крыштоф. У будучым Севярын саступіў сваю частку маёнтка брату.

З закладной ад 15 ліпеня 1654 г. мы даведваемся, што Гаўрыіл, сын Крыштофа Сацкевіча-Статкевіча, і яго жонка Кацярына Галінская перадалі ў шасцігадовае карыстанне Яну Маневічу частку маёнтка Валожыцы з сялянамі і ручаліся пры гэтым за свайго сына Іаахіма (Яхіма).

Сацкевічы-Статкевічы да XVIII ст. жылі ў асноўным каля Нясвіжа ў сваіх родавых маёнтках Валожыцы і Куковічы ў Юраўшчызне. Аднак прадстаўнікі нашай галіны Яўхім Статкевіч і яго сын Сямён у першай палове XVIII ст. перабраліся ў бойкае купецкае мястэчка Пясечнае (Капыльскае княства), працягваючы пры гэтым валодаць часткаю маёнтка Валожыцы.

З інвентароў Капыльскага княства за 1669 і 1693 гг. вядома, што ў Пясечным па вуліцы Філіпаўскай пражывалі Рыгор і Сімяон – мае продкі з роду Астрэйкаў.

Гэтыя нёманскія мясціны былі роднымі і для яшчэ аднаго прадстаўніка нашага роду – беларускага паэта Анатоля Астрэйкі.

У пачатку XVIII ст. тут з'явіліся шляхецкія фальваркі і засценкі – Рулёва, Астрэйкі, Броды, Шамаў. Дарэчы, засценак Рулёва шляхціч Якаў Статкевіч атрымаў у арэнду ад Нясвіжскага кляштара бернардзінцаў. Якаў быў не толькі шчырым вернікам, але і, як сведчаць некаторыя дакументы, часта ахвяраваў на храм немалыя сумы грошай, за што і атрымаў падзяку ад архіепіскапа Мінскага і Гродзенскага Ніканора.



**Міхаіл Іванавіч Статкевіч.** 1920 г.

У 1827 г., калі Якаву было ўжо за 50 гадоў, памерла яго жонка Параскева Кандрацьеўна Астрэйка. Мой родзіч не захацеў заставацца бабылём, ажаніўся другі раз з Ганнай Ільінічнай з Гарэлікаў, якая праз год нарадзіла яму сына. Назвалі яго Сільвестрам. Затым у сям'і з'явіліся яшчэ два сыны, прычым абодва 8 лістапада – у дзень святога архангела Міхаіла. Вось такое супадзенне! І назвалі братоў Міхаіламі. Але і ад першай жонкі Параскевы ў Якава Сямёнавіча было два сыны – мой прапрадзед Вікенцій і яго брат Васіль. Вядома нам і дата вянчання Вікенція з 18-гадовай шляхцянкай Марыяй Забэла, рымскага веравызнання. Адбылося яно 15 кастрычніка 1839 г. у Пясечнінскай Пакроўскай царкве.

Калі не стала бацькі, сыны Якава Сямёнавіча купілі зямлю ў Малінава пад Глускам. Яны даведаліся, што памешчык Маліноўскі прадае там маёнтак, і вырашылі разам са сваімі родзічамі Забэла, Карафа-Корбутамі, Сыцько набыць яго.

Яшчэ да пераезду з маёнтка Рулёва ў Малінава ў Вікенція Якаўлевіча і Марыі Андрэеўны Статкевічаў нарадзіўся сын Іван. Хрысцілі яго 23 лістапада 1847 г. у той жа Пакроўскай царкве. Але рос і выхоўваўся мой прадзед Іван пад

Глускам. Там, у Малінава, і жонку сваю сустрэў, Наталлю. Дзед яе Іван Карафа-Корбут, як ужо адзначалася, купіў гэтыя землі разам з Вікенціем Статкевічам.

### МОЙ ДЗЕД – МІХАІЛ ІВАНАВІЧ САЦКЕВІЧ-СТАТКЕВІЧ

У матэрыялах гістарычнага архіва захавалася прашэнне двараніна Бабруйскага павета Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход, пададзенае 26 лютага 1896 г. У ім гаворыцца: "Гонар маю прасіць прылічыць да дваранскага роду сына майго Міхаіла Іванавіча і справу аб сім прадставіць у Сенат на зацвярджэнне". Просьба гэтая сенатам была задаволена.

Клопат бацькі пра свайго нашчадка зразумелы: ён быў адзіным сынам і з'явіўся на свет не першым. Да гэтага часу нараджаліся толькі дзяўчынкі, акрамя Міхаіла ў сям'і было яшчэ восем дачок, а ў справу аб дваранскім паходжанні запісвалі толькі мужчын, таму патрэбны быў прадаўжальнік роду.

Нараджэнне хлопчыка ў сям'і стала надзвычайна радаснай падзеяй. Паступова сын рос, сталеў. Бацька разумеў, што ў Малінава яму будзе цесна: мала зямлі, развярнуцца няма дзе. Даведаўшыся, што на Любаншчыне прадаецца маёнтак Засмужжа, Іван Вікенцьевіч папрасіў дапамогі ў блізкіх родзічаў – Карафа-Корбутаў, Рудзінскіх, Тычынаў. Але перамовы пра пакупку ішлі вельмі цяжка, амаль два гады.

Калі, здавалася, усе пытанні былі нарэшце вырашаны, зноў знайшоўся адзін з пакупнікоў, які ў апошні момант адмовіўся ад свайго надзелу. Паўстала пытанне: або пачынаць новы перадзел, або гэты ўчастак прапанаваць сялянам, якія хацелі яго купіць. Але прапанаваць зямлю сялянам – значыць жыць па-суседску з людзьмі іншага саслоўя і, магчыма, парадніцца з імі. А гэтага шляхта баялася больш за ўсё. Такія абставіны выклікалі не меншыя спрэчкі, чым падзел зямлі. Тады пакупнікі вырашылі ўзяць у сваю кампанію шляхту, якая не была зацверджана ў дваранстве, і тых сялян, што лічыліся моцнымі гаспадарамі. Так да дваран, якія выкуплялі маёнтак Засмужжа, – Сацкевічаў-Статкевічаў, Карафа-Корбутаў, Тычынаў, Рудзінскіх, Кунцэвічаў і Бараноўскіх – далучыліся Шуневічы, Міхневічы, Зубовічы, Марціновічы, Ляпкі і Басякі.

Хутка Іван Вікенцьевіч разам са сваёй сям'ёй і сынам Міхаілам перабраліся на новае месца. Малады гаспадар адразу стаў лідэрам сярод сваякоў-саўладальнікаў маёнтка Засмужжа, якія выбралі яго старастам. Вылучаўся Статкевіч сваёй разважлівасцю, гаспадарчай хваткай. Да яго ішлі па дапамогу і параду. Ён стаў пастаянным удзельнікам многіх нарад па зямельных пытаннях, быў у сваім павеце паважаным чалавекам.

Пасля падзей 1917 г. у Статкевіча і яго родзічаў абрэзалі землі, пакінуўшы толькі невялікі надзел. З іх сталі здзекавацца, пазбавілі выбарчых правоў.

У кастрычніку 1929 г. у Міхаіла і Марыі Статкевічаў нарадзілася трэцяе дзіця, на дзіва спакойны, усмешлівы, блакітнавокі хлопчык Мікалай. Бацька не мог наглядзецца на яго. Знік сум, з'явілася мэта ў жыцці. Аднак бяда пастукалася ў той жа год. Калі Міхаіла Іванавіча арыштавалі, ён сказаў жонцы:

– Беражы дзяцей, я хутка вярнуся.

Хоць Статкевіч і не верыў новай уладзе, але думаў, што злітуюцца, бо нікога не забіваў, не рабаваў, не ваяваў супраць бальшавікоў. За што яго судзіць? Але ў Бабруйскім выпраўдоме, куды даставілі яго разам з дваюрадным братам Васілём Пятровічам Карафа-Корбутам, на былых дваран глядзелі інакш. Абвінавачванні былі стандартныя: супрацiўляліся стварэнню калгасаў, агітавалі супраць улады бальшавікоў, члены антысавецкай банды…

Іх расстралялі раніцай 6 красавіка 1930 г., па сутнасці, без суда і следства.

Лёс Міхаіла Іванавіча трагічны, але вобраз яго светлы. Усё жыццё гэтага чалавека – праца на зямлі, служэнне грамадству – прыклад для сучаснага пакалення Статкевічаў. Мне здаецца, дзед насуперак жыццёвым абставінам ніколі не пакідаў родныя мясціны, бацькоўскі дом і заўсёды жыў і будзе жыць у сэрцах нашчадкаў.

### МАЯ БАБУЛЯ – МАРЫЯ АЛЯКСАНДРАЎНА КАРАФА-КОРБУТ

Калі толькі на хвіліну ўяўляю, што выпала на долю маёй шматпакутнай бабулі, слёзы набягаюць на вочы, перахоплівае дыханне. Хочацца кінуцца праз гады, абараніць і сагрэць яе.

…Цягнік імчаў на ўсход. У халодных вагонах – людзі. У кутку, накрываючы сваіх маленькіх дзяцей, сядзела яшчэ маладая жанчына. Здагадвалася яна, што Міхаіла Іванавіча ўжо няма, і з трывогай думала, што чакае іх наперадзе. Не за сябе турбавалася, а за дзяцей, асабліва за Колечку, якому было ўсяго некалькі месяцаў.

Комі-Пярмяцкая акруга, куды іх прывезлі, заўсёды славілася суровым кліматам. Асабліва яго сцюдзёнае дыханне адчувалася ў тайзе, дзе ім загадалі выгружацца. Ні жылля, ні часовых пабудоў. Суцэльны лес ды глыбокі снег. І толькі недзе ўдалечыні былі відаць дамы вёскі Вялікі Пальнік. Нехта з жаласлівых ахоўнікаў параіў жанчыне:

– Схадзіце туды, можа, дадуць прытулак на час, у вас жа на руках немаўля.

Яна пайшла наўздагад. Нешта падказвала ёй: тут абагрэюць. Так і здарылася. У хаце жыла сям'я, у якой не было сваіх дзяцей. Будыніна аказалася прасторнай, знайшлося месца і для прыезджых. І галоўнае, што гаспадары не касіліся на іх, былі добрымі людзьмі. Жонка гаспадара дома доўга ўгаворвала беларуску:

– Пакінь, Марыя, мне свайго блакітнавокага Колечку. Не выжыве ён там, у лесе.

Марыя Аляксандраўна і яе дзеці перажылі тую цяжкую зіму, вытрымалі. А пасля прыйшла радасная навіна: адшукаў іх сваяк з-пад Слуцка Мікалай Лазоўскі, які дапамог грашыма на дарогу. І жанчына вырашыла выпрабаваць лёс. Аховы на пасяленні ніякай не было. Можа, і не заўважаць знікнення?

І вось яны зноў у Беларусі, сярод сваіх. Першае пытанне: ці няма якіх-небудзь навін пра мужа? Але родзічы толькі адводзілі вочы…

Трывога на душы была недарэмнай: Марыю Аляксандраўну зноў адправілі этапам у Комі-Пярмяцкую акругу. Але яна ненадоўга затрымалася там, зноў рашылася на пабег. І паехала не да далёкіх родзічаў, а ў сваё роднае Засмужжа. На дзіва, яе і дзяцей ніхто не зачапіў. Аднак у 1937 г. арыштавалі за тое, што ў яе, жонкі ворага народа, не аказалася пашпарта.

У лагеры ў Ніжнім Ноўгарадзе прабыла Марыя Аляксандраўна да пачатку 1941 г. Можа, за прыкладныя паводзіны або сумленную працу ёй зменшылі тэрмін. І нават выдалі новы пашпарт, які і сёння як рэліквію захоўваем у сям'і…

Я лічу, што мая бабуля здзейсніла сапраўдны подзвіг. Подзвіг мацярынства і чалавечай годнасці. Столькі пакут выпала на яе долю, а яна не скарылася, не ачарсцвела, не замкнулася ў сваім горы. Памятаю яе толькі жыццярадаснай. Яна ніколі ні на што не скардзілася, заўсёды была прыветлівая. Незабыўная карціна: бабуля сядзіць на лаўцы каля свайго дома, а ўсе, хто ні праходзіць, спыняюцца, сядаюць побач з ёй, каб пагаварыць. Яна была абаяльным чалавекам, спагадлівым, усім старалася дапамагчы, нешта параіць, падказаць. А нас прымушала вучыцца, асабліва ўнукаў. Дарэчы, задоўга да школы яна навучыла мяне чытаць і пісаць, а яшчэ вельмі ганарылася нашымі поспехамі, добрымі адзнакамі.

…Студэнтам я працаваў у будаўнічым атрадзе. Атрымаўшы першы ў сваім жыцці заробак, я захацеў зрабіць бабулі прыемнае і купіў ёй прыгожую хустку, якая ў той час чамусьці называлася тараноўкай. Бабуля моцна расчулілася, заплакала і сказала, што тую хустку будзе ўсё жыццё берагчы і каб яе ў ёй пахавалі. Бабуліны пачуцці перадаліся і мне, з сумам падумалася, што, магчыма, яна атрымала першы ў сваім жыцці падарунак. У адно імгненне пранеслася перада мной уся яе нялёгкая доля.



**Аляксандра Міхайлаўна Статкевіч – студэнтка Слуцкага педагагічнага вучылішча.** 1939 г.

Калі мне бывае адчайна цяжка, я ўспамінаю бабулю, якая ўсё вытрывала. Вытрываю і я.

**МАЯ МАМА – АЛЯКСАНДРА МІХАЙЛАЎНА СТАТКЕВІЧ**

Успамінаючы маму, заўсёды думаю, колькі выпрабаванняў давялося ёй прайсці. У шэсць гадоў апынуцца ў ссылцы ў невядомым глухім краі, дзе ў люты мароз сярод бясконцых снягоў трэба было выжываць. Холад, голад, безнадзейнасць. Але ўсё стрывала, вынесла гэтая кволая дзяўчынка.

Калі ў 1937 г. бабулю ў трэці раз арыштавалі і адправілі па этапе на Волгу, мая мама і двое яе брацікаў засталіся адны. У іх і даху над галавою не было. Бацькоўскі дом за час ссылкі засялілі, там гаспадарылі іншыя людзі. Давялося спаць у кузні, бо там было цёпла і каваль аказаўся добрым чалавекам. А вось каб пракарміцца, давялося жабраваць, самага малодшага Колечку пасылаць у другую вёску хадзіць з працягнутай рукой. Ён увесь час капрызіў, не хацеў туды ісці. Яно і зразумела: вясковыя хлапчукі абражалі, кідалі ў яго камяні, дражнілі крывапіўцам. Але хлопчыку вешалі торбу на шыю і зноў выпраўлялі ў Абчын. Добра, што старшыня мясцовага калгаса Аляксандр Іванавіч Свінко пашкадаваў сірот: замацаваў за імі жанчыну, якая гатавала для дзяцей абеды. Учынак кіраўніка быў вельмі смелы для таго часу.

Калі маме было 15 гадоў, яе не прымалі ў камсамол, не пускалі на танцы, усяляк прыніжалі. Нейкая перспектыва з'явілася толькі пасля па-

спяховага заканчэння Слуцкага педвучылішча ў 1941 г. – адкрывалася дарога ў самастойнае жыццё. Але пачалася вайна, што стала для мамы новым цяжкім выпрабаваннем.

Характэрна, што яе браты, мае дзядзькі, зведаўшы столькі пакут, не затаілі злосці на ўладу. Наадварот, падлеткамі пайшлі ў партызаны і мужна змагаліся з агульным ворагам. У канцы 1943 г. немцы пачалі наладжваць аблавы і хапаць дзяўчат і хлопцаў для работы ў Германіі. У іх лапы трапіла і мая мама. Успамінаючы, яна горка жартавала:

– Да гэтага пераследавалі за тое, што мы быццам супраць бальшавікоў, а пасля – за тое, што з бальшавікамі…

Маму завезлі на станцыю Урэчча, дзе беларускую моладзь рыхтавалі да адпраўкі, але ў тыя дні лютаваў тыф. Захварэла на яго і мая мама. Фашысты вельмі баяліся гэтай хваробы. Дзяўчыну з высокай тэмпературай тэрмінова завезлі ў любанскую бальніцу. Немец-урач, аглядзеўшы яе, махнуў рукой: не жылец на гэтым свеце. Ён праявіў незвычайную міласэрнасць, не выкінуў у барак для тыфозных, дзе ніхто не даглядаў хворых, а папрасіў жанчыну, якая прыехала за паміраючым мужам, забраць маю маму з сабой і завезці дадому: можа, родныя сцены вылечаць, свежае паветра паставіць на ногі.

У дарозе таксама здарылася нешта незвычайнае, быццам анёл-ахоўнік аберагаў няшчасную. Падвода рухалася павольна, і яе абагнала павозка, на якой ехалі жыхары Засмужжа. Толькі яна схавалася за паваротам, як прагрымеў выбух. Аказалася, дарога была замініравана. Міна, пэўна, прызначалася фашыстам, але на яе натрапілі свае, мірныя грамадзяне.

Мама часта ўспамінала той выпадак і лічыла, што Бог ўратаваў яе ад вернай смерці. Ён і тыф дапамог пераадолець. Дома яе адпаілі малаком, сагрэлі клопатам і ўвагай. Дзяўчына папраўлілася, расквітнела, стала вельмі прывабнай. Недарэмна яе ў 1944 г. заўважыў былы партызанскі камандзір Васіль Чабаганаў. Ён ваяваў у пухавіцкіх лясах, а калі прыйшла Савецкая Армія, быў адпраўлены ў Маскву на вучобу, пасля чаго прыехаў у любанскі край упаўнаважаным па нарыхтоўках. А мама мая там жа працавала бухгалтарам, яе паважалі, прыводзілі ў прыклад. За ўсё сваё працоўнае жыццё яна так і не пабывала ў адпачынку. Не памятаю, каб яна калі-небудзь сядзела склаўшы рукі. Маці-гераіня, яна нарадзіла і выхавала пяцярых дзяцей. Марыла, каб кожнае яе дзіця атрымала вышэйшую адукацыю. І дамаглася свайго: усе мы скончылі прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, нехта нават з адзнакай. Мама вельмі ганарылася гэтым, бо жыла толькі дзеля нас.

Памерла яна на 80-м годзе жыцця. Пахавана на Паўночных могілках у Мінску. Яна сама так вырашыла, бо не хацелася ёй ляжаць у Засмужжы, дзе перажыла столькі гора і пакут.

Там, дзе знайшла апошні спачын мая мама, усталяваны помнік і адначасова мемарыял усім маім рэпрэсіраваным у 1930-я гг. родзічам: мама ў тужлівай паставе абапіраецца на старажытную амфару з дваранскімі гербамі яе бацькоў – Статкевічаў і Карафа-Корбутаў. Каля ног мамы – крыж, на якім увекавечаны прозвішчы тых яе блізкіх, чые магілы невядомы:

бацькі Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча (расстраляны 06.03.1930 г.); брата Івана Міхайлавіча Сацкевіча-Статкевіча (загінуў у ссылцы ў 1930 г.); дзядзькі Васіля Пятровіча Карафы-Корбута (расстраляны 06.03.1930 г.); дзядзькі Георгія Аляксандравіча Карафы-Корбута (лёс невядомы).

Жыццё Георгія Аляксандравіча таксама склалася трагічна. Па дарозе ў ссылку ён моцна захварэў, быў разлучаны з блізкімі, і да гэтага часу лёс яго невядомы. Сям'я ж Георгія Аляксандравіча так і засталася назаўсёды ў Комі-Пярмяцкім краі…

### МОЙ ДЗЯДЗЬКА – ІВАН САЦКЕВІЧ-СТАТКЕВІЧ

Лёс Івана Сацкевіча-Статкевіча займае асаблівае месца ў памяці нашай сям'і.

Гэта быў адораны і вельмі працавіты чалавек. Пасля Слуцкай гімназіі, якую закончыў з адзнакай, у інстытут яго не прынялі, бо паходзіў з дваранскага роду. Паступіў у Слуцк на фізіка-матэматычныя курсы, паспяхова закончыў іх. Але ўжо ішоў трагічны 1930-ы год, і лёс дзядзі Вані, якому толькі споўнілася 22, быў прадвызначаны.

Разам з Мікалаем, сынам нашага блізкага родзіча Васіля Пятровіча Карафы-Корбута, якога расстралялі разам з маім дзедам у Бабруйску, іх выслалі ва Уральскую вобласць на лесапавал…

Думка пра пабег, відаць, прыйшла да іх адразу.

Галоўнае – сесці незаўважанымі на цягнік і дабрацца да Любаншчыны, а там – сваякі…

У канцы жніўня змоўшчыкі рушылі ў дарогу, і без усялякіх перашкод вярнуліся ў родныя мясціны.

Пазней, ратуючыся ад пераследавання, хлопцы вырашылі падацца ў Польшчу. Праваднiка яны адшукалі адразу. Ім згадзіўся быць малодшы брат Мікалая Вася. Ён збіраўся таксама застацца на польскім баку. Дамовіліся, што пераходзіць мяжу будуць раніцай, калі ўсе спяць, а ўвага вартаўнікоў прытупляецца. У пачатку верасня, на зыходзе дажджлівай ночы, выправіліся ў дарогу. І зноў ім шанцавала, усё было ці-

ха і спакойна. Уцекачы ўжо думалі, што яны на польскім баку і, радасныя, вырашылі раскласці вогнішча, каб хоць трошкі сагрэцца.

Трое маладых людзей схіліліся над агеньчыкам, калі раптам, быццам гром сярод гулкага ранння, прагучала:

– Стаяць! Рукі ўверх!

Уцекачы азірнуліся: чырвонаармейцы! Загрымелі стрэлы. Мікалая паранілі ў жывот. Івана схапілі пагранічнікі. А 14-гадовы Вася знік, засталася толькі шапка. Затрыманыя толькі пазней даведаліся, што да польскай мяжы заставалася ўсяго 100 метраў…

Родзічаў паўторна судзілі. На пытанне следчага пра мэту ўцёкаў, як стала вядома з дакументаў, дзядзя Ваня шчыра адказаў: "Не мелі ў СССР чалавечых правоў". Ім далі пяць гадоў строгага рэжыму і адправілі ў горны Казахстан. Зноў глухія мясціны, лесасплаў. Іван быў пісьменным чалавекам. Яго прызначылі рахункаводам, і гэта давала надзею на тое, што ён можа выжыць. Але аднойчы здарыўся аўрал: не выконваўся план. Усё рабілася ў спешцы. Адзін плыт дрэнна прымацавалі, і калі Іван з Мікалаем узышлі на яго, ён адразу перавярнуўся. Абодва апынуліся ў ледзяной вадзе, пакуль выбіраліся, моцна прамерзлі, пачаўся жар. А доктара і лекаў не было. Мікалай выжыў, а Івана пахавалі…

Вось так склаліся пакутныя лёсы маіх дзядзькаў, на прыкладзе якіх можна прасачыць лёс краіны ў тыя далёкія і няпростыя гады.



**Мемарыял памяці рэпрэсіраваных родзічаў А. Статкевіча-Чабаганава.**
Паўночныя могілкі ў Мінску. Скульптар *Сяргей Бандарэнка*.

**МОЙ СЯБРА ВЯЗ**

Адны з самых яскравых успамінаў дзіцячай пары: на тэрыторыі нашай зямлі, якая адышла ўжо да калгаса, рос велічэзны, у некалькі абхватаў вяз, пасаджаны маімі продкамі ў XIX ст. Дрэва стала маім любімым, пад ім я і правёў юнацкія гады. Там я марыў пра будучыню, планаваў нешта, але часцей за ўсё пад гэтым вязам мы гулялі з вясковымі хлапчукамі. Дарэчы, на нашым вязе гняздзіліся буслы, і мы любілі назіраць, як птушаняткі мацуюць крылы.

У 1960-я гг. вяз хацелі выкарчаваць: вельмі ганарліва стаяў ён пасярод калгаснага поля і перашкаджаў сеяць кукурузу квадратна-гнездавым спосабам. Зачапілі яго двума магутнымі трактарамі, што называліся "Сталінцамі", пацягнулі, але тросы лопнулі – вяз устаяў.

І вось не так даўно прыязджаю я ў вёску, а вяза няма. Упаў ад старасці. Для мяне гэта было знакавае дрэва, якое звязвала з мінулым, з любімымі мясцінамі. Я прыязджаў, ішоў да яго, слухаў шэпт лістоты, як далёкую песню, дакранаўся да кары і згадваў мінулае… І вось вяз упаў, а з ім рухнула нешта важнае, што так вабіла мяне ў Засмужжа. З таго дня я пачаў рэдка ездзіць у родную вёску. Але зялёны сябра стаяў заўсёды перад вачыма.

Прайшоў час. І я захацеў пасадзіць вяз каля свайго дома. Якраз на Любаншчыну ехаў мой сябар, і я папрасіў яго знайсці добрае дрэўца. Ён выканаў маю просьбу. Палюбаваўшыся на палескага прыгажуна, мы адразу пачалі пасадку. Я ўзяў лапату, пачаў капаць, і тут здарылася загадкавае. У мяне ніколі раней не ішла кроў з носа, а тут проста хлынула. Думаю, гэта здарылася ад моцнага перажывання, навеянага ўспамінамі. Прыяцель спужаўся, прыбегла ўсхваляваная жонка…

На жаль, вяз не прыняўся: зайцы зімой аб'елі кару. Звычайна яны ласуюцца карой садовых дрэў, а тут чамусьці на вяз напалі. Пасля гэтага сябры ў мой юбілей на гэтым месцы пасадзілі дуб. І дуб прыжыўся.

Але пра вяз я не забыўся.

Цяпер недалёка ад гэтага дуба расце рэдкі плакучы вяз. Расце і плача. Галінкі ляжаць на зямлі і сцелюцца па ёй, як памяць пра майго расстралянага дзеда, памяць пра ўсіх родзічаў, якім шмат давялося перажыць у далёкія 1930-я гг., як памяць пра страчанае і знесенае ветрам пакаленне беларускай шляхты…

*Пераклад з рускай мовы.*

*Працяг будзе.*

*Аўтар ахвяруе ганарар на развіццё часопіса.*

Ганна ЗАПАРТЫКА

# БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА І ЯГО ЛІТАРАТУРНЫЯ ФОНДЫ

### ДА 50-ГОДДЗЯ ЗАСНАВАННЯ

*"З літар складаецца слова. Слова піша чалавек. Напісанае чалавекам слова праз сотні і тысячы год можа загучаць вялікай сілай. Чалавек гаворыць слова, яно прагучыць і сціхне. Хто яго не чуў – ніколі больш не пачуе. Хто чуў – можа забыць. Напісанае слова гучыць заўсёды, пасвойму, але гучыць. Яно плыве, яно даносіць свой сэнс праз час, праз ход часу".* Гэтыя радкі належаць выдатнаму беларускаму пісьменніку Кузьме Чорнаму, які добра разумеў, што для таго, каб слова "даносіла свой сэнс праз час", патрэбны кнігі, рукапісы, лісты, дакументы. Ён і сам пакінуў для нас багатую спадчыну, у якой "праз ход часу" застаюцца жывымі героі і падзеі яго эпохі. Грамадства, жадаючы захаваць напісанае "на сотні і тысячы год", будуе архівы і бібліятэкі. Так было і так будзе. З высакароднай мэтай захаваць унікальныя скарбы нашай літаратуры, мовы, культуры і быў створаны ў 1960 г. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Задума была своечасовая і вельмі прагрэсіўная. Сёння, калі за плячыма ўжо 50 гадоў руплівай працы, з гонарам можна сказаць: Беларусь мае найкаштоўнейшую скарбніцу рукапісных помнікаў і дакументальных крыніц па


40

Сенажаць.

Касы даўно [illegible] у пракосе.
Бяз ветру [illegible] сонца [illegible].
А неба сіня і [illegible]
[illegible] хмарак [illegible] [illegible]

З жбанком вады... З касой, [illegible]
Іду і я ~~[illegible]~~ касіць [illegible].
Наўкол па кустах сакавіта
[illegible] [illegible] [illegible]

Дзяўчаты ў вопратках святковых
Зграбаюць сена і пяюць
І песьня млосна... [illegible] словы
[illegible] [illegible] — [illegible]

Гарачы дзень... Гарачай працы
Кругом працуюць і звіняць
[illegible] ~~[illegible]~~ [illegible] [illegible] звінячы
З кіпучай працай сенажаць!

12 VII 32

**Аўтограф верша "Сенажаць" Міхася Машары.** 1932 г.

гісторыі нацыянальнай літаратуры і мастацтва. З вялікай удзячнасцю ўсім, хто перадаў асабістыя архівы, хто працаваў над іх упарадкаваннем, хачу адкрыць некаторыя таямніцы гісторыі літаратурных фондаў.

25 кастрычніка 1960 г. адбылося першае пасяджэнне закупачнай камісіі толькі што створанага Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва (першапачатковая назва ўстановы. – ***Рэд.***). Да ўдзелу ў яе працы былі запрошаны спецыялісты-архівісты, а таксама прадстаўнік Саюза пісьменнікаў БССР, літаратурны работнік рэдакцыі газеты "Гродзенская праўда" В. Быкаў. Разглядалася пытанне пра набыццё літаратурнай спадчыны беларускага паэта Міхася Васілька. У знак згоды з рашэннем камісіі ўсе ўдзельнікі паставілі пад пратаколам свае подпісы. Пакінуў аўтограф і Васіль Быкаў. Так да факта набыцця архіўнай спадчыны М. Васілька меў самае непасрэднае дачыненне вядомы ва ўсім свеце народны пісьменнік Беларусі.

Фонду М. Васілька быў прысвоены па чарговасці паступлення № 2. Першым жа стаў фонд другога заходнебеларускага паэта – Міхася Машары. Яго паступленне адбылося яшчэ ў красавіку 1960 г., у час арганізацыйных мерапрыемстваў па стварэнні літаратурнага архіва. Гэта пацвярджае факт, што стваральнікі архіва паралельна з падрыхтоўкай арганізацыйных дакументаў займаліся і пытаннямі камплектавання.

Перададзеныя архівы Міхася Машары і Міхася Васілька і праз 50 гадоў адкрываюць для нас цудоўныя скарбы іх творчасці, сведчанні сяброўскіх узаемаадносін, драбніцы прыватнага жыцця. Фонд М. Машары складаюць 63 адзінкі: рукапісы вершаў, апавяданняў, перакладаў, яго лісты. Фонд М. Васілька – 54: рукапісы вершаў, запісныя кніжкі, лісты да Я. Брыля, М. Засіма, М. Танка і многіх іншых, фотаздымкі, біяграфічныя матэрыялы.

Пачатак быў прадвызначальны. Ужо ў першае дзесяцігоддзе працы архіва камплектаванне літаратурных фондаў заняло вядучае месца. Сёння Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва захоўвае больш за дзвесце пісьменніцкіх архіваў. Гэта палова ад усёй колькасці архіваў асабістага паходжання, якія паступілі ў архіў-музей за ўсю яго гісторыю. Сярод іх збо-

ры і калекцыі Я. Купалы, Я. Коласа, сям'і М. Багдановіча, Ц. Гартнага, І. Грыгаровіча, асабістыя архіўныя фонды А. Адамовіча, А. Александровіча, З. Астапенкі, А. Астрэйкі, З. Бандарынай, Я. Барычэўскага, Я. Брыля, К. Буйло, В. Быкава, С. Грахоўскага, А. Гурыновіча, У. Дамашэвіча, У. Дубоўкі, Я. Журбы, К. Каганца, У. Караткевіча, У. Калесніка, А. Кулакоўскага, Я. Маўра, І. Мележа, А. Пальчэўскага, П. Панчанкі, П. Пестрака, І. Пташнікава, Я. Пушчы, Я. Семяжона, М. Танка, П. Труса, М. Хведаровіча, І. Шамякіна, С. Шушкевіча, У. Юрэвіча і многіх іншых.

Кожны з гэтых фондаў самадастатковы ў раскрыцці творчай гісторыі, жыцця і дзейнасці іх утваральнікаў. І няма больш надзейных і запатрабаваных крыніц для вывучэння гісторыі тэкстаў пры ўкладанні збораў твораў, складанні летапісаў жыцця і творчасці пісьменнікаў, чым архіўныя крыніцы. Больш за тое, сабраныя разам у адным сховішчы, архіўныя фонды пісьменнікаў, хоць і абасобленыя па намінальнай прыкмеце, усё ж складаюць агульны кантэкст. Кожны з іх з'яўляецца выразнікам грамадска-культурных працэсаў сваёй эпохі. Супадаючы ў часе існавання, яны ствараюць магчымасць вывучаць пэўныя этапы развіцця літаратуры, рэканструяваць падзеі, гісторыю творчых узаемаадносін і ўзаемаўплываў.


Суддзі.
Прысягаю на шчасце сваё, на свой лёс —
Шчырым сэрцам, душой прысягаю,
Што як светлае сонца, як просінь нябёс
Беларусь сваю маці кахаю...
Я саўю з срэбных зор [illegible] вянок,
Палажу ёй на белыя грудзі.
Сатру слёзы з вачэй, хай агнём [illegible] зрок
Глянь у твары паноў, сваіх суддзяў!
Скажу ёй запытаць: ці вы суддзі мае!
За што хочаце свету пазбавіць?
Я да сонца іду па багацце сваё,
Па свой скарб, сваю веду і славу.
Не прашу я у вас ласкі, літасці — не!
Дайце мне мае ўласнае права...
Я не злыднік якісь, глянце рукі у мяне
У мазалях працавітых, крывавых.
Ці вялікая віна, што з канур, цёмных хат,
Дзе ад працы, бяды знемагаю —
Хачу выйсці на свет каб тварыць новы лад
Каваць шчасце для роднага краю?
Паны суддзі мае — вінаваты не ў тым,
Што спрадвеку мяне катавалі,
На шляху маім ставілі петлі, [illegible] —
Замест школ — турмы мне будавалі!
Не, не вы нас, паны, а судзіць будзем вас —
За ўсе крыўды, за здзекі і гора...
Набліжаецца грознай расплаты ўжо час
Мы інакай тады пагаворым!
1928 г.

**Аўтограф верша "Суддзі" Міхася Васілька.** 1928 г.


Свидѣтельство.

Дано настоящее свидѣтельство за надлежащей подписью, съ приложеніемъ казенной печати дочери мѣщанина Алоизіи Степановны Пашкевичъ родившейся 3 Іюля 1876 г., римско-католическаго вѣроисповѣданія въ томъ, что она, съ разрѣшенія г. Попечителя С.-Петербургскаго учебнаго округа, подвергалась при С.-Петербургской Первой Гимназіи въ Маѣ 1904 г. испытанію изъ латинскаго языка въ объемѣ гимназическаго курса, причемъ оказала по этому предмету удовлетворительныя познанія.

...ргъ 2 Іюня 1904 года.

Директоръ [illegible]

Инспекторъ [illegible]

**Пасведчанне Алаізы Пашкевіч (Цёткі) аб іспыце па лацінскай мове.** 1904 г.

Найбольш стратным для Беларусі ў дачыненні да архіўных крыніц стала XIX стагоддзе. Мы да гэтай пары ў пошуках нашых скарбаў выпраўляемся ў Санкт-Пецярбург і Маскву, Кракаў і Варшаву, Чарнігаў і Кіеў, каб выявіць рукапісы і дакументы Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, Б. Эпімаха-Шыпілы, Я. Лучыны і інш. Пры гэтым я маю на ўвазе не толькі архівістаў, але і даследчыкаў-літаратуразнаўцаў. У многіх выпадках надараецца шанец атрымаць копію. Даследчыкі пакідаюць іх у сваіх асабістых зборах, архівісты ствараюць калекцыі. З такой калекцыяй можна пазнаёміцца і ў БДАМЛМ. Яе складаюць дакументы і рукапісы Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны і інш. Усе яны атрыманы з розных сховішчаў Расіі і Польшчы як непасрэдна архівам, так і праз навукоўцаў. Пачынальніцкія крокі XIX ст. адлюстраваны таксама ў дакументах пісьменніка, мастака і грамадскага дзеяча К. Каганца, перададзеных у пачатку 1990-х гг. яго дачкой Галінай, якая жыла ў Маскве, Ванды Дзяржынскай – роднай пляменніцы Я. Лучыны, перададзеных іх сваячкай Марыяй Неканда-Трэпка з Бяла-Падляскі, Адама Гурыновіча, атрыманыя ад яго пляменніцы Яніны Гурыновіч з польскага горада Торунь. Асобнае месца ў шэрагу архіўных матэрыялаў XIX ст. займае фонд археографа і мовазнаўцы

Івана Грыгаровіча, дакументы якога пашыраюць нашы ўяўленні пра гісторыю Беларусі і яе пісьмовыя крыніцы аж да XIII ст.

Вялікую ролю ў даследаваннях гісторыі беларускай літаратуры XIX – першай трэці XX ст. адыгрывае фонд Беларускага музея імя І. Луцкевіча. На жаль, калекцыі некалі славутага на ўсю Еўропу музея параскіданы па многіх сховішчах розных краін свету і прыватных зборах. Але значная частка яго архіўнай спадчыны з 1960 г. захоўваецца ў БДАМЛМ. Найперш гэта фрагменты асабістых архіваў Цёткі (А. Пашкевіч), В. Ластоўскага, братоў І. і А. Луцкевічаў, Б. Тарашкевіча, асобныя творы і дакументы З. Бядулі, М. Васілька, Я. Коласа, Ц. Гартнага, Г. Новік і інш., ананімныя творы і фальклорныя запісы XIX ст. Захоўвае гэты фонд і шматлікія матэрыялы беларускіх выдавецтваў, часопісаў і газет першай трэці XX ст.: статуты, пратаколы, перапіску, мастацкія творы. Унікальнымі сярод іх з'яўляюцца дакументы выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца", рэдакцый газет "Наша Ніва" і "Беларуская крыніца", беларускага выдавецкага таварыства "Мінчук", выдавецтва "Наша хата", рэдакцыі часопіса "Маланка", а таксама матэрыялы менш вядомых шырокаму колу грамадства газет "Беларускі звон", "Гоман", "Змаганне", "Новае жыццё", часопісаў "Беларускі летапіс", "Беларускі студэнт", "Крывіч", "Наша жыццё" і інш. Усе яны зберагаюць творы беларускіх пісьменнікаў. Трэба заўважыць, што большая частка з іх адносіцца да перыяду ўваходжання Заходняй Беларусі ў склад Польшчы і адкрывае для нас цікавыя старонкі існавання беларускай літаратуры і мастацтва ў той час.

Выдатнай дакументальнай і рукапіснай спадчынай у архіве-музеі прадстаўлена гісторыя беларускай літаратуры міжваеннай пары. Фонды літаратурнага аб'яднання "Маладняк", паэтаў Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Паўлюка Труса, Міхася Чарота, Андрэя Александровіча, літаратуразнаўцаў Адама Бабарэкі, Іларыя Барашкі, Яўгена Барычэўскага, празаікаў Максіма Гарэцкага, Сымона Баранавых, Язэпа Дылы, Цішкі Гартнага і многіх іншых раскажуць пра іх творчыя пошукі, пра час і абставіны стварэння многіх літаратурных суполак, іх узаемадачыненні, пра дзяржаўную літаратурную палітыку, пра трагічныя эпізоды 1930-х гг. На лёсе гэтых архіваў адбіўся трагічны лёс іх гаспадароў, рана памерлых, расстраляных, высланых. Кожны з названых тут фондаў мае сваю гісторыю паступлення ў БДАМЛМ, часам незвычайную і ў кожным выпадку непаўторную.

Амаль у адзін час паступілі ў архіў-музей асабістыя фонды класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага і літаратуразнаўцы, пісьменніка Адама Бабарэкі: першы – з Санкт-Пецярбурга, другі – з Масквы. Сем'і А. Бабарэкі і М. Гарэцкага сябравалі, а наймацней іх злучылі выпрабаванні выгнаннем. Пасля арышту і трагічнай смерці пісьменнікаў у 1938 г. назаўсёды засталіся сяброўкамі іх жонкі Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая і Ганна Іванаўна Бабарэка: ліставаліся, гасцілі адна ў адной, жылі агульнымі марамі пра вяртанне на Радзіму. Іх дзеці Галіна Гарэцкая і Алеся Бабарэка таксама былі блізкімі сяброўкамі: ліставаліся, працавалі над вяртаннем памяці пра сваіх рана загінулых бацькоў, бераглі іх творчую спадчыну.

Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва 26 красавіка 1996 г. яны наведалі таксама разам, прыехалі ў Мінск на V Гарэцкія чытанні. У той дзень Алеся Адамаўна перадала ў архіў-музей першую і адну з унікальных частак бацькавага архіва – рукапісы. Яна расказала незвычайную гісторыю пра тое, якім чынам Ганна Іванаўна здагадалася ратаваць бацькаву спадчыну: "*Дакладную дату арышту бацькі мне цяжка вызначыць. Захаваўся пратакол вобыску, але якім чыслом ён адзначаны, да паўночы або пасьля яе, не магу сказаць. Па часу прыходу апаратыўнікаў за бацькам быў не позні вечар, таму што мы з сястрой яшчэ гулялі з дзецьмі ў другой кватэры нашага дома. Хтосьці нас апавясціў, што трэба тэрмінова ісці дадому. Маці адразу ўлажыла мяне спаць па нейкіх сваіх меркаваннях, але адыход бацькі помню. Помню, як мы развіталіся і ён мяне пацалаваў*". Пасля Ганна Іванаўна ўжо дарослай дачцэ расказала, што тая канапа, на якую паклала "спаць" малую Алесю супраць яе волі, мела патаемную шуфляду, дзе былі схаваны рукапісы Адама Бабарэкі.

Другое паступленне дакументаў з сямейнага архіва Бабарэкаў адбылося пасля завяршэння VIII Гарэцкіх чытанняў 18 чэрвеня 1999 г., што праходзілі ў Пінску. Гэтыя дакументы – сведчанні пра самыя трагічныя дні жыцця Адама Бабарэкі: яго лісты да сям'і з перасыльных пунктаў у Котласе, Усць-Выме, з 41-га лагпункта будаўніцтва чыгункі Комі АССР. Гэтае ж паступленне ўключала лісты Д. Дунько да Г. Бабарэкі з успамінамі пра апошнія дні яе бацькі, дакументы да яго біяграфіі, рэабілітацыі, некалькі фотаздымкаў. Каб быць дакладнай, скажу, што гэтая частка архіва была выкарыстана даследчыкам М. Ількевічам у кнізе "Угасание. Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем и лагеря. Материалы к биографии" (Смоленск, 2001). Падрыхтоўка да друку гэтых дакументаў была ажыццёўлена даследчыкам яшчэ ў 1998 г., пасля чаго, як удзельнік чытанняў у Пінску, ён вярнуў іх захавальніцы. У Маскву Алеся Адамаўна іх не павезла.

У пачатку кастрычніка 1999 г. у Беларусі быў адзначаны 100-гадовы юбілей з дня нараджэння Адама Бабарэкі: наладжана навуковая канферэнцыя, выстава “У душы гарэў святы агонь…” з выпускам каталога, паездка на Капыльшчыну ў вёску Слабада-Кучынка, дзе нарадзіўся пісьменнік. Прыехала на гэтае свята і Алеся Адамаўна. Ва ўступным слове да свайго даклада на канферэнцыі яна ўсхвалявана сказала, што архіў іх сям’і абяцае цалкам перадаць у дар Беларусі, а месцам яго захавання абірае Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, цяпер жа, у сувязі са стагоддзем бацькі, перадае ў дар архіву-музею 17 дакументаў з сямейнага архіва. Гэта былі лісты Ганны Іванаўны да Адама Антонавіча за 1935 г., іншая перапіска, біяграфічныя дакументы.

У канцы лістапада таго ж года адбылася наша сустрэча з Алесяй Адамаўнай ужо ў Маскве. Гэта былі незабыўныя дні ўспамінаў, шчырых, горкіх, з невымерным болем за лёс бацькі, іх сям’і, сяброў і знаёмых. Кожны дакумент, кожны здымак, рукапіс, якія брала ў рукі Алеся Адамаўна, перадаваўся з дакладным апісаннем яго гісторыі. На дзіва трывалая памяць. Здзіўлялі добрае веданне бацькавых прац, атачэння і падрабязнасцей біяграфіі. Пасля трох дзён гасцявання ў Алесі Адамаўны быў падрыхтаваны вялікі набытак. У непрыкметных дарожных сумках цягніком была дастаўлена спадчына, без якой сёння нельга ўявіць літаратурны кантэкст 1920 – 1930-х гг.: рукапісы А. Бабарэкі, яго запісныя кніжкі, сшыткі, лісты да А. Адамовіча, У. Дубоўкі, лісты А. Бабарэку ад З. Бядулі, Ю. Бярозкі, У. Дубоўкі, Я. Пушчы, К. Крапівы, М. Лужаніна, К. Чорнага і іншых, фотаздымкі беларускіх пісьменнікаў 1920-х гг., дакументы Ганны Іванаўны Бабарэкі, дочак Элеаноры і Алесі, унучкі Алены Кім, праўнука Вадзіма Камарова – усяго каля 1000 дакументаў і асабістых рэчаў сям’і. Што тычыцца асабістых рэчаў, у архіў-музей іх паступіла 38 адзінак. Цікава, што Алеся Адамаўна перадала абрус, якім паводле сямейнай легенды накрываўся стол у час урачыстых пасяджэнняў “Узвышша”.

Сям’я знайшла магчымасць увесь архіў Адама Бабарэкі надзейна хаваць ад чужых вачэй у час нярэдкіхператрусаў, ні на хвіліну не сумняваючыся ў яго навуковай і гістарычнай вартасці. Яшчэ доўгія гады ў кватэры Ганны Бабарэкі па вул. Свабоды, 109 у Кіраве ён надзейна захоўваўся з марай пра час уваскрашэння. У 1960-я гг. Ганна Іванаўна пераехала ў Маскву да малодшай дачкі Алесі. У яе небагатым багажы галоўным скарбам быў архіў Адама Бабарэкі. Сваё надзейнае месца ён тады займеў на адной з маскоўскіх вуліц пад апекай усё тых жа нязломных Ганны Іванаўны Бабарэкі і яе дачкі Алесі. Толькі на зыходзе ХХ стагоддзя, якое застанецца ў гісторыі нашага народа не толькі цяжкім болем войнаў, рэпрэсій, выгнанняў, але і светлымі ўздымнымі перыядамі адраджэння, здзейснілася вяртанне ў Беларусь архіўнай спадчыны яе адданага сына Адама Бабарэкі.

Архіўны фонд класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага і яго сям’і ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва быў закладзены ў 1999 г. Як і ў вышэйапісаным выпадку, для падрыхтоўкі кнігі “Адам Бабареко. Арест. Лагерь. Смерть” (Смоленск, 1999) даследчык М. Ількевіч атрымаў ад Г. Гарэцкай у часовае карыстанне 19 унікальных дакументаў: лісты М. Гарэцкага да сям’і з кіраўскай і вяземскай турмаў, малюнак Г. Гарэцкай і фатаграфіі дома ў Кіраве, дзе з 1931 да 1935 г. жыла сям’я Гарэцкіх. У час VIII Гарэцкіх чытанняў гэтыя дакументы былі вернуты ўладальніцы. Тады ж узнікла прапанова і добрая згода пра іх перадачу ў БДАМЛМ.

Наступная наша сустрэча з Г. Гарэцкай адбылася ў снежні 2001 г. ужо ў Санкт-Пецярбургу. *“Перадаю ў дар Рэспублікі Беларусь сямейны фонд Максіма Гарэцкага, Леанілы Чарняўскай-Гарэцкай і Галіны Гарэцкай: перапіску (тысяча сто пятнаццаць лістоў), фотаздымкі 1913 – 1990-х гадоў, мастацкую вышыўку Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай (18 работ)”*, – так гучыць заява Г. Гарэцкай, напісаная 10 снежня 2001 г. З Пецярбурга было прывезена 1258 дакументаў і 18 вышывак Л. Чарняўскай-Гарэцкай. У ліпені 2002 г. была ажыццёўлена перадача яшчэ 70 мемарыяльных рэчаў сям’і Гарэцкіх.

19 верасня 2006 г. не стала захавальніцы сямейных скарбаў Гарэцкіх – Галіны Максімаўны. Яшчэ пры жыцці яна паклапацілася пра іх будучыню. Усе правы на сваю спадчыну яна перадала стрыечнаму брату Валянціну Яўгенавічу Тэадарчуку, які жыве ў Санкт-Пецярбургу. В. Тэадарчук роўна праз 40 дзён пасля смерці Галіны Максімаўны напісаў заяву пра перадачу астатняй часткі архіўнай спадчыны Гарэцкіх у дар Беларусі, выканаўшы такім чынам волю яе захавальніцы. Гэтае паступленне багатае унікальнымі рукапісамі, фотаздымкамі, біяграфічнымі дакументамі М. Гарэцкага і Л. Чарняўскай-Гарэцкай. Сярод іх вылучаюцца асабістыя дакументы пісьменніка, аўтограф “Руска-беларускага слоўнічка”, сшытак з запісамі па мовазнаўстве, запісная кніжка М. Гарэцкага, дзённік Г. Гарэцкай, успаміны Л. Чарняўскай-Гарэцкай, лісты дзеячаў літаратуры і інш. Усяго больш за 2000 дакументаў. Архіўны фонд сям’і Гарэцкіх з’яўляецца унікальным помнікам літаратуры, мастацтва, культуры Беларусі і мае багатую перспектыву навуковага даследавання і выкарыстання.

*Заканчэнне будзе.*

*Скарбы фальклору*

# ЖАНРАВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ І ТЭМАТЫЧНЫ СКЛАД ВУСНЫХ АПАВЯДАННЯЎ У ЗАПІСАХ АЛЯКСАНДРА СЕРЖПУТОЎСКАГА

Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі (1864 – 1940) – знакаміты этнограф, фалькларыст, лексікограф. Запісам фальклорных твораў, сярод якіх значную колькасць складалі вусныя апавяданні, займаўся цягам канца XIX – пачатку XX ст. Сабраны матэрыял быў прадстаўлены шырокаму колу грамадскасці ў 1911 г. у зборніку “Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў” (перавыданне 1999 г.) і ў 1926 г. у зборніку “Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета” (перавыданне 2000 г.). А. Сержпутоўскі так акрэсліваў ролю вусных апавяданняў: “…яны разам з іншымі жанрамі вусна-паэтычнай творчасці фарміруюць светабачанне чалавека, маюць дыдактычную функцыю, бо выступаюць як пераказы вялікіх і маленькіх твораў мастацкай літаратуры, якія неадукаваныя людзі па пэўных прычынах не маглі адолець, а таксама з’яўляюцца крыніцай адказаў на жыццёвыя пытанні”. Большасць апавяданняў запісана фалькларыстам, па яго словах, у “лесе, на начлезе, падчас адпачынку ці палявых прац <…> ля вогнішча ці пры светачы, што гарыць, інакш кажучы – там, дзе толькі можна было пачуць апавяданні апавядальнікаў-аматараў” [1, с. 25 – 26].

Што з сябе ўяўляюць вусныя апавяданні, запісаныя ад вясковых жыхароў? Вёска – гэта невялікі населены пункт, дзе сем’і жывуць цэлымі родамі. У вёсцы, як у маленькай дзяржаве, заўсёды адбываюцца якія-небудзь падзеі, што могуць надоўга затрымацца ў памяці яе жыхароў і перадавацца з пакалення ў пакаленне. Вяскоўцы доўга памятаюць сваіх выбітных землякоў, пра якіх часам складваюцца легенды, байкі; пры дапамозе вусных апавяданняў перадаюцца сапраўдныя факты. Паведамленні пра падзеі і жыхароў вёскі называюць *вуснымі апавяданнямі з гісторыі вёскі*. Кожная сям’я можа распавесці шэраг апавяданняў, што даволі яскрава намалююць перад слухачамі карціну нараджэння пэўнай ячэйкі грамадства, асаблівасцей яе існавання, функцыянавання; адносін сямейнікаў, бытавання пэўных традыцый, звычаяў у сям’і і г. д. Такія апавяданні можна назваць *апавяданнямі з гісторыі сям’і*. Успаміны з жыцця асобнага жыхара вёскі маюць найменне *апавяданняў-успамінаў з уласнага жыцця вяскоўца* (*мемараты*). Гісторыю апавядальніка пра нейкую падзею, удзельнікам ці сведкам якой яму не давялося быць, але пра якую паведаміў іншы інфармант, у фалькларыстыцы прынята называць *апавяданнем-успамінам* (*фабулатам*). Акрамя ўзгаданых існуюць яшчэ *гістарычныя вусныя апавяданні*. Да іх адносяцца расповеды пра вядомыя гістарычныя падзеі; апавяданні, галоўнымі героямі якіх з’яўляюцца вядомыя гістарычныя асобы; таксама варта далучаць да гэтай групы творы, дзе фігуруюць прадстаўнікі такога слоя грамадства, які перастаў існаваць, – паны, дваране.

Прааналізуем вусныя беларускія апавяданні са зборнікаў А. Сержпутоўскага ў адпаведнасці з прапанаванай намі класіфікацыяй.

Вусныя апавяданні з жыцця вёскі тэматычна падзяляюцца на тры групы. Да першай адносяцца творы пра канкрэтных жыхароў пэўнага населенага пункта. Гэта апавяданні “Нехай” [1, с. 55 – 56], “Кузьма” [1, с. 46 – 47], “Тое, да не тое” [1, с. 184 – 185], “Маленькая ростам” [2, с. 232 – 236], “Упартая баба” [2, с. 252 – 254]. Другая група змяшчае шэраг апавяданняў пра прадстаўнікоў этнічных груп: палешукоў – “Здатны палешук” [1, с. 137 – 139]; “маскалёў” – “Скорам” [1, с. 67 – 68], “Маскаль” [2, с. 236 – 238], “Не тут, дак там” [2, с. 68 – 70]; “хахлоў” – “Упарты хахол” [2, с. 128 – 129]; яўрэяў – “Мужык і жыд” [1, с. 72], “Баязлівы” [1, с. 76 – 77], “Хаўрус” [1, с. 87 – 88], “Вельмі навучны” [1, с. 92]; цыганоў – “Цыган” [1, с. 90], “Цыган” [1, с. 110 – 111], “Мужык, цыган і яўрэй” [2, с. 61 – 62], “Цыганскае таварыства” [2, с. 260 – 261]. У трэцяй групе вусных апавяданняў вёскі галоўныя героі – прадстаўнікі пэўных прафесій: пісары (“Пісар” [1, с. 94 – 96]), кавалі (“Кавальчук і паніч” [1, с. 131 – 132]), святары (“Аб том, як ксендзы вылечыліся” [1, с. 80 – 81], “Поп” [1, с. 90 – 92], “Новы чорт” [1, с. 32 – 33], “Калі б старшыною” [1, с. 156 – 157], “Святое падрыгванне” [1, с. 166 – 167]), цесляры (“Цесьля” [1, с. 71 – 72]), краўцы (“Кравец з таго свету” [2, с. 247 – 249]). Да гэтага ж шэрага можна аднесці апавяданні, дзе раскрываецца своеасаблівая прырода людзей з незвычайнымі здольнасцямі (“Атрабляне” [1, с. 77 – 79], “Шаптуха” [1, с. 182 – 184]).

Апавяданні з гісторыі сям’і, ці сямейныя апавяданні, складаюць даволі значную частку з усіх апублікаваных А. Сержпутоўскім твораў. Іх мэтазгодна размяжоўваць паводле наступных тэм:

а) утварэнне сям’і;

б) адносіны паміж мужам і жонкай;

в) стасункі розных пакаленняў у сям’і;

г) бытавыя і паўсядзённыя выпадкі.

Утварэнне сям’і – складаны і працяглы працэс. Апавяданні “Дзевочы набор” [2, с. 87 – 88], “Хітрэй сьвету не будзеш” [2, с. 120 – 122],

“Самы разумны” [2, с. 261 – 263] дапамагаюць зразумець, што папярэднічала шлюбу і якія прычыны часам вымушалі хутка жаніцца. Адносіны мужа і жонкі даволі яскрава раскрываюцца ў апавяданнях “Жонка” [1, с. 33], “Сабака й грошы” [2, с. 38 – 40], “Упартая баба” [2, с. 252 – 254], “Што Бог злучыў, таго не разлучай” [2, с. 258 – 259], “Не любіць” [2, с. 126 – 128].

Праблема суіснавання розных пакаленняў у сям’і адлюстравана ў шматлікіх творах сусветнай мастацкай літаратуры. Фальклорныя тэксты – “Стары бацько” [1, с. 45 – 46], “Стралец і рыбак” [2, с. 74 – 76], “Хто меняе, у таго хамут гуляе” [2, с. 169 – 170], “Ото ж добрая пасудзіна” [2, с. 256] – сведчанне таго, што названая праблема знайшла водгук і ў беларускім фальклоры. Бытавыя і паўсядзённыя выпадкі апісваюцца ў апавяданнях “Дзеды” [1, с. 96 – 97], “Смерць” [1, с. 109 – 110], “Калатня” [1, с. 137 – 138], “Сусецкая справа” [2, с. 53 – 55], “Смачно” [2, с. 64 – 65], “Валасны суд” [2, с. 146 – 147], “Марцыпаны” [2, с. 183 – 184].

Творы “Як школу будавалі” [1, с. 73 – 76], “Баязлівы” [1, с. 76 – 77], “Атрабляне” [1, с. 77 – 79], “Хітрэй сьвету не будзеш” [2, с. 120 – 122], “Упарты хахол” [2, с. 128 – 129], “Здатны палешук” [2, с. 137 – 139] – прыклады апавяданняў-фабулатаў.

Да гістарычных апавяданняў у зборніках А. Сержпутоўскага адносяцца: “Што майстар, та злодзей” [1, с. 66 – 67], “Мужык і пан” [1, с. 97 – 100], “Дваранін” [1, с. 148 – 149], “Жаласлівая пані” [1, с. 152 – 157], “Нехай панічом лагодкі” [2, с. 70 – 71], “Пан і мужык” [2, с. 76 – 78]. Гістарызм гэтых твораў заключаецца найперш у тым, што галоўнымі дзейнымі асобамі ў іх выступаюць прадстаўнікі панскага саслоўя, акрамя таго, у творах адлюстраваны падзеі гістарычнага мінулага, паншчына, якая пакінула глыбокі след у памяці народа.

Практычна кожнае апавяданне пачынаецца з уступу-апісання становішча ці сітуацыі, у якой знаходзяцца галоўныя героі, ці з апісання самога героя. Напрыклад, у пачатку апавядання “Кузьма” гаворка ідзе пра чалавека, які ўзяў сабе за жонку вельмі ўпартую жанчыну [1, с. 46 – 47]. У апавяданні “Прошча” апісваецца, як свяшчэннік і арандатар маленькай вёскі, што не мелі ніякага прыбытку, знаходзяць спосаб даць рады ў гэтым становішчы [1, с. 70]. “Сусецкая справа” [2, с. 53 – 55] распавядае пра спрыяльнае для вёскі лета, калі быў сабраны вялікі ўраджай і сяляне нават не ведалі, куды яго падзець. Апавяданне “Нехай” [1, с. 55 – 56] пачынаецца з апісання дрэнных рыс характару галоўнага героя – *“Алекса быў вельмі недбалы, гультаёвы мужык”* [1, с. 55]. У творы “Хітрэй сьвету не будзеш” [2, с. 120] акцэнтуецца ўвага на хітрасці персанажаў.

Даволі часта пачатак апавядання – лаканічна завершаная фраза народнай мудрасці (уступ-прыказка): *“Праўду людзі кажуць: не вер каню ў дарозе, а жонцы дома”* (“Жонка” [1, с. 33]); *“Кажуць: што край, та абычай, што село, та нораў, а што галава, та розум”* (“Стары бацько” [1, с. 45]); *“Праўду людзі кажуць, што ў стральца дым густы, да абед пусты, а рыбак як памочыцца, та есьці й не хочэцца”* (“Стралец і рыбак” [2, с. 74 – 76]); *“Праўду кажуць старыя людзі: хітры не хітры, а хітрэй свету не будзеш”* (“Хітрэй сьвету не будзеш” [2, с. 120]).

Яшчэ адной формай пачатку вусных апавяданняў з’яўляюцца ўступы-разважанні пра тое, што будзе разглядацца ў творы. Так, праблема змяненняў жыццёвых прынцыпаў у свядомасці людзей уздымаецца ў апавяданні “Кравец з таго свету” [2, с. 247 – 249]; разважанні пра асабістую свабоду добра пададзены ў творы “Што Бог злучыў, таго не разлучай” [2, с. 258].

Канкрэтызуем разгляд кампазіцыі вусных апавяданняў на прыкладзе тэкстаў “Дзеды” [1, с. 96 – 97], “Сусецкая справа” [2, с. 53 – 55] і “Маскаль” [2, с. 236 – 238].

Апавяданне “Дзеды” пачынаецца з апісання таго, як усе дарослыя жыхары вёскі пайшлі на жніво, а па дамах засталіся толькі дзяды. Завязкай будзе рашэнне двух дзядоў-суседзяў пайсці пасвіць разам коней, праўда, адзін з іх прапанаваў: *“…толькі давай мы будзем гаварыць, бы дзеці, мо ешчэ й памаладзеем…”* [1, с. 97]. Неўзабаве з-за непаразумення разгарэўся канфлікт. Кульмінацыяй стаў момант, калі дзяды, забыўшыся на сваю дамоўленасць, пачалі *“тузацца за каўтуны да лаяца на чом свет стаіць”* [тамсама]. Развязка – дзяды вырашылі ісці ў суд, але там з іх толькі пасмяяліся ды адправілі сядзець за печчу, таму што *“дзеды здзяцінелі й на старасці ўздумалі аб том судзітца”* [тамсама].

Твор “Сусецкая справа” мае сацыяльны кантэкст і пачынаецца з апісання цяжкага становішча на вёсцы з-за суровай зімы, у выніку чаго людзі не маглі пракарміць жывёлу. Завязкай служыць рашэнне аднаго мужыка, чые каровы пачалі пухнуць з голаду, пайсці да багатых суседзяў – *“напрашу хаць берэме сена. Ведамо, сусецкая справа – трэ памагаць у бедзе адзін другому”* [2, с. 53]. Але просьба не знайшла спагады ў суседа, і тады селянін адважыўся на адчайны крок: запрог уначы валоў, паехаў на балота, дзе знаходзіўся суседскі стог, і забраў яго. У хуткім часе да багацея пачало прыходзіць усё больш бедных аднавяскоўцаў з просьбай дапамагчы, і неўзабаве ён вырашыў наведаць свой стажок, дзе ўбачыў, што *“Яны ж ўкралі маё сена!”* [2, с. 54] (развязка). У дадатак да ўсяго ён знайшоў паперку з вострым надпісам у свой адрас. Так суседзі правучылі неспагаднага багацея.

У апавяданні “Маскаль” гаворка вядзецца пра служывага чалавека, што вяртаўся дамоў праз дваццаць пяць гадоў службы. Ішоў ён доўгі час і

зусім прытаміўся, пачаў шукаць сабе хату на начлег (завязка). Зайшоў у адну – бабы над нябожчыкам галосяць, у другую – *"хворая ўдава з дробнымі дзеткамі, што некаму й вады падаць"* [2, с. 236], а ў трэцяй яго прыняла гаспадыня, накарміла, напаіла, спаць паклала, але прыйшоў гаспадар і прымусіў госця танцаваць. Служывы вымушаны быў шукаць іншы начлег. Зайшоў на сенавал, заснуў, а тут маладыя прыйшлі і ляглі не так далёка ад яго. Кульмінацыйны момант – маладыя пачалі разважаць пра дзяцей, а калі дзяўчына спытала: *"…дых хто іх стане гадаваць?"*, а хлопец адказаў: *"Той, хто над намі!"* [2, с. 238], салдат падумаў, што гэта яго мелі на ўвазе. Ён пачаў крычаць, і перапуджаныя маладыя зніклі. Прыхапіўшы ўсе іх пачастункі, служывы *"пацёгся да господы"* (развязка).

Вусныя апавяданні па форме будуюцца як жанр народнай прозы, але існуюць выключэнні: у іх выкарыстоўваюцца дыялогі, маналагічная форма, могуць сустракацца элементы рыфмоўкі, што надае тэксту адметнае гучанне. Напрыклад, дыялогамі пранізаны апавяданні "Не любіць" [2, с. 126 – 128], "Аўсяная дворня" [2, с. 134 – 136]. Рыфмаваным з'яўляецца апавяданне "Вельмі навучны" [1, с. 92].

Як і ў іншых празаічных творах, у вусных апавяданнях выкарыстоўваюцца розныя мастацкія выразныя сродкі. У тэкстах, сабраных А. Сержпутоўскім, шмат прыказак, прымавак і фразеалагізмаў, пашыраны параўнанні і эпітэты. Напрыклад: *"старэнькая, закрэвіўшаяся бабка"* ("Прошча"), *"гладкія, атылыя ксендзы"* ("Аб том, як ксендзы вылечыліся"), *"нехлемяжны мужык"* ("Пан і мужык"); *"слепнем у вочы лезе"* ("Цыган"), *"наваліцца, бы жыды на Гамана"* ("Знаходка"), *"адна як былінка ў полі"* ("Шаптуха"), *"маўчыць бы пень"* ("Не тут, дак там"), *"пагоняць дзевак, як чараду авец"* ("Пан і мужык").

Такім чынам, вусныя апавяданні са збораў А. Сержпутоўскага маюць досыць шырокі тэматычны дыяпазон. У іх знайшлі ўвасабленне сацыяльныя інтэнцыі народа, асаблівасці сямейнага жыцця з вобразнымі рэаліямі яго быту. Гумарыстычныя матывы вусных апавяданняў засведчылі сацыяльны аптымізм носьбітаў фальклорнай традыцыі. У вусных апавяданнях беларусаў, апублікаваных А. Сержпутоўскім, наглядна выяўляюцца этнапсіхалогія, норавы, сацыяльныя погляды народа. У цэлым жа запісы тэкстаў няказкавай прозы яшчэ раз пацвярджаюць усеахопны, маштабны падыход славутага фалькларыста і этнографа да народнай творчасці беларусаў як фенаменальнай з'явы.

**Спіс літаратуры**

1. **Сержпутоўскі, А. К.** Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў / А. К. Сержпутоўскі. – Мінск : Універсітэцкае, 1999. – 191 с.

2. **Сержпутоўскі, А. К.** Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета / А. К. Сержпутоўскі // Матэрыялы для вывучэння бел. мовы, этнаграфіі і літаратуры. – Л., 2000. – 252 с.

**Вікторыя БЯЛЯЕВА,**
аспірантка Інстытута мастацтвазнаўства,
этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы
НАН Рэспублікі Беларусь.

*Артыкул рэкамендаваны да друку доктарам філалагічных навук А. С. Лісам.*

## КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТАЎ І ЮБІЛЕЙНЫХ ДЗЁН на 2010 год

ЛІПЕНЬ

*Заканчэнне. Пачатак на с. 67.*

**21 ліпеня** – 150 гадоў з дня нараджэння Антона Каменскага (1860 – 1933), беларускага і польскага графіка і жывапісца

105 гадоў з дня нараджэння Янкі Бобрыка (1905 – 1942), паэта, кінакрытыка

**22 ліпеня** – 100 гадоў з дня нараджэння Пятра Акулёнка (1910 – 1996), балетмайстра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі

**23 ліпеня** – 320 гадоў з дня нараджэння Якуба Брэтцара (1690 – 1733), жывапісца

100 гадоў з дня нараджэння Барыса Аляксеенкі (1910 – 1944), акцёра

90 гадоў з дня нараджэння Ніны Карнеевай (1920 – 2007), актрысы, народнай артысткі Беларусі

75 гадоў з дня нараджэння Галіны Рагачовай (1935 – 1992), актрысы

**24 ліпеня** – 190 гадоў з дня нараджэння Люцыяна Крашэўскага (1820 – 1892), мастака, фатографа

**25 ліпеня** – 170 гадоў з дня нараджэння Юльяна Крачкоўскага (1840 – 1903), фалькларыста, этнографа, гісторыка і педагога

105 гадоў з дня нараджэння Іларыя Барашкі (1905 – 1968), празаіка, сцэнарыста, крытыка, драматурга, перакладчыка

60 гадоў з дня нараджэння Сяргея Жыткевіча, рэжысёра, сцэнарыста

**27 ліпеня** – 75 гадоў з дня нараджэння Віктара Мурашова, скульптара

**28 ліпеня** – 120 гадоў з дня нараджэння Язэпа Рэшаця (1890 – 1958), рэлігійнага і культурна-асветніцкага дзеяча

105 гадоў з дня нараджэння Міколы Дубовіка (1905 – 1928), паэта

75 гадоў з дня нараджэння Таццяны Арловай, тэатразнаўцы, педагога

70 гадоў з дня нараджэння Алега Даўгялы, жывапісца

70 гадоў з дня нараджэння Генадзя Тумаша (сапр. Яўген Тумас), паэта, празаіка, перакладчыка

**30 ліпеня** – 140 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Харламповіча (1870 – 1932), гісторыка царквы, педагога

80 гадоў з дня нараджэння Ігара Кахно (1930 – 1988), літаратуразнаўцы, крытыка

*Паводле картатэкі БДАМЛМ.*

*Крытыка і бібліяграфія*

# ЖЫВЫЯ ПАШТОЎКІ

**Карлюкевіч, А.** Радзімазнаўства : Мясціны. Асобы / А. Карлюкевіч. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. – Тыраж 1600 экз.

Час вымагае ад нас актыўнасці, хуткай рэакцыі на пастаянныя змены. Літаратары, якія ідуць следам за часам і імкнуцца зрабіць свае праекты камерцыйнымі, улічваюць кліпавае мысленне сучаснага чытача, яго няўвагу да друкаванага тэксту, што перавышае пэўную колькасць знакаў. Гэта і непазбежна, і зразумела, але…

Але чым больш імклівы час, тым большую мы маем патрэбу запаволіць крок, спыніцца, зразумець, што ёсць нешта вечнае. Нам хочацца адпачыць ад цэйтноту паўсядзённых спраў, мітусні, паспешлівасці і вярнуцца да сваёй памяці, гісторыі – у свет пажоўклых паштовак і чорна-белых фотаздымкаў. Новая кніга Алеся Карлюкевіча дае нам такую магчымасць. Яна нібы цягнік, што рушыць у адваротным накірунку – у мінуўшчыну – ці, калі быць ужо зусім дакладнымі, з вельмі далёкай станцыі мінулых стагоддзяў вязе нас у сучаснасць, у будучыню. І такая вандроўка, нібы крыніца з жывой вадой, сілкуе нашу памяць.

Густоўна выдадзеная, аздобленая паштоўкамі з калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава, кніга прыйдзецца даспадобы бібліяфілам, гісторыкам, краязнаўцам і ўсім, хто неабыякавы да мастацкага слова і сваёй Радзімы. Краязнаўчыя нарысы Алеся Карлюкевіча – гэта вяртанне да рэчаў і месцаў, што маюць аўру, вяртанне да жывой паштоўкі ў час электроннай пошты. У гэтай кнізе сабраныя нарысы пра самыя розныя гарады, мястэчкі і вёскі Беларусі, а іх старадаўні воблік не проста візуалізуецца дзякуючы калекцыі Уладзіміра Ліхадзедава, а паўстае перад намі напоўнены асобамі, славутымі людзьмі нашай Бацькаўшчыны.

"Мы жывём, каб вяртацца", – згадвае Алесь Карлюкевіч радкі вядомага беларускага паэта Анатоля Вярцінскага. Першы раздзел "Мясціны" якраз і забяспечвае такое вяртанне, хоць бы завочнае, праз старонкі кнігі, да малой радзімы, сваіх каранёў. Аўтар не абмінуў увагай ні Мінск, ні абласныя цэнтры, ні маленькія вёсачкі. Распавядаючы пра кожную мясціну, краязнавец успамінае і пра тых славутых людзей, якіх яна выгадавала, дала свету. Такія культуралагічныя звесткі не маюць абмежаванняў у часе. Міркуйце самі, героі Валожыншчыны: Нахум Гольдман, Уладзіслава Луцэвіч, Казімір і Мар'ян Здзяхоўскія, Пятро Бітэль, Шымон Перэс, Віктар Шніп, Вячаслаў Рагойша, Анатоль Яблонскі, Дзіяна Арбеніна (і гэта няпоўны спіс імёнаў, згаданых у адным з нарысаў).

Мы не заўсёды цэнім тое, што маем. Жывучы ў пэўным населеным пункце, здараецца, не ведаем як след яго гісторыі, не заўважаем тых дастапомнасцей, якія маглі б стаць прыцягальнымі для турыстаў. Пра такія мясціны захоплена піша Алесь Карлюкевіч. Цалкам верагодна, што яго нарысы натхняць кагосьці на ўласнае падарожжа: ці ж не знойдзецца ахвотнікаў зірнуць на стары дуб у Клецку (кажуць, што той, хто дакранецца да кары дрэва і абыдзе вакол яго, будзе мець вялікую сям'ю і жыць доўга і шчасліва); пахадзіць па старажытным парку і пацешыцца з хараства панскага палаца другой паловы XIX ст. у вёсцы Туча; наведаць музей Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага ў вёсцы Дастоева і надзвычай цікавы музей народнай медыцыны "Бабуліны вышкі" пры Стрэльненскім доме культуры? Аўтар звяртае ўвагу на куточкі нашай радзімы, якія вартыя таго, каб стаць *"месцам паломніцтва ўсіх, хто яшчэ верыць у вырaтавальную сілу культуры"*, і дапытліваму, цікаўнаму чытачу будзе няцяжка скласці па гэтай кнізе маршрут вандроўкі.

*"Жыццё кожнай вёскі, кожнага паселішча вымяраецца найперш жыхарамі, людзьмі, іх лёсамі"*, – сцвярджае Алесь Карлюкевіч, таму зусім не выпадковым выглядае ў кнізе раздзел "Асобы". Гэта, кажучы словамі самога аўтара, *"доўгая і бязмежная экскурсія па людскіх лёсах і біяграфіях"*. У нарысах другой часткі асветлены біяграфіі і знакамітых людзей, пра якіх пісалі ўжо неаднойчы, і тых, чые імёны па розных прычынах маловядомыя чытачу. Пра ўсіх сваіх герояў (а сярод іх акцёр, рэжысёр і педагог Саламон Міхоэлс, пісьменнік Алесь Пальчэўскі, генерал-маёр Якаў Камейка, дзіцячы пісьменнік Рыгор Ігнаценка, мастак Ілья Лукомскі, калекцыянер Уладзімір Ліхадзедаў, пісьменнік Сяргей Чыгрын ды многія іншыя) Алесь Карлюкевіч піша з глыбокай павагай і чалавечай далікатнасцю. Увогуле здзіўляе эрудыцыя, абазнанасць і шырыня кругагляду аўтара: столькі мясцін ім наведана, столькі росшукаў праведзена, столькі твораў і дакументаў даследавана! У кнізе чытач знойдзе мноства ідэй па ўшанаванні той ці іншай гістарычнай мясціны, прапаноў па захаванні творчай спадчыны нашых незаслужана забытых землякоў.

Вядома, жанр нарыса не заўсёды дазваляе распавесці пра ўсіх выбітных асоб пэўнай мясцовасці, і сам аўтар адчувае неабходнасць яшчэ раз (а можа, і неаднойчы) вярнуцца да некаторых сваіх герояў. І гэта дае нам, чытачам, надзею на новыя рэтраспектыўныя падарожжы.

**Алена КАРП.**

# СЛАВА ВАМ, САЛДАТЫ!

## КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталі: 1.** Род войскаў, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны называлі "царыцай палёў". **3.** *... альбо мёд п'е, альбо кайданы трэ* (франтавая прыказка). **6.** *Ад нашага "..." дрыжэла немчура* (франтавая прыказка). **8.** *"Каб унукам памяць перадаць, / На ... вядуць дзяды унукаў"* – з песні "Ваенныя парады" (сл. А. Лягчылава, муз. У. Прохарава). **10.** Стральба і феерверк у гонар Перамогі. **12.** *"... любімы, мой родны"* – з верша "Лясная песня" Адама Русака. **13.** Вайсковае злучэнне з некалькіх батальёнаў або палкоў. **14.** *Па балоту ідзе, не тоне ў вадзе, ідзе праз ірвы, але нежывы* (франтавая загадка). **17.** Вокліч з пераможнай інтанацыяй. **18.** ... аб капітуляцыі нямецкай арміі: дакумент, які юрыдычна замацаваў перамогу Савецкага Саюза. **21.** Умацаваны абаронны агнявы пункт. **22.** Вайсковае падраздзяленне. **23.** Снасць судна. **24.** *Не пераскочыўшы, крычаў "гоп", ды схапіў кулю ў ...* (франтавая прыказка). **28.** Укрыцце для стральбы. **29.** *Смела ідзі ў бой – ... за табой* (франтавая прыказка). **33.** Воінскае званне. **36.** Прарыў фронту і глыбокае ўкліньванне ў размяшчэнне войскаў праціўніка. **37.** "... вам, салдаты!" – верш Алега Лойкі. **38.** Тэрыторыя, размешчаная за лініяй фронту. **39.** Падземны пераход або праезд. **40.** Воінскае званне двойчы Героя Савецкага Саюза Івана Якубоўскага, ураджэнца Горацкага раёна.

**Па вертыкалі: 1.** Ордэнская ... – пласцінка з прымацаванай ордэнскай стужкай. **2.** Шахматная фігура (разм.). **4.** Ствол агнястрэльнай зброі. **5.** Адсутнасць стрэлу з-за няспраўнасці зброі або патрона. **7.** Званне, чын. **8.** Сталіца адной з еўрапейскіх краін, якая была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у маі 1945 г. **9.** Талент, здольнасць. **10.** *Не лажыся рана спаць, а старайся ... саджаць* (прыказка). **11.** Шырокая праезджая дарога. **15.** *"Вернасць Харужай, / Ярасць ..."* – з песні "На варце Перамогі" (сл. С. Панізніка, муз. Г. Казловай). **16.** Група ад воінскага падраздзялення для нагляду за бяспекай, парадкам. **19.** *Хлеб, соль, вада – салдацкая ...* (франтавая прыказка). **20.** *... дажджлівы – год урадлівы* (прыказка). **23.** Строй салдат, войскаў. **25.** Вокліч, які выражае захапленне, пахвалу. **26.** *"І вярнуўся з вайны земляроб-..."* – з верша "Поле" Кастуся Кірэенкі. **27.** Прыпынак у дарозе для адпачынку. **30.** Міжнародная арганізацыя, у склад якой была прынятая Беларусь як найбольш пацярпелая ў Другой сусветнай вайне краіна. **31.** *Жартаваў воўк з канём, ды ў жмені ... панёс* (прыказка). **32.** Частка сушы, якая выходзіць у мора, возера. **34.** Так называюць у народзе смелага чалавека. **35.** Апорны пункт узброеных сіл.

### Адказы

**Па гарызанталі: 1.** Пяхота. **3.** Адвага. **6.** Ура. **8.** Парад. **10.** Салют. **12.** Край. **13.** Брыгада. **14.** Танк. **17.** Ага. **18.** Акт. **21.** Дзот. **22.** Рота. **23.** Фал. **24.** Лоб. **28.** Акоп. **29.** Радзіма. **33.** Маёр. **36.** Таран. **37.** Слава. **38.** Тыл. **39.** Тунель. **40.** Маршал.

**Па вертыкалі: 1.** Планка. **2.** Тура. **4.** Дула. **5.** Асечка. **7.** Ранг. **8.** Прага. **9.** Дар. **10.** Сад. **11.** Тракт. **15.** Гастэла. **16.** Патруль. **19.** Яда. **20.** Май. **23.** Фронт. **25.** Брава. **26.** Салдат. **27.** Прывал. **30.** ААН. **31.** Зубы. **32.** Мыс. **34.** Арол. **35.** База.

Склаў **Лявон ЦЕЛЕШ**.

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"». Заснавальнік – Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны нумар часопіса 561.
220035, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 47, кор. 1, пад'езд 2 (уваход з вул. Гвардзейскай, код на ўваходзе: 43 + званок).
Р/р № 3015702170012 у аддзяленні № 527 ААТ "Белінвестбанк" г. Мінска, код 739, УНН 190241571, ОКПО 37551965.

*Тэлефоны:* галоўнага рэдактара **(017) 203-35-17**, намесніка галоўнага рэдактара **(017) 203-24-69**,
рэдактараў і галоўнага бухгалтара **(017) 203-34-79**, адказнага сакратара і загадчыка прыёмнай **(017) 203-07-40**,
факс **(017) 203-07-40**.
E-mail: **rodnaje_slova@tut.by**
**www.rs.unibel.by**

Падп. да друку 07.05.2010. Фармат 60x84 1/8. Папера афсетная. Гарнітура "Minion Pro". Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 11,02.
Ум.-фарб. адбіт. 12,07. Ул.-выд. арк. 13,2. Тыраж 4251 экз. Зак. 1142.
Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 79. ЛП 02330/0494179 ад 03.04.2009.